KRYVIČ mėnesinis literatūros, kultūros ir visuomeninio gyvenimo laikraštis.

# КРЫВІЧ

## МЕСЯЧНІК ЛІТЭРАТУРЫ КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ

ГОД 1925

№ 9 (1)

СТУДЗЕНЬ–ЧЭРВЕНЬ.






## ыйшаў з друку

ам Выдавецтва Міністэрства

еларускіх Спраў у Літве

**ПАДРУЧНЫ**

**Расійска-Крыўскі (Беларускі)**

# СЛОЎНІК

**В. ЛАСТОЎСКАГА.**

Слоўнік мае 832+XII балонак пэтыту і зьмяшчае каля 40.000 крыўскіх (беларускіх) слоў.

ЦАНА **2** ДОЛЯРЫ.

Выпісываць можна са складу:

**LIETUVA, KAUNAS,** Mickevičiaus g-vė, 15/23 Nr.

„KRYVIC“ mėnesinis literatūros, kulturos ir visuomenės gyvenimo laikraštis.

# КРЫВІЧ

месячнік літэратуры, культуры і грамадзкага жыцьця.

**Пад рэдакціяй В. ЛАСТОЎСКАГА.**

Год выданьня трэцьці

1925 г. СТУДЗЕНЬ—ЧЭРВЕНЬ. № 9. (1)

## АПАВЯДАНЬНЕ АБ ІКОННІКУ І ЗАЛАТАРУ,

### ЛЮДЗЯХ МУДРЫХ І КРАСАМОЎНЫХ, КНІГАЛЮБЦАМ НЕЙКІМ ДЗЕЛЯ СЛАВЫ БОЖАЙ ДЫ РАЗМНОЖАНЬНЯ ДАБРА ПАСПАЛІТАГА ВЫКЛАДЗЕНАЕ.

Дасюль яшчэ людзі дасьведчаныя і сталыя, а памяцьцю цьвёрдыя, тыя часы ў істанаваньні слаўнага места Віленскага, зайздруючы згадуюць, калі мыта салянічнае на соль простую і ледаватую ў два-кроць паменшана было. Тады-ж мяшчане віленскія, з ласкі Яго Каралеўскай Міласьці і прывілей атрымалі, каб тры дні што год перад сьвятам Нараджэньня Ісуса Хрыста мёд варыць вольна, ні капшчыны, ні васковага да скарбу ня плоцячы.

Водлуг гэтага ў Вільні за звычай стала гадзіну-другую ў бясёдзе за келіхам мёду хатняго сцерці. Так сама і залатар Антон Корж, майстар скрозь паважаны, да крамы свае, на Нямецкай вуліцы збудаванай, часам таго або іншага са знаёмых запрашаў, каб вечар зімовы прыстойна ўдвох скаратаць. Гэткім чынам і ў дзень сьвятой Харытыны, каралевы Літоўскай, на покуці крамы залатарскай госьць, Раман Якубовіч, чалавек добры і рахманы, за карцом поўным ў-шчэрць, сядзеў.

Яшчэ ў моладасьці ўзяўся ён постаці Пана Бога, Яго Прачыстае Маткі і рожных сьвятых вучыцца маляваць, фарбы кволыя на дашчэчках кляновых-гладка выструганых і крэйдай загрунтаваных, з малітвай у сэрцы накладаючы. Пяць год яму вучням давалося быць ды два гады—падмайстрам; а як тэрмін гэты скончыўся, тады Якубовіч, звычай спаўняючы, са старшай дачкой гаспадара свайго, Агатай, ажаніўся і, годнасьць майстра такім парадкам справядліва дайшоўшы, ўсягды цяпер заработак меў. Уважаючы на гэта, нават і пан Корж яго да сябе запрашаў, хоць, ведама, іконнік залатару раўнёй быць ня можа і так сама ад яго рожніцца, як, прыкладам кажучы, фарба трохграшовая ад золата угорскага, ў агню пяць разоў ачышчанага. Але Корж, Крамар заможны і паважаны, на сьвеце не мала пажыўшы і шмат чаго зьведаўшы, людзмі ніколі не пагарджаў, гонару свайго, аднак, ні ў чым не змяншаючы. Так і цяпер ён, мёд цёмна-бурштыновы смакуючы, словы госьця свайго уважліва слухаў.

Чуткі да мяне дайшлі,—гэтак прамаўляў іконнік Раман Якубовіч,—бытцам Сальватар Роза, майстар умелы, а ў працы рупны і здольны, да нашага краю з зямлі Італійскай прыехаўшы, абразы на мурох цэркваў полацкіх з вучнямі сваімі малюе, старыну ў маляваньні гэтым рухаючы, а навіны ўводзячы. Дзеля таго абразы тые ад даўнейшых шмат чым рожняцца, і гэтае людзём ў старыне цьвёрдым, а да цэрквы Божай прыхільным, сталася вельмі не да спадобы.

Ды яшчэ кажуць, бытцам італіец той, аб красе толькі дбаючы, а на збаўленьне душы свае забыўшыся, паганскіх багоў і шмат чаго іншага малюе, аб чым іконніку добраму лепш нават і ня думаці. Нічога гэтага ў жаднага з майстроў часу старага, а нам ў прыклад стаўшага, пабачыць ня можна. Найгорш-жа тое, што іконнікі полацкія звычаю рускага, а ў працы здольныя і дасьведчаныя, навіны гэныя пераймаюць ды да таго-ж і людзей усякіх, нават роду паспалітага, а так сама і рэкі, бары і лугі і шмат чаго іншага малююць, і час і працу сваю праз усё гэта марна трацячы. Бо, здаецца, кожды зразумець можа, што сьвятая ікона Пана Бога, хаця-б і зусім няўдала зробленая, бязмерна больш варта, чым пса якога-небудзь малюнак найлепшы. Але майстры тыя на гэта не уважаюць, а таму іконапісь прыстойная і да старасьвецкіх звычаяў прыхільная, ў Полацку пад'упала, праклятым недаверкам на радасьць, а ўсім людзём добрым на жаль і гора вялікае.

Тады, бачыўшы, што іконнік гутарку сваю ўжо скончыў, пан Корж карэц з мёдам у бок пасўнуў, і, неспяшаючыся, пачаў гаварыць: — Можа стацца, лепей бы мне аб гэтым не размаўляць, бо ня столькі я фарбы і пэнзлі, сколькі рэчы свае залатыя і срэбныя ведаю, аздабнейшых ад каторых ні ў Вільні, ані ў ва ўсім Вялікім Князстве Літоўскім ня знойдзеш. Але ня варт, ўсягды мне здавалася, рэч якую-небудзь толькі таму ганіць, што яна для нас за навіну прызнацца павінна. Бо усё тое, што цяпер навіною завецца, праз час які старыною мае быць, для людзей усіх станаў—звыклай, а ўшанаваньня і абароны годнай. Я, дзеля працы свае незамала паезьдзіўшы, і ў Чэхах і у Немцах пабываўшы, шмат чаго на вяку сваём па краінах далёкіх бачыў. Малюнкі тые, што Сальватар Роза з іконнікамі палацкімі робіць, там скрозь звыклы, і нікога ўжо яны не дзівуюць, людзём усім, дзеля красы сваей, ў спадобе стаўшы, а майстром здольным славы і гонару прыдаючы. Тое-ж і ў нас, напэўна мае стацца, калі навіна старыною зробіцца, так што, мабыць, тады людзі полацакіе Сальватара Розу шанаваць будуць, хоць нам цяпер гэта і не падобным да праўды здаецца.

Гэтак сама і думку, бытцам ікона ўсягды вялікшую вартасьць ад іншага маляваньня мае, я за несправядлівую мушу ўважаць. Бо ня тое, каго майстар малюе, а толькі тое, як ён гэта робіць, толькі здольнасьць і ўлежнасьць яго могуць малюнку хвалу і каштоўнасьць надаваць. Ікону з Вострабрамскай Маткі Боскай майстрам рупным і добрым намаляваную, за восем або за дзесяць грошаў літоўскіх купляюць, а за тую-ж ікону працы вучня няўмелага нічога не даюць. Вось-жа вартасьць малюнка толькі ад характва ў выкананьні яго залежыць, што, звычайна, кожды іконнік лепш ад мяне ведаць павінен.

Так гаворучы, залатар скрыню дубовую, жалезам акутую, адамкнуў і сьвечніцы дзьве срэбные адтуль дастаўшы, на стол іх з каганцом поруч паставіў і тады сказаў:

Чалавек разумны да прыкладаў рожных ахвотна звяртаецца, думку сваю выкладаючы, іх-жа і цар Саламон ужываў, як аб тым Пісьмо Сьвятое

нам кажа. Так сама і Цыцэро і Арыстотэль, людзі мудрыя і ў філёзофіі дасьведчаныя, хоць верай праўдзівай і не асьвечаныя, да прыкладаў вельмі склад маючы, заўшэ з іх карысталіся.

Дзеля таго і я, думкі свае, як сьлед, разтлумачыць жадаючы, сьвечніцы гэтыя за прыклад узяць хачу. Роўную яны вагу маюць і з таго-ж самага срэбра адліты былі, але усё-ж такі адна з іх у сем кроць —больш другой каштуе, бо аздоблена з умеласьцю надзвычайнай. Водлуг жа таго, што ўмеласьць і здольнасьць тыя толькі у выглядзе рэчы, або як іншыя цяпер кажуць, у форме яе зьявіць можна, прызнаць мы мусім, што каштоўнасьць вырабаў прыгожых адно толькі праз красу іх форм ўзрастае, і толькі красою форм каштоўнасьць тую мерыць можна.

Ў ва ўсім гэтым праз працу залатарскую як найлепш павінны мы праканацца. Бо чым больш ад работы майстра формы рэчы прыгожасьці набіраюць, тым каштаўнейшай рэч гэта пачынае рабіцца. Так сама і здольнасьць майстра тым большай трэба уважаць, чым лепшую форму кавалку срэбра або золата прыдаць ён здолен. Вось чаму я, хрысьціянін ня згоршы ад іншых, рэчы свае выробляючы, адно толькі красы формы пілную ды ня думаю аб тым, на што нанізкі залатыя мае пойдуць: ці то на аздобленьне фігуры Маткі Боскай, або піяка і распусьнік які на пакрасу сваю ўжываць іх будзе.

Так казаў Антон Корж, чалавек мудры і красамоўны. Але ўжо ноч настала і варта па вулках ішла усім загадуючы, з наказу пана войта, агні гасіць і дзьверы зачыняць. Таму іконнік і залатар, вечар прыстойна ў бясёдзе правёўшы, краму замком нямецкім моцна замкнулі і развіталіся між сабой, у думках жадаючы, каб дзеля пажытку сэрцу і розуму так сама далей ўдвох схадзіцца.

---

Рукапіс гэты, пісаны гаворкай нашай старажытнай, адшукаў і славамі сучаснымі перапісаў.

**Максім Багдановіч.**

---

А. МАТАЧ.

# КУЦЬЦЯ.

— „Мамка, мамка! Няўжо-ж ты й сёньня будзеш ляжаць у пасьцелі? Сёньня-ж—куцьця. Я заходзіў да Язэпкі і Міхалкі і бачыў, як іх мацярке чысьцяць і прыбіраюць у хатах, паляць у печах і многа-многа ўсяго вараць, бо поўныя печы саганоў панастаўлена. А дзеці хваляцца, як яны вечарам засядуць за стол, засланы сенам і пакрыты белым абрусом. Добра ім усім: у іх мацярке здаровыя і бацьке дома. І нам летась таксама добра было. Я памятаю леташнюю куцьцю. Ты была тады здаровая і вясёлая: усё жартавала са мною, як пякла пшанічныя аладачкі. І татка быў дома, таксама вясёлы... Дзеда-мароза заклікаў на куцьцю... А цяпер я зусім адзін, бо ты ўсё ляжыш ды плачаш, а татка пэўна й ня прыдзе“...

Так гаварыў дзевяцёхгадовы Тодарка, стоячы каля ложка свае хворае маці. Яго бялёсая курчавая галоўка маркотна апусьцілася на грудзі, а ў блакітных вочках бліШчэлі сьлёзы пакрыўджанага.

Ціхі й глухі стогн вырваўся з грудзей хворай у адказ на жальбы хлопчыка. Сабраўшы свае слабыя сілы, яна працягла руку да сына, ўзяла яго галоўку і прытуліла да сваіх высахшых грудзей. Сьлёзы градам каціліся па яе запаўшых бледных шчоках.

— „Бедны мой, маленькі!.. Трэ будзе забыцца аб тым, што было раней добра. Ніколі, пэўна, тое ўжо ня вернецца. Ніколі мы, пэўна, ня ўбачым нашага гаротніка, твайго таты, а хутка .. ох!.. хутка ты застанешся і бяз мамкі... Застанешся горкаю круглаю сіратою. . Ох! сынок мой, сынок, лепш я забрала-б цябе з сабою ў халодную цёмную магілку, каб ты не зазнаў сіроцкай долі, ня ліў-бы сьлёз, ня выносіў-бы крыўд...

Разьвітальным прычотам гучэлі матчыны словы, поўныя роспачы і безнадзеі. Але хлопчык не уяўляў сабе добра, што значаць гэтыя словы, толькі па вялікай тузе, якая адчувалася ў матчыным голасе і па сьлёзах яе, ён разумеў, што матка перажывае нейкае надзвычайна цяжкае гора, якое потым усім сваім ціжарам мае зваліцца на ягоную, Тодаркаву, галоўку. І яго маленькае чулае сэрца моцна шчымела і сьціскалася ад прачуцьця гэтага няведамага страшнога, горкі жаль клубком падкочваўся і ціснуў пад горла. Ўрэшце ён ня вытрымаў і аж затросся ўвесь ад плачу...

— „Ня плач уперад, мой родненькі, пасьпееш яшчэ сьлёзак паліць.. Падай ось мне конаўку з вадою ды схадзі па бабку Віктосю. Яна працепліць у печы, прыгатуе вячэру. Справім і мы куцьцю. А можа й татка прыдзе“...

Тодарка адняў галоўку ад матчыных грудзей і, выцяршы рукавом заплаканыя вочы і аблічча, паднёс маці вялікую конаўку з вадой. Хворая ня мела сілы падняцца, і ён, узяўшы драўляную лыжку, стаў чэрпаць ёю ваду з конаўкі і паіць матку. Пасьля моўчкі паставіў ваду на лаву пры матчынай пасьцелі, пайшоў у запечча, апрануў бацькаўскі кажушок і выйшаў з хаты. Прабіраючыся па пояс праз сугоры навеянага сьнегу, не зьвяртаючы увагі на мяцеліцу, якая засыпала вочы, веяла за каўнер, у рукавэ і, расхіляючы полы кажушка, абдавала сьнегам выстаўленую з-пад сарочкі грудзіну,--Тодарка, захоплены радаснымі думкамі аб абяцанай маткай куцьці і магчымым прыходзе бацькі, подбегам ішоў праз занесеную вуліцу да невялічкай старэнькай хаткі, ў якой жыла бабка Віктося. Ўжо сутуняла, і ў Віктосінай хатцы было цёмна. У той час, як Тодарка, ўвесь аблеплены сьнегам увайшоў у хатку, старэнькая выграбала вугальлі з толькі што працепленай печы.

— „Хто там?“—запыталася яна, не адрываючыся ад свае работы. Тодарка падышоў да яе бліжэй.

— „Гэта я, бабка! Мамка прыслала мяне папрасіць, каб ты прышла працапліла нам печ і згатавала куцьцю,“—сказаў ён неадважна.

Бабака Віктося прамаўчала.

— „Мамка надта прасіла... Можа й татка прыдзе,“—дадаў яшчэ хлопчык для большой дакананасьці свае просьбы.

— „Э-э-э, не-е-е, міленькі, бацька свайго ты не чакай... Пэўна даўно ўжо аддаў ён Богу душу... Або можа дзе галодны й халодны сланяецца, як зьвер, па лесе, пакуль дзе не замерзне ў сувоі,“—неяк няпрыхільна адзывалася бабка Віктося.—„Ну, а маці ўсё ляжыць, ня лепшае?“—ужо больш мякка запыталася яна.

— Не, ня лепшае“—адказаў Тодарка, сумна апусьціўшы галоўку.

Хвіліну падумаўшы, старэнькая схавалася за печ і праз кароткі час выйшла ужо апранутая ў новы кажушок і захінуўшыся ў вялікую хусту. Затым падыйшла да стала, адрэзала добры акраец толькі што сьпечанага хлеба і, завінуўшы ў беленькую хустачку, ўзяла сабе пад паху.

— „Ганулька, Ганулька!“—паклікала яна сваю ўнучку. З печы зьвесілася галоўка сямёхгадовай дзяўчынкі.

— „Я чую, бабка!“

— „Не засьні, Ганулька, даглядай хаты, а я пайду да Тодаркавай маткі печ працепліць. Хоць ужо й пазнавата, але нічога ня зробіш... Пайду... А ты-ж глядзі не засні... Я доўга ня буду...“

І бабка, а за ёю Тодарка выйшлі з хаты. Віхар закруціў і абсыпаў іх цэлай тучай сьнегавога пылу. Старэнькая нацягнула на вочы хустку і пагразаючы ў мяккі сьнег, пакрочыла за хлопчыкам.

— „Бач, як круціць!.. Нанач, глядзі, й зусім разбушуецца!..“—казала старэнькая сама сабе.

Ужо зусім сьцямнела, калі Тодарка з бабкай увайшлі ў хату. З ложка пачуўся слабы стогн.

— „Гэта мы, мамка“...—сказаў Тодарка распранаючыся.

Праз хвіліну ў хаце заблішчэў слабы агоньчык ад маленькай, зробленай з бутэлячкі, газоўкі.

Распрануўшыся, абтросшыся ад сьнегу і крыху адсопшыся, старэнькая падышла да хворай.

— „Ну што, Тацянка, ня лепшае табе?“—запыталася яна, нахіліўшыся над ложкам.

— „Дзе там будзе лепш?.. Сьмерць ужо за плячыма... Дзякую, што не адмовілася, прыйшла... Будзь ласкавенька, працеплі нам печ ды звары штоколечы дзіцяці дух прабавіць“...—гаварыла хворая, і дыханьне яе з голасным хрыпам вылятала з грудзей.

— „О-хо-хо-хо-хо!..“—ўздыхнула бабка і, адыйшоўшыся ад хворае, завінулася каля печы.

Тодарка уважліва сачыў за кождым яе рухам, стараючыся сваімі паслугамі папярэдзіць кождае бабчына жаданьне.

Ў печы затрашчалі дровы, і хата адразу як-бы аджыла й павесялела. Аблічча Тодарка таксама праясьнілася. Каб магчыма хутчэй прыблізіць найбольш пажаданую для яго хвіліну, Тодарка выскачыў у сені і прынёс адтуль ахапачак сена, ужо раней прызапашаны рупным гаспадарыкам.

— „Мамка, я зараз засьцялю стол!“—зьвярнуўся заклапочаны хлопчык да маткі.

Хворая толькі сумна усьміхнулася.

— „Пасьпееш яшчэ, не займай мне стала,“—адказала замест маткі бабка Віктося.

Гэта забарона паказалася Тодарку сьпярша крыўднай, але убачыўшы, што бабцы запраўды яшчэ патрэбен стол, ён палажыў сенца на покуці, а сам, каб не нарвацца больш на няпрыемнасьць і не разгнявіць бабкі якоюколечы нетасоўнаю паслугаю, сеў за стол і, падпёршы рукамі белую галоўку, аддаўся пад абладу сваіх ўспамінаў аб урачыстых і грэючых сэрца хвілінах леташней ці мо й пазалеташняй куцьці, якую сустрачаў ён разам са сваім нябожчыкам брацікам і са здаровымі й вясёлымі бацькамі...

— „А склока якая паднялася!.. Сьвету Божага ня відаць,“—заўважыла бабка Віктося, прасяваючы над сталом муку.

Хворая застагнала.—„Дзе гэта мой Панас?.. Ня выходзіць ён нешта ў мяне з галавы сёньня... Думаецца усё, што зараз павінен ён прыйсьці да нас,“—прагаварыла яна ціха.

Пры гэтых словах Тодарка ўздрыгнуў і неспакойна заварушыўся на лаўцы. Потым павярнуўся да вакна і, прылажыўшы аблічча да мокрай шыбы, стаў углядацца ў начную цемру.

— „Што-ж? Можа сэрца сэрцу вестку падае... Можа ён дзе ў лесе чакае толькі познай пары, каб няўпрыцям для людзкога вока даведацца да вас,“—сказала бабка, хоць па яе голасе можна было пазнаць, што яна сама ня верыць у гэта.

— „Ах, даў-бы Бог хоць апошні раз спазірнуць на яго, пачуць ад яго хоць слоўца... Ня жыхарка я на гэтым сьвеце... Ох, ужо хутка, хутка“... Кашаль перарваў яе словы.

— „А як на мой стары розум, дык твайго Панаса няма чаго й шкадаваць. Непакорны, бач, ён быў, супроць „начальства“ пайшоў... А каб ён скарыўся, дык і ўсім вам было-б лепш,“—даткліва прагаварыла Віктося.

Хворая неспакойна заварушылася на пасьцелі.

— „Ой, не-не, бабка!.. Ня можна пра яго так гаварыць, бо ўжо на ўсё цярплівасьці й пакоры не хапае... Панас мой цярпеў і карыўся, пакуль была магчымасьць. Ты-ж сама ведаеш, з чаго пачалася бяда... Ня ён вінен, не!.. Помніш, як у мяне нарадзілася дзяўчынка? Майго Панаса дома тады ня было: ў горад хадзіў. Прыйшоў тады жандар і пачаў вымагаць ад мяне фурманкі. А конь быў хворы, ледзь на нагах трымаўся. Я яшчэ ляжала ў пасьцелі і пачала яго прасіць, каб звольніў ад фурманкі, бо конь кульгае, гаспадара няма дома й сама я хворая. Ох!.. ох!.. А жандар стаў крычаць ды лаяцца, а пасьля біць мяне гарапнікам!.. Ўрэшце сьцягнуў з пасьцелі, загадаў апрануцца і адвёз мяне ў горад... Цэлыя содні праседзяла я ў халодніцы... Там і здароўе сваё пакінула... Кх-кх-кх-кх-кх!.. А дзяўчынка мая новароджаная з голаду ды з крэчу дома памерла... Панас, як вярнуўся з кірмашу, дык пабег прасіць, каб выпусьцілі мяне... Ох!.. А яго там схапілі, зашчамілі дзьвярыма рукі ды білі, білі... Увесь у крыві й сіні прыйшоў да хаты... Ох!.. І гаварыць няма сілы... А я пасьля гэтага як лягла, дык ужо пэўна і ня ўстану... Есьці ня было чаго... Панас асьвяжыў для мяне целятка... А нехта спавесьціў паліцыю, што гэта Панас без дазволу зрабіў... Прыехалі ізноў жандарэ пісаць пратакол. Тодарка першы ўгледзіў, як яны ехалі і прыбег сказаць бацьку. Я ўпрасіла мужыка схавацца, а як яны ўвайшлі ў хату, дык сама і абамлела. Панаса не знайшлі, а Тодарку моцна высеклі гарапнікамі, што не сказаў дзе бацька. Панас-жа мой сядзеў пад палом у патайной яме. Як пачуў немы крэч Тодарка, дык маланкаю выскачыў і як крыкне „сюды хлопцы!“, дык жандарэ, перапалохаўшыся, пакідалі ўсё ды ўцекі... А Панасу ўжо ня можна было дома застацца, бо кождую хвіліну трэбыло спадзявацца цэлай аравы гэтага вараньня. Дык ось, ноччу апрануўся ён у цёплы кажух, узяў торбу з хлебам і пайшоў у лес. „Медзьвядзе ў лагве зімуюць“,—гаварыў ён, а сам плакаў, як малое дзіця.—„Сабяру“,—кажа,—такіх самых пакрыўджаных... Многа ёсьць іх!.. Сабяру іх, чым найбольш, і тады паразганяю, папераду шу гэтых зладзееў... Даволі ўжо цярпець, а паміраць усё роўна прыдзёцца,—дык чым мучыцца і йсьці на той сьвет ад рукі польскага ката, то лепш паказаць ўсяму сьвету, што мы ўмеем ня толькі цярпець, але й бароцца“... І пайшоў мой Панас... Ведаю, што дзесь-ці недалёка і прыдзе да нас хоць на адну хвіліну... Кх-кх-кх!..

Хворая сьціхла. Ад доўгай гаворкі і ўзрушаньня яна зусім страціла сілы і сплюснула вочы.

У працягу яе апавяданьня хлопчык, ўтуліўшы галоўку ў сена, што ляжала на покуці, ўсхліпываў ад плачу, які разрываў яго грудзі. Старэнькая

стаяла каля печы ў нярухомай задумлёнасьці, сьлёзы цяклі па яе зморшчаным абліччы. Ў печы даўно пажохла, а бабка і не заўважыла гэтага...

Ўрэшце Віктося схамянулася, як прачнуўшыся ад неспадзеванага сну, і пасьпешліва прыбраўшы усё каля печы, зачыніла яе засланкай.

— „Ну, Тодарка, цяпер засьцілай стол сенам і шукай чыстай настольніцы,“—зьвярнулася яна да хлопчыка.

Той ужо неяк нерадасна ўзяў сена і пачаў яго роўненька разсцілаць па стале. Потым выскачыў у каморку і прынёс адтуль белую настольніцу.

— „Ну, а цяпер і мне пара да свае хаткі. Ўнучка даўно прачакалася,“—сказала бабка Віктося, як на стале была ўжо пастаўлена куцьця і кісель.—А ў печы стаіць квасок з грыбамі,“—дадала яна, зьвяртаючыся да Тодарка.

— „Застаніся і ты з намі, бабка! Што Тодарка адзін будзе рабіць?“—прасіла хворая.

Але Віктося пасьпешліва апраналася.

— „Не-не, не магу! Унучка адна, чакае... Папраўляйся, Тацянка, бывайце здаровенькі!..

І бабка выйшла, не даслухаўшы просьбы і падзякі хворай.

— „Мамка, а ці хутка прыдзе татка?“—праз нейкую хвіліну запытаўся Тодарка, як яны засталіся адны.

— „Бог яго ведае, можа й хутка.. Калі жыў, то прыдзе, напэўна прыдзе,“—супакойвала маці сыночка з пэўнасьцю ў голасе.

Ў хатцы наступіла маўклівае, напружанае чаканьне. Гнятучая ціша нарушалася толькі хрыплым дыханьнем хворае ды выцьцём буры на дварэ.

Хлопчык сядзеў каля стала задуманы й сумны і машынальна даставаў з-пад настольніцы сухія травінкі, мераючы іх даўжыню. Рожныя думкі насіліся ў яго галоўцы. То прыпаміналіся яму прэшлыя дзяцінныя годы, калі ён быў бацькаўскім пястуном... Яшчэ ня так даўно яму жылося весялей. Татка з мамкай таксама заўсёды былі вясёлыя і ветлівыя. Ніколі ня горыліся на сваё жыцьцё. А ў апошнія часы татка зрабіўся нейкі сумны, пануры. Ўсё жаліўся, што дрэнна жыць на сьвеце. І суседзі, як сабяруцца да іх у хату, дык усе надта маркотныя і ўсё жаляцца на несправядлівасьць і зьдзекі, а жанке аж сьлязьмі заліваюцца, апавядаючы свае крыўды. Ды й было чаго ім плакаць. Ось у цёткі Палусі жандарэ забілі насьмерць сына за тое толькі, што ён адмовіўся падпісаць нейкую паперу, ў якой было нейкае махлярства гэтых самых жандараў; а ў суседкі Дароты муж ляжаў пры сьмерці зьбіты ўвесь на чорны вугаль за тое, што спазьніўся даць на паказаны час фурманку; бабка Марцэля плакала па сваім старэнькім, які ўжо некалькі тыдняў сядзеў у халодніцы за тое, што адмовіўся высекчы розгамі зусім нявіннага ўнука, які сказаў нешта не да спадобы п'янаму жандару... І якіх толькі нараканьняў і жальбаў не наслухаўся Тодарка, і ўсе яны глыбока западалі ў яго душу. А цяпер у сумную хвіліну ўсё гэта балюча ўзварушыла яго ўспаміны, што здаецца сам ён перажываў цяпер гэтыя зьдзекі й крыўды. Асабліва балючымі і датклівымі былі крыўды, зробляныя жандарамі яго мацяры, бацьку і яму самому. За пабоі і зьдзекі над тымі, хто яму даражэй за усіх на сьвеце, Тодарка ніколі не даруе, як толькі вырасьце вялікім і дужым. І так хочацца яму хутчэй зрабіцца мужчынам і магутным асілкам, каб магчы, як шкодную жамяру, душыць і ціснуць тых, хто крыўдзіць яго бацькоў...

Ўрэшце Тодарка ачнуўся ад сваіх думак і, бытцам спрасонку, працёр вочкі. Устаўшы з лавы, ён ціханька падыйшоў да пасьцелі маткі і асьцярожна дакрануўся да яе рукі, якая ляжала зьверху радзюшкі. Рука была сьцюдзёная.—„Пэўна сьцюдзена мамцы"—падумаў Тодарка і, сьцягнуўшы з жэрдачкі новую сьвітку, прыкрыў ёю матку.

— „Ну добра, што мамка заснула, а я тым часам пайду насустрач татікі ды занясу яму радзюшку захінуцца ад мяцеліцы",—рашыў Тодарка і, апрануўшы кажушок, выйшаў з хаты з радзюшкай цераз плячо.

На дварэ склока ня ўнімалася, а вецер стаў яшчэ халаднейшы й гастрэйшы. Тодарка пайшоў удоўж вуліцы, спыняючыся перад тымі хатамі ў, якіх яшчэ гарэў агонь. Праз вакно Хвядосовай хаты было відаць, што ўся сям'я сядзіць за сталом, а Тодаркаў равесьнік і таварыш Васілька нешта сьмяючыся апавядае. Абліччы ўсіх сьвяціліся усьмешкай. Гледзячы на гэты абраз вясёлай і шчасьлівай сям'і, Тодарка яшчэ горш адчуў сваё адзіноцтва. Каля апошняй хаты ён у разважаньні спыніўся. Што рабіць? Ісьці далей ці не? На нейкую хвіліну вецер сціх, і на белай посьцілцы сьнегу перад вачыма Тодарка ясна абрысавалася чорная сьцяна лесу, які знайходзіўся ў адлегласьці вярсты ад сяла.

— „Там пэўна мой татка ўжо ідзе да хаты,"—падумаў Тодарка, і сэрца яго забілася ад прачуцьця радаснага спатканьня.—„Пайду яго сустрачаць і прывяду мамцы радасьць, ад якой яна пэўна адразу ачуняе."

І Тодарка пабрыў далей па гурбах сьнегу... Бура зноў закруціла, засвістала, завыла і з лютасьцю дзікага зьвера накінулася на хлопчыка. Але што значыць яму гэта мяцеліца і каледзь у параўнаньні з жаданьнем сустрэць свайго каханага татку і з тым шчасьцям і радасьцю, якую справіць ён сваёй маці, вярнуўшыся да хаты не адзін, а з бацькам! Праз сьнегавую імглу Тодарку нат паказалася, што зусім недалёка ад яго сярод дарогі рухаецца нейкая чорная постаць і ў сьвісце буры бытцам прагучэў голас яго бацькі. Мала ня подбегам і з заміраньнем сэрца перавальваўся Тодарка з сувоя на сувой у кірунку чорнай рэчы, што варушылася пасярэдзіне дарогі. Але дарэмна ён сьпяшаўся, дарэмна білася яго сэрца радасьцю спатканьня: на дарозе хісталася ветрам адзінокая маладая бярэзніка.—„Пэўна й бярэзінцы гэтай, як і мнє, сумна ў полі адной,—ў сьцюжу, ў непагадзь і ёй няма да каго прытуліцца, за каго схавацца.. Шкада, што ня ўмееш ты хадзіць: пашлі-б разам у лес шукаць нашых бацькоў,"—падумаў хлопчык і ў безнадзеі галасна заплакаў. —„Та-а-а-тка!.. Дзе ты?"...—Сарваўся з яго вуснаў поўны роспачы кліч, які глуха замёр сярод выцьця і сьвісту буры. Тодарка ўжо змарыўся. Парывы буры зьбівалі яго з ног, захлыналі дух, вушы і ручкі зяблі, сьлёзы з вачэй каціліся мёрзлыміградзінкамі. А сам ён так запацеў, так зьнядужыўся, што здаецца лёг-бы ў гэтую мяккую сьнегавую пасьцельку. Але блізка ўжо лес, а там пэўна ужо па знаёмай Тодарку дарожцы паміж ельнічку спяшаецца да хаты яго бацька. І ў Тодарка сілы прыбыло. От ён і ў лесе. Але тут сувоі па самыя пахі. —„Пэўна з дарогі зьбіўся,"— падумаў Тодарка і страх агарнуў яго.

— „Та-а-а-тка!.. ратуй!.." —ў зьнямозе закрычаў ён, але толькі працяглы і жаласны плач буры быў адказам на яго кліч.

— „Не пайду далей, каб не адысйьціся далёка ад дарогі," —падумаў Тодарка і рашыў лепш адпачыць і пачакаць бацьку. Недалёка стаяла гальністая елка, пад якою ня было сьнегу.—„Вот дзе добра пасядзець, зусім, як пад паветкаю!.. І вецер не дастае, а самому так цёпла... А тым часам і

татка надыдзе... Я ўгледжу яго адгэтуль, як будзе йсьці міма,“—разважаў Тодарка, скорчыўшыся пад елкай на падасланай радзюжцы і насуваючы на галоўку каўнер кажушка.—„Толькі-б ішоў хутчэй, а то мамка прачакаецца, будзе непакоіцца, што й мяне доўга няма,“—праняслася ў яго галоўцы думка рупнасьці і занепакояньня.

Ў гары выла, плакала і стагнала бура. Нарокліва шапталіся з ёю высокія елкі і хвоі. Схіляючы пакорліва свае галавы, яны з жаласным стогнам прасіліся ў буры не ламаць іх, даравац ім жыцьцё. Сьмяялася бура з гэтае просьбы, бо лепшая пацеха для яе—гэта крышыць, ламаць, рваць, псаваць, рабіць сьмерць... Са стогнам хіліліся старыя дрэвы, а да іх с плачам і страхам туліліся маладзенькія... Прыслухаецца Тодарка да гэтае жальбы дрэваў, і чуюцца яму ў гэтых жаласных гуках плач і прычоты свае хворае маткі... Потым здаецца яму, што яна перастала плакаць, узяла яго на рукі, захінула ў цёпленькі кажушок і, калышучы на руках, пяе нейкую сумную, хапаючую за сэрца песянку... Яму салодка дрэмлецца пад ветлівые гукі матчынага сьпеву... Потым кладзе яго маці на цёплую печ, а сама садзіцца каля яго і апавядае аб Хрысьце, як Ён нарадзіўся і потым за праўду быў укрыжаваны... І бачыць Тодарка вялікую яркую гвязду, якая памалу плыве па цёмна-сінім небе і нeяк ветліва маніць яго за сабою. Сваім мігценьнем яна бытцам гавора хлопчыку аб нечым добрым няведамым.. І Тодарка пайшоў усьлед за ёю!.. Але бачыць, што ўперадзі яго ідуць таксама хлопчыкі. Яны глядзяць на гвязду, а яна усьміхаецца ім і маніць за сабою.. У хлопчыкаў у руках даўгія посахі, а за плячыма торбачкі... —„А-а-а!... Гэта-ж—Бэтлеемскія пастушке. Яны йдуць у пячору пакланіцца нараджонаму дзіцяці-Хрысту. Дык гэта гвязда й мяне туды маніць“... думае Тодарка і зайходзіць у пячору. З ясляў глядзяць на яго блакітныя прамяністыя вочы Збавіцеля-дзіцяці... —„Ня бойся,—кажа яму Хрыстос,—„я радзіўся дзеля таго, каб заступіцца за вас усіх пакрыўджаных, каб пацярпець і быць укрыжаваным за тую праўду, якая навучае ўсіх людзей быць братамі і кахаць адзін другога“...

І сьніць далей Тодарка, як жандарэ, што білі яго матку, бацьку і секлі яго самога, схапілі Хрыста і паднялі на крыж... Тодарка кінуўся ратаваць, але тыя-ж грубыя рукі схапілі яго і сталі расьпінаць і прыбіваць цьвякамі да другога крыжа, заганяюць пад пазнокці голкі. Колюць голкі і жалезныя цвяке ў рукі й ногі Тодарка... А Хрыстос ветліва і ўдзячна глядзіць на Тодарка са свайго крыжа, і з Яго прамяністых вачэй цякуць сьлёзы.

— „Хутка будзе канец гэтаму злу. Мы з табой апошнія ахвяры“... ціха шэпчуць Яго вусны, а на абліччы зьяюць праменьні надзеі. І Тодарка адчувае нейкае салодкае цяпло ад гэтых праменьняў, цьвяке й голкі нат перасталі калоць яму ў рукі й ногі... Бачыць,—з цёмнага лесу сьпяшаецца да яго бацька... Падбег, хоча зьняць яго з крыжа, але пад ударамі жандарскіх гарапнікаў падае... Потым бачыць,—бягуць да яго, бытцам на ратунак, усе яго знаёмыя суседзі. Ўсе яны паднялі да Тодарка рукі ня то молячыся, ня то стараючыся дастаць яго з крыжа. Абліччы ва ўсіх бледныя, змучаныя, з рук і ног у іх цячэ кроў, бытцам і яны былі прыбіты да крыжа... А дзе-ж мама?.. А... вун яна, там у оддалі стаіць, усьміхаецца яму і ветліва ківае галавой...—„Пацярпі, сынок, ня доўга засталося“... чуецца яе голас. Але сонца памеркла, навокал стала ўсё цямнець і цямнець... Матка і ўсе людзі, што стаялі на каленях перад укрыжаваным Хрыстом, пачалі зьнікаць у цемры... У вачох стала зусім цёмна... А па целі разьліваецца нейкая цёплая кволасьць... Цьвяке й голкі ўжо перасталі калоць у ногі, а потым—і ў рукі...

Вецер злаваў і бушаваў да поўначы. Потым стаў сьціхаць. У гэты час ад дрэва да дрэва незаўважна прабіраўся чалавечы цень. Падыйшоўшы да

елкі, дзе сядзеў Тодарка, цень спыніўся... Потым нахіліўся...—„Хто тут?“— пачулася палахлівае запытаньне. Але адказу ня было. Тады бліснуў запалены серчык і пагас. Раздзіраючы душу стогн вырваўся з-пад елкі і пранёсся па лесе... Перад стужэўшым трупікам Тодаркі поўзаў на каленях яго бацька, адхукаваючы, пакрываючы пацалункамі і абліваючы сьлязьмі яго рукі і аблічча. Называючы яго самымі прыгажэйшымі і песьлівымі словамі, ён паднімаў яшчэ ня устыўшую галоўку сына, стараючыся яго раскатурхаць, але было ўжо позна: Тодарка спаў ужо вечным сном і ня чуў свайго бацькі. Ён ужо забыўся і пра куцьцю і пра хворую матку...

Падняўшы на рукі трупік сына, як самае каштоўнае несіва, бацька панёс яго, западаючы па пояс у сьнег. Ужо не хаваўся ён па-за дрэвамі, а ішоў сьмела дарогай. Ды ён, пэўна, мала і думаў цяпер аб тым, куды йдзе і што яго чакае. Некалькі хвілін таму назад ён з заміраньнем сэрца думаў аб пабачаньні з сям'ёй і, крадучыся паміж дрэвамі, лічыў хвіліны, якія прыходзілася дарэмна траціць яму на трудную і доўгую падарожу, і раптам... бяздоньніца гора і жаху разверлася пад ім і паглынула ўсе яго лепшыя чаканьні і надзеі... „Чаго цяпер чакаць? Для каго жыць? Каму я цяпер патрэбен? А-а-а!.. жонка яшчэ засталася“... Але пры мысьлі аб ёй сэрца ў Панаса зашчымела страшным прачуцьцём... „Сынок мой, Тодарка мой родненькі!.. Ці для гэтага-ж я гадаваў цябе і песьціў?..“ усё паўтараў адно і тое-ж напаўпрытомны Панас, гледзячы на мёртвае аблічча сына, і буйныя сьлёзы каціліся з яго вачэй...

Усё сяло спала моцным сном, калі Панас падыйшоў да свае хаткі. Ў вокнах блішчэў слабы агоньчык. Бразнула адна клямка, другая, заскрыпелі дзьверы,—і Панас увайшоў у хату. Там было ціха. Сіняваты агоньчык падскокваў на газоўцы, ўжо гатуючыся адарвацца, бо кнот аддаваў яму з бутэлячкі апошнія сокі. Засланы і прыгатаваны стол чакаў гаспадара. Панас палажыў Тодарка на лаву пад абразэ, падаслаўшы пад галоўку таго самага сена, што засталося ад засьцілкі стала. Затым пасьпешліва расхіліў яго кашульку, паслухаў сэрца і абмацаўшы ўсяго, праканяўся, што вярнуць да жыцьця ўжо немагчыма. Безнадзейна апусьціўшы галаву, падыйшоў ён да пасьцелі жонкі.

— „Тацяна, ты сьпіш?“—запытаўся Панас, нахіляючыся над ёю. Але адповедзі ня было. Падняў за руку, якая зьвешвалася з ложка, і аж задрыжэў ад жаху: рука, як лёд халодная, павярнулася, ня схіліўшыся ў суставах.

— „Так, спіць мая Тацяна і не прачхнецца ўжо ніколі... Але гэта й лепш можа, што яна ня ведае і не перажыве гора, якое прынясла-бы ёй сьмерць Тодарка“...

Панас нахіліўся над нябожчыцай. На бледна-васковым абліччы Тацяны застыг урачысты спакой мучаніцы, бытцам у апошнюю хвіліну яе жыцьця радасная надзея асьветліла яе прадсьмяротныя жаданьні, запэўніўшы блізкім і дарагім ёй людзям лепшую будучыну на гэтым сьвеце, а ёй самой— на тым. Панас доўга углядаўся ў яснае аблічча свае жонкі, стараючыся прачытаць у ім апошнюю волю нябожчыцы... І здалося яму, што вусны Тацяны заварушыліся і прашапталі: „Змагайся!“...

Выпрастаўшыся ва ўвесь свой высокі рост і працягнуўшы рукі да нябожчыкаў, Панас урачыста прамовіў:

— „Клянуся вам сваім жыцьцём, сваім каханьнем да вас, што буду змагацца за праўду і мсьціцца нашым ворагам да апошняй хвіліны свайго жыцьця, і, калі ня скончыцца удачай мая барацьба, то перадам свае запа-

веты другім, каб яны стаялі за долю сваіх дзяцей і жанок і ўсяго свайго прыгнечанага і паняволенага народу!..“

Страшна і зласесьліва гучэла яго прысяга перад мярцамі сярод магільнай цішы... Здаецца, што нябожчыкі заварушыліся ад гэтых слоў, і Тацяна бытцам ветліва усьміхнулася і кіўнула яму галавой...

Затым Панас апусьціўся перад жонкай на калені. Доўга стаяў ён так, і словы апошняга развітаньня шапталі яго вусны.

Потым ўстаў і падышоў да сына.

— „Сьпі і ты спакойна... Можа так лепш“...—глуха прагаварыў ён, углядаючыся ў дарагія для яго рысы мёртвага абліччa, як-бы стараючыся заўразіць іх назаўсёды ў сваёй памяці.

— „А цяпер спраўлю з вамі куцьцю і... пайду,“—сказаў ён, садзячыся за стол. Панас зачэрпаў ложку куцьці, але ня мог есьці і палажыў назад у місу.

— „Тацяна!.. Тодарка!.. Чаму-ж вы не ўстаяце на куцьцю? Вы-ж, пэўна, чакалі мяне?“—прагаварыў ён, зьвяртаючыся да мярцоў і глынаючы сьлёзы.

— „Ня слухаеце,—дык выбачайце, мае родныя: і я не магу бяз вас вячэраць“...

Ўстаўшы з за стала і абвёўшы хату разьвітальным ўзрокам, ён яшчэ раз паглядзеў на дарагіх мярцоў...

— „Я пайду... Мёртвым я не патрэбен... А яны-ворагі таксама над вамі цяпер сілы ня маюць... Будзь яны пракляты, забойцы!..

І Панас, крыху павагаўшыся, урэшце раптоўна выскачыў з хаты. У гэтым яго руху было відаць, як цяжка было яму назаўсёды рваць тыя вязі, якімі ён быў прымацаваны да свае сям'і, да роднага гнязда...

Полымя ў газоўцы ўпыхнула і пагасла.

Куцьця была спраўлена...

---

## НЯ ВЫТРЫМАЎ.

— „Што, Мікалай, зажурыўся і галоўку павесіў? Якія думы непакояць твае сэрца? І лоб нахмарыўся, як тучі, а вочы, як агнём гарацьʼ.. Пакінь усё гэта! Дарэмна ты мучыш сябе думкамі: слабы ты, бязсільны і ўсе мы дужацца з імі. Памаўчымо, пакуль што, і пацярпімо,—а ну-ж Бог зьлітуецца... Паглядзі вось на мяне: я—вясёлы, не склапачоны, нікога не баюся, бо ўсім умею дагадзіць!..“ І румяны крэпкі Пятрок, які гаварыў гэта свайму таварышу Мікалаю, пры апошнім слове выцяў яму па плячы, дадаўшы: „Крапіся, Мікалай! Ось хлапцэ, дзяўчаты сабраліся на вуліцы, карагоды будзем вадзіць... Па цябе паслалі: „ідзі—кажуць—Мікалая пакліч“. А то Антося без цябе й запяваць ня хоча.“ Гаворачы ўсё гэта, Пятрок нецярпліва пастуківаў падковаю свайго новага бота аб гліняны под.

Мікалай пасьля кароткай перамоўчкі падняў галаву і правёў рукою па высокім белым чале, як-бы адганяючы гэтым рухам думкі.—„Не пайду я да вас,“—глуха і панура прагаварыў ён ўрэшце,—„весялецеся, калі вам вясёла, а мне не да гэтага, ў ва мне так ўсё й кіпіць, на сьвет Божы не глядзеўбы“... І Мікалай, падпёршы галаву рукою, пачаў глядзець у невялічкае ва-

конца. Вячорны змрок даўно спусьціўся ня зямлю, і ў хаце былі прыцемкі. З вуліцы чуцён быў шум, гоман і здаровы закоцісты дзявочы сьмех.

Пятрок не ўгаманіўся. Ён стаў яшчэ больш приставаць да Мікалая, пробаваў нават сілком цягнуць яго да дзьвярэй. Урэшце, не бачачы скуткаў сваіх высілкаў, махнуў рукою.—„Ну, ня пойдзяш, дык чорт з табою, кланяцца доўга ня буду! А там можа ўжо й жандар Цыбульскі прыехаў паглядзець на нашы гульні. Надта ён нешта заглядаецца на тваю Ганульку,“—падзадорыў ён Мікалая. Ў гэтых словах Петрака адчувалася нешта злацешнае.—„Ну, пабягу я, можа патрэбуецца гарэлачкі яму прынясьці... дагадзіць“... І Пятрок, зірнуўшы яшчэ раз на Мікалая, хутка выбег з хаты... Мікалай, правеўшы яго невясёлым ўзрокам, зноў уставіўся ў вакно.

У хаці было ціха. Толькі з печы даносілася цяжкае дыханьне, соннае маячаньне і кректаньне старой мацяры Мікалая.

— „Не,—каліб усім адразу не маўчаць, рэзаць праўду-матку, дык даўно было-б ня тое, а то—адзін ідзе простаю дарогаю, а ўсе—крывымі сьцежкамі: гнуцца, падлізваюцца... Ляклі́ўцы нікчэмныя!.. Вечна хочуць быць рабамі, лізаць рукі, па якіх цячэ іх-жа ўласная кроў!.. Ну, дык ліжэце-ж, а я —ня буду!..“ І Мікалай, страсянуўшы галавою, з размаху моцна стукнуў кулаком па стале.—„Ня буду, не!..“ паўтарыў ён.

З печы пачулася кректаньне. „Мікалайка, Мікалайка,“—прагаварыла пасьля доўгага удушлівага кашлю яго старая маці,—„гэта ты там, а я ўжо спалохалася, думаючы, что кот разьбіў міску. Што ты там робішь папоначы? Запаліў-бы сьвятло...“ І не атрымаўшы жаднае адповедзі, дадала ціха: „А старэнькага нашага ўсё няма ды няма... О-хо-хо-хо-хо!.. гора нашае, гора: ня вытрымае ён, ня вытрымае...“

— „Матанька, паслухай!“—прагаварыў рашуча Мікалай, парыўча падыходзячы да печы. Ён стаў на цагляныя сходкі каля печы, ўзяўшыся рукамі за слупік, які ўпіраўся ў бэльку і падтрымліваў столь.—„Матуленька, паблагаслаў мяне на добрую справу! Многа вы з бацькам цярпелі, бяз прасьвету біліся ў працы і дагаджалі паном, многа яны білі й мучылі вас,—а бацька й цяпер сядзіць у каталажцы. Ўчора высеклі яго старога, слабога за адно толькі слова, за адненькае праўдзівае слова... Ўразаюць апошні, родны кавачак зямліцы для нейкага чужаземца-вырадка, і ня сьмей нічога сказаць, а сказаў,—дык бізунэ... Дык ось, матулька, маўчы і нікому не кажы: пайду я ад вас, ўсё роўна я—для вас не абаронца, яшчэ большы гнеў на вас навалаку... Пайду далёка і стану зьбіраць малайцоў удалых, як я сам, каб ішлі вызваляць нашу родную зямлю ад разбойнікаў! Ня плач, матуленька, можа хоць адзін дзянёк пажывеш вольным чалавекам... Шкада мне вас, старых, але яшчэ цяжэй, што не магу вас бараніць і яшчэ павінен ісьці ім-жа служыць... Бацьку заўтра выпусьцяць, ён прыдзе, а я пайду!.. І Мікалай палажыў руку на плячо старэнькай маткі, якую аж калаціла ад плачу. „Супакойся, матуленька...“

— „Міка... Міка... ла-а-а-айка...“ магла толькі выгаварыць бедная маці, хаваючы аблічча ў сьвітку, якая замяняла ёй подушку . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— „Антоська, Антоська, як ты сюды прыйшла адна?“—з вялікім занепакоеньнем запытаўся ў дзяўчыны Мікалай, вышаўшы на ціхі стук у вакно і ніяк не чакаўшы а-гэтай пары яе тут убачыць.—„Ты ня прышоў... А я чакала, чакала,—сумна стала без цябе, вось і прыйшла. Чаму-ж ты ня прышоў? Пятрок казаў, што ты адзін дома і надта сумны. Я хацела прысьці раней, але жандар Цыбульскі прычапіўся і усё на адставаў ад мяне, так і ходзіць

ўсьлед... Мікалай, што мне рабіць? Ён сказаў, што хоча, каб я пайшла за яго замуж. Бацьку заўтра скажа... Бацька згодзіцца, бо ён баіцца жандара..." Антоська зусім блізка падышла да Мікалая. „Яго я так ненавіджу, так ненавіджу, што й слоў не падбяру... Лепш умярці, здаецца"... Антоська адышлася і села ў цёмны куток на прызьбе. Буйныя сьлёзы каціліся з яе вачэй, і яна выцірала іх канцом свайго белага фартушка.—„Цябе ён, жандар, надта ня любіць. Ведаю,—кажа,—што гэта за птушка! Я яго, цябе знача, упяку туды, дзе кот мышэй не лавіў!.. Я ашуканствам уцякла сюды"...

Мікалай слухаў яе словы, апусьціўшы галаву. Пальцы яго нэрвова перабіралі доўгія кутасэ яго паяса.— „Антоська", прашаптаў Мікалай, нізка схіліўшы над дзяўчынай сваю галаву: „паслухай"... І Мікалай адкрыў дзяўчыне свае пляны. Гаварыў ён з прақананьнем і горача. Выслухаўшы яго, Антося парыўча ўстала і, абхапіўшы рукамі яго шыю, задрыжэла... „А я?.. а мне куды падзецца?"—прагаварыла яна, ледзь стрымліваючы плач і тулячыся да яго грудзей. Мікалай моўчкі прыгарнуў да сябе дзяўчыну, стаў гладзіць яе аблічча і галаву. Відаць было, як ён кусаў сабе вусны, каб фізычнай больлю заглушыць мукі свайго сэрца...

— „Я утаплюся,"—безнадзейна гаварыла Антося,—„мне ўсё роўна жыцьця няма: ты пойдзеш, а нават, каб і тут астаўся,—ня было-б дабра. І табе ня жыцьцё, і мне: жандар, што захоча, тое й зробіць... Два гады таму назначылі войтам тут Хмялеўскага,—ня з нашых, і гаварыць па-нашаму ня ўмеў.. А палюбілася яму Дарота Міхасёва... Яна плакала!.. І бацька не хацеў, але яго арыштавалі, пасадзілі, бізунамі ссеклі... А Дароту-ткі узяў за сябе. І веры другой быў, а-ткі ўзяў"...

— „Ну, а ты ня йдзі і баста, сілаю не пацягнуць! А то пойдзем разам са мною,—няхай шукаюць"... Антоська на хвіліну задумалася, а потым пакруціла галавою.— „А ты запамятаў Марыльку, што муж яе ўцёк?.. Яе з хлопчыкам як мучылі тут... Яна ня вытрымала і ўцякла, думала,—мужа знойдзе. Але папала жандаром у лапы. Па-іхняму гаварыць ня ўмела, ня ведала якімі словамі ад іх адпрасіцца... П'яныя здзекаваліся над ёю, а хлопчык крычаў, крычаў... А потым... выпусьцілі. Але яна страціла розум: кінула хлопчыка на дарозе, а сама пабегла ў лес, сьмяялася—кажуць—крычала, пяяла, рвала на сабе валасэ й вопратку,—ну, ведама, як бяз розуму. А хлопчыка на шчасьце знайшлі, пазналі,—прывялі, аслабеўшага ад плачу і голаду, баязьлівы, як зьвярок, гэтак запалохалі яго жандарэ... Баюся я, Мікалайка, лепш ужо адразу ў раку... Хутка і лёгка..."

— „Бедная ты мая! бедныя вы мае, загнаныя, пакрыўджаныя, слабыя, бязвольныя!.. Што рабіць, чым памагчы?... Пачакай, Антоська, яшчэ крыху, марудзь, адкладай, хітруй, калі ўжо так трэ' будзе, але не паддавайся, ня губі сябе... і мяне... Павінен-жа быць гэтаму канец"...

Пачуліся крокі, а потым—галасэ. П'яны Пятрок гаварыў: „Падцягнеця яго, пане Цыбульскі, падцягнеця!.. Вы ўсё можаце... І Антоську разам,—а то дзяўчына нос дзярэ, апрача Мікалая знаць нікога ня хоча, нават вашу мілась[ць] і то нікчэміць." Упоруч з Пятраком ішоў жандар і вёў свайго каня. Ён таксама быў п'яны.

— „Ось такіх, як ты, Пятрок, я паважа-а-а-а-ю,"—гаварыў ён ледзь варочаючы языком, — „а іх мы правучым, заўтра-ж я вазьмуся за іх."

Мікалай і Ганула чулі гэтыя словы.—„Бачыш, марудзіць нельга: адзін у полі—не ваяка. Зараз-жа пайду... Аставайся здарова, Антоська! Ня плач і ня

траць надзеі... Даведвайся да маіх старых, будзь ім уцехаю... Бывай здаровенька"... Мікалай моцна абняў дзяўчыну, пацалаваў яе і схаваўся у цемры ночы...

---

## МАТЧЫНА СЭРЦА.

(КАЗКА).

Ня так даўно, ня так далёка ад нас, на Палесьсі, жыў палясоўшчык Дзямян, па прозьвішчу Белы. Не дарэмна дасталося яму гэтае прозьвішча: ён апранаўся ва усё белае,—шапка белая, сьвітка, кашуля, нагавіцы й ганучкі белыя, нат лапці, сплецяныя з ліпавых лутоў, і тыя здалёк выглядалі белымі. Жонка яго, Палуся, таксама апраналася ва ўсё белае свае дамовай, ведама, работы. Паглядзіш на іх, як выйдуць у поля на работу, дык такія яны прыгожыя, бытцам пара белых галубкоў. Хатка іх стаяла каля самага лесу на адзіноце. Гаспадарку яны мелі вялікую, ўся зямля ў адным кавалку, жыўёлы усялякае трымалі многа. Людзі яны былі руплівыя, старэнныя і працавітыя, ў гаспадарцы ім шанцавала. Есьці, піць у іх было чаго хочаш і колькі хочаш.

Толькі ў аднэй рэчы яны ня мелі шчасьця: не маглі дагадавацца дзетак. Народзіцца дзіця,—бацьке цешацца з яго, песьцяць, шануюць... Потым аддадуць яго вучыцца на папа, вучыцеля, на доктара ці на афіцэра: хочуць, знача, даць дзецям лягчэйшы хлеб і самі чакаюць пад старасьць мець ад іх падтрыманьне. Тым часам дзеці, як павывучваліся ды парабіліся панамі, дык і бацькоў павыракаліся: кажуць,—вопратка іх простая, гаварыць яны ня ўмеюць. Саромяюцца яны нават паказаць бацькоў сваім вучоным сябром і прызнацца, што яны—дзеці гэткіх простых лапатнікаў-мужыкоў. Было нат гэткае здарэньне, што сын афіцэр зусім ня пpыняў да сабе бяцькоў, калі яны, прыехаўшы на кірмаш у места, дзе служыў гэты сын, захацелі з ім пабачыцца і пайшлі да яго ў госьці. Сам ён не паказаўся, выслаў жаўнера і загадаў сказаць ім, што ніякага тут іхняга сына няма і што ім хіба з п'янай галавы ўроілася, што ён—іхні сын. Калі-ж бацьке пачалі спрачацца і гаварыць, што гарэлкі нат у рот ня бралі і знайходзяцца у поўнай цьвярозасьці, то жаўнер слухаць іх не хацеў і па загаду свайго пана сілком вывеў іх на вуліцу, кажучы, што калі яны яшчэ раз адважацца туды зьявіцца, дык будуць арыштаваны...

Цяжка было бацьком... Цяжка ім было лічыць сваіх дзяцей назаўсёды для іх пахаванымі...

І ось, аб адным толькі пачалі яны думаць, аднаго жадаць: каб нарадзіўся ў іх яшчэ адзін сын, якога яны ўжо даюць зарок ня пускаць у чужую панскую навуку, якая адбірае ад іх дзяцей, а гадаваць іх пры сабе. Жаданьне іх збылося: нарадзіўся ў Палусі сын, ды гэткі прыгожы і здаровы, што ніколі ў жыцьці ніхто яшчэ такога дзіцяці ня бачыў. Пачаў сын расьці і прыбываць, як на дражджах: што не гадзіна часу,—глядзяць бацьке, аж сын на цаль і падрос. Цешацца яны і разам баяцца, бачучы ў гэтым дзіцяці нешта надзвычайнае. На трэці дзень сын стаў ужо хадзіць. У тыдзень часу хлапец зрабіўся ўжо дарослым пастушком і пачаў пасьвіць гусі. А еў ён,—дык больш, як бацьке абое разам, а як стане гаварыць, дык і старыя з ім не патрапяць, бо быў надта ўжо разумны. Дзівяцца бацьке з сына, і разам з тым мучыць іх нейкае занепакоеньне, прачуцё нечага страшнага не пакідае іх на адну мінуту. Адно-ж і праўда,—бяда была не за гарамі...

Пайшла гэта аднаго разу Палуся ў лес па ягады і сына ўзяла з сабою. Ен быў надта адважны, добра ведаў усе дарогі і дзеля гэтага з ім ня было ў лесе боязна і нельга было заблукацца. Завёў гэта ён матку у такое мейсца, дзе ягады хоць шуплям шуплюй. Сталі гэта яны зьбіраць. Што маці ягадку падніме,—сын у гэты час адразу прыгаршчы заграбе. Бяруць яны гэта ягадкі ды бяруць і гэтак унырыліся ў сваю работу, што бытцам усё і на сьвеце запамяталі. Толькі раптам сярод леснай цішы нешта калі затрашчыць! Падымаюць яны головы,—аж каля іх стаіць вялізарны воўк ды гэткі, якога пэўна ніхто ніколі ня бачыў: от,—як добры бык-двазімак. Сівы, з раззяўлянай пашчай, высалапіў язык, які аж цялёпаецца, высунуўшыся з горлы, зубы вышчырыў, вочы блішчаць,—і ў іх сьвеціцца прагавітасьць і пачуцьцё свае сілы. Уся яго морда як-бы злацешна ўсьміхаецца, бытцам гаворыць: „Ага! папаліся? цяпер я вас ня выпушчу!“ Маці затрупянела ад страху і перш-на-перш кінулася да сына і прытуліла яго да сябе, сабой закрываючы. „Не, жанчына, не схаваеш ты ад мяне свайго сына!“ зарагатаўшы загаварыў воўк чалавечым голасам, ад якога аж лісточкі са страху на дрэўцах затрапяталіся. Доўга мне з табой, жанчына, няма часу гаварыць,— выбірай з двох адно: або разарву я вас тут абаіх,—уперад сына, пасьля цябе,—або ты жывым павінна аддаць мне сваё дзіця, бо, як я бачу, з твайго сына будзе добры ваяка, а гэткія якраз мне і патрэбны“... Няшчасная матка, не адчуваўшая ў сабе сілы глядзець ня сьмерць сына, згадзілася на другое. Але ня ўсьцігла яна вымавіць і слова згоды,—калі гляне, аж яна трымае і туліць да сябе ўжо ня сына, а ваўчанё... Толькі па блакітных, жаласна гледзячых вочках, з якіх закапалі сьлёзы, магла яна пазнаць сваё дзіця... Стары воўк ў мільгавоч схапіў ваучанё-чалавека, закінуў сабе на хрыбет і толькі гальлё затрашчала, як памчаўся. Панёс ён хлапца-ваўчанё праз цёмныя лясэ, дрыгвістыя балоты, глыбокія лагчыны у сваё ваўчынае царства, у свой палац—пад вываpaць вялізарнага дубу. Імчаўся воўк так, што у ваўчаняці з няпрывычаннага бегу аж дух захлынала. Пад вечар таго-ж самага дня прымчаліся яны пад вываpaць. Ваўчыца з радасьцю сустрэла свайго мужа і зараз-жа прынясла яму на вячэру цэлага быка. А ваўчаняці падала цэлага барана. Да смаку прыйшлася яму сырая баранінка: есьць,—аж за вушамі трашчыць. Павячэраўшы, воўк з ваўчыцаю пайшлі на ўловы ці можа на якое воўчае вясельле, а ваўчаньнё пакінулі ў дома ваўчыныя пакоі пільнаваць...

У гэты самы час бедная матка хістаючыся, як падсечаная бярозка, заламаўшы рукі, голасна плачучы і рвучы на сабе валасэ, ледзь выбралася з лесу. У роспачы, заліваючыся горкімі сьлязьмі, яна ня бачыла пад сабою дарогі і кождамінутна спатыкалася і падала. У безнадзеі усё толькі адно яна гаварыла: „Сынок мой, сынок! дзе ты? што будзе з табою?“—„Ня плач, матанька,“—ня то ў яе сэрцы, ня то адкуль з-пад зямлі пачуўся голас яе сына,—я у воўчым палацы, не галодны і ў цяпле, аб табе думаю, матанька, і буду ў госьці да цябе прыйходзіць!“ Ад гэтых слоў сілы прыбавілася ў жанчыны, і яна здоляла дацягнуцца да хаты...

Пагаравалі, паплакалі яны з дзедам і пачалі чакаць сына да сябе ў госьці. Чакаюць дзень, чакаюць другі... На трэці дзень сядзяцца яны вячэраць,—аж чуюць, у сенях нешта замармытала, а пасьля ціханька завыла. Адчыняе баба дзьверы,—аж у хату ўбягае Ваўчанё. Дзед аж падскочыў на лаўцы! Ня прывітаўшыся, нічога (ваўке, ведама, ад гэтага ўжо адвучылі), Ваўчанё зараз-жа кінулася да свае маткі, ўскочыла да яе на калені і, мармочучы, давай разьдзіраць пазурамі на ёй сарочку, шукаючы грудзей. Жудасна неяк бабе карміць Ваўчанё, але разам з тым і шкада яго:

ведама, — сваё дзяце. Дала яна яму грудзі. Ваўчанё накінулася на яе з такою прагавітасьцю, што, здаецца гатова было ўсе жылы з грудзей павыцягаваць. Але матка нават і болю ня чуе. Глядзіць яна на сваё дзіця, а ў самой сьлёзы так і цякуць з вачэй... Бачыць яна, што і сын, хоць і ў воўчай скуры, а туліцца да яе, як і раней, і на вачох у яго таксама блішчаць сьлёзы... Нассаўшыся, раптам саскочыў ён з каленяў і зноў уцёк ў лес. Гэтак кождага вечара дзіця-Вaучанё прыбягала ў госьці да свае маткі. У канцы канцоў бедная жанчына ад жалю, тугі і атушчэньня ня ў сілах стала і ногі валачыць і зьлягла ў пасьцель. Прагавітае дзіця-Ваучанё ня перастaвала ссаць яе і ў часе хваробы. Але ня доўга хварэла жанчына: з высахшым, выпятраўшым сэрцам на трэйці дзень яна сканала. Перад сьмерцьцю яна папрасіла свайго дзеда, каб ён пахаваў яе не на могілках, а сярод лесу, на тым самым мейсцы, дзе яна пахавала сваё апошняе шчасьце,—страціла апошняга сына. Ёй хацелася хоць па сьмерці быць бліжэй да яго: думала, што можа ён хоць прыпадкам калі-колечы прыбяжыць на магілу свае маткі і, калі не памоліцца, то хаця павые. Вечарам, у дзень сьмерці маткі, сваім звычаем прыбегла Ваўчанё-дзіця ў госьці, але, дакрануўшыся да халоднага трупа, толькі жаласна завыла і ўцякло ў лес.

З таго часу Ваучанё-чалавек зрабілася ужо запраўдным злым воўкам. Пазбыўшыся маткі, з малаком якой ён ўсысаў у сябе добрасьць і міласьць яе сэрца, цяпер ён падпаў пад абладу адных толькі воўчых нахілаў. Сэрца яго зрабілася злым, крывіпрагавітым, пачаў ён усіх ненавідзець, у вачох яго ня відаць стала ні кроплі чалавечых азнак: яны сьвяціліся ўжо злым агнём. Разам са стратаю матчынага сэрца зьнікла ў яго міласьць і да роднага бацькі, роднае хаткі й зямліцы. Зрабіўся ён нат рабежнікам свае ўласнае гаспадаркі: паперацягаў у лес усю жывёлу і хутка давёў бацьку да торбы. Але ня меў ён ў гэтым здаволеньня і шчасьця, бо злое сэрца ніколі ня бывае шчасьлівым: усё і ўсіх ён зьненавідзіў. Зьненавідзілі і яго людзі, ад якіх ён краў жывёлу і дзяцей, і тыя зьвярэ і птушачкі, якіх ён сваім рабаваньнем сіроціў. У незадаволеньні самым сабою і ўсім на сьвеце бегаў ён па лесе, хаваючыся ад усяго жывога, спадзяючыся на кождым кроку спаткацца з ворагам-паляўнічым або са зьверам, дужэйшым за яго самога.

— „Якім я, здаецца, быў-бы шчасьлівым, каб да мяне зноў зьвярнулася тая да ўсяго любоў, якую я адчуваў у сваім сэрцы, жывучы пры сваёй матцы,“—падумаў Воўкалак, прабягаючы аднаго разу каля таго мейсца, дзе была яна пахавана. Толькі ён падумаў гэта,—аж бачыць, недалёка ад яго сядзіць уся ў белі жанчына і, трымаючы на каленях дзіця, корміць яго грудзямі, песьціць, туліць да сябе, цалуе, гаворыць яму ветлівыя, салодкія словы...—„Вось, дзе будзе смачная страва,“—падумаў Воўкалак, прагавіта аблізваючыся і, затаіўшы дух, ён пачаў падкрадацца, каб зненацна схапіць жанчыну, але раптам у голасе яе пачуў знаёмыя чароўныя гукі свае маткі, а дзіця, якое трымала жанчына на каленях, прыдалося яму надта падобным да яго самога, пакуль ён ня быў перакінуты ў Воўкалака. Гукі роднай матчынай, поўнай салодкай пястоты мовы, і шчасьлівы посьмех дзіцяці на каленях сьветлай жанчыны прыпомнілі яму пару шчасьлівага дзяцінства. Пры гэтых ўспамінах да яго пачало варочацца пачуцё чалавека, потым нешта раптам як-бы страсянула яго сэрца, мазге і ўсё цела,—і ён прыняў чалавечае аблічча.

— „Хто ты?“—запытаўся ён ужо чалавечым голасам,—„па абліччы і голасе ты надта падобна да мае маткі, але-ж я ведаю, што яна памерла і нават дзесь-ці недалёка адгэтуль пахавана, а ты ось жывая, маладая і пры-

гожая. Дзіця, што ў цябе на каленях,—бытцам я сам, але-ж я ўжо вялікі, а яно яшчэ малое“.

— „Я—абаронца і збавіцелька усіх няшчасных,“—загаварыла сьветлая жанчына: „я—апякунка усіх сірот і матак, у якіх нячыстая варожая сіла адабрала дзяцей, вырваўшы ў іх душу і мову чалавека і надаўшы ім зьвярынае аблічча. Я ніколі не памру і не пастарэю, а заўсёды буду такою маладою, якою ты бачыш мяне цяпер. Дзіця, што ў мяне на руках,—гэта мая надзея на лепшую будучыну, якая жыве ў сэрцы кождага няшчаснага пакрыўджанага чалавека. Сталага мейсца я ня маю, а хаджу па сьвеце і знайходжу сабе прытулак у сэрцы кождага, хто хоча кахаць усіх людзей і ўсё жывое на зямлі. Таго, хто пажадаў мяне і даў мне прытулак у сваім сэрцы, я нараджаю бязмерным шчасьцем. Ось і ты пажадаў міласьці да ўсяго жывога,—і я з гэтага часу пасяляюся ў тваім сэрцы. А дзеля таго, што твая маці найбольш пакрыўджана, што яна найбольш за ўсіх адпакутавала, утраціўшы сваіх дзяцей, то я хачу найбольш адзначыць яе пакуту: я хачу табе, яе сыну, даць такую-ж самую сілу рабіць шчасьлівымі людзей, як гэта раблю я. Але для гэтага ты ўперад павінен выканаць адну небасьпечную для твайго жыцьця справу. Вось тут недалека, паміж трох дубоў, пахавана твая маці. Ў самую поўнач, яшчэ да пятухоў ты прыйдзі на яе магілу. Яна зраўнялася ужо з зямлёю і зарасла травою, але на тым мейсцы, дзе ляжыць твая матка, ты ўбачыш невялічкі яркі агоньчык. Гэта гарыць сэрца твае маткі ад жалю па сваіх дзетках. Ось ты павінен заліць гэты агонь вадою з той крыніцы, з якой купалі цябе, як ты нарадзіўся. Ваду гэту прынясі у прыгаршчах і глядзі, каб не разьліў. Як толькі лінеш прынесянай вадою на той агоньчык, дык на яго мейсцы ў міргненьне вока зьявіцца двохколярная—чырвоная з белым—ружа, якая якбачыш закрасуе і дасьць множства красуючых ростак. Адну з гэтых ростак прышпілі да свае кашулі, і гэта будзе адзнакаю твае перамогі, сілы і тваіх жаданьняў. І ўсім, хто захоча шчасьця свайму народу, і будзе тваім памочнікам і вучнем,—ты будзеш зрываць і дарыць росткі ад гэтае ружы. Той агонь, які ты пагасіш на магіле твае маткі, запаліць тваё ўласнае сэрца і розум жаданьнем рабіць адно толькі дабро і дасьць табе вялікую сілу для змаганьня з ворагамі. Ён запаліць у тваім сэрцы любоў да ўсіх пакрыўджаных, і ты пакахаеш свой народ так, як цябе маці кахала, і будзеш старацца зрабіць свой народ шчасьлівым так-жа, як і я стараюся гэта рабіць. А дзеля таго, што табе прыдзецца змагацца з ворагамі твайго народу, то з гэтага часу імя тваё будзе „Змагар.“

Сказаўшы гэта, сьветлая жанчына зьнікла.

А-поўначы пайшоў Змагар на мейсца сярод трох дубоў. Паазіраўшыся навокал, убачыў ён агончык, падобны да сонечнага праменя. Сэрца Змагара моцна застукала ад нейкай трывогі і радасьці, і ён, як няпрытомны, кінуўся на магілу мацяры... Раптам увесь лес завыў, зароў, застагнаў, запішчэў, затрашчаў... Аж у вушох зазьвінела, і пацямнела ў вачох Змагара. Чалавечыя постаці з воўчымі, мядзьведжымі, сьвінымі і казьлінымі галовамі абступілі яго навокал, не дапушчаюць падыйсьці да магілы мацяры. Крумкачэ, совы і каршунэ закрумкалі і закруціліся над галавою, чакаючы пажывіцца ім. У Змагара аж дух заняло ад страху, і валасэ сталі дыбам. Але, сабраўшы свае апошнія сілы, ён рынуўся да ратоўнага агоньчыка і лінуў на яго прынесянай вадзіцай. Цудоўны агоньчык пагас, і на яго мейсцы зьявілася красуючая двохколярная, чырвон-белая, ружа з росткамі. Толькі Змагар працягнуў руку сарваць кветку, як воўчыя, мядзьведжыя, сьвіныя і казьліныя морды яшчэ горш завылі, зараўлі, заквічэлі і забляялі, адцягаючы яго назад ад запаведнай кветкі. Турзануўся Змагар уперад, што было сілы, і рап-

там адшчыкнуў ростку ружы... Мары і прывіды, як скрозь зямлю, праваліліся, толькі па лесе прагучэў стогн і злы рогат. Ад напруджаньня і страху Змагар утраціў прытомнасьць і ўпаў...

Праменьні ўсходзячага сонца, прабіўшыся скрозь лясную гушчырню, збудзілі яго ад моцнага сну. Перцiае, што кінулася яму ў вочы, гэта пышны куст чырвона-белых ружаў на мàгіле яго мацяры. Кождая красачка бытцам сьмяялася, ківала яму галоўкаю і маніла да сябе, як-бы хочучы што сказаць. Змагар кінуўся да ружы, пачаў цалаваць кождую красачку і ў гэтых цалунках адчуваў як-бы цалункі і пешчаньне свае памершае маткі. Сьлёзы радасьці і разам жалю цяклі па яго шчоках. А навокал родныя, блізкія і зразумелыя яму з малых дзён птушыныя галасэ як-бы віталі адраджэньне гэтага чалавека і сьвяткавалі збаўленьне яго ад варажай сілы...

З сэрцам, поўным надзеі і шчасьця, вярнуўся Змагар да роднае хаты, ў родныя палеткі з гарачым жаданьнем перадаць хутчэй усю сваю сілу тым пакрыўджаным і гаротным, якіх варожая нечысьць адбірае ад родных матак, выводзіць з роднае зямліцы, абяртаючы іх у нечалавечую постаць, робячы Воўкалакамі, якіх потым прывучаюць рабаваць сваіх бацькоў...

---

К. ЕЗАВІТАЎ.

## МАЛІТВА ПЯРУНУ.

Пярун, наш Бацька! Ясны Божа грому,
Даруй нам!.. Жрацы Хрыста нас ашукалі,
Мы бязьвінны!—Мы табе малілісь, Залатому,
Нас мячамі ксьцілі і ў вадзе купалі.

Каб мы не чапалі белых сьцен Цар-Града,
І каб коні нашы не таптали вуліц Рыма,
Каб у гневе правым не скрышылі мы Варага-гада,—
Нас зачаравалі зьяньнямі прастолаў, у золаце дзьвярыма.

Волю ў нас скавалі, розум атруцілі...
Сьвятой помсты ўцеху нам забаранілі...
Як краты, мы сьлеплі, мечы апусьцілі,
Для ўладык-чужынцаў мы рабамі былі...

Але ў душах нашых, у сьвятых глыбінах,
Дзе таёмна мроіць Прадчуцьцёў Парог,
Мы пабудавалі Твой Аўтар ў нізінах,—
Там Ты жыў ў пашане, як наш стары Бог.

Блізіцца дзень помсты... Дай нам, Божа, сілы!
Мы для Сьветлай Помсты здаўна куем меч.
Памажы' Пярун, нам, Бог наш Грозны, Мілы,
Цяць галовы гадам ад чванлівых плеч.

14 лютага 1925 г.

АЛ. ШЛЮБСКІ.

# МАТЭР'ЯЛЫ ДА КРЫЎСКАЕ ГІСТОРАПІСІ.

## ДОЛЯ КНІГАСХОВАЎ І АРХІВАЎ.

„Зямелька Рагваложа, Турава! дзе твая слава? дзе сыны твае, ўслаўлёныя, вялікія, дзе мужы кніжныя, князі мудрыя?

Усё прайшло, мінула,
Як бы ня было,
У капцох паснула,
Зельлем парасло"...

*Власт. Стары шлях („Лучынка", VI).*

„Пагібель нашай старасьветчыны—гэта стрыманьне разьвіцьця нашай культуры, гэта—абезаружаньне нашай інтэлігенціі".

*В. Смолко, Пагібель старасьветчыны („Часопіс..." 1919, № 1).*

„Вопрос о гібелі книжной более серьезен, чем кажется с первого взгляда; это—вопрос общего уровня культуры".

*Проф. М. Алексеев, Гибель книг. (Бібліотечные преступники". Харьков. 1924, бал. 97).*

§ 1. У гэтай працы, якая ня можа галіцца на поўнасьць матар'ялу, мы закранулі долю бібліатэк і рукапісных гістарычных крыніц, якія знаходзіліся на крыўскіх землях пачынаючы з XII стагодзьдзя і канчаючы рэвалюційнай сучаснасьцю.

Усім, хто працаваў над дасьледаваньнем гісторыі беларускага народу і беларускага краю, прыходзілася і прыходзіцца сустракацца з вельмі дзіўным і сумным здарэньнем: нястачай кніжных скарбаў і рукапісаў, асьвятляючых беларускае гістарычнае жыцьцё, якімі з самых даўных часаў была багата Беларусь (Крывія), якіх у Беларусі (Крывіі) было шмат разоў больш, чым, прыкладам, у Маскоўшчыне [1]).

[1]) Гл., напрыклад, Мих. Родевича: Бѣлорусскія народныя школы („Заря", 1871, кн. 8—9, бал. 103) або „Христіанское чтеніе" 1903, бал. 500.

„Адну з самых балючых страт,—кажа Нап'ерскі,—[2]) якіх дазнала стара-руская пісьменнасьць пераважна ад пажараў і, асабліва, ў часе змаганьня з Літвой, Татарамі і Палякамі, становіць зьнішчаньне немаль усіх старэйшых пісаных помнікаў Заходнай і часьцю Палуднёва-заходнай Расіі. Аб важнасьці гэтай страты можна судзіць ужо са зьместу Валынска-Галіцкага летапісу, які абыймае ўсё XIII стагодзьдзе і мяйсцамі кідае яркае сьвятло на гістрыю стара-рускіх князьстваў па Заходнай Дзьвіне і Нёмане."

Дасьледчыкі старадаўнага крыўскага жыцьця, сочучы па бібліатэках і архівах вялікіх гарадоў Маскоўшчыны ці за рубяжом, з вялікімі мукамі знаходзяць патрэбныя ім матэр'ялы, а найчасьцей зусім не ўдаецца знайсьці патрэбнага, бо шмат зьнішчана. Гэта сьведчыцца ад пачатку XIX стагодзьдзя ўсімі вучонымі, якія ў сваіх працах дакраналіся Беларусі... „прыходзіцца зьбіраць патрэбны матэр'ял літэральна крышынкамі, крупінкамі,—кажа адзін гісторык Смаленшчыны, [3])—ня грэбуючы і відочнымі драбніцамі, пры тым усе гэтыя драбніцы і крошкі дабываюцца з вялікім трудом або ізноў прыпадкова і саўсім нечакана".

Дайшоўшыя да нас кнігі і рукапісы гэта—слабы цень творчай дзейнасьці беларуска-крыўскага народу, якая была замацавана ў старадаўныя часы ў рукапісных матэр'ялах і ў друку. Чаму сталася гэтае нязвычайнае здарэньне, дзякуючы якому Беларусы утрацілі ўсё сваё стараветнае культурнае багацьце: бібліатэкі, кнігі, выдрукаваныя ў 15 рускіх (крыўскіх) друкарнях,— Віленскай, Магілеўскай, Куцеінскай, Супрасльскай, Несьвіжскай, Менскай, Горадзенскай, Буйнічскай, Полацкай і іншых, летапісы, якія вяліся ў многіх крыўскіх асяродках, і нязьмерны лік цэнных рукапісных чыста беларускіх (крыўскіх) помнікаў, якія сьведчаць, як аб слаўным мінулым вяліччы беларусаў, так і аб гадзінах народнага няшчасьця? Адповедзь знаходзім у „Могилевских Епархіальных Вѣдомостях" (1889 г. №№ 14—15, бб. 170—171):

„Рожныя пераварoты і закалоты ў краю, неўважлівасьць да перахову яго дакумантаў і помнікаў і г. пад. прычыны здолелі стварыць у ёй (у гістрыі) значныя прарэхі так, што пры адтвараньні яе (гісторыі) цяпер воляй няволяй прыходзіцца карыстацца толькі нямногім".

Уся гісторыя беларускага (крыўскага) народу гэта—мора чалавеччай крыві, якая тапіла ў сваіх хвалях усе найлепшыя праявы культурнага народнага жыцьця, гэта—войны паміж братамі вялікай славянскай сям'і—Усходам і Захадам,— выкліканыя, паміж іншым, рэлігійным фанатызмам каталіцкага і праваслаўнага духавенства.

Вайна і рэлігійная нецярплівасьць, якая радзіла рэлігійнае змаганьне,— ось дзьве першапрычыны зьнішчаньня беларускіх кніг і беларускіх рукапісаў... Па многу разоў спаляліся наўшчэнт беларускія гарады, мястэчкі і вёскі, а багацьце народнае, якое знаходзілі заваёўнікі, якое было ацалеўшым ад агня, разнасілася па вялікіх абшарах Маскоўшчыны, або ў польскія замкі аматараў старасьветчыны, ці па далёкай халоднай Швэцыі.

Акром войнаў і ўнутраных забурэньняў, чароднай найважнейшай прычынаю вынішчаньня крыўскіх помнікаў пісьменнасьці было адступленьне вышэйшых станаў нашай нацыі ад свайго народу. Пагалоўнае рэнегацтва духавенства, мяшчанства і шляхты ў часе заняпаду свае дзяржаўнасьці і зліцьцё іх з пануючымі нацыянальнасьцямі, заваёўнікамі, радзіла ў іх асярод-

[2]) Русско-Ливонскіе акты, собранные К. Е. Напьерскимъ, 1868, б. IV.

[3]) М. Аксеновъ, Очерки изъ исторіи народнаго просвѣщенія въ Смоленскомъ краѣ съ древнѣйшихъ временъ до начала XIX ст. („Памят. кн. Смоленской губ. на 1907 г.") б. 7.

ках зьняважлівае адношаньне да роднай старасьветчыны. Усё больш цэннае з пісаных помнікаў вывозілася імі ў Масковію або Польшчу ці, ўрэшце, нішчылася на мейсцы, бо сваё роднае было ім ужо чужым і ненавідным.

Шмат што ўтрачана і па віне самога беларускага народу, калі кніжныя скарбы нішчыліся ў многіх пажарах і ў дзьве апошнія рэвалюцыйныя хвалі (1906, 1917—1922 г.) ад няўважлівых да іх адносін народных гушчаў.

Шмат утраціла Беларусь (Крывія ) кніг і рукапісаў, дзякуючы абмаскаліваньню Беларусі, калі беларускімі кніжкамі папаўняліся лепшыя бібліатэкі, архівы і музэі Маскоўшчыны, а такжа Варшаўскія, Кракаўскія і Львоўскія, куды вывозілі кнігі польскія вучоныя і памешчыкі. Ось аснаўныя моманты гісторыі нішчаньня на Беларусі (Крывіі) кніг і рукапісаў.

Беларусь (Крывія) да XVII стагодзьдзя сваімі рукапіснымі скарбамі стаяла вышэй Маскоўшчыны, як па ліку так і па ахове дакумантаў; напрыклад, Віленшчына, Горадзеншчына, Меншчына і Ковеншчына ў часе Вялікага князьства Літоўска-Рускага (Крыўскага) мелі 203 суды і кожды суд меў свой архіў[4]). З боку аховы дакумантаў літоўска-руская (крыўская) ўлада выяўляла большую руплівасьць, чым суседняя Маскоўшчына: ахова архіваў была дасканала і сурова загадана тагочасовым правам, Літоўскім Статутам, а пазьней—рожнымі Сэймавымі пастановамі [5]).

Рабіліся і іншага характару захады для захову кніг ад зьнішчаньня; нашы старадаўныя продкі праклёнствамі і страшнымі пагрозамі будучага суда думалі захаваць кнігі ад іх зьнішчыцеляў, а дзеля таго, што гэта мала памагала, то ў некатарых мяйсцох найбольш патрэбныя і найбольш цэнныя кнігі прыкоўваліся ланцугамі да сталоў (А. Миловидовъ, Рукописное отдѣленіе Виленской пуб. биб., б. 8, увага 2).

**1180** год. § 2. Каля 1180 году ў Смаленску была школа з выкладам па-грэцку і па-лацінску; школа гэта мела бібліатэку, якая складалася больш чым з 1000 рукапісных кніг. [6])

Доля гэтай выдатнай старадаўнай бібліатэкі няведама. Але яна бязумоўна зьнішчана ці вывезена заваёўнікамі, як можна судзіць паводле долі другіх старадаўных смаленскіх бібліатэк, у несканечныя войны з Маскоўшчынай, Польшчай, Швэціяй і ў часе татарскай навалы. [7])

---

[4]) В. А. Лялинъ, Виленскій Центральный Архивъ (Сборн. Археологическаго Института: Спб., 1878, кн. I, отд. I) б. 25.

[5]) Статутъ Великаго Княжества Литовскаго, ч. I. Спб, 1811; раздѣлъ IV, артыкул XIII; на б. 265 „Сводъ другихъ законовъ".

[6]) Аксеновъ, М., Очерки изъ исторіи народнаго просвѣщенія въ Смоленскомъ краѣ съ древнѣйшихъ временъ до начала XIX ст. („Памятн. кн. Смоленской губ. на 1909 г.") б. 7.

Шлецеръ, Göttingische Anzeigen von gelehrten Seshen. 1901; бб. 344—350.

[7]) У тым, што Крывія у XII ст. мела такую вялікую бібліатэку, ня прыходзіцца ніколькі сумлявацца, калі ўспомнім, што Украінцы мелі бібліатэку ў Кіяве яшчэ раней—у 1041 годзе. (Первая русская библіотека, „Библіографъ", Спб. 1891, №11). Існаваньню такой бібліатэкі саўсім не пярэчыць культурны стан тагочаснай Смаленскай Беларусі. У XII ст. вечавы Смаленск быў значным асяродкам тагочаснай Крывіі; здабыўшы палітычную магутнасьць (быў час, калі Смаленск меў да 17 удзельных князёў), робячы вялізарныя, як на тыя часы, гандлёвыя авароты,—да XIII стагодзьдзя Смаленск зьмяшчаў 40-тысячны лік жыхароў, спрыяў разьвіцьцю штукарства і будаўніцтва. Смаленск, які паводле заявы С. Салаўёва, быў ключом-горадам ў стасунку да Крывіі, Маскоўшчыны і Украіны, дзякуючы сваім стасункам з Нямеччынай, Візантыяй і Ўсходнай Эўропай, высока, як на тыя часы, разьвіў адукацыю (Н. Никольскій, О литературныхъ трудахъ м. Климента Смолятича, писателя XII в., Спб. 1892; Лавровскій, О древне-

**1540** год. § 3. Пры разграбленьні палякамі аднаго прыватнага двара ў Горадзеншчыне ў ліку забранай рухомасьці значацца і кнігі. [8])

**XVI** ст. § 4. Польскі гісторык Стрыйкоўскі, які жыў і працаваў у Віцебску ў другой палавіне XVI ст., для напісаньня свае кронікі быў сабраўшы каля тысячы „рускіх“ (крыўскіх) рукапісаў, аб якіх ён сам пісаў так: „latopisce też wszystkie litewskie po rusku pisane, których Litwa z staradawna za kronikę używa“. [9])

Зьбіраў крыўскія летапісы й другі польскі гісторык Бельскі; летапісы, якія былі ў руках Стрыйкоўскага і Бельскага, зьнішт жаны. [10])

**1557** год. § 5. У адным судовым працэсе 1557 г. Горадзенскага Земскага Суда гаворыцца аб прапаўшай маёмасьці, ў тым ліку—і аб кнігах, якія былі аддадзены на перахоў далёкім крэўным. [11])

§ 6. У дакумантах Слонімскага суда захаваліся сьведчаньні аб пакражы скрынак з рэчамі ў аднаго з грамадзян; у ліку рэчаў былі кнігі й дакуманты. [12])

**1579** год. § 7. У 1579 г. пры ўзяцьці Полацка польскім каралём Сьцяпанам Баторым у Сафійскім саборы была знойдзена бібліатэка [13]), якая па сьведчаньню Гендэнштэйна мела ў вачох вучоных такую самую вартасьць, як і іншыя здабыткі; бібліатэка мела крыўскія летапісы і шмат перакладаў на славянскую мову вучоных прац, так званых, „отцевъ греческой церкви“ у тым ліку і Дыанісія Арэапагіта: [14]) „erant in ea praeter annalium libras, plerigue doctores ecclesiastici Graeci... libri slavonica omnis lingua... societatis Jezu cacerdotes in eo collocat (Баторы): guorum et pietatem, et in reducendis ab errore hominibus diligentiam probabat.“ [15])

---

русскихъ училищахъ, Харьковъ, 1854; бб. 49—50 і інш.; Голубовскій, Исторія Смоленской земли до конца XV столѣтія, бб. 242—254 і інш.) і доўгі час быў для Масквы крыніцай кніжнага багацьця.

Аб разьвіцці адукацыі сьведчуць ось якія прыклады: Смаленскі князь Расьціслаў Мсьціславіч (1125—1159) адусюль зьбіраў лацінскія і грэцкія рукапісы, меў каля сябе перакладчыкаў, якія перакладалі і перапісывалі скарбы страдаўнай мудрасьці (В. Вороновскій, Отечественная война 1812 г. въ предѣлахъ Смоленской губ. Спб. 1912, б. 40), а сын яго Раман Расьціславіч (1160—1180) страціў усю сваю „казну“ на утрыманьне і будаўніцтва школ (Татищевъ, Ист. Росс., кн. III, б. 238). У цэлым радзе манастыроў: Чэстнага Крыжа, Багарадзіцкім, Сяліщчанскім гісторыкі знаходзяць сьляды істнаваньня вялікіх бібліатэк (Н. Рѣдковъ, Преподобный Авраамій Смоленскій и его житіе... Смоленск, 1909; бб. 40—41), а ў XVI ст. пры двара смаленскіх біскупаў была разьвіта летапісная дзейнасьць (В. Арнаутовъ, „Кіевская“ лѣтопись Супрасльскаго сборника, „Извѣстія отд. русск. яз. и словесности Академіи Наукъ“ Спб. 1910, кн. 3, б. 33).

8) Акты, изд. Виленской Археографич. Ком., XVII, № 426.

9) Kronika, I; б. 354.

10) Е. Карскі, Беларускія летапісы („Беларусь“, 1920, № 65).

11) Акты, издав. Виленск. Арх. Ком., XXI, б. 259.

12) Ibidem; XXII; б. 73.

13) А. Павлиновъ, Древніе храмы Витебска и Полоцка („Труды IX археологическаго съѣзда въ Вильнѣ“, Москва, 1895 т. 1), б. 8.

К. Шероцкій, Софійскій соборъ въ Полоцкѣ („Записки русскаго археологич. О-ва“, Петроградъ, 1915), б. 86.

14) Рейнгольда Генденштейна записки о Московской войнѣ; Спб. 1889, б. 71.

15) А. Сапуновъ, Витебская Старина, Витебскъ, I; 1883 г., увага 180.

Доля гэтай бібліатэкі не вядома: гісторыя не захавала аб гэтым ніякіх вестак. [16])

Ня гледзячы на гэта, адны лічаць што яна згарэла пры аблозе Баторым Полацка, другія—зьнішчанай рэлігійным фанатызмам езуітаў, а трэцьцця —проста зьнішчанай (няведама з прычыны якіх выпадкаў), але Салаўёў, [17]) Ілавайскі [18]), Іконьнікаў [19]), Сапуноў [20]), Зорын [21]) і іншыя сходзяцца ў тым, што бібліатэка згінула. [22])

**1581** год. § 8. У 1581 годзе адбылося першае публічнае паленьне беларускіх кніг у Вільні. [23])

---

[16]) Гэтае маўчаньне гісторыі выклікала такую легенду:

...„размова перайшла на знамянітую Полацкую бібліатэку, якой, здабываючы Полацак у 1572 годзе, шукаў Іван Грозны і не знайшоў і якую даручаў папа Грыгоры XII Поссэвіну знайсьці і пераслаць у Рым. Усе аднагалосна утрымлівалі, што бібліатэка гэта была тады добра схавана і сягоньня ёсьць недзе ў падземных полацкіх лёхах. Іван Іванавіч расказаў, што ўласнымі вачыма чытаў у старых мэтрычных кнігах у архіве вітабскай лютаранскай кірхі, запіс на белягу аб тым, што ігумен Бельчыцкага манастыра перад аблогай гораду Масковіяй, зляжыўшы ўсе манастырскія скарбы і кнігі, паплыў уніз Дзьвіны, каб захаваць усё гэта ў падзямельлях Верхняга Замку. Стары чыноўнік вылічаў, якія кнігі маюцца ў захаванай бібліатэцы. —„А найперш ёсьць там,—казаў ён,—летапіс полацкага князьства, пісаны рукой св. Ефрасініі, праўдзівы экзэмпляр „Повесьці временных лет", бо захаваныя да нашых дзён копіі пераблутаны і далёкі ад арыгіналу, далей — ўласнаручныя пісаньні братоў Кірыла і Міфодзія, Візантыйскія хронографы і г. п." — Памешчык сказаў: „Васільяне ведалі, дзе захавана бібліатэка, але баючыся, каб яе не забралі езуіты і ня зьнішчылі, хавалі мейсца яе знаходжаньня ў сэкрэце". Власт. Лабірынты, „Крывіч", № 2, 1923, Коўна, бб. 12—13.

[17]) Соловьевъ С., Исторія Россіи, VI, б. 367.

[18]) Д. Иловайскій, Исторія Россіи, Москва, 1890, III, б. 299.

[19]) В. Иконниковъ, Опытъ русской исторіографіи, Кіевъ; I, 1; б. 109.

[20]) А. Сапуновъ, Витебская Старина, IV; б. 44.

[21]) Н. Зоринъ, Минувшее и настоящее г. Полоцка. Полоцк, 1910; б. 27.

[22]) „Россія", Спб. 1905; IX, б. 501.

[23]) В-т (Ластоўскі), Паленьне кніг на Беларусі. („Крывіч", Коўна, 1924, № 1; бб. 59—61).

Тры віленскія каталіцкія біскупы Валер'ян Протасэвіч, Юры Радзівіл і Акакі Грахоўскі захавалі аб сабе сумную памяць сваім ніштожаньнем і паленьнем беларускіх кніг і рукапісаў. Юры Радзівіл страціў шмат грошы на куплю і спаліваньне беларускіх пісьменных помнікаў, а Акакі Грахоўскі ўсё сваё жыцьцё зьбіраў, скупляў беларускія рукапісы і паліў іх („Акты, издаваемые Виленской археографич. Ком.", X, № 16). У справе нішчаньня друкарань праславіўся Мацееўскі (Jaroszewicz, Obraz Litwy, t. III, разд. 107). Паводле слоў польскага гісторыка Ярашэвіча езуіты даканалі такое зьнішчэньне бібліатэк, якога не зрабілі „pożogi kozackie i dwukrotne Szwedów grabieże" (ibidem, б. 107—108). Гісторыкі кажуць, што мала дайшло да нас вестак аб „часе рэлігійных прасьледаваньняў праваслаўя, калі масса царкоўных рускіх (?) летапісаў аддадзена было безпашчаднаму вынішчаньню" (М. Аксёновъ, Очерки... б. 87), „Множства старaславянскіх помнікаў было вынішчана езуітамі, а пасьля Берасьцейскага сабору 1596 г. — іх пасьледаўнікамі у грэка-уніятаў, васільянамі" (П. Бобровскій, Судьба Супрасльской рукописи. „Журналъ Министерства Нар. Просв", 1887, X; б. 277). Самы вялікі процант наўмысьля зьніштожаных рэлігійнымі фанатыкамі беларускіх кніг прыпадае на XVI і XVII ст. ст. (Ю. Яворскій, Пропавшая западно-русская книга „Діалогъ о смерти" 1629 г.—(„Извѣстія отд. русск. яз. и слов. Акад. Наукъ", Спб. 1911, IV, б. 216); гэта быў час зьяўленьня на беларусі езуітаў, якія зьніштажалі ўсё друкаванае і рукапіснае, што нязгодна было з іх думкамі ці мела самаістую думку хоць-бы зусім і не „гэрэтыцкую". Езуіты нішчылі рукапісы, якія апавядалі аб народнай творчасьці і самаістасьці, а ўсе друкаваныя выданьні, што выходзілі з інаверных друкарняў, перараб-ляліся да непазнаньня ці спаляліся на пляцох Вільні і Варшавы (Jaroszewicz, Obraz Litwy,

§ 9. У гэтым самым годзе разграблена ў Вільні друкарня Данілы з Лучыц (Łęczусу) і спаляюцца дысыдэнцкія кнігі. [24])

III; б. 107). Маскоўскія гісторыкі кажуць, што ў гэтыя стагодзьдзі зьніштожана часьць старадаўны беларускіх актаў, якія мелі вялікую гістарычную вартасьць, бо сьведчылі аб большай блізасьці беларускага народу да ўсходу, чым да захаду (В. Лялинъ, Витебскій Центральный Архивъ, „Сборникъ Археологическаго Института", Спб. 1880, III; ад. I, б. 56); знаўмысна зьнішчаны актовыя кнігі Горадзенскага і Берасьцейскага судоў, блізкія да 1596 г. — пачатку уніі і Берасьцейскага сабору (В. Лялинъ, Виленскій Центральный Архивъ, „Сборн. Арх. Института", 1878, I, б. 28, увага I).

Безумоўна, што пры гэткай фанатычнай маніі нішчаньня былі загублены кнігі і рукапісы 13 полацкіх праваслаўных манастыроў і цэркваў, якія ў 1580 годзе Сьцяпанам Баторым былі аддадзены езуітам (А. Сапуновъ, Витебская Старина, V, б. I, Витебскъ, 1888, № 49 і увага 29); няма ніякага сумневу, што былі кнігі і бібліатэкі ў перададзеных езуітам царквох, бо, як сказана намі раней, цэркві ў старадаўнасьці былі асяродкам умысловага жыцьця і мейсцам, дзе захоўваліся кнігі.—„Кождая эпархія, — кажа М. Пагодзін, — выяўляла сабой бытцам навуковы округ, кожды манастыр — гімназію, а ўсякая царква — народную школу" (М. Погодинъ Древняя русская исторія, II; б. 661). Шмат захавалася вестак аб істнаваньні бібліатэк пры манастырох і царквох у старадаўныя часы: у 1494 г. складаецца інвэнтар бібліатэкі Слуцкага Троіцкага манастыра (Акты Западной Россіи, I, № 115); у 1557 г. складаецца сьпіс аднэй з найвялікшых і каштоўнейшых старадаўных беларускіх бібліатэк — Супрасльскага манастыра (Археографическій сборникъ, IX, 1870, Вильна; № 20); у 1571 г. царква ў дварэ Росскім мела кнігі (ibidem, I, б. 146); у дакумантах, якія адносяцца да 1644—1645 гг., гаворыцца аб „капітульных" кнігах Віленскага сабору (Акты, изд. Виленск. Археогр. Ком., XX; №№ 262—264); у інвэнтары 1636 г. пералічаюцца кнігі якія належалі да Бельскай царквы (ibidem, XXXIII; б. 291); у 1624 г. Берасьцейскі грамадзянін пры сваёй сьмерці належаўшыя яму кнігі ахвяруе розным царквам (ibidem, VI; б. 243); у дакуманце 1713 г. упамінаюцца бібліатэкі: Віленская, Жыровіцкая (на Горадзеншчыне) і Бытэнская (Археографич. сборн., XII, б. 4).

Апрыч толькі што пералічаных прыкладаў маюцца і паказаньні на бібліатэкі прыватных асоб: у 1522 г. спамінаецца бібліатэка ў Віленскага сьвятара Мацея (ibidem, VI, № 5), захаваўся сьпіс бібліатэкі віленскага бургомістра Сьцяпана Лябедзіча, якая складалася з кніг „русскихъ" (выданьні Скарынаўскія, Астрожскія і Мамонічаўскія), лацінскіх і польскіх (Акты издав. Виленск. Арxолог. Ком., IX, б. 481—483), у 1598 г. значацца „великія и малыя" кнігі двара Віршут (ibidem, XX, б. 136), у 1582 г. у уліку маемасьці, пакінутай пасьля сьмерці менскага грамадзяніна Марціна Вольскага, упамінаюцца, кнігі (ibidem, XXXVI, б. 58), у старадаўных дакумантах нямала асоб з іншых мейсц, якія мелі свае ўласныя кнігі (ibidem, XVIII, б. 243).

Бязумоўна, што доля гэтых прыватных бібліатэк, якія знаходзіліся сярод бушуючых бур рэлігійнага змаганьня, была такая самая, як і доля бібліатэк царкоўных і манастырскіх: яны былі зьнішчаны без астатку.

Прыхільнікі каталіцкага абраду ўсякімі спосабамі стараліся нішчыць кнігі не-каталіцкага зьместу. На гэта самае і паказуе аўтар „Апокризиса", як на прычыну, чаму ён ахвяруе сваю кнігу Яну Замойскаму: імя магутнага магната павінна было захаваць кніжку ад знішчаньня (А. Архангельскій, Очерки исторіи западно-русской литературы XVI—XVII в. — „Чтенія общ. ист. и древ. россійских", 1888, I; б. 28). Аб тым самым кажа і аўтор „Перестроги": „Въ самомъ Краковѣ корунномъ и въ костелахъ римскихъ книгъ словенскихъ великими склепами знайдешь замкненыхъ, которыхъ въ свѣтъ не выпустятъ, также есть и во Львовѣ у мниховъ доминиковъ склепъ великій книгъ нашихъ словенскихъ учительныхъ до купы възнесенныхъ"... (ibidem, Акты Западной Россіи, IV; б. 204).

Да нішчыцеляў беларускіх друкарняў трэба дадаць імёны: Шымкоўскага і Касьцялецкага (И. Козловскій, Судьба русскаго языка въ Литвѣ и на Жмуди, „Вѣстникъ Западной Россіи" Вильна, 1869; т. IV, книга XII; аддз. II, бб. 90—91).

[24]) Іезуиты въ Литвѣ („Памят. кн. Гродненской губ. на 1866 г." б. б. 50 і 54).

**1590** год. § 9-а. Староннікі аб'яднаньня цэркваў на Берасьцейскім саборы 1590 году, між іншым, вынесьлі абавязковую пастанову для ўсіх праваслаўных біскупаў Вял. Кн. Літоўска-Рускага (Крыўскага), каб прывязьці на чародны сабор, які назначаны быў на 1591 год, „всѣ привилеи и фундуши и листы на всякія наданья и томъ обмыслити и постановити, гдѣ то ховано быти маетъ." [25]) Ясна, што тут ішло аб тое, каб перахапіць у рукі уніятоў ўсе старыя дакуманты. Куды падзеліся сабраныя такім парадкам найдаўнейшыя фундушы і прывілеі царкоўныя,—няма ведама.

**XVII** стагодзьдзе. § 10. З XVII ст. пачаўся сыстэматычны вываз з Беларусі ў Маскоўшчыну кніжнага і рукапіснага багацьця (зразумела, я не бяру пад увагу здабычу чыста вайсковага характару).

Так, ваявода г. Рослаўля, Маслаў, уцякаючы ў Маскоўшчыну, [вывез з сабой у Арлоўшчыну, ў Карачаўскі маёнтак Селішча, архіў г. Рослаўля; лік дакумантаў XVI і XVII стагодзьдзяў у 1907 г. даходзіў да 2000 экз., надта цэнных для юрыдычнага ладу Смаленскай Беларусі. [26]) Гл. 1669 г., 1672 г. §§ 21, 22).

§ 11. У сьпісе кніг Супрасльскага манастыра XVII ст. супроць некатарых рукапісаў зроблена увага: „Moskwa wzieła". [27])

**1608** год. § 12. У 1608 г. езуіты, прыбыўшы ў Оршу, замацовуючы каталіцтва, забралі ў жыхароў гораду кнігі, якія мелі процікаталіцкі зьмест. [28])

**1610** год. § 13. У 1610 годзе Жыгімон III, па-першае, забараняе грамадзянам Вялікага князьства Літоўскага купляць і прадаваць кнігі, якія надрукаваны „po rusku" у Віленскіх друкарнях пад пагрозай штрафу 5000 чырвоных залатых [29]),па-другое, загадвае паліць кніжкі, надрукаваныя ў Віленскіх друкарнях і ў якіх бытцам былі зьмешчаны пашквілі на духоўную і грамадзянскую ўладу. [30])

§ 14. У 1610 г. ў страшэнным пажары, які ў працягу 8 гадзін спаліў ўсю Вільню, згарэлі кнігі і рукапісы, ўся ранейшая мэтрыка архіерэйскіх палацаў [31]) і выдатная бібліатэка Віленскай езуіцкай акадэміі [32]).

**1611** год. § 15. З чэрвеня 1611 г. пры ўзяцьці Смаленска Жыгімонтам III ўзарваны смаленскі катэдральны сабор, будаваны ў 1101 годзе, ў якім было захаваўшыся ад палякоў каля 3000 смальнянаў; разам з саборам загінула вельмі цэнная бібліатэка, якая складалася з летапісаў крыўскіх, цьвярскіх, ноўгародзкіх у розных рэдакцыях, кронік, твораў Мікіты Акаміната, лепшага візантыйскага пісьменніка XII—XIII стагодзьдзяў, твораў, так званых, отцевъ церкви, талковыхъ палей, і іншых кніжных скарбаў. [33])

---

[25]) Акты Зап. Россіи, IV, № 25. Вит. Старина, т. IV, ч. I, бал. 91.

[26]) В. Арсеньевъ, Родословіе Орловскихъ дворянъ Масловыхъ („Записки Историко-Родословнаго Общества", 1907).

[27]) Ф. Добрянскій, Описаніе рукописей Виленской Публичной библіотеки, б. XXXVIII.

[28]) И. Митрошенко, Іезуиты въ восточной ч. Бѣлоруссіи, б. 56.

[29]) Акты издав. Виленской Археограф. Ком., VIII, № 44.

[30]) ibidem, № 45.

[31]) Описаніе рукописнаго отдѣленія Виленской публичной библіотеки. Вильна, выпускъ I 1895, б. XIII.

[32]) К. Харламповичъ, Западно-русскія православныя школы XVI и начала XVII в. Казань, 1898; б. 60.

[33]) М. Аксеновъ, Очерки... бб. 76—77, 104.

Гісторыя мае некалькі думак або прычыне загібелі сабору: паводле вестак, якія падаюць адны, ён ўзарваны палякамі; [34]) паводле дагадак другіх, сабор ўзарваны тымі смаленцамі, якія ў ім былі схаваўшыся, ня мелі надзеі на ратунак і не хацелі здавацца ў лютыя рукі палякаў [35]); паводле трэцьціх, - прычыны гібелі сабору ўстанавіць нельга [36]). Вядома толькі, што пад саборам ў вялікім ліку захоўваўся порах. [37])

**1620** год. § 15-а. Біскуп Іозафат Кунцэвіч, атрымаўшы Полацкую архібіскопію, піша Вітабскаму вояводзе, што ні ў сьв. Сафіі ў Полацку, ні ў Мсціслаўлі, ні ў Оршы, ні ў Вітабску дакумантаў... „отъ их милостей княжат Рускихъ здавныхъ часовъ на тые вси церкви наданых и уфундованых не знашолъ.“ Распытаўшыся у мясцовых людзей аб тым, куды маглі загінуць старыя дакуманты, атрымаў такую спраўку: „ижъ дей за продковъ, ихъ велебной мости славное памети архіепископовъ Полоцкихъ, одны фундушы з церкви мурованое светое Пречистое, которая дей была на местѣ господарском Витебскомъ, еще за щасливого панованья его королевское милости короля Александра... отъ злодѣевъ, которые з Новгорода Московского великого тую церковъ крали, покрадены суть; другіе дей фундушы головнѣйшые и прывилеи е. кор. млсти наданые на церкви розные, отъ непріятеля е. к. м. князя великого Московского, которій былъ въ Полоцку, съ церкви светое Софеи забраны и до Москвы дей завезены суть.“ (Сапуновъ, „Витебская старина“. T. V., ч. I-я, бал. 112—114).

**1633** год. § 16. У ноч з 12 на 13 чэрвеня пажар зьніштожыў кнігі ў Полацку. [38])

**1654** год. § 17. Да 1654 г.,—часу паходу маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча на Беларусь, адносяцца сьведчаньні аб зруйнаваньні і зьніштажэньні ім у Полацку, Вітабску, Оршы, Магілеве езуіцкіх калегіумаў і касьцёлаў; ў Вітабшчыне было зьнішчана 11 касьцёлаў і кляштараў, а ў Магілеўшчыне—25. [39])

Што ў зьніштожаных і разрабаваных маскоўцамі езуіцкіх асяродках былі бібліатэкі,—няма ніякага сумневу, бо да 1607 г. адносіцца, напрыклад, дазваленьне полацкаму ваяводзе аднавіць руіны Полацкай Сафійскай царквы для захаваньня ў ёй „земскіх і гродзкіх кніг“ полацкага ваяводзтва [40]); да памянёных часаў адносіцца вялікі лік сьведчаньняў у розных інвэнтарох і іншых дакумантах аб тым, што ў царквох і касьцёлах былі кнігі і бібліатэкі. У заданьні стараветных беларускіх брацтваў, якія групаваліся каля рэлігійных асяродкаў, уходзіла і зьбіраньне бібліатэк, [41]) дый адукацыя тых часаў, незалежна ад кірунку—праваслаўнага, каталіцкага, ці якога іншага (усё роўна)—разьвівалася толькі каля гэтых рэлігійных асяродкаў. Ёсьць, праў-

[34]) Хроника Павла Пясецкаго („Памятники древной письменности и искусства“, Спб. 1866), бб. 40—41.

[35]) Карамзинъ, Исторія Государства Россійскаго, XII.

[36]) С. Писаревъ, Княжеская мѣстность и храмъ князей въ Смоленскѣ. Смоленскъ, 1894; б. 155.

[37]) ibidem.

[38]) Историко-юридическіе матеріалы, извлеченные изъ актовыхъ книгъ губерніи Витебской и Могилевской; в. I, 1871, Витебскъ; б. LIII—LIV.

[39]) И. Митрошенко, Іезуиты въ восточной части Бѣлоруссіи съ 1579 по 1772 г. („Полоцко-Витебская старина“, Витебскъ, 1912, II), б. 56.

[40]) Volumina legum, Спб. 1860; б. 450.

[41]) С. Кедровъ, Древне-русскія братства („Русскій Архивъ“ Спб. 1901, кн. 2); б. 331. Як ведама праваслаўныя брацтвы утрымлівалі свае ўласныя акадэміі, якія ў адрожненьне ад каталіцкіх называлі грэка-лаціна-русскімі школамі.

да, сьведчаньне аб вывазе бібліатэк з мейсц, якім пагражала маскоўскае войска. [42])

У часе гэтага паходу згарэлі старадаўныя дакуманты г. Мсціслаўля. [43])

§ 18. Надта цікавы лёс Віленскага капітульнага архіву, які меў шмат цэнных актаў і дакумантаў да гісторыі Беларусі; частка гэтага архіву была ўкрадзена езуітамі, а частка страчана пры многаразовых перавозках з Вільні

---

У Пінску грэка-лаціна-русская школа адкрыта у канцы XVI ст. (Пыпін і Спасовіч. Истор. славянск.литератур. Спб. 1874, б. 331). Закрыта гэта школа стараньнем езуітаў каля 1633 году ў часе будаваньня тут езуіцкай калегіі (Jaroszewicz, Obraz Litwy, б. 99). Аб гэтай Пінскай школе упамінаецца ў „Собр. минск. грамотъ“ № 123, 127, 112, 139, 164; Чтеніе Московск. Общ. Истор. 1848, № 6.

У Бельску (Горадзеншчына) грэка-лаціна-руская школа адкрыта ў 1594 г. (Пыпін і Спасовіч. Ист. Сл. Лит., б. 331).

У Могілеве грэка-лаціна-руская брацкая школа, адкрытая ў 1597 годзе датрывала да маскоўскай навалы цара Аляксея Міхайлавіча, калі была зруйнавана і спалена. У 1602 годзе другое брацтва адкрыла там-жа яшчэ адну школу (Архіеп. Филаретъ. Истор. Русской Церкви IV, б. 87).

У Оршы у другой палавіне 1590-х гадоў была адкрыта грэка-лаціна-руская школа, а ў пачатках XVII ст. дэкрэтам караля Жыгімонта III забаронена. У дэкрэце сказана, каб праваслаўныя „у Оршы і акалічных гарадох школ утрымліваць ня сьмелі“ (Jaroszewicz, Obraz Litwy; бал. 99).

У Менску ў 1592 годзе была зацьверджана і адкрыта вышэйшая брацкая школа для праваслаўных, ў якой вучылі грэцкай, лацінскай і рускай граматы і чатырох вызваленых навук (Jaroszewicz).

У Вільні заснаваная пры Св. Троіцкім манастыры ў 1526 годзе вышэйшая школа была ў 1588 годзе зацьверджана патрыархам Іеремієм і перамянавана ў грэка-лаціна-рускую. („Крывіч“, № 2 (8), 1924).

У Берасьці была зацьверджана каралём і адкрыта ў 1592 г. пры цэркві св. Мікалая грэка-лаціна-руская школа, ў якой вучылі і чатырох вызваленых навук. (Jaroszewicz).

У Полацку ў другой палавіне XVI ст. істнавалі вышэйшія „рускія“ школы, што відаць з полацкіх мэтрычных кніг, якія пераховуюцца ў лютэранскай кірсе ў Вітабску. З гэтых кніг відаць, што ў Полацку істнавалі „нямецкія“ і „рускія“ школы. Нарбут (Т. IX, бал. 480) падае, што ў другой палове XVI ст. былі у Мэрачы і Вітабску сярэднія нямецкія школы.

У Слуцку была вышэйшая школа ў другой палавіне XVI ст. Гэта відаць з ліста Посэвіна да папежа, пісанага ў 1581 годзе: „некатарыя князі, як князь Астрожскі, Слуцкі маюць свае школы, ў якіх сыціцца іх гэрэзія“ (Архіеп. Филаретъ, Истор. Русск. церкви III, бал. 51). Акром гэтага, як падае Ярошэвіч (Obraz Litwy) у Слуцку у другой палавіне XVI ст. істнавала вышэйшая дысыдэнцкая школа, і сярэднія: ў Несьвіжы, Навагарадку, Заслаўлі, а ніжэйшыя—пры кождым дысыдэнцкім саборы.

Пры ўсіх гэтых школах істнавалі бібліатэкі і архівы, ад якіх нічога не засталося.

[42]) Археографическій сборникъ документовъ, относящихся къ исторіи Сѣверо-Западной Руси. Вильна, 1900, XII; б. 156.

У пададзеным І. Спрогісам сьведчаньні зроблена вялікая спамылка. У яго „Подробномъ алфавитномъ указателѣ къ I—XIII т. „Археографическаго сборника“ на балоне 317 паказана: „Книги польскія уніатскія, увезенныя Москвою и казаками“, тым часам мейсца, якое паказуе Спрогіс на б. 156-ай дванадцатага тому „Археографич. С—ка, чытаецца гэтак: „Księgi Połockie ad revisionem xiąg, prae timore Moskwy у Kazaków wywiezione, restituentur a venerabili secretario konwentowi Połockiemu“, літаральны пераклад якога будзе такі: Полацкія кнігі на рэвізіі кніг, якія былі вывезены з прычыны небаспекі з боку Масквы і Казакаў зварочуюцца вельмі паважаным сэкрэтаром конвэнту полацкаму“.

[43]) В. Краснянскій, Городъ Мстиславль, Вильна, 1912; бб. 40, 80.

ў Прусію (1654 г.), адтуль—у Аўстрыю ў замак Любамірскіх (1656 г.), затым-у Львоў, пасьля—ў Барашэвічы, што ў Горадзеншчыне (1659 г.), у Слонім і Чанстахоў (1660 г.) і ўрэшце—ў Вільню (1663 г.). [44])

**1661** год. § 19. У 1661 г. маскоўскае войска аграбіла маетнасці магілеўскага магната Тамаша Трызніча; ў ліку забранага значацца і кнігі. [45])

**1665** год. § 20. Шмат беларускіх дакумантаў трапіла ў Швэцію пасьля адбытага ў 1665 г. [46]) паходу Караля-Густава, з спаміж вывезенага цяжкой стратай зьяўляецца частка Літоўскае Мэтрыкі. [47])

**1669** год. § 21. Чысьленныя кніжныя крыўскія цэннасьці пачалі вывозіць ў лістападзе 1669 г. ў Маскоўскі Пасольскі Прыказ, калі ў Смаленшчыне жыў, пры заключаньні Андрусаўскага перамірэньня, Ордын-Нашчокін, які кіраваў памянёным прыказам (1667—1671 г.). У 1669 г. па загаду Ордына-Нашчокіна Смаленскія ваяводы паслалі яму: „82 книги латынскихъ, костельныхъ, которые бывали у ксендзовъ и у езовитовъ; а сысканы были тѣ книги въ Смоленску въ приказной избѣ“; праз месяц па паўторнаму загаду Ордына-Нашчокина было выслана „польскихъ и латынскихъ 128 книгъ, а взяты тѣ книги въ Смоленску у шляхтянки у вдовы Рачинскіе.“ [48])

**1672** год. § 22. У 1672 годзе цар Маскоўшчыны Аляксей Міхайлавіч выдаў загад Перамышльскаму ваяводзе, каб ён ва ўсіх жыхароў свайго ваяводзтва адбіраў „польскіе и латинскіе печати книгъ и всякихъ писемъ, которые взяты въ польскихъ городѣхъ во время войны“ [49]); памянёныя кнігі былі забраны ня ў польскіх гарадох, да якіх не даходзілі маскоўскія войскі,—а ў гарадох беларускіх.

Крыху раней пры патрыарху Філарэце царом быў выданы загад ваяводам, каб кнігі „литовской печати“ (значыцца,—выдрукаваныя ў друкарнях, якія былі на Беларусі), што трапілі ў Маскоўскую дзяржаву „собирати на пожарѣхъ сжечь, чтобы та ересь и смута въ мірѣ не была.“ [50])

§ 23. У 1672 г. са Смаленска бралі кнігі ў Маскоўскі Стралецкі Прыказ і, ўрэшце, ў тым самым годзе па царскаму загаду трэба было зноў адправіць у Стралецкі Прыказ кнігі, якія знаходзіліся ў смаленскай „прыказной избѣ“; адаслана было 16 назоў. [51])

**1674** год. § 24. Польскі кароль Ян III у 1674 годзе забараняе прывозіць у Вільню кнігі гэрэтыцкія і дысыдэнцкія; у нарушыцеляў-жа гэтага,—

---

[44]) Описаніе рукописнаго отдѣленія Виленской публичной биліотеки, Вильна, 1895; в. I бал. XIII—XIV.

[47]) Акты, издаваемые Виленской Археографической Комисс'ей. Вильна, 1909; т. XXXIV №1 78

[46]) Акты относящіеся къ исторіи Западной Россіи. I, б. II; т. 2, б. I.

Протоколы засѣданій Археографической Комиссіи 1835—1840 г., I; б. 382.

Г. Богуславскій, О Борисоглѣбской церкви г. Смоленска („Смоленская Старина“, в. I, ч. I, 1909), б. 15.

[47]) Н. Янчук, Нарысы па гісторыі Беларускае літаратуры, 1922. Менск б. 61.

[48]) С. Бѣлокуровъ, О библіотекѣ московскихъ государей въ XVI ст. 1899, Москва; 35—36.

[49]) Н. Оглоблинъ, Къ исторіи гоненій на „литовскія книги“ въ XVII вѣкѣ („Библіографъ“, 1899, № V).

[50]) Акты Московскаго государства, Спб. 1890, I, б. 224, № 201.

[51]) С. Бѣлокуровъ, О библіотекѣ московскихъ государей... б. 35—36.

згодна загаду, які быў даны каралём віленскаму біскупу, ваяводзе і магістрату,—кнігі трэба было адбіраць: „zabrane być mają y na chwałę Bożą obrócone.“ [52])

**1685** год. § 25. У 1685 г. гарыць Вітабскі манастыр сьв. Марка: згарае манастырская бібліатэка, фундушы, аўтэнтыкі прывілеяў польскіх каралёў і маскоўскіх цароў і інш. дакуманты; разам згарэлі пакінутыя ў манастыры на перахоў кнігі і дакуманты парахіяльных царквей: Сялют, Салаўёва, Пагосьціч і інш, а такжа—некатарых прыватных асоб гораду Вітабска. [53])

**1700** год. § 26. У 1700 г. у Юхнаўскім манастыры (Смаленшчына) зьнікае нявeдама куды шмат кніг. [54])

**1706** год. § 27. У пажары Вільні загінула шмат старадаўных крыўскіх пісаных помнікаў і рожных архіваў. [55])

**1708** год. § 28. У 1708 годзе па загаду Пятра I увесь горад Магілеў, пасьля разрабаваньня яго калмыкамі, быў спалены; у полымі згінулі старыя дакуманты, ўсе рукапісы і друкаваныя кнігі, якія былі ў горадзе. [56])

Аб тым, якія кніжныя багацьці загінулі ў Магілеве, сьведчыць такі запіс: у XVII ст. ў Магілеўскай друкарні пры „братскомъ“ манастыры друкаваліся кнігі ў мовах грэцкай, лацінскай, польскай, стара-крыўскай і царкоўна-славянскай,—друкаваліся ня толькі для сваіх вучняў, але і для ўсіх школ краю і ўсяго хрысьціянскага народу, ў той час, як у Маскве ледзь друкавалі „часословы, псалтырь“ і, наагул, багаслужэбныя кнігі. [57])

Хаця ёсьць весткі, што ў час пажару „каля ратушу стаяла варта з татараў і калмыкоў, чакаючы пакуль гарадзкія кнігі і важнейшыя архівы не былі вынесены з ратушу ў склеп“ [58]), але, як відаць, архіў гэты не захаваўся, бо гісторыкам ведама, што гістарычныя дакуманты старадаўных часаў Магілеўшчыны не дайшлі да нас, а па-другое,—і сам ратуш, у склеп якога хавалі архіў, быў спалены; а пажар быў такі вялікі, што нават растапляліся званы. [59])

§ 29. У 1708 г. пры спаленьні шведамі „Охорскага“ манастыра (былы Чэрыкаўскі павет ў Магілеўшчыне) спалены архіў, а таксама і манастырская бібліатэка. [60])

**1720** год. § 30. У 1720 годзе быў загад маскоўскай улады: „Въ монастыряхъ смотрѣть и забрать древнія жалованныя грамоты и другія куріоз-

---

[52]) Акты, изд. Виленской Археографф. Ком., X, № 16.

[53]) Дм. Довгялло, Пожаръ въ Марковщинѣ 1685 года („Витебскія губернскія Вѣдомости“, 1896).

[54]) Столбцы Юхновскаго монастыря („Смоленкая Старина“, в. I, ч. II; б. 72).

[55]) Ф. Добрянскій, Старая и Новая Вильна. Вильна, 1904; б. 85.

[56]) Могилевская епархія. Могилевъ-на-Днѣпрѣ, 1906, т. I, в. III; б. 30 і інш.

[57]) Арх. Сергій, Изъ исторіи православія и братской школы въ гор. Могилевѣ („Могилевскія Епархіальныя Вѣдомости“, Могилевъ, 1885, № 4, бб. 73—74).

[58]) И. Петропавловскій, Сильвестръ II, князь Святополкъ Четвертинскій, епископъ Могилевскій, и состояніе при немъ православной церкви въ Могилевской Епархіи („Могилевскія Епархіальныя Вѣдомости“, 1889 г., № 8, б. 47).

[59]) ibidem, б. 48.

[60]) В. Сабининъ, Охорскій Преображенскій монастырь („Могилевскія Епархіальныя Вѣдомости“, 1889, № 21; бб. 310—311).

ныя письма, книги историческія рукописныя и печатныя, потребныя къ извѣстію." [61]).

Згодна гэтаму загаду кнігі і рукапісы вывозілі ў Маскоўшчыну.

**1722** год. § 31. У часе пажару згарэла шмат дакумантаў Смаленскага кансысторскага архіву. [62])

§ 32. У 1722 г. ўлада выдала загад аб прысылцы са ўсіх парохій і манастыроў у Пецярбургскі Сынод „древнихъ историческихъ рукописей, куріозныхъ, тоесть древнихъ лѣтъ рукописныхъ лѣтописцевъ, степенныхъ хронографовъ и проч." [63])

**1748** год. § 33. У пажары Вільні згарэла шмат дакумантаў віленскіх архіваў. [64])

**1751** год. § 34. У 1751 г. уніяты нападаюць на праваслаўны Вітабскі манастыр сьв. Марка, грабяць маетнасьць і зьніштажаюць архіўныя дакуманты. [65])

**1762** год. § 35. У пажары з 6 на 7 чэрвеня 1762 г. згарэлі ў Менску кнігі трыбунальныя „wieczyste" менскай кадэнціі з 1641 па 1759 г., трыбунальныя potoczne тэй самай кадэнціі з 1660 па 1761 г., dekretowe, kapturowe і інш. дакуманты; [66]) усяго—каля 358 рукапісных кніг. [67])

**1764** год. § 36. У гэтым годзе наўшчэнт згарэлі акты Новагорадзкага земскага суда. [68])

**1772** год. § 37. У 1772 г. перавезена ў Пецярбургскую Акадэмію Навук даволі значная бібліатэка Радзівілаў з Несьвяжа, Слуцкага павету. [69]) Да 1842 г. бібліатэка ляжала ў Акадэміі не разабранай і пры гэтым трэба дадаць, што ў рожныя часы з яе былі выдзелены некатарыя часткі ў Пецярбургскую духоўную акадэмію і Маскоўскі універсытэт, [70]) катораму перададзены былі лацінскія і польскія кронікі. [71])

**1778** год. § 38. Дабрынін, апісуючы архіў „бѣлорускаго государева намѣстника" графа Чэрнышова, ў 1778 г. адзначае ў ім шмат цэнных для

---

[61]) И. Даниловъ, Правит. распоряженія относительно отечественныхъ древностей съ имп. Петра I, особенно въ царствованіе Александра II („Вѣстникъ археологіи и исторіи", Спб. 1886; вып. VI).

[62] Иконниковъ, Опытъ русск. исторіографіи, I, I; б. 585

[63]) А. Гавриловъ, Постановленія и распоряженія Св. Синода объ охранѣ памятниковъ древности („Вѣстникъ археологіи и исторіи", Спб., 1886; в. VI).

[64]) Описаніе рукописнаго отдѣленія Виленской публичной библіотеки, I; б. XIII.

[65]) Дм. Довгялло, Марковскіе гайдамаки, Витебскъ, 1896; б. 21.

[66]) Акты, издаваемые Виленской Археогр. Ком., XIII; № 68

[67]) Иконниковъ, Опытъ русской исторіографіи, I, I; б. 498.

[68]) В. Лялинъ, Виленскій Центральный Архивъ, б. 27.

[69]) Радзівілы ўладалі вялікім багацьцем, якое перавышала багацьце многіх пануючых асоб; князь Радзівіл адбудаваў замак у Несьвяжы, які быў разбураны шведамі; у гэтым замку Радзівіл паміж іншым, сабраў вялікую бібліатэку, каля 20,000 тамоў („Россія", IX; б. 432—433), а паводле другіх вестак—больш чым 50,000 тамоў (А. Киркоръ, Поселенія въ Бѣлорусскомъ полѣсьѣ, „Живописн. Рос." III, Спб. 1882; б. 370); бібліатэка складалася з кніг на рожных мовах ў тым ліку і на стара-беларускай; частка кніг належала да пачатку XVII ст.; было ў бібліатэцы і шмат рукапісаў, у тым ліку Acta Tomiciana ў 17 тамох in folio.

[70]) Иконниковъ, Опытъ русской исторіографіи, I, II; бб. 1240—1241. Подробный каталогъ изданій Археографической Комиссіи. Спб. 1896; выд. 3; б. 1.

[71]) Библіотека, „Энциклоп. словарь", ред. Андреевымъ Спб. 1892, т. III-а; б. 790.

гісторыі Беларусі дакумантаў; пры чым аўтор дадае, што „сей полезный архивъ“ ма-быць „пожертвуетъ собою, по общему порядку вещей, огню или моли“ [72]), тым больш, што аўтор тут жа адзначае зьнікненьне („куда дѣвались, неизвѣсно“) з гэтага архіву „книги имянныхъ, въ копіи повелѣній Императрицы Екатерины Великія къ бѣлорусскому Государеву Намѣстнику графу З. Г. Чернышеву, насыланныхъ съ самаго возвращенія Бѣлоруссіи до окончанія бытности его бѣлорусскимъ Государевымъ Намѣстникомъ.“ [73])

Архіў гэты зьнішчылі французы ў 1812 г. (гл. § 62.)

**1791** год. § 39. У 1791 г. Кацярынай Другой даручага было Мусіну-Пушкіну патрэбаваць са ўсіх бібліатэк тагочаснай „Россійской Имперіи“ старадаўныя кнігі, дакуманты і рукапісы, [74]) часць якіх да самага апошняга часу знаходзілася ў Архіве Пецярбургскага Сыноду.

**1793** год. § 40. У 1793 г. зьбіраліся беларускія летапісы, якія знаходзіліся ў манастырскіх бібліатэках, для гістарычных прац Кацярыны II, і, як вынік гэтага, ў 1794 г. ў Пецярбург былі высланы ўсе рэестры і рукапісныя летапісы Бельскага, Стрыйкоўскага, Гвагніна, Кромэра, Нарушэвіча. [75]).

**1795** год. § 41. У 1795 г., пасьля заняцьця маскоўскімі войскамі Варшавы, з яе была вывезена ў Пецярбург Літоўская Мэтрыка. [76]) Прывезеная ў Пецярбург Мэтрыка была зьмешчана ў Сэнаце, дзе падзялілі яе паміж Міністэрствам Справядлівасьці, Міністэрствам Замежных Спраў, Спб. Публічнай бібліатэкай, Бібліатэкай Маскоўскага Румянцаўскага музэю [77]) і Прусіяй; апошняй было перададзена 1200 кніг і каля $1^1/_2$ тысячы паасобных дакумантаў, зьвязкаў, карт, пры чым было аддадзена шмат дакумантаў (болей 900) той тэрыторыі, якая не належала да Прусіі. [78]) Пасьля тыльзіцкага замірэньня (1807 г.) акты Літоўскай Мэтрыкі з Прусіі былі зьвернуты ў Варшаву і захоўваліся там у Каронным архіве. [79])

Такім чынам гэты вялікай гістарычнай вартасьці дзяржаўны архіў Беларусі і Літвы быў зруйнаваны рукамі маскалёў і раскіданы па розных мясцох. [80])

---

[72]) Изъ записокъ Добринина.., („Виленскій Сборникъ“ изд. В, Кулина, Вильна 1869 г.) б. 25

[73] ibidem, б. 24.

[74]) Описаніе рукописей, хранящихся въ архивѣ Свят. Правит. Синода. Т. I, Спб., 1904, б. VII.

[75]) Розыскъ западно-русскихъ лѣтописей для императрицы Екатерины II („Древняя и Новая Россія“ 1880, № 4).

[76]) Памятная книга Сенатскаго архива. Спб. 1913; б. 23.

[77]) Н. Янчукъ, Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры. Менск, 1922; б. 61—62.

[78]) Памятн. книга Сенат. архива; б. 24.

[79]) Иконниковъ, Опытъ русской исторіи I, I; б. 464—465.

[80]) Літоўская Мэтрыка абыймае вялікі кругабег крыўскае гісторыі з XII па XVII ст. і значэньне гэтых дакумантаў пры дасьледаваньні беларускае гісторыі—бязмерна вялікае; „доля гэтых дакумантаў такая: да XVI ст. яны захоўваліся ў замку літоўскіх князёў у Троках (Віленшчына), адкуль былі перавезены ў Вільню, а ў XVIII ст.—у Варшаву; пры апошняй перавозцы іх у 1795. г. у Пецярбугъ часьць дакумантаў была зьнішчана, а крыху раней—ў 1655 г.—часьць дакумантаў вывезена ў Швэцію (Янчук, Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры; б. 61—62).

У рэвалюцыйныя годы былі зроблены захады з боку Польшы і Літвы, каб перавязьці Літоўскую Мэтрыку да сябе. Вырашаньне пытаньня адносна дамаганьняў Літвы апісана Ў. Ігнатоўскім у нарысе: „Сучаснае Літоўскае гаспадарства і Літоўская мэтрыка“ („Савецкая Беларусь“, 1921, № 135). Нарыс Ігнатоўскага канчаецца так: „Мэтрыка ёсьць прадукт творчасьці беларускай старажытнай культуры, каторая разьвівалася на былушай беларускай тэрыторыі“.

Польшча хацела атрымаць сабе Літоўскую Мэтрыку, грунтуючыся на тым, што Мэтрыка вывезена маскоўцамі з Варшавы. Але праф. М. Любаўскім было паднята пытаньне аб тым, што

§ 41. Кнігі з бібліатэкі вялікага князя літоўскага ў Вільні (сьпіс каторых захаваўся ў Літоўскай Мэтрыцы), якія былі асновай вялікай каралеўскай бібліотэкі ў Вільні, пры перавозцы Літоўскай Мэтрыкі часьцю трапілі ў бібліотэку Міністэрства Справядлівасьці ў Пецярбурзе, а часьць кніг XV стагодзьдзя пайшла ў прыватныя біаліатэкі. [81])

**1800** год. § 43. У 1800 годзе згарэлі дакуманты і кнігі Віленскага суда 1667 па 1794 г. [82]).

**1812** год. § 44. Кнігі бібліатэкі Духоўнай Сэмінарыі Троіцкага манастыра ў Слуцку ўжываліся французамі замест дроў пры гатаваньні стравы. [83])

§ 45. Кнігі бібліатэкі Смаленскай Духоўнай Сэмінарыі былі выкінуты на вуліцу пры ўзяцьці будынкаў сэмінарыі пад шпіталь; калі французы пакінулі Смаленск, было падабрана каля 4500 кніг, а пасьля было знайдзена яшчэ каля 1500 кніг. [84])

§ 46. Бібліатэка Смаленскай гімназіі зьніштожана французамі [85]) разам змаетнасьцю і архівам гімназіі. [86])
Бібліатэка гэта складалася з фундаментальный бібліатэкі, запаснога кнігасхову і „продажной библіотеки.“

§ 47. Разам з бібліатэкай Смаленскай гімназіі згарэў у ёй, ужо напалову згніўшы, архіў вайскова-паходнай канцэлярыі Пятра І. [87])

§ 48. Разам з будынкам Смаленскага Кадэцкага Корпусу зьнішчаны архіў і бібліатэка, якія належалі да гэтай установы. Аасабліва цэнна бібліатэка, якая была куплена Зорычам у Пецярбурзе за 8000 руб. і якая кожды год ім дапаўнялася, а іншы раз папаўнялася прыватнымі значнымі ахвярамі, напрыклад,— часткай бібліатэкі смаленскага гісторыка Мурзакевіча (Н. А. Мурзакевичъ, Исторія г. Смоленска Смоленскъ, 1903; бб. 18—19). Бібліатэка гэта празначалася для адкрытага Зорычам у Шклове (Аршанскага павету, Вітабскага ваяводзтва) „благородного училища“, пераарганізаванага пасьля ў кадэцкі корпус, які разам з бібліатэкай са Шклова быў перавезены ў Смаленск. [88])

§ 49. Згарэў архіў Смаленскага гарадзкога магістрату, у якім былі дакуманты і граматы каралёў і цароў. [89])

---

Мэтрыка ніколі ў Варшаве не была; на чымъ грунтуюцца вывады праф. Любаўскага,—пакуль невядома.

[81]) Ст. Сташицкій, Библіотека Великаго Князя Литовскаго въ Вильнѣ въ 1510 г. („Библіографъ“, 1888, № 1).

[82]) Археографическій Сборникъ, I, № 167.

[83]) В. Краснянскій, Минскій Департаментъ Великаго Княжества Литовскаго. Спб., 1902; бал. 69.

[84]) В. Грачевъ, Смоленскъ и его губернія въ 1812 г. Смоленскъ, 1912, б. 220.

[85]) М. Аксеновъ, Историческая записка о смоленской губернской гимназіи. Ч. 1, Смоленскъ, 1912, б. 104, 106, 108—109.

[86]) Н. Поповъ, Осмотръ Н. А. Бекетовымъ Смоленскихъ училищъ по нашествіи Наполеона („Русскій Архивъ“, 1879, № 9, б. 74).

[87]) Мурзакевичъ, Исторія г. Смоленска, 1903.

[88]) М. Аксеновъ, Смоленскій кадетскій корпусъ. Смоленскъ, 1907, бб. 6, 19, 22.

[89]) Н. Мурзакевичъ, Исторія г. Смоленска, б. 24.

А Жиркевичъ, Смоленскіе архивы въ 1812 г. („Смоленская Старина“, 1909, в. I, ч. I, бб. 360—366.

§ 50. Зьнішчана частка архіву Смаленскай Кансысторыі, рэшта была раскідана французамі. [90])

§ 51. Трагічная доля сустрэла і старадаўныя смаленскія дакуманты, якія захоўваліся ў Смаленскім Губэрскім архіве, эвакуацiя якога з гораду пачалася тады, калі французы былі ўжо пад сьценамі Смаленска. Параможцы, заняўшы горад, знайшлі архіў прыгатаваным да вывазу і зложаным на гарадзкім пляцу. [91]) Ось, як кажа сучасьнік аб зьнішчаньні французамі гэтага архіву, які займаў некалькі мураваных будынкаў [92]). „(Архівы) перад домам вайсковага губэрнатара зьнесены былі ў кучу і падпаленыя 8 жніўня, якія гарэлі пяць дзён перад вокнамі Напольёнаўскай кватэры, а яго прыбочная старожа, польскія уланы, пад бярозкамі бівакуючы на Блоны, кнігі і сшыткі судовых і рэвізорскіх спраў ужывалі замест сяннікоў, а рысункі і пляны з Цывільнай Палаты і Паветавага Суда—замест запавесак“. [93]) Архівар, які аглядаў архіў, пасьля таго, як французы пакінулі Смаленск, не знайшоў ніводнай справы, ніводнай шафы ў будынках, якія перш займаліся архівамі. [94])

§ 52. Архіў Смаленскай Палаты Угалоўнага Суда згінуў „по неполученіи на вывозъ“ гэтага архіву „повелѣнія.“ [95])

§ 53. Архіў Смаленскай Казённай Палаты часьцю быў зьнішчаны французамі, а часьцю апынуўся ў другім канцы гораду, зложаны ў кучу і вельмі замазаны усякім брудам: „тѣ дѣла, отъ дождей и отъ лежанія въ снѣгу весьма измѣнены, иные разбросаны и разобраны“. [96])

§ 64. Французы зьнішчылі кнігі Смаленскай Сьвірскай царквы. [97])

§ 55. У пажарах 1812 г. Смаленска і Масквы пагінулі амаль што ўсе экзэмпляры надрукаванай у Смаленску кнігі Мурзакевіча: „Исторія г. Смоленска отъ древнейшихъ временъ до 1804 г., собранная изъ разныхъ лѣтописей и россійскихъ дѣеписателей.“ [98]) Дайшоўшыя да нас экзэмпляры гэтай гісторыі зьяўляюцца вялікай бібліографічнай рэдкасьцю, а па цэннасьці залічаюцца да рукапісаў, бо многія першакрыніцы, каторымі карыстаўся Мурзакевіч і якія былі ў смаленскіх архівах, згарэлі ў 1812 г.

§ 56. У Смаленску загінулі перавезеныя перад прыходам французаў Мсьціслаўскія архівы ў ліку 19 вялікіх пакаў і 6 скрынь. [99])

---

[90]) ibidem.

Иконниковъ, Опытъ русской исторіографіи; I, 1, бал. 585.

[91]) С. Писаревъ, Историческое и географическое описаніе г. Смоленска („Справочная книжка Смоленской губерніи на 1899 г.“), бал. 238.

[92]) В. Алексѣевъ, Архивныя мытарства („Историческій Вѣстникъ“, 1910, CXXII, бал. 1037).

А. Жиркевичъ, Смоленскіе архивы въ 1812 г., бал. 355.

[93]) Мурзакевичъ, Исторія гор. Смоленска, 1903.

[94]) Жиркевичъ, Смоленскіе архивы въ 1812 г., бал. 351.

[95]) ibidem. б. 358.

[96]) ibidem, бал. 359, 370—371.

[97]) С. Писаревъ, Княжеская мѣстность и храмъ князей въ Смоленскѣ. Смоленскъ, 1894, бал. 33.

[98]) (Никифоровичъ) Н. А. Мурзакевичъ, историкъ г. Смоленска. Спб., 1877, бал. 2.

[99]) Жиркевичъ, Смоленскіе архивы въ 1912 г., бал. 357—358.

§ 57. Архіў Духаўшчынскага Ніжняга Земскага Суда зьнішчаны французамі на мейсцы. [100])

§ 58. У замятні пры эвакуацыі бібліатэкі і архіву Рослаўскага гарадзкога вучылішча ў гарады Масальск і Арол часьць кніг была згублена [101])

§ 59. Ёсьць весткі аб зьнішчаньні кніг у вайну 1812 г. ў гарадох: Парэчча [102]) і Белы. [103])

§ 60. У Оршы, пасьля разграбленьня манастыроў і царквей, непатрэбны „хлам" з іх быў выкінуты французамі на вуліцу, у лік якога трапілі кнігі і паперы, паміж іншым,—Евангельле („Аршанскае"), пісанае на пэргаміне крыўскім пісьмом XIII ст.; частка выкінутага была падабрана, куды трапіў здарэньнем і гэты помнік крыўскай старадаўнай пісьменнасьці, які потым быў перададзены ў музэй Кіяўскай Духоўнай Акадэміі [104]) (параўн.: Г. Крыжановскій, Рукописныя евангелія Кіевскихъ книгохранилищъ. Кіевъ 1889; бал. 3).

§ 61. У г. Лепелі ад французкай навалы найбольш пацярпелі архівы.[105])

§ 62. У Вітабску французы разбурылі архіў і друкарню [106]), разрабавалі і зьнішчылі дакуманты і кнігі Вітабскага губэрнатара Чэрнышова і забралі з гарадзкога архіву некалькі плянаў. [107])

§ 63. Французамі зьнішчаны архіў Барысаўскай Духоўнай Управы.[108])

§ 64. Адміралам Чычагавым разрабаваны палацы Радзівіла ў Несьвіжы за яго прыхільнасьць да Напольёна; тады згінула рэшта бібліатэкі, якая ў 1772 годзе была вывезена ў Пецярбург; загінула таксама і частка цэннага архіву. [109]).

§ 65. Менскі біскуп Дэдэрка разрабаваў маетнасьці Менскага праваслаўнага архірэя і забраў рукапісныя дакуманты. [110])

§ 66. Бібліатэка Магілеўскага архібіскупа Варлама Шышацкага, які ў 1812 г. быў перайшоўшы на бок Напольёна, перададзена была Пецярбургскай Духоўнай Акадэміі. [111])

§ 67. Старадаўныя архіўныя дакуманты г. Клімавіч у 1812 г. былі вывезены у Чарнігаў „и тамъ затерялись". Навейшая частка дакумантаў,

---

[100]) ibidem, бал. 368—369.

[101]) Н. Поповъ, Осмотръ Бекетовымъ Смоленскихъ училищъ по нашествіи Наполеона, бал. 74.

[102]) ibidem, бал. 80.

[103]) Ibidem, бал. 81.

[104]) П. Пылаевъ, Описаніе пергаментнаго евангелія, хранящагося въ музеѣ, состоящемъ при Кіевской Духовной Академіи („Труды Кіевской Духовной Академіи", 1876, № 12, прылажэньне, бал. I).

[105]) Дм. Довгялло, Лепель, 1905, выдадзена ў Вітабску, бал. 39.

[106]) Опись документовъ и дѣлъ, хранящихся въ Сенатскомъ архивѣ. Отечественная война. Спб. 1812, № 567.

[107]) Историческіе документы („Витебскія Губернскія Вѣдомости", 1909, № 149).

[108]) В. Краснянскій, г. Борисовъ и Борисовскій уѣздъ въ Отечественную войну 1812 г. Гродна, 1914, бал. 58.

[109]) А. Поповъ, Отечественная война 1812 г. („Русская Старина", 1877).

[110]) В. Краснянскій, Минскій Департаментъ Великаго княжества Литовскаго. Спб. 1902, бал. 30.

[111]) В. Иконниковъ, Опытъ русской исторіографіи, I, I, бал. 732.

пачынаючы з 1784 г., была знойдзена ў такім стане: „архивъ свален безъ всякаго порядка въ холодномъ сыромъ деревянномъ сараѣ, бумаги постепенно уничтожаются тлѣніемъ и крысами“; кнігі Земскага Суда пачынаюцца толькі з 1843 г., што да кніг папярэдніх гадоў, то ў пратаколе 1847 г. адзначана, што яны „истлѣли“. [112])

**1819** год. § 68. Канцлер Румянцаў у 1819 г. пісаў смаленскаму гісторыку Мурзакевічу, што ў саборнай ці іншай Смаленскай званніцы знаходзіцца шмат усімі забытых папераў, аб якіх няма ніякіх вестак. [113])

Пры дапамозе памянёнага Мурзакевіча Румянцаў у пачатку XIX стагодзьдзя зьбірае шмат беларускіх дакумантаў старадаўных часаў са смаленскіх царкоўных і гарадзкіх архіваў. [114])

У сабраньні кніг і дакумантаў Румянцава, якія перададзены ў Маскоўскі Румянцаўскі музэй, ёсьць кнігі, сабраныя ім у часы паездак ў належаўшае Румянцаву мястэчка Гомаль. [115])

Гэты самы Румянцаў схіляе і другіх асоб (як, напр., прот. Грыгаровіча) перадаваць сабраныя на Беларусі дакуманты С.-Пецярбургскай Археографічнай Камісіі. [116])

**1830-ыя** годы. § 69. Бібліатэка Беразвецкага манастыра (Дзісенскага пав), якая мела кнігі на некалькіх мовах і вельмі багаты архіў, у годы злучэньня уніі і часовага закрыцьця манастыра часьцю зьнішчана, часьцю раскрадзена і раздадзена суседнім польскім паном. [117])

§ 70. У 1820 г. была зачынена Полацкая езуіцкая акадэмія, а ў 1822 г. маемасьць яе была перададзена піярам, якія давялі бібліатэку [118])

[112]) С. Ярославцевъ, Гор. Климовичи („Записки Сѣверо-Западнаго Отд. Русскаго Географич. Общ.“ Вильна, 1914 г., IV, бал. 68).

[113]) Н. Полетаевъ, Разработка русской исторической науки въ первой половинѣ XIX ст. („Библіографъ“, 1892, № 1), бал. 25.

[114]) Н. Мурзакевичъ, Исторія гор. Смоленска, 1903, бал. 16.

[115]) (Н. Бокачевъ), Опись Русскихъ библіотекъ. 1890. Спб., бал. 44.

[116]) Иконниковъ, Опытъ русской исторіографіи. I, I, бал. 259.

[117]) А. Вераксинъ, Березвечскій монастырь... Вильна, 1910, бал. 3—4, 28—29.

[118]) У 1580 г. Сьцяпанам Баторым адчынена была ў Полацку езуіцкая калегія, рэарганізаваная ў 1812 г. у Акадэмію; галоўнымі мэтамі гэтай установы было шырэньне каталіцтва на Беларусі. Належала яна да найбагацейшых калегій ва ўсей Беларусі і нават Польшчы і з гэтай прычыны мела вялікую і нязвычайна цэнную бібліатэку.

Кніжнае і рукапіснае багацьце бібліатэкі падзялялася да дзьве часьці; адна часьць складалася з кніг на чужаземных мовах, мела яна больш 30,000 тамоў, а другая часьць бібліатэкі, стасункова малая, складалася з літаратуры на польскай мове. Абедзьве гэтыя бібліатэкі мелі кнігі з закрэсу астраноміі, архітэктуры грамадзянскай і вайсковай, багасловія дагматычнага і маральнага, сьвятога пісаньня, батанікі, геомэтрыі, географіі, гомілетыкі, дыалектыкі, зоалёгіі, правадаўства і па дыплёматыцы, гісторыі агульнай і царкоўнай, красамоўству, а такжа—аб літаратурах: арабскай, грэцкай, італьянскай, лацінскай, нямецкай, польскай, расійскай, сырыйскай і французкай, па лёгіцы, матэматыцы вышэйшай, мэтафізыцы,мінэралёгіі, паэзіі, праву царкоўнаму, сілідамэтрыі, трыганамэтрыі плоскай і сфэрычнай, фізыцы агульнай і частковай, філёзофіі, хіміі тэорэтычнай і практычнай („Miesięcznik Połocki“, 1818 г., № III, бал. 166). Сьпіс дысцыплін ня поўны.

Цікава, што ў 1812 г., калі французы на ўсім сваім шляху нішчылі бібліатэкі і кнігі, езуіты уратавалі сваю бібліатэку ад зьнішчаньня, дзякуючы таму, што далі французам мільён франкаў і зьмясьцілі ў сваіх мурох французкіх маршалаў (Руссетъ и Викентьевъ, Событія Отечественной войны 1812 г. подъ Полоцкомъ. г. Полоцкъ, 1912, бал. 9, 29.

да поўнага безладу: „кнігі былі перамяшаны, разложаны па шафах і сталох, на вокнах і на памосьце. Акром таго, паводле сьпісу, іх значылася 14000, а аказалася 23.551, з якіх поўных твораў—19.572 тамы і разрозненых—3979 тамоў. [119])

Пасьля выгнаньня піяраў з Полацка ў 1830 г. маскоўскай уладай была зроблена дзялежа кніжных багацьцяў акадэміі, пры чым кнігі былі падзелены на шэсьць катэгорый.

I катэгорыя: кнігі па чыстай матэматыцы, фізыцы, хіміі, некаторыя гістарычныя і літэратурныя на навейшых мовах са слоўнікамі і граматыкамі гэтых моваў—былі перададзены Полацкаму Кадэцкаму Корпусу, які быў адчынены ў сьценах старой акадэміі; усяго было перададзена 2080 кніг, з каторых 328 тамоў усякіх разрозненных выданьняў. [120]) У расійска-германскую вайну (1914—1917) Корпус быў эвакуаваны ў Сімбірск, куды была перавезена і ўся бібліатэка; ў 1919 г. Галоўнай Управай Вайскова-вучомных Устаноў было паднята пытаньне аб перавозцы гэтай бібліатэкі з Сімбірска ў Маскву.

II. У Пецярбургскую Публічную бібліатэку былі перададзены кнігі, якіх яна ня мела; асаблівая увага была зьвернута на лепшыя і рэдкія выданьні, якія маглі служыць аздобай бібліатэкі, і такім чынам перададзена было 389 тамоў, [121]) сярод каторых надта каштоўным было выданьне баландыстаў „Acta sanctorum“, і 106 рукапісаў [122]), хаця ёсьць веткі, што ў Пецярбургскую Публічную бібліатэку перададзена было толькі 177 тамоў. [123])

III. Пецярбургскаму унівэрсытэту былі перададзены, кнігі якія адносіліся да вышэйшага выкладаньня навук і працы на ўсходніх мовах, усяго—6260 тамоў, з іх 770—разрозненых.

Маскоўскаму унівэрсытэту былі перададзены кнігі выключна мэдыцынскага зьместу, ўсяго—454 тамы, з іх 30—разрозненых. [124])

IV. Вітабскай гімназіі перададзены кнігі гістарычныя і літэратурныя з польскай бібліатэкі, усяго—2619 тамоў, з якіх 868—разрозненых [125]); з ліку перададзенага ў гімназію 803 назовы (ня томы) па загаду Віленскага Вучомнага Округа ў 1876 г. адасланы ў Віленскую Публічную бібліатэку [126]). А частка старадрукаваных кніжак ужыта вартаўнікамі гімназіі на падтопку печак. [127])

Па ліквідацыі гімназіі ў 1918 г. гэтыя кнігі былі перададзены Вітабскаму адзяленьню Маскоўскага Археолёгічнага Інстытуту; пасьля ліквідацыі апошняга ў 1922 г. кнігі перавязьлі ў Вітабскі Інстытут Народнае Асьветы, а па яго ліквідацыі ў 1924 г. кнігі перададзены ў Вітабскае аддзяленьне Беларускага Дзяржаўнага Музэю.

---

[119]) В. П. Викентьевъ, Полоцкій кадетскій корпусъ. Полоцкъ, 1910, бал. 43—44.

[120]) ibidem, бб. 44—46.

[121]) ibidem, бал. 44—45.

[122]) Императорская публичная библіотека за сто лѣтъ. Спб, 1914, бал. 107.

[123]) ibidem.

[124]) Викентьевъ, Полоцк. кадетскій корпусъ, бал. 44—45.

[125]) ibidem.

[126]) Рукапісны „Каталогъ книгъ библіотеки Витебской губернской гимназіи, отдѣленія 3-го по-іезуитскихъ. MDCCCXXXVII. Бѣлорусскій учебный округъ“.

[127]) Алеся Гаротная (Шлюбскі), Лёс маетнасьцяў Вітабскага Археолёгічнага Інстытуту, („Савецкая Беларусь“, 1923, № 13).

Зразумела, што ўсе гэтыя перавозкі не зусім добра адбіліся на захове каштоўных кніжак Полацкай Акадэміі.

V. Рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі ў Вільні былі перададзены духоўныя, прапаведніцкія, палемічныя і катэхізныя творы, ўсяго—8694 тамы, з іх—1335 разрозненых. [128])

Ёсьць і крыху іншыя весткі: у Віленскі унівэрсытэт адаслана было да 20 тысяч тамоў, якія па закрыцьці унівэрсытэту былі перададзены рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі. [129])

VI. Бібліатэцы Галоўнай Управы Духоўных Спраў чужаземных вер („иностранныхъ исповеданій“) былі перададзены кнігі кананічныя, пастановы сабораў, царкоўнай гісторыі, творы аб абрадах рожных хрысьціянскіх царквей, сабраньні папскіх дэкрэталіяў, творы аб схізматыках, слоўнікі старадаўных і навейшых моваў, слоўнікі жыдоўскай, талмудычнай, рабінскай мовы і інш., а ўсяго—3056 тамоў, з іх 497 тамоў разрозненых. [130])

Пры ўсіх памянёных перадачах і перасартоўках прапала шмат цэнных і рэдкіх кніг. [131])

Зусім інакшыя данныя аб долі бібліатэкі Полацкай Акадэміі знаходзім у энцыклопэдычным слоўніку Андрэеўскага, дзе гаворыцца, што бібліатэка была падзелена паміж Вітабскай гімназіяй і Цэнтральным Статыстычным Камітэтам, а з апошняго кнігі нібы перайшлі ў Пецярбургскі унівэрсытэт (болей 5600 назоў) і ў другія ўстановы. [132]).

Гісторык Вітабшчыны А. Сапуноў, кажучы аб адправуцы 20.000 тамоў Віленскаму унівэрсытэту гаворыць, што астанная часць кніг Акадэміі была падзелена паміж Вітабскай гімназіяй і Полацкай духоўнай сэмінарыяй[133]). Паводле слоў А. Сапунова кнігі паміж гімназіяй і сэмінарыяй былі падзелены пароўну (па ліку кніг) і ў скутку сталася тое, што кнігі былі канчаткова разрознены. [134])

Так разграблена адно з каштоўнейшыхъ кніжных сабраньняў на Беларусі.

**1832** год. § 71. Бібліатэка Пінскага Кармэліцкага манастыра, зачыненага ў 1832 г., раскрадзена. [135])

§ 72. У 1832 г. быў зачынены Віленскі ўнівэрсытэт, а яго бібліатэка [136])

---

[128]) Викентьевъ, Полоцк. кад. корпусъ, бал. 44—45.

[129]) А. Сапуновъ, Университетъ въ Полоцкѣ. Витебскъ, 1908, бал. 3.

[130]) Викентьевъ, Полоцк. кад. корпусъ, бал. 45.

[131]) А. Киркоръ, Умственныя силы... („Живописная Россія“, III).

[132]) Библіотека („Энциклоп. Словарь“ Андреевскаго, т. III., Спб., 1891, бал. 790, 806.

[133]) Сапуновъ, Университетъ въ Полоцкѣ, бал. 3.

„ Замѣтка о коллегіи и академіи іезуитовъ въ Полоцкѣ. Витебскъ, 1890, б. 20

[134]) У часе вайны 1914—1920 выкрыта было шмат кніг з Полацкай Акадэміі ў Двінскай гімназіі.

[135]) Н. Янковскій, О бунтѣ гор. Минска и объ усмиреніи онаго въ 1648 году. Москва, 1847.

[136]) Галоўнейшыя моманты з гісторыі зьбіраньня гэтае бібліатэкі былі такія: віленскі біскуп Валеры Пратасэвіч,—вядомы распашырыцель каталіцкай асьветы і вядомы зьніштажыцель усяго не-каталіцкага,—у 1570 г. адчыніў у Вільні школу пры Віленскай калегіі, якая ў 1578 г. была перааргнізавана ў Акадэмію. Гэта акадэмія была першай вышэйшай установай, заснаванай езуітамі ў Эўропе; яна ходалася з Кракаўскай Акадэміяй за уплыў над Літвой і Беларусьсю і пашырала прамені каталіцкай асьветы ня толькі па ўсёй Беларусі, але і за межамі яе; яна мела.

была падзелена ось якім парадкам: усе дублеты—усяго 1353 выданьні (да 3000 тамоў) у 1835 г. былі перададзены Харкаўскаму унівэрсытэту [137]); Кіяўскаму унівэрсытэту перададзена было 5387 выданьняў у 7554 кнігах [138]); рукапісы перададзены былі ў Пецярбургскую Публічную бібліатэку. [139]) рукапісы гістарычнага характару перададзены былі ў Пецярбургскую Археографічную Камісію [140]); Віленскаму Вучомнаму Округу перададзена было 9000 тамоў; [141]) уся рэшта кніг была падзелена паміж адчыненымі ў Вільні Мэдыка-хірургічнай і Рымска-каталіцкай акадэміямі. [142]).

Гл. далей 1840 і 1842 годы, §§ 80, 82.

Архівы Віленскай Акадэміі (і Віленскага унівэрсытэту) і калегій Ігнатаўскай, Сьніпішскай і Горадзенскай, якія захоўваліся ў Архіве Агульнага Адукацыйнага Фундушу, па зачыненьні Віленскага унівэрсытэту паступілі ў 1832 г.

---

пашану ня толькі ад польскай каталіцкай арыстакрацыі і духавенства, але,—і польскіх каралёў, дзеля гэтага зусім зразумела, што гэта новая установа ўжо ў першыя часы свайго існаваньня абладала вялікім матар'яльным і культурным багацьцем.

Акадэмія мела слаўную бібліатэку, ў якой знаходзілася шмат бібліаграфічных рэдкасьцяў.

Пачатак бібліатэкі быў паложаны ў 1570 г. перадачай Акадэміі Віленскай капітулай кніг, якія засталіся пасьля сьмерці суфрагана Юрыя Альбіні. У 1572 г. кароль Жыгімонт II перадаў акадэміі вядомую бібліатэку Ягелонаў, якая пераховалася ў віленскім замку і складалася з кніг на лацінскай чэшкай, польск., старaслав. мовах(ведама, пад гэтай рубрыкай трэба разумець і кнігі на беларускай мове) і цанілася каля 10 тысяч чырвонцаў. У 1579 г. пасьля сьмерці заснаўца Акадэміі біскупа Пратасэвіча акадэмічная бібліатэка атрымала некалькі тысяч тамоў кніг (К. Харламповичъ, Западнорусскія православныя школы XVI і начала XVII в...; бал. 56). Каля 1598 г. ксёндз Краснадубскі ахвяраваў акадэміі вялікае сабраньне італьянскіх і гішпанскіх кніг (Іезуиты въ Литвѣ, „Памят. кн. Гродненск. губ. на 1866 г.," бал. 52). У 1623 г. каралеўскі сэкратар Вярбіцкі перадаў Акадэміі адзін са сваіх двароў з тым, каб з яго даходаў 100 злотых ішло штогодна на куплю кніг (I. Łukaszewicz, Historya szkół w Koronie i w Wielkiem Księstwie Litewskim z najdawniejszych czasów aż do roku 1794. T. IV, Poznań, 1851, бал. 41). У 1655 г. падканцлер літоўскі Сапега ахвяраваў уласную бібліатэку, якая складалася больш, чым з 3000 экзэмпляраў рэдкіх выданьняў (Іезуиты въ Литвѣ... бал. 52). У 1800 г. з бібліатэк горадзенскіх езуітаў паступіла вельмі каштоўнае сабраньне кніг у 3128 тамох (Е. Орловскій, Гродненская старина. Гродна, ч. I, 1910, бал. 218). Апрача пералічанага, было шмат другіх вялікіх ахвяр у бібліатэку акадэміі (К. Харламповіч, Запднорусскія православныя школы. бал. 56).

У 1812 г. ў бібліатэцы лічылася 18025 тамоў, а пасьля 1819 г.—да 40.000 тамоў (у тым ліку і рукапісы Альбэтрандi, Догеля, фэльдмаршала Шэрэмецьева); у 1830 г. ў бібліатэку акадэміі паступіла бібліатэка яе рэктара Сьнядэцкага; ў 1831 г. бібліатэка мела 51837 тамоў. У 1803 г. акадэмія рэарганізавана на унівэрсытэт, які ў 1832 г. быў зачынены.

[137]) Иконниковъ, Опытъ руской исторіографіи, I, II, бал. 936. На бал. 953 таго самаго тому адзначана, што Харкаўскаму унівэрсытэту перададзена 4374 кнігі.

[138]) ibidem, бал. 994. На бал. 953 тэй самай працы адзначана перададзенымі Кіяўскаму унівэрсытэту 7819 тамоў.

[139]) Биліотека („Энцик. Словарь"). Спб., 1891, т. III, бал. 790, 806.

[140]) „Журналъ Министерства Народнаго Просв." 1839, ч. XXI, № 3, бал. 138.

[141]) Иконниковъ, Опытъ русской истор. I, II; бал. 953.

[142]) У склад кніг, перададзеных Рымска-каталіцкай акадэміі, паміж іншым, уходзіла 7000 тамоў бібліатэкі галоўнай каталіцкай сэмінарыі ў Вільні; у ліку апошніх было 2000 тамоў, сабраных проф. Бабpоўскім у час яго падарожы па славянскіх зямлях (Radziszewski Fr., Wiadomość historyczno-statystyczna o znakomitszych bibliotekach i archiwach publicznych i prywatnych w królewstwie Polskiem, Galicyi, w. ks. Poznańskiem i zachodnich guberniach państwa Rossyjskiego. Kraków, 1875; бал. 111, 113. (Гэтая праца мной ня выкарыстана).

ў сэкратарскі стол Міністэрства Народнай Асьветы ў Пецярбург. [143])

**1833** год. § 73. Пасьля сьмерці праф. Зноскі зьнікае няведама куды часьць кніг, ахвяраваных ім ў 1833 г. Віленскай гімназіі [144]).

**1836** год. § 74. За удзел у польскім паўстаньні 1831 г. Казімера Валовіча (Горадзеншчына) усе яго маетнасьці былі канфіскаваны, а бібліатэка была перавезена ў Пецярбургскую Публічную бібліатэку. Бібліатэка складалася выключна з масонскай літэратуры: 145 тамоў на польскай мове, 9 тамоў на французскай мове і 9 тамоў на нямецкай мове. [145]).

§ 75. Па загаду Маскоўскага ўраду ўсе архівы тагочаснай маскоўшчыны, як духоўныя так і сьвецкія, пачалі высылаць у Археографічную Камісію, куды трапілі і старадаўныя акты. Да пачатку 1860 г. у Камісіі было сабрана каля 15,000 „столбцовъ“. [146]) Паводле другіх крыніц гэты загад адносіцца да 1837 году.

**1837** год. § 76. У 1837 г. загадам Мікалая І пачалася адсылка з белаі рускіх гарадоў грамат і „сталбцоў“ у Пецярбургскую Архэографічную Камісію, дзякуючы чаму з многіх бібліатэк і архіваў было ўзята „множество рѣдкихъ рукописей.“ [147])

Ось пералік устаноў, з якіх былі забраны старадаўныя акты: [148])

1) Аршанскі гарадзкі магістрат,
2) Аршанскі Куцеінскі манастыр,
3) Бярасьцейскі гарадзкі магістрат,
4) Бельскі гарадзкі магістрат,
5) Беластоцкае Кругакольнае Кіравецтва,
6) Вяліжскі гарадзкі магістрат,
7) Віленскі Трыбунал,
8) Віленская капітула,
9) Вітабская Казённая і Грамадзянская Палаты,
10) Воўкавыскі Паветавы Суд,
11) Гарадзенскі гарадзкі магістрат,
12) Мглінскі Паветавы З'езд,
13) Менскі парахіяльны архіў,
14) Магілеўскі парахіяльны архіў,
15) Магілеўская сэмінарыя,
16) Магілеўская гарадзкая дума і ратуш,
17) Мсціслаўскі Паветавы З'езд,
18) Полацкі парахіяльны архіў,
19) Рослаўскі гарадзкі магістрат,
20) Слонімскі Паветавы Суд,
21) Чарнігаўская гарадзкая дума і ратуш,
22) Чарнігаўскае Губэрнскае Кіравецтва,
23) Чарнігаўская Казённая і Грамадзянская палаты.

---

[143]) Иконниковъ, Опытъ русск. ист. I, II; бал. 953.

И. И. Лаппо, Виленская Академія, іезуитскія коллегіи — Виленская св. Игнатія, сьв. Рафаила и Гродненская и ихъ документы, хранящіеся въ архивѣ Министерства Народнаго Просвѣщенія („Описаніе Дѣлъ Министерства Народнаго Просвѣщенія“, т. I, Петроградъ, 1917), б. XIX.

[144]) Н. Юницкій, Фундуши и стипендіи Виленскаго учебнаго округа, ч. I, в. 1. Вильна, 1884, бал. 197.

[145]) Импер. публичная библіотека за сто лѣтъ, бал. 110.

[146]) (Н. Бокачевъ), Описи русскихъ библіотекъ, 1890. Спб., бал. 28.

[147]) Акты юридическіе или собраніе формъ стариннаго дѣлопроизводства. Спб., 1838 бал. II.

[148]) Акты, относящіеся къ исторіи Западной Россіи, т. I, Спб., 1848; бал. I—II; т. IV б. V·

Хоць сам Чарнігаў і ня ўходзіць у этнаграфічную Беларусь, але з пэўнасьцю магчыма сказаць, што ў ліку дакумантаў, перададзеных у Архэографічную Камісію, былі і дакуманты, якія належалі да паўночных беларускіх паветаў Чарнігаўшчыны. [149])

**1837** год. § 77. У 1837 г. Горадзенскі губэрнатар даставіў у С.-Пецярбургскую Архэографічную Камісію старадаўныя дакуманты на маскоўскай (?), польскай, лацінскай і французскай мовах з канфіскаванага двору Дзярэчын князёў Сапегаў [150]); бібліатэка і другая частка архіву паступіла у С.-Пецярбургскую Публічную бібліатэку [151]), рэшта была адпраўлена ў Горадню, адкуль, паводле Іконьнікава, [152]) ў 1858 годзе (а паводле Мілавідава [153]) ў 1857 г.) была перададзена Віленскай публічнай бібліатэцы.

Перавезены ў Горадню архіў быў зьмешчаны ў Палаце Дзяржаўных Маемасьцяў, дзе быў разрабаваны спэкулянтамі. [154]) Аб сапежынскім архіве гл.: М. О. Безъ—Корниловичъ, Ист. свѣд. о примѣч. мѣст. въ Бѣлоруссіи. Спб., 1855 г.; бб. 49, 89, 144).

**1839** год. § 78. У Пецярбургскую публічную бібліатэку перададзена канфіскаваная царскім урадам бібліатэка К. Немцэвіча, якая знаходзілася ў Горадзеншчыне. [155])

§ 79. „Вітабскі архіў не багат матэр'яламі, датыкаючымі „возсоединенія“ (уніятаў), дзеля таго, што большая часьць іх высылалася згэтуль, з мейсца падзей, у Сьвятарнейшы Сынод, дзе і трэба шукаць іх.“ [156])

**1840** год. § 80. У 1840 г. Мэдыка-хірургічная акадэмія ў Вільні была зачынена, а яе бібліатэка (якая ў 1835 г. мела 16,000 тамоў) перададзена Кіяўскаму унівэрсытэту, усяго—12262 выданьні, якія складаліся з 17556 тамоў; [157]) сярод кніг былі і рэдкія экзэмпляры. [158])

**1841** год. § 81. 1841 г. зьяўляецца першым годам, калі замест каталіцкіх біскупаў, які палілі на Беларусі кнігі й рукапісы, мейсца іх заступілі біскупы праваслаўныя. З гэтага году па загаду нішчыцеля уніі Язэпа Ся-

---

149) Е. Карскій, Бѣлоруссы, т. I. Варшава, 1903, бал. 20.

150) Иконниковъ, Опытъ русской исторіографіи I, I; бал. 258—259. Гл. у Иконникова падробныя сасланьні на апісаньне гэтага архіву ў „Журналѣ Министерства Народнаго Просвѣщенія“ 1837 г. — 1852 годы.

151) Иконниковъ, Опытъ русской исторіографіи, I, II, бал. 1237—1238.

152) ibidem.

153) А. Миловидовъ, Рукописное отдѣленіе Виленской публичной библіотеки, его исторія, уставъ и научное значеніе („Отчетъ Виленской публичной библіотеки на 1909 г.“ Вильна, 1910), бал. 8, увага 2.

154) ibidem.

Падае некатары матар'ял аб бібліатэцы і архіве Сапегаў: у канцы XVIII стагодзьдзя ў Ражанскім фамілійным палацы Сапегаў (Горадзеншчына) знаходзілася вялікая бібліатэка з надта каштоўным сабраньнем рукапісаў (праз некатары час яна была перавезена ў Дзярэчын); у 1819 г. бібліатэка гэта па ліку кніг была ўжо меньшай, але і тады ў ёй было яшчэ 232 томы рукапісаў, якія складаліся з перапіскі гэтманаў, міністраў і сямейных прыяцеляў Сапегаў (Niemcewicz, Podróże historyczne 1811—1828. Спб., 1856, бал. 348).

155) Императорская публичная библіотека за сто лѣтъ. 1914. Спб., бал. 111.

156) В. А. Лялинъ, Витебскій архивъ бывшаго генералъ-губернаторства („Сборникъ Археологическаго Института“, Спб., 1880, кн. IV, адз. I) бал. 52.

157) Иконниковъ, Опытъ русской исторіографіи, I, II; бал. 944.

158) М. Владимірскій-Будановъ, Исторія императ. университета св. Владиміра, т. I, Кіевъ, 1884, бб. 401 і 409.

машкі пачынаюць паліць уніяцкія выданьні, якія адбіраліся ад уніяцкіх царквей на абшары ўсей Беларусі. [159]) Паленьне кніг, пачатае ў 1841 г., скончылася толькі ў 1857 г. [160])

За ўвесь гэты час, паводле афіцыяльных данных, Сямашка спаліў каля 2000 кніг, [161]) але папраўдзе спалена іх было значна болей, бо сам Сямашка адзначае, што кніг было спалена больш, чым паказана афіцыяльна. [162])

Аб паленьні Сямашкам кніг гл. артыкул: Алесь Смаленец, да стацьці Власта „Аб паленьні кніг на Беларусі“ („Крывіч“, Коўна, 1924 г., № 2; бб. 31—32).

Мілавідаў аб гэтым паленьні старакрыўскіх кніг апавядае, што са злучэньнем уніятаў у першай палове XIX ст. праводзілася і шырокае адбіраньне уніяцкіх кніг, якія звазіліся ў Жыравіцкі манастыр; там гэтымі старадаўнымі кнігамі спачатку палілі печы, але дзеля таго, што гэткае нішчаньне было вельмі марудным і праводзілася кражай (?) кніг, то ў 1844 г. па загаду Сямашкі кнігі былі вынесены з будынкаў на пляц і спалены. [163])

**1842** год. § 82. У 1842 г. Віленская Рымска-каталіцкая акадэмія была пераведзена ў Пецярбург, куды перавезена яе бібліатэка; [164]) у 1835 г. бібліатэка мела 30.000 тамоў [165]); з гэтай бібліатэкі частка кніг—231 выданьне ў 862 тамох—была перададзена Кіяўскаму унівэрсытэту [166])

§ 83. Язэп Сямашка паліць кнігі крыўскіх уніяцкіх друкарань. [167])

§ 84. У 1842 г. у Вільні была заснавана часовая Археографічная Камісія на абавязку якой, паміж іншым, ляжала адсылка цікавейшых дакумантаў у С.-Пецярбургскую Археографічную Камісію, куды такім парадкам былі перададзены акты Скарбовай Камісіі. [168]).

**1843—1844** годы. § 85. Язэп Сямашка паліць кнігі крыўскіх уніяцкіх друкарняў. [169])

**1845** год. § 86. У 1845 у С.-Пецярбургскі Сынадальны Архіў перададзены архіў „западно-русскихъ уніатскихъ митрополитовъ“, [170]) як яго ахрысьціла маскоўская навука. Архіў гэты пачаў складацца з 1596 г. і меў ён дакуманты з пачатку XV стагодзьдзя. [171])

---

[159]) Записки Іосифа Митрополита Литовскаго. Т. II. Спб., 1883, бал. 528.

[160]) А. Миловидовъ падае неправідловыя весткі аб паленьні Сямашкам кніжок Першым годам паленьня ён азначае 1844 г., а апошнім—1855 (Судьба русской книги въ сѣверо-западномъ краѣ въ связи съ его культурной исторіей „Христіанское Чтеніе“, 1903, т. CCXVI., ч. I., бб. 496—497). Матар'ялы да гісторыі паленьня Сямашкам кніг гл.: „Записки Іосифа Митр. Литовскаго“, т. II, бб. 528, 716; т. III, Спб., 1883, бб. 534—535, 598—599, 1085—1089, 1110, 1189.

[161]) Г. Кипріановичъ, Жизнь Іосифа Сѣмашки митрополита Литовскаго и Виленскаго. Вильна, 1897 г., бб. 321—322.

[162]) Записки Іосифа Митроп. Литовскаго, т. II, б 617.

[163]) А. Миловидовъ, Судьба русской книги въ Сѣв.-Зап. краѣ, бб. 496—497.

[164]) Иконниковъ, Опытъ русск. ист. I, II, бал. 953.

[165]) А. Миловидовъ, Судьба русской книги въ Сѣв.-Зап. краѣ...; бал. 496.

[166]) Иконниковъ, Опытъ русск. ист. I, II; бал. 944.

[167]) Записки Іосифа Митр. Литовскаго, т. II, бал. 528.

[168]) Иконниковъ, Опытъ русской исторіографіи, I, I, бал. 259.

[169]) Записки Іосифа Митроп. Литовскаго, т. II, бал. 528.

[170]) Иконниковъ, Опытъ русской исторіографіи, I, I, бал. 467.

[171]) (Жуковичъ, Б.), Сообщеніе объ архивѣ Западно-русскихъ уніатскихъ митрополитовъ. Петроградъ, 1915 г., бал. 10.

Архіў частку сваіх дакумантаў загубіў у часе многіх пераездаў, бо ён ня меў аднаго пэўнага мейсца; на працягу аднаго толькі XVIII ст. архіў пабываў у Вільні, Новагорадку, Варшаве, Горадне, Струньне (каля Полацка), Львове, Радомысьле, Луцку, Сеніонаве, Страбле, Лаўрышаве і др. мяйсцох. [172])

Заховываўся архіў у чатырох „скрынях.“ [173])

**1850—1870** годы. § 87. Добрым прыкладам стасунку духавенства да кніг у XIX ст. зьяўляецца такі прыклад: два ігумены Супрасльскага манастыра—Кургановіч (1852—1859) і Жураўскі (1859—1876)—раздавалі рожным асобам старадрукаваныя кнігі і старадаўныя рукапісы, якія належалі да манастырскай бібліатэкі; ось што аб гэтым кажа адзін з гісторыкаў манастыра: „Вінцэнт (Жураўскі) шчодрай рукой раздаваў манастырскія дакуманты і кнігі усім, хто зьвяртаўся да яго з просьбай пазычыць іх, якія дакуманты і кнігі большай часьцю прападалі“. Усе да аднэй прададзены і раздадзены рожным особам кнігі, якія засталіся ад Супрасльскай друкарні, у якой друкаваліся богаслужэбныя кнігі ў славянскай мове, ў тым ліку—і кнігі для стараveраў Маскоўшчыны, кнігі мятэматычныя, рожныя падручнікі, малітаўнікі, слоўнікі і чысьленьнікі на лацінскай і польскай мовах; рэшта гэтай бібліатэкі ў 1876 г. была перададзена ў Віленскую публічную бібліатэку, і пры гэтым перадача дакумантаў зроблена надта дрэнна: нярэдкі выпадкі, калі пачатак аднэй справы ў Вільні, а канчатак—у Супрасьлі, ці наадварот. [174])

**1853** год. § 88. Язэп Сямашка паліць кнігі крыўскіх уніяцкіх друкарняў. [175])

**1854** год. § 89. Язэп Сямашка паліць кнігі крыўскіх уніяцкіх друкарняў. [176]).

**1855** год. § 90. Язэп Сямашка паліць кнігі крыўскіх уніяцкіх друкарняў. [177]).

**1856** год. § 91. Вядомы абрусіцель крывічоў К. Гаворскі, які быў першапачаткова настаўнікам і бібліатэкарам Полацкай духоўнай сэмінарыі, пры перавозе 1856 г. бібліатэкі васільянскай сэмінарыі з Полацку ў Вітабск, кідае частку кніг у Полацку, як непатрэбных і перашкаджаючых адчотнасьці; у Полацку пакінутыя кнігі загінулі, а пасьля і ў Вітабску з гэтае бібліатэкі страчана было 183 назовы і ўсе, якія былі ў ёй, рукапісы. [178])

**1857** год. § 92. Язэп Сямашка паліць кнігі крыўскіх уніяцкіх друкарняў. [179]).

Апрача паленьня, Сямашка рэдкія кнігі аддаваў у С.-Пецярбургскую Публічную бібліатэку. [180])

---

[172]) ibidem, бал. 5.

[173]) ibidem, бал. 3.

[174]) Н. Далматовъ, Супрасльскій Благовѣщенскій монастырь. Спб., 1892, бал. 427, 431, 450, 328, 436.

[175]) Записки Іосифа Митрополита Литовскаго, т. II, бал. 617.

[176]) ibidem.

[177]) ibidem.

[178]) Дм. Довгялло, Девять замѣтокъ (Витебскъ), бал. 9.

[179]) Записки Іосифа Митрополита Литовскаго. т. III, бал. 1189.

[180]) ibidem, бал. 1263—1264.

**1863** год. § 93. У м. Расне (Магілеўшчына) польскія паўстанцы спалілі ўсе дакуманты і паперы заснаванай тут у XVIII ст. езуіцкай місіі. [181])

§ 94. У часе пажару ў г. Невелі (Вітабшчына) згарэла бібліятэка Невельскага паветавага („уѣзднаго“) училища, якая складалася з 1605 тамоў (1113 назоў). [182])

§ 95. У тым самым годзе ў пажары Невельскага манастыра згарэла шмат каштоўных гістарычных актаў. [183])

§ 96. Напярэдадні апошняга польскага паўстаньня (1863 г.) адным з мэтадаў палёнізацыі крыўскага краю была арганізацыя цэлага шэрагу бібліятэк з польскай літэратурай, арганізацыя гэта ішла поруч са зьнішчаньнем ня-польскіх кніг. [184])

Ліквідатар польскага паўстаньня Мураўёў, бачучы ў гэтых бібліятэках змагаючуюся з маскалізацыяй палёнізацыю, зачыніў іх [185]); канфіскаваныя кнігі часьцю былі разасланы па розных установах на Беларусі, а часьцю былі адпраўлены ў бібліятэкі і іншыя ўстановы Маскоўшчыны.

**1865** год. § 97. Пры праверцы маемасьці Віленскага музэю ў 1865 г. аказалася нястача шэрагу цэнных грамат і рукапісаў. [186])

**1867** год. § 98. У 1867 г. па загаду Радзівілаў была вывезена ў Бэрлін значная часьць фамільнага архіву, які пераховываўся ў Несвіжы. Архіў меў да 400 тамоў дакумантаў, якія сягалі XIV ст.

Архіў падзяляўся на дзьве часьці: вітгенштэйнаўскую (якая складалася з 334,360 дакумантаў) і радзівілаўскую, каторая складалася з пяці аддзелаў: 1) лісты (пісьмы) – 217,800 штук, 2) фамільныя акты—14,800 дакумантаў, 3) пэргаміны — 1246 дакумантаў, 4) гісторыка-палітычныя зборнікі і сэймовыя дыарыушы—15.000 дакумантаў, 5) розныя—6000 дакумантаў, а ўсяго—589206 дакумантаў. [187])

**1868** год. § 99. У часе пажару ў г. Вяліжы (Вітабшчына) згарэў гарадзкі ратуш з захаваным у ім гарадзкім архівам, які складаўся са старадаўных дакумантаў і спраў замковых, ураду і гарадзкой думы. [188])

§ 100. Пасьля сьмерці Язэпа Сямашкі частка кніг яго бібліятэкі паступіла да яго сваякоў [189]), а ведама, што ў Сямашкі былі і рэдкія крыўскія выданьні (гл.: А л е с ь С м а л е н е ц. Да стацьці Власта: „Аб паленьні кніг на Беларусі“).

**1869** год. § 101. У гэтым годзе ў г. Вяліжы згарэла бібліятэка Вяліжскага паветавага вучылішча. [190])

---

[181]) „Россія“, IX, Спб., 1905, бал. 392.

[182]) П. Ч у б о в ъ, Невельское уѣздное училище Витебской губ. за 100 лѣтъ своего существованія. 1899. Витебскъ, бал. 24 і 27.

[183]) И. Т о к м а к о в ъ, Спасопреображенскій монастырь въ гор. Невелѣ, Витебской губ. („Полоцко-Вит. ст.“, I, бал. 6).

[184]) А М и л о в и д о в ъ, Судьба русскихъ книгъ въ сѣв.-зап. краѣ... бал. 500 і др.

[185]) Н. Ц ы л о в ъ, Сборникъ распоряженій гр. М. Н. Муравьева по усмиренію польскаго мятежа въ сѣверо-западныхъ губерніях 1863—1864 гг. Вильна, 1866, бал. 25.

[186]) Дневникъ засѣданій комиссии для разбора предметовъ, находящихся въ Виленскомъ музеумѣ древностей. Вильна, 1865, 18, 24.

[187]) И к о н н и к о в ъ, Опытъ русской исторіографіи, I, II, бал. 1239–1241.

[188]) О. К и с е л е в ъ, Велижъ. 1895, Витебскъ, бал. 14—15.

[189]) Г. К и п р і а н о в и ч ъ, Жизнь Іосифа Сѣмашки... бал. 514. Еще нѣкоторыя свѣдѣнія о покойномъ митрополитѣ Іосифѣ („Вѣстникъ Западной Россіи“. Вильна, 1868, т. IV, кн. X, отд. IV, бб. 29—30).

[190]) О. К и с е л е в ъ, Учебныя заведенія въ Велижѣ съ 1799 г.; 1898, Витебскъ, бал. 10.

§ 102. У тым самым годзе згарэў у Вітабску дамініканскі касьцёл, а разам з ім згарэла і касьцельная бібліатэка, якая мела каля 600 кніг, выдрукаваных у XV—XVIII ст. Аб перахове згарэўшай бібліатэкі ёсьць такая ведамка: „кнігі гэтыя разложаны на некалькіх паліцах ў асобнай сьвятліцы, але ад нявыбачнай няўвагі да захаваньня іх да такой ступені пакрыліся цьвільлю, што здаюцца, без найменшага перавялічаньня, пабялеўшымі або залітымі вапнай. Ня толькі аправы, але і карты кніг пакрыты гэткім множствам цьвільнага пылу, што няма магчымасьці чытаць іх, не рызыкуючы папсаваць вочы і атрымаць кашаль. Наагул, сьвятліца, дзе пераховуюцца гэтыя скарбы умысловасьці, больш падобна на крамку нябожчыка пецярбургскага таўкучага рынку, як на сховішча царкоўнай бібліатэкі. Чаго тут няма: і старыя труны, і пакрытыя слаямі пылу ды павучыньня з напоўпаабрыванымі шатамі образы, і пачарнеўшыя харугві, і стары разьбіты літаўр, і множства іншага рухмацьця.“ [191])

**1870**-ыя годы. § 103. У 70-х годах XIX ст. Полацка-Вітабскім эпархіяльным начальствам быў дадзены загад усім царквом і манастыром аб прысылцы з іх да Вітабску усіх старасьвецкіх помнікаў. І ось, у адным манастыры (нажаль, аўтар гэтага павядомленьня маўчыць аб мейсцы і асобе) ігумен два тыдні ацепліваў сваю кельлю „старыми бумагами“, пасьля чаго з „облегченной совѣстью“ паведаміў, што ў дазучаным яму манастыры ніякіх старадаўных актаў няма. [192])

§ 103-а. У 1870-х годах згарэў у Дзісьне Васкрэсенскі манастыр і царква, а ў ёй—багатыя і дужа старадаўныя архівы дакумантаў, перавезеных ў XVI ст. з Полацка, а такжа—архівы і бібліатэка Дзісенскага Младзенчэскага Брацтва і дакуманты школы гэтага брацтва.

**1879** год. § 104. У 1865 г. царом Маскоўшчыны было даручана палкоўнікам Камарову і Райкоўскаму „изученіе причинъ мятежническихъ политическихъ движеній въ Привислянъи и Западномъ краѣ.“ Тры годы, 1865—1867 ўкл., памянёныя асобы зьбіралі архіўныя матэр'ялы са ўсіх архіваў Беларусі і сумежных губэрняў, у выніку чаго „составился громадный архивъ свыше 22,000 листовъ, который и хранился у Камарова, служа драгоцѣннымъ источникомъ справокъ. Готовилось цѣлое изданіе. Райковъ умеръ въ 1871 г., а въ 1879 г. этотъ архивъ исчезъ изъ квартиры Комарова, во время отъѣзда его изъ Петербурга“. [193])

Як выявілася пазьней, архіў быў украдзены палякамі, якія часьць архіву зьнішчылі, а часьць прадалі на рынак. [194])

**1880** год. § 105. У Вітабскім манастыры сьв. Марка была паўтарасажнёвая скрынка з „какими-то“ старадаўнымі паперамі; у 1880 годзе гэтая скрыня з дакумантамі зьнікла нет ведама куды. [195])

**1881, 1882, 1883** годы. § 106. У гэтыя годы вітабскім „начальствам“ было прададзена з вітабскіх архіваў у Рыгу да трох тысяч пудоў старадаўных дакумантаў XVI і XVII ст ст. і полацкага намесьніцтва па 1772 г. У

---

[191]) А. Сементовскій, Витебскъ („Памят кн. Витеб. губ. на 1865 г.“), бал. 195.
В—нъ (Филипповъ), Замѣтка. („Витебскія губ. Вѣдомости“ 1911, № 62).

[192]) В. Лялинъ, Витебскій Центральный Архивъ, бал. 63.

[193]) (А. Пороховщиковъ), Подвигъ Муравьева—настольная книга правителямъ и правительствамъ. Спб., 1898, бал. 45.

[194]) ibidem, бал. 46.

[195]) В. Лялинъ, Витебскій Центральный Архивъ, бал. 62.

аграмаднай масе дакуманты гэтыя нікім не праглядаліся; сярод іх былі дакуманты надта цэнныя і надта старадаўныя, якія нейкі час знаходзіліся ў Пскове. Пуд гэтых каштоўнейшых дакумантаў прадаваўся па 1 рублю 18 кап.; атрыманыя грошы пасьля прадажы крыўскіх старадаўных дакумантаў, як нагрaдныя, былі выданы чатыром урадоўцам-абрусіцелям Губэрнскага Кіравецтва. [196])

**1884** год. § 107. Архіў Зорыча быў прададзены жыдом на вагу паперы ўладаром Шклова баронам Корфам. [197])

**1885** год. § 108. У 1885 годзе назначана было да прадажы (і бязумоўна прададзена) больш тысячы пудоў старадаўных спраў, у тым ліку—і архівы двох генэрал-губэрнатараў Вітабшчыны; дакуманты аднасіліся да XVIII ст. і канчаліся 1808 г.

Гэта ўсё былі старыя дакуманты, добра захаваныя, сшытыя ў вялікія кнігі і ў большасьці апраўлены ў палатно. [198]).

**1885** год. § 109. У часе пажару ў г. Горадне згарэў архіў Горадзенскага Дваранскага Дэпутацкага Сабраньня. [199])

§ 109-а. Ад 1860-х гадоў палякі зьбіраюць усякія цэнныя архівы і кнігі на Беларусі і адсылаюць у Кракаў і замак Рапэрсвіль у Швайцарыі. Туды пайшлі архівы Гутэн-Чапскіх, Плятараў (з Краслаўкі), Шырынаў (з Юндзілова, Старога і Белага двароў у Дзісеншчыне) і многіх іншых.

**1900** год. § 110. У 1900 годзе па загаду пецярбургскага духоўнага зьверхніцтва была перададзена Кіяўскай духоўнай акадэміі полацкая па-уніяцкая бібліатэка, якая знаходзілася ў Вітабскай духоўнай сэмінарыі [200]);

---

[196]) Какъ у насъ охраняютъ историческіе документы („Историческій Вѣстникъ“, 1885. т. XIX, бал. 461—462).

[197]) Могилевскій историко-этнографическій музей. Могилевъ, 1891. „Этнографическое Обозрѣніе“, Москва, 1892, кн. I, отд. II, бал. 12.

[198]) Какъ у насъ охраняются историч. документы, б. 461—462.

[199]) Е. Орловскій, Гродненская старина, ч. I, Гродна; 1910; б. 317.

[200]) Бібліатэку гэту Вітабская сэмінарыя (быўшая Полацкая) атрымала ад васільянскага манастыра, які быў пры полацкай Сафіі, заняўшы яго будынкі. Зьбіралася бібліатэка васільянамі самымі рожнаякімі спосабамі: шляхам куплі, прыватных ахвяр і далучэньня да бібліатэкі кніг, якія заставаліся пасьля сьмерці манахаў; папаўнялася яна і прысылкай кніг з Магілева. Дынабурга, Крэмянца, Пазнані, Жыдзічанскага і Падубіскага базыльянскіх манастыроў; папаўнялася яна і кнігамі з бібліатэк полацкіх уніяцкіх архібіскупаў: Календы, Грэбніцкага, Смагаржэўскага і Красоўскага (Довгялло, По-уніатская биб...). На перададзеных у Кіяў кнігах часта можна знайсьці, напрыклад, такія надпісы: „z bibliotheki Biało-Russkiego Graeco-Unitskiego seminarium“, „z Seminarium Biało-Ruskiego Połockiego“. (ibid).

Перадача гэтай бібліатэкі ў Кіяў выклікала некатары газэтны гоман; адны хіліліся да цэнтралізацыі культурных каштоўнасьцяў у большых гарадох Маскоўшчы, а другія даводзілі, што кнігі, вывезеныя ў Кіяў, павінны застацца на Беларусі. Аб гэтых спрэчках гл.:

N, Гдѣ быть древностямъ? („Московскія Вѣдомости“, 1901, № 44).

Онъ, Гдѣ правда? („Витебскія губ. Вѣд.“ 1901, № 45).

Дм. Довгялло, По поводу передачи древней библіотеки Витебской Духовной Семинаріи въ Кіевскую Духов. Академію („Витебск. губ. вѣд.“ 1901).

Е. Р. Романовъ, нарыс у „Могилев. губ. Вѣд.“, за 1901 г. № 20.

П. Стрѣльцовъ, О высшемъ учебномъ заведеніи въ Сѣверо-Западнмъ краѣ. Витебскъ, 1903, б. 24.

бібліатэка складалася з рэдкіх помінкаў крыўскага друку [201]), хаця Даўгяла, які быў пры перадачы кніг, з задзіўленьнем заўважыў сярод іх невялікі лік крыўскіх выданьняў. [202])

Пытаньне аб вывазе з Вітабска гэтых вялікіх кніжных каштоўнасьцяў, як непатрэбных Вітабску і дарма толькі займаючых мейсца, было паднята ў 1898 г. „начальствам“ сэмінарыі. [203]). Па каталёгу, які быў сьпісаны ў Кіяве, бібліатэка гэта мела 3995 назоў [204])—больш 10,000 тамоў, якія пры перавозцы занялі 22 клункі, вагой усяго каля 220 пудоў. [205]) Кнігі былі гэткага зьместу: багаслоўе, правазнаўства, філёзофія, славеснасьць, мовазнаўства, гісторыя, фізыка-матэматычныя навукі, розныя слоўнікі, газэты і часопісі [206]); усё гэта было ў многіх старадаўных і новых мовах.

**1905** год. § 111. Пры разбураньні сялянамі двору Безабразава ў часы аграрнага паўстаньня на Вітабшчыне зьнішчана і бібліатэка Безабразава; складалася яна з кніг па дзяржаўнаму праву, філёзофіі і псыхалёгіі. [207]).

**1908** год. § 112. У 1908 г. у бібліатэку Пецярбургскай Акадэміі Навук перададзена вялікае сабраньне рукапісаў, актаў і старадаўных кніг, якія былі куплены ў сьвяшчэніка Петразаводзкага катэдральнага сабору Васкрэсенскага; кнігі і дакуманты гэтыя калісь-то былі вывезены з Беларусі архіерэем Паўлам Добрахотавым; усе дакуманты адносяцца да гісторыі царквы ў паветах Пінскім і Тураўскім у XVI—XVIII ст.

Галоўную каштоўнасьць гэтага сабраньня складае вялікі лік грамат і іншых дакумантаў – каля 3000 (пэргамінаў ўзвыш 30); дакуманты спашыты ў кнігі (больш 50 кніг) і зьяўляюцца цэлымі архівамі некатарых каталіцкіх манастыроў [208]).

**1912** год. § 113. У 1912 г. ахвяравана „маскоўскаму музэю 1812 г.“ слаўная адзіная ва усім сьвеце бібліатэка, якая належала І. Х. Каладзееву; знаходзілася яна ў Нова-Барысаве (Меншчына).

Сабраньне гэтае складалася некалькі дзесяткаў гадоў і падзялялася на тры бібліатэкі: I) бібліатэку, якая сабрана самім Каладзеевым, дзеля чаго ён кожды раз ездіў да калекціянераў і букіністаў Заходнае Эўропы; II) бібліатэку, купленую ў маскоўскага генэрал-губэрнатара Закрэўскага і III) бібліатэку, купленую ў пецярбургскага калекціянера Закрэўскага. Усе гэтыя тры бібліатэкі мелі 15000 тамоў на ўсіх эўропэйскіх мовах і адносіліся выключна да эпохі 1805—1815 г. г.

Надта багаты быў аддзел мэмуараў учасьнікаў вайны 1812 г.; у бібліатэцы шмат было ўласнаручных дакумантаў рожных выдатных асоб з рэдкімі аўтографамі; былі выданьні адзіныя ў сьвеце, сабраньне мастацкіх плякатаў, плянаў, чарцяжоў і малюнкаў, якія адносіліся да памянёнай эпохі і

---

[201]) Витебскія древности („Историч. Вѣстникъ“ 1901, № 4).

[202]) Д. Довгялло, По-уніатская библіотека Витебской Духов. Семинаріи („Полоцкія Епарх. Вѣд.“, 1901, № 1—2).

[203]) ibidem.

[204]) А. С. Крыловскій, Систематическій каталогъ книгъ библіотеки Кіевской Духовной Академіи (бывшей Полоцкой уніатской библіотеки). Кіевъ, 1903.

[205]) Довгялло, По-уніатская биб...

[206]) А. С. Крыловскій, Систематическій каталогъ...

[207]) Ив襟къ, Частныя библіотеки въ Россіи.

[208]) Е. Карскій, Бѣлоруссы, т. 2, в. 3, Варшава, 1912; б. 300.

быў кamплект усіх газэт з 1812 па 1912 г., дзе хоць ў адным радку спамінаўся 1812 г. [209])

**1915** год. § 114. У 1915 г. у часе адходу маскоўскай арміі ад немцаў вывезена ў Маскоўшчыну шмат культурных вартасьцяў, у тым ліку—кніг і архіваў; напрыклад, вывезена ў Яраслаўль самая каштоўная частка Віленскага Цэнтральнага архіву; многае вывезенае ў Маскоўшчыну зьніштажаецца самым лютым, неміласэрным парадкам. [210])

§ 115. Пры эвакуацыі Вільні загінуў надрукаваны зборнік „Могилевская Старина“ (в. I, Могилевъ, 1900). [211])

§ 116. Лёс бібліатэк невялікіх гарадоў той-жа самы—зьнішчаньне. Так, аб Пінскай бібліатэцы чытаем: „Новых кніг амаль у ёй няма, а старыя, не пасьпеўшыя прапасьці, даведзены даўно да непрыгоднага стану“. [212])

**1916** год. § 117. У часе вайны з немцамі зьніштожана маскоўскімі салдатамі бібліатэка Сьвятаполка-Завадзкаго ў Крошыне, каля Баранавіч, Навагорадзкага павету. [213])

**1917** год. § 118. У самым пачатку рэвалюцыі ў 1917 г. у Вяліжы на Пакроўскім полі адбываецца сярэдневяковае auto da fe: спаляецца некалькі вялікіх куч кніг. А ў мясцовай часопісі адзначаецца цэлы шэраг выпадкаў зьнішчаньня кніг у Вяліжскім павеце ў дварох: Пагарэльле, Селязьні, Хухава, Усьвяты, Барбарава, і ў г. Вяліжы—бібліатэкі Управы Вайсковага Начальніка. [114])

§ 119. У першыя дні лютаўскае рэвалюцыі ў Вітабску таўпа народу накінулася на Вітабскае Ахраннае Аддзяленьне і забрала ўвесь яго архіў; архіў быў перанесен ў сувязь прыказчыкаў („союз приказчиков“), у якім прадстаўнікі рожных партыйных арганізацый падзялілі паміж сабой дакуманты. Пры чым кождая арганізацыя забірала толькі тыя дакуманты, якія мелі датычнасць да яе ўласных сяброў. Пасьля падзелу архіву ў гарадзкім тэатры адбыўся урачысты вечар, на якім пры належных акалічнасьцях кождаму рэвалюцыянеру чыталі датычныя да іх дакуманты, якія тут,-жа і перадаваліся ім на ўласнасьць.

Ня глёдзячы на гэты падзел, некалькі сот спраў засталіся не разабранымі і, выпадкова захаваныя, ў 1924 г. былі перададзены Іспарту ЦК. КПБ. [215])

---

[209]) „Новое Время“, 1912, № 13095.

„Исторіч. Вѣстникъ“, 1913, № 9.

В. Краснянскій, г. Борисовъ и Борисовскій уѣздъ въ отечественную войну 1812 г. Гродна, 1914; б. 61—62.

У. Г. Ивaскъ. Частныя библіотеки въ Россіи („Русскій Библіофилъ“, 1911, № III); у гэтым нарысе Іваска паказана бібліаграфія літэратуры аб бібліатэцы Каладзеева.

[210]) В. Смолко, Пагібель старасьветчыны („Часопісь Міністэрства Беларускіх Спраў № 1, 1919; Коўна).

[211]) Е. Романовъ, Первоисточники для исторіи Могилевскаго края. В. I. Одесса, 1916; б. II.

[212]) Къ вопросу о библіотекѣ. „Объединеніе“ газета Полѣсья, Пинскъ, 1915 г., № 1.

[213]) R. Ziemkiewič, Wasil Ciapiński. („Biełaruskaje žyćcio“, Wilnia. 1919, № 5.)

[214]) А. Шлюбскій, Из преступленій „интеллигенции“. („Известия Велижского У. С. Р. К. К. и Б. Д.“, 1919, № 132).

[215]) Агурский, С., Об архивах царской охранки в Белоруссии. („Звезда“, Менск, 1924, № 163).

§ 120. Архіў Вітабскага Жандарскага Кіравецтва таксама зьнішчаны ў першыя часы рэвалюціі; яго справы таксама разыйшліся па рожных сувязях („союзамъ“) [216]).

§ 121. У Горацкім павеце было шмат прыватных бібліатэк Дундуковых, Корсаковых, Друцкіх-Любэцкіх, Адамовічаў-Любамірскіх і „ў часы рабунку маёнткаў—у верасьні і кастрычніку 17-го году—шмат бібліатэк зьнішчана; кнігі былі парасьцяганы, падраны, некаторыя папалены і толькі часьць пакінута пры зруйнаваных маёнтках. Кнігі былі на мовах: маскоўскай, польскай, нямецкай, лацінскай і францускай.“ [217])

**1918** год. § 122 У 1918 г. зьнішчана чырвонаармейцамі значная часьць Выдранскай бібліатэкі (Чэрыкаўскі п., Магілеўшчына); яны разламалі вокны і дзьверы будынку, ў якім зьмяшчалася бібліатэка, і зьніштожылі самыя каштоўныя кнігі, мастацкія выданьні раздавалі вясковым дзецям, мужчыны-ж з лепшых кніг выдзіралі лісты для курэньня. Так на працягу некалькіх дзён бібліатэка разьбіралася падросткамі і нішчылася рукамі пажылых. Калі-ж стала ведама, што міліція мае рабіць обыскі і адбіраць кнігі,—то мяйсцовыя жыхары, баючыся кары, пачалі тапіць гэтыя кнігі ў балотах, рэчках і паліць іх у агне. Але ўсё-ж удалося уратаваць 6143 кнігі замежнай літаратуры.

У той самы час зьнішчана і бібліатэка Выдранскае школы [218])

§ 123. У Невельскім павеце зьнішчана 1) бібліатэка Евреінавых, якая заховалася ў дварэ Ямянец, і 2) бібліатэка Конашова, належаўшая Жукоўскаму; апошняя бібліатэка дасягала да 3000 тамоў.

§ 124. Бібліатэка мэтэоролёгічнай станціі Бялыніцкага-Барулі, якая знаходзілася ў дварэ Новае-Каралева б. Вітабскага павету, зьнішчана мяйсцовымі жыхарамі. [219])

§ 125. Бібліатэка Янушкоўскіх у дварэ Тропы б. Вітабскага павету разграблена і зьнішчана, жыўшымі ў дварэ чырвонаармейцамі. [220])

§ 126. Той самы лёс зьнішчаньня пасьціг і невялікую бібліатэку двара Дыманава б. Вітабскага павету.

§ 127. Пасьля адходу ў 1918 г. немцаў з б. Дрысенскага павету (Вітабшчына) сяляне спалілі двор Грабніцкага, у якім была бібліатэка, меўшая каля 2000 тамоў, галоўным чынам—літаратуры па „земскаму“ пытаньню, а таксама больш сотні старакрыўскіх рукапісных кніг ад XII да XVI ст. ст.

§ 128. Сялянамі спален двор Каханавічы (Вітабшчына), які належаў Храпавіцкім; разам з будынкамі згарэла бібліатэка, якая складалася з некалькіх тысяч тамоў бэлетрыстыкі на францускай, нямецкай і расійскай мовах; была літаратура па гісторыі і па вясковай гаспадарцы.

§ 129. У Лепэльскім павеце тая самая доля зьніштажэньня дасягнула бібліатэкі Мяніцкага (у дварэ каля м. Ушач); зьнішчаная бібліатэка мела каля 2000 тамоў, галоўным чынам гістарычнай літэратуры.

---

[216]) Хозяйчики-охранники на скам'е подсудимых („Звезда“, Менск, 1924, № 260).

[217]) Гурык Г., Добры пачынъ („Дзянніца“ Москва, 1918; № 36).

[218]) Бояринасс. Судьба Выдренской библиотеки („Известия Чериковского Совета К., Р. и С. Д.“, 1918, № 1).

[219]) Дикие нравы („Известия Исполнит. Комитета Советов Запад. Области“... Смоленскъ, 1918, № 172).

[220]) Даклад праф. Сапунова ў справах Вітабскага Губархіва за 1920 г.

§ 130. У Восень 1918 г. ў м. Вяліжы, дзякуючы некаторым прыпадковым здарэньням, згінула значная часьць бібліатэкі і архіў Кузьміна (Івана Асіевіча). Паміж іншым, зьнішчана спэціяльная калекція кніг і брашур па пытаньню аб абвінавачваньню жыдоў у рытуальных злачынствах; кнігі былі на расійскай, польскай, нямецкай і францускай мовах; сярод іх былі ня толькі бібліаграфічныя рэдкасьці, але і унікумы. У склад архіву ўходзілі, паміж іншым: 1) перапіска Кузьміна па таму самаму пытаньню з рожнымі асобамі навукі і грамадзянскімі дзеячамі, 2) два зусім гатовых да друку рукапісы па памянутаму пытаньню, 3) шмат закмевак гістарычнага, крытычнага і бібліографічнага характару па закранутаму пытаньню.

§ 131. Архіў Буценёва-Хрэбтовіча, у м. Бешанковічах б. Лепельскага павету (Вітабшчына) быў зьнішчаны карацельным атрадам, які стаяў у палацах Хрэбтовічаў; у зьнішчаньні дакумантаў ім дапамаглі і мяйсцовыя жыхары.

Зьнішчаныя дакуманты архіву Б.-Хрэбтовічаў належалі да ліку яшчэ зусім не дасьледованых вучонымі, абыймалі яны эпоху з 1622 па 1750 г.г. і датыкалі галоўным чынам да прозьвішч Лукомскіх, Цяпінскіх, Хрэбтовічаў, Агінскіх. У аснову гэтага архіву былі паложаны дакуманты, перададзеныя са Слонімскага архіву Агінскага. [221])

Разам з архівам зьнішчана і бібліатэка.

§ 132. Бібліатэка Заранкі, якая знаходзілася ў Высачанскай вол. б. Вітабскага павету, была зьнішчана сялянамі; сярод кніг гэтай прыватнай бібліатэкі былі і рукапісы на пергаміне XVI ст.; некатарыя вялікія тоўстыя старадаўныя кнігі ўжываліся сяланамі да седзіва.

§ 133. „...быў прададзены на рынак старожай турмы ў 1918 годзе архіў Менскага турэмнага замку, расьцягана часьць архіву Губэрнскага Прысутства". [222])

§ 134. У часе нямецкай акупаціі Беларусі немцы прадалі на рынак архіў Менскага губэрнскага па вайсковых справах Прысутства. [223])

§ 135. У часе ўсупакоеньня вядомага Яраслаўскага паўстаньня згарэла бібліатэка А. Багдановіча (бацькі беларускага песьняра), якая была вывезена ўладаром з Менска і Горадні; бібліатэка мела некалькі тысяч тамоў рожнага зьместу (Лік тамоў і доля бібліатэкі азначаецца паводле слоў А Багдановіча).

§ 136. У Горадні ў часе рэвалюційных войн у пачатку 1919 г. надта рэдкія кнігі горадзенскіх бібліатэк прадаваліся на вагу, як агортная папера. [224])

§ 137. У часе акупаціі Віленшчыны і Горадзеншчыны немцы расьцягалі бібліатэкі і архівы; які лік быў расьцягнута відаць з таго, што ў Городне па вымаганьню Міністэрства Беларускіх Спраў нямецкі камандант выдаў загад, каб усе немцы, якія маюць тутэйшыя кнігі і дакуманты з архіваў, здалі іх Беларускому Міністэрству,—і зьвернутых назад кніг і дакумантаў было некалькі дзесяткаў тысяч. Але такі захад быў зроблены толькі

---

[221]) Дм. Довгялло, Отчетъ члена Археографической Комиссіи... („Древности", Москва, 1902; т. II, в. II).

[222]) І. Б. (Барашка). Цэнтральны Дзяржаўны Архіў С. С. С. Беларусі. („Савецкая Беларусь", 1923, № 31).

[223]) ibidem.

[224]) Старый Студентъ. Студенты („Голосъ Гродны", Гродна, 1919; № 2).

ў Горадне; у Вільні-ж і іншых мяйсцох да самаго канца 1919 г. у дробных крамках ужываліся на агортку тавароў кнігі і дакуманты з разграбленых бібліатэк. [225])

§ 138. У Менску прададзены на паперную фабрыку архівы апошніх часаў Менскага Губарнатара і Менскай Паліцэйскай Управы.

§ 139. У дварэ Баліны б. Дрысенскага павету (Вітабшчына) была бібліатэка, ў каторай знаходзілася сабранай уся заходна-эўропэйская літаратура ў вызначнейшых яе прадстаўніках; у 1919 г. чырвонаармейцы варылі сабе ежу гэтымі кнігамі.

§ 140. Бібліатэка Заблоцкага ў дварэ Варанова б. Вітабск. павету, якая складалася больш, чым з 3000 кніг рожнага зьместу на польскай і францускай мовах, часьцю разабрана ўсімі, хто цікавіцца кнігамі, часьцю загінула пры перавозцы яе ў валасную бібліатэку.

§ 141. Зьнішчана бібліатэка Лужынскага ў Любашкаве б. Вітабск павету. Бібліатэка складалася з 4000 тамоў гістарычнага і белетрыстычнага зьместу; у бібліатэцы захоўваліся і дакуманты вядомага дзеяча па зьнішчаньню уніі—архіерэя Лужынскага.

§ 142. У дварэ Ульянава б. Дрысенскага павету (Вітабшчына), які належаў Пржэздэцкаму, была бібліатэка, лік кніг якой даходзіў да 5000 тамоў. У пачатку рэвалюціі частка бібліатэкі была вывезена ўласьнікам заграніцу, а рэшта, якая застался ў дварэ, была зьнішчана сялянамі, якія, паміж іншым, выдранай з кніг паперай абклеівалі свае хаты, а часьць кніг была імі спалена.

§ 143. Зьнішчана даволі значная бібліатэка Лапацінскага ў дварэ Сарыя, б. Дрысенскага пав. (Вітабшчына), якая складалася з кніг па юрыспрудэнціі на некалькіх мовах.

Частку кніг удалося уратаваць і зьмясьціць у Дрысенскай гарадзкой бібліатэцы.

§ 144. У дварэ Адамёнкі (б. Аршанскага павету), які належаў Хлюсьціну, была бібліэтэка; частка яе была вывезена ў Вітабск і Оршу, частка разабрана рознымі асобамі, а частка—сялянамі.

§ 145. У Верацкай валасьці (б. Гарадоцкага павету, Вітабшчына) „бандытами“ спалены дакуманты і архіў Валаснога Выканаўчага Камітэту. [226])

**1920** год. § 146. У 1920 г. згарэлі старадаўныя палацы ў дварэ Жагулі (б. Вяліжскага пав., Вітабшчына); палацы паводле паданьня былі збудаваны ў XVI ст.; апошнім іх уладаром быў Ў. Пціцын. У часы рэвалюцыі ў гэтых палацах былі зьмешчаны сябры Савхозу, ад неасьцярожнасьці якіх і згарэлі будынкі. У ліку згарэўшага ў палацах былі помнікі старадаўнасьцяў, старадрукаваныя кнігі і дакуманты, сярод якіх было шмат цікавых і рэдкіх аўтографаў (параўн. з артыкуламі N (Мялешка, М.). Нашы старажытнасьці, „Вольны Сьцяг“, 1921 г., № 6).

§ 147. У Аршанскім павеце зьнішчаны архіў і бібліатэка Любамірскіх, якая займала чатэры пакоі. Шмат падзертых дакументаў архіву было раскідана каля будынкаў двара. Нязначная частка гэтага архіву, якая захавалася ад зьнішчаньня, была перавезена ў Аршанскі гарадзкі музэй.

---

[225]) В. Смолко, Пагібель старасьветчыны...

[226]) А. Крицкій (Пщелко), Подробности зверскогô убийства в Веречской волости („Известия Витебского Губ. Совета“... 1919. № 242. Витебск).

§ 148. У часы бітваў паміж расійцамі і палякамі каля Полацка ў 1919—1920 г.г., калі Полацк некалькі разоў кідаўся аднымі і другімі,—жыхары гораду разабралі гарадзкія бібліатэкі; разграблены быў такі шмат кніг, што ў 1921 г. Полацкая павятовая сэкцыя арганізавала „тыдзень бібліатэкі“ з поклічам да грамадзян зьвярнуць забраныя імі кнігі і абходам кватэр усіх грамадзян гораду з аглядам захованых імі кніжок сабрала значную бібліатэку.

§ 149. Бібліатэка Полацкага Богаяўленскаго манастыра значна пацярпела ад стаяўшых у манастыры чырвонаармейцаў Асобнага Аддзелу нейкай латышскай часткі.

§ 150. Шмат загінула кніг бібліатэкі Шышко, якая знаходзілася ў дв. Лузкінопаль (б. Сененск. п.), у час перавозкі кніг у валасную бібліатэку.

§ 151. Палякі, пакідаючы Беларусь, вывезлі з сабой часьць Менскіх архіваў. [227])

§ 152. Савнархозам („Совнархоз“) прададзены на паперую фабрыку (і спалены там) увесь архіў Менскага Ахраннага Аддзяленьня. [228])

§ 153. За час вайны і першыя годы рэвалюціі на Вітабшчыне загінула 68 архіваў: немцамі зьнішчана 11 архіваў, палякамі—15, латвійцамі—3, чырвонымі—4, пажарамі—9, лютаўскай і кастрычнікаўскай рэвалюцією—14, белымі—7, скарыстана Камбедамі і Рэўкомамі на канцэлярскія патрэбы—5 архіваў. [229])

У мястэчку Гнезна (Горадзеншчына) была ў касьцелі скрынка са старымі пергамінамі — больш 100 пергамінаў; нехта з вайсковых палякоў забраў гэты архіў бытцам для адсылкі ў Варшаву.

У часе обыскаў у „Беларускай кнігарні“ ў Вільні, робленых у сьнежні 1919 і ў студні 1920 г. з сабраньня В. Ластоўскага згінула 24 пергаміны XV—XVII ст. ст., шмат дакумантаў з архіву Турава-Пінскай Архібіскопіі і рукапісны на пергаміне Турава-Пінскі летапіс, першая часьць якога пісана ў 1021 годзе, а астанная часьць пісана рукой апошняга Пінскага князя (каля 1635 г.) Івана Фёдаравіча Яраславіча.

**1921** год. § 154. У 1921 г. у дварэ Турыне б. Ігуменск. п. (Меншчына) зьнішчана „багатая“ калекція па мінэралёгіі; адначасна зьнішчана і быўшая пры ёй бібліатэка. [230])

§ 155. Проці самых вакон канцэлярыі Вітабскага Губархіва зьнішчаны архіў Вітабскіх архіерэяў, які быў выкінуты з архіерэйскіх пакояў у стайню і на працягу некалькіх гадоў (пачынаючы з 1919 г.) разьбіраўся канюхамі Вітабскага Губвоеннкома і, ўрэшце, у 1921 г. быў канчаткова зьнішчаны.

§ 156. У 1921 г. дакончана нішачаньне юрыдычнай бібліатэкі Вітабскага Акружнага Суда.

---

[227]) І. Б. (Барашка), Цэнтр. Дзярж. Архіў С. С. Р. Беларусі („Савецкая Беларусь“ 1923 г. № 31).

[228]) Агурскій, Об архивах царской охранки в Белоруссии. („Звезда“, 1924, № 163).

[229]) Центроархив. Архивное Дело; в. І. Москва, 1923.

[230]) К., Дзікасьць („Савецкая Беларусь“, 1921 г. № 79).

§ 157. „Наша кніжнае багацьце з кожным днём тае... Як нішчацца бібліатэкі, відац з таго, што адна толькі Менская Пушкінская бібліатэка за апошнія рэвалюцыйная годы страціла 9000 тамоў. А колькі зьнішчана вартасьцяў школьных бібліатэк? [231])

§ 158. У Аршанскім жаноцкім Куцеінскім манастыры гніюць, лежачы ў вільгаці, старадрукаваныя кніжкі друкарні Куцеінскага манастыра; частка гэтых кніг мае вартасьць бібліаграфічных рэдкасьціяў. [232])

§ 159. У першыя годы рэвалюцыі, у час ліквідацыі панскіх маёнткаў, з аднаго толькі Вітабскага павету было зьвезена ў Вітабск больш 50 тысяч кніг на польскай мове (праца гэтая была праароблена супрацоўнікам аддзелу асьветы Васілеўскім, паводле слоў якога і адзначана лічба). А між тым у 1922 г. адзінаццаць Вітабскіх бібліатэк мелі ўсяго толькі 89.323 кнігі, з якіх у польскай мове было толькі 2—3 тысячы кніг. [233]) Дзе дзелася рэшта 47 тысяч кніг? Ёсьць данныя, што шмат кніг меліся адправіць на паперныя фабрыкі. [234])

**1923** год. § 160. У „Савецкай Беларусі“ ад 9 кастрычніка 1923 г. пад № 231 зьмешчана такая зьменка: „У гарадох на рынках і ў вёсках па ўсёй Вітабшчыне ў крамках ідзе распрадажа самых лепшых новых кніг, якіх няма і ў нашых бібліатэках. А там яны ідуць на курава і на абкрутку селядцоў. У той час, калі ў нас такая патрэбнасьць у кнігах, такога барбарства мы ня маем права дапускаць. Нам трэба, калі не забараніць прадажу, дык хоць старацца ўсімі сіламі купляць іх для сваіх бібліатэк. Кожды крамнік з ахвотай абмяняе кнігі на якія-небудзь старыя газэты.“

§ 161. Супрацоўнік Менскага Цэнтраархіву І. Барашка апавядае: „Трапілася мне паехаць па архіў у адзін з Савхозаў. Прыязджаю. Паказуюць мне архіў на гарэ. Перш, чым узяцца за працу, я рашыў агледзіць будынкі двору, трапіў у кухню да загадчыка, і што вы скажаце?.. Бачу пад гарачай патэльнай каштоўны дакумант з архіву.

Або яшчэ другі факт.

Неяк выпадкова даведаўся Центраархіў, што ў „Доме Селяніна“ у Менску заховуецца архіў графа Сямашкі. Атрымаўшы дазвол забраць архіў, зьвяртаюся я да адпаведнай асобы аб выдачы.

Мне адказуюць, што ніякага архіву няма, а ўсяго толькі ёсьць перапіска гр. Сямашкі ды і то са старых гадоў.

Прашу, каб паказалі. Вядуць у склеп, і вось сярод паламаных мэбляў, раскіданных па ўсім склепе, стаіць адчыненая скрыня з грудай пакрытых плесьняю архіўных дакумантаў, дзе, акром перапіскі, звалены былі інвэнтары маёнткаў XVIII стагодзьдзя, маніфэсты Аляксандра І і інш. дакуманты.“ [235])

§ 162. „Звезда“ адзначае нішчаньне бібліатэк у хатах-чытальнях. Адначасна адзначаецца знаходжаньне ў сялян астаткаў былых панскіх і школьных бібліатэк. [236])

---

[231]) Энга. Бібліатэкі. („Савецкая Беларусь“, 1921. № 192).

[232]) N (М. Мялешка), Нашы старажытнасьці („Вольны Сьцяг“, Менск, 1921, № 6), б. 37.

[233]) Отчет Витебского Губернского Исполнительного Комитета к X с'езду советов. Витебск, 1922, бб. 556—557.

[234]) Алеся Гаротная (Шлюбскі), Бібліатэчныя справы на Вітабшчыне („Савецкая Беларусь“, 1923, № 26).

[235]) Ўл. Барашка, Беражэце архівы! („Савецкая Беларусь“ 1923, № 27).

[236]) Р. Шукевичъ-Третьяковъ, Спасайте волостные библіотеки! („Звезда„ Менск, 1923, Nr. 186).

§ 163. У Магілёве адпраўлены на паперныя фабрыкі ў Дабруджу і ў Шклоў архівы б. Магілеўскага Дваранскага Сабраньня і б. Магілеўскай Духоўнай Кансысторыі. [237])

§ 164. Бібліатэка і архіў Хмараў у дварэ Сёмкава-Гарадка (Меншчына) зьнішчаны. Нязначная частка архіву зьмешчана ў Беларускім Цэнтраархіве. [238])

**1924** год. § 165. „У савхозе „Красный Октябрь“ (Шацкага раёну, Менскага округу) з даўных часаў яшчэ асталася цэнная бібліатэка. За час рэвалюцыі яе нялітасна зьнішчалі. Спачатку пачалі расцягаць кніжкі, пісаныя на расейскай мове, пасьля—на польскай. Рэшту польскіх кніг забраў быўшы Чэрвенскі Упнарым. Асталося яшчэ шмат кніг, пісаных на ангельскай, французкай і лацінскай мовах, якія пераносілі з аднаго пакою ў другі разоў два і шмат папсавалі. Але і цяпер яшчэ можна скарыстаць гэту бібліатэку: можна думаць, што тут ёсьць шмат цэннага.“ [239])

§ 166. „У архіве Вітабскага манастыра сьв. Марка былі граматы, пісаныя крыўскай мовай літоўска-крыўскімі князямі, але яны дзесь загінулі.“ [240])

§ 167. На наступных старонках §§ 168—263 ўкл. мы падамо некатарыя данныя аб нішчаньню кніг і рукапісаў, якія нельга дапасаваць да якой азначанай даты з прычыны нястачы акуратных вестак.

§ 168. Калі на Беларусь вязьліся праз Польшу кнігі Ф. Скарыны, выдрукаваныя ў Празе, то вялікі іх лік прапаў у дарозе: яны былі зьнішчаны палякамі, якія прасьледавалі Скарыну; Скарына адзін час палякамі быў арыштаваны і нават засуджаны „къ сожженію.“ [241])

У навуцы ёсьць данныя, якія сьведчаць аб тым, што некатарыя кнігі, выдрукаваныя Скарынай, не дайшлі да нас ні ў адным экзэмпляры. [242])

§ 169. Войнамі зьнішчана часьць кніг Галоўнага Літоўскага Трыбуналу і Земскага суда ў Вільні. [243])

§ 170. Пасьля французаў (1812 г.) па ўсім Смаленску былі раскіданы справы і дакуманты смаленскіх архіваў. [244]).

§ 171. Кнігі Валкавыскага Земскага Суда нет ведама чаму пачынаюцца толькі з 1705 г. [245])

---

[237]) Беларуская Культасьветная праца на Гомельшчыне („Савецкая Беларусь“, Менск, 1923, № 39).

[238]) Ал. Шлюбскі, Лёс бібліатэкі і архіву Сёмкава-Гарадка („Савецкая Беларусь“, 1923, № 172).

[239]) Верас, Зьвярніце ўвагу на бібліатэку. („Савецкая Беларусь“, Менск, 1924, № 225).

[240]) Ал. Сянкевіч, Наша культурна-гаспадарчае жыцьцё („Савецкая Беларусь“, Менск, 1924, № 253).

[241]) И. Козловскій, Судьба русскаго языка въ Литвѣ и на Жмуди. („Вѣстникъ Западной Россіи, Вильна, 1869, т. IV, кн. XII, аддз. II, б. 85—86). Гл.: Historya literatury polskiej M. Wiszniewskiego, t. VIII, б. 478.

[242]) Е. Карскій, Бѣлорусы, т. III, в. 2. Петроградъ, 1921; б. 28—29.

Гл.: В. Ластоўскі, Доктар Францішак Скарына („Крывіч“, Коўна. 1924, б. 13).

[243]) В. Иконниковъ, Опытъ русс. исторіографіи, I, I; б. 498.

[244]) А. Жиркевичъ, Смоленскіе архивы въ 1812 г.; б. 359.

[245]) Иконниковъ, Опытъ русс. исторіографіи, I, I; б. 467.

§ 172. Цікавы выпадак здарыўся з кнігамі Віленскага гарадзкога суда, якія былі выдзерты з вокладак, зьмяшаны паміж сабой і кінуты ў склеп; аб ліку загінуўшага матэр'ялу можна мяркаваць па зложаных клунках з падзертых кніг, выпадкова знойдзеных; лік гэтых клункаў даходзіў да 145, па 600—700 лістоў у кождым. [246])

§ 173. Вялікі лік дакумантаў юрыдычнага зьместу зьнішчана рожнымі злачынцамі пры падробцы дакумантаў, чаму дапамагала нават архіўная адміністрацыя: часта на мейсца зьнішчаных дакумантаў укладаліся падробленыя. [247])

§ 174. Як хутка зьнікала старадаўнае рукапіснае багацьце,—сьведчаць інвэнтары некатарых беларускіх манастыроў, больш чым другія ўстановы багатых кнігамі і рукапіснымі зборамі. Гэтак, прыкладам, паводле сьпісу бібліатэкі Супрасльскага манастыра, ў 1557 г. у ім лічылася 211 кнігі, з якіх толькі 7 былі „битыя". Паводле сьпісу 1668 г. у бібліатэцы лічылася 190 кніг, а ў 1818—усяго толькі 15. У інвэнтары Лешчынскага манастыра ў 1520 г. паказана 30 кніг, з якіх толькі 5 „битыхъ"; праз сто гадоў у тым самым манастыры лічылася друкаваных кніг толькі 10. [248])

§ 175. Выпадковы пажар у кватэры прафэсара Віленскага Унівэрсытэту Баброўскага зьнішчыў яго рукапісы. [249])

§ 176. Бібліатэка смаленскага архіерэя Парфенія, якая мела шмат рукапісаў, у пачатку XIX стагодзьдзя разыйшлася па розных руках, а частка рукапісаў, якія былі зьмешчаны ў смаленскую эпархіальную бібліатэку, прапала. [250])

§ 177. Пры пажары Пінска ў сярэдзіне XIX ст. згарэла бібліатэка Пінскага Дваранскага вучылішча, куды перадаваліся кнігі з канфіскаваных у 1831 г. прыватных бібліатэк. [251])

§ 178. Бібліатэка Маліноўскага ў Вільні была распрададзена паліціяй у прыватныя рукі за нейкія яго даўгі, [252]) а часьцю яна была раскрадзена. [253])

§ 179. У Смаленшчыне адзначаны выпадкі, калі сьцены сялянскіх хат абклеіваліся гістарычнымі дакумантамі. [254])

---

[246]) В. Лялинъ, Виленскій Центральный Архивъ. („Сбор. Арх. И-та", I, 1878); бб. 27—28.

[247]) ibidem; б. 27; В. К. Голубъ, Пятидесятилѣтіе Виленскаго Центральнаго Архива древнихъ актовыхъ книгъ. Вильна, 1902; б. 21.

[248]) Миловидовъ, Рукописное отд. Виленск. пуб. биб... б. 1—3.

[249]) Бобровскій, П., Судьба Супрасльской рукописи („Журналъ Министерства Народнаго Просвѣщенія".—Спб. 1887, X); б. 293.

[250]) Н. Мурзакевичъ, Исторія г. Смоленска; б. 26.

[251]) Дѣло № 133 за 1852 г Виленскаго Цензурнаго Комитета. Заховуецца ў Вітабскім архіве.

[252]) Дѣло № 208 за 1858 г. Виленскаго Цензурнаго Комитета (заховуецца ў Вітабскім архіве).

[253]) А. П. Владиміровъ, Изъ новѣйшей лѣтописи сѣверо-западной Россіи („Русская Старина", 1885, X); б. 117.

[254]) Н. Добротворскій, Историко-археологическій музей въ Смоленскѣ („Историческій Вѣстникъ", Спб, 1888, т. XXXIV) б. 525.

§ 180. Дакуманты, якія належалі архіву Жыравіцкага манастыра „рожначасна забіраліся рожнымі асобамі, якія не пакінулі ніякіх сьлядоў прыналежнасьці іх манастыру.“ [255])

§ 181. Стасунак праваслаўнага духавенства да кніг і рукапісаў надта добра характэрызуе дыалёг, які быў ў 1904 г. паміж Смаленскім архіерэям Пятром Другавым, які атрымаў высокую адукацію (скончыў унівэрсытэт і духоўную акадэмію), і археолёгам А. Жыркевічам: „Калі я заўважыў біскупу,— апавядае Жыркевіч [256])—аб тым, што ў 1812 г. згарэлі ўсе архівы Смаленска, а уцалеў толькі кансысторскі архіў, то ён, пры бытнасьці трох асоб з вышэйшага духавенства г. Смаленска, сказаў мне паважна: „Мы з вамі тут расходзімся ў поглядах. Вось у Вільні ўратавалі архіў, а я шкадую, што кансысторскі архіў ня згінуў у 1812 г.“—„Але чаму-ж?“ усклікнуў я: „дык-жа ў ім гістарычныя дакуманты з двох стагодзьдзяў!“—„Кляўзы папоў на папоў“—,паправіў мяне владыка: „лепш бы яны згарэлі!... А то толькі клопат з пераховам гэтага драньца“... Няма што казаць, што калі біскуп так адзываецца аб старасьветчыне, то чаго можна чакаць у гэтым кірунку ад падуладнага яму духавенства! Гісторыя са смаленскімі рызніцамі і царкоўна-археолёгічным музэям хутка пацьвердзілі мае боясьці. Трэба заўважыць, што біскуп Пётр слыве любіцелям і знаўцом акурат „Отечественной войны.“

§ 182. У царкоўных бібліатэках навейшых часаў заўважана зьніканьне старадаўных кніг, нават запісаных у опісе; здарылася гэта з прычыны таго, што старадаўныя кнігі ў сьпісах лічыліся, як самыя звычайныя. [257])

§ 183. У Вітабскім Маркавым манастыры ў 1887 г. між кнігамі і дакумантамі заховываліся тры аўтэнтыкі грамат, якія былі дадзены манастыру Аўгустам III (1752—1756 г.г.) і Станіславам-Аўгустам (1756 г.) [258]); калі-ж гісторыку Вітабшчыны А. Сапунову былі патрэбны гэтыя граматы пры складаньні яго „Витебской Старины“, то яны аказаліся нявeдама куды зьнікшымі.

§ 184. Ось вандальскі прыклад нішчаньня крыўскіх старадаўнасьцяў. У Смаленскім царкоўна-археолёгічным музэі быў вялікі лік старадрукаваных кніг, рожных рукапісаў, гістарычных запісак, папак з гравюрамі і малюнкамі, якія былі сабраны аматарамі тутэйшых старадаўнасьцяў. У 1898 г. вышэйпамянёны смаленскі архіерэй Пётра Другаў загадаў выкінуць гэты музэй у сені і ў другія пакоі, разам з бібліатэкай брацтва Аўраамія. Пакоі-ж, якія спэціяльна былі прыгатаваны для музэю, былі аддадзены архіерэем на кватэру для яго сваякоў, якія служылі ў Акцызным Кіравецтве. З гэтага часу пачалося разбіраньне і музэю, і бібліатэкі, і рукапісаў рожнымі асобамі. Цягнулі—хто старадаўны трэбнік для свае патрэбы, хто каштоўныя ілюстраваныя выданьні для сваіх пакояў... [259]) А калі з Пецярбурга, куды дайшлі весткі аб вандальстве архіерэя, прыехала рэвізія, то музэй спаляецца, каб загладзіць сьляды злачынства архіерэя „открытаго врага старины.“ Так у XX

[255]) (Паевскій, Л.), Наши провинціальные архивы и ихъ значеніе для западно-русскаго края. Гродно. 1894; б 5, 17

[256]) А. В. Жиркевичъ, Смоленскіе архивы въ 1812 г., бб. 345—346.

[257]) В. Лялинъ, Витебскій Центр. Архивъ; б. 62.

[258]) С. Василевскій, Витебскій Марковъ Св.-Троицкій мужской монастырь. Витебскъ. 1887; б. 32.

[259]) А. Жиркевичъ, Еще одинъ археологическій покойникъ. („Историческій Вѣстникъ“, 1907, № 6).

стагодзьдзі загінуў музэй старадаўных рэчаў, кніг і рукапісаў... [260]) Аб гэтым здарэньні гл.: Алесь Смаленец, „Да стацьці В-ста: Аб паленьні кніг на Беларусі" („Крывіч", Коўна, 1924, № 2.)

§ 185. Аб нішчаньні беларускіх дакумантаў каталіцкімі ксяндзамі і польскімі панамі гл.: Западноруссъ, „Церковныя архивы въ Западной Россіи и на какія соображенія наталкиваютъ нѣкоторые документы, хранящіеся въ нихъ?" („Вѣстникъ Западной Россіи" Вильна, 1865, т. II, Январь, отд. IV, б. 431, 435—436).

Шмат цэннага гніе ў цішы сырых манастырскіх каморак і пыльных складах вясковых царквей: „загляньце ў бібліатэкі некатарых парахіяльных старадаўных царквей, і вы знойдзеце тут толькі вільгаць кнігасховаў, пыл, які пакрывае кнігі, і псаваньне іх мольлю і мышамі." [261]) Каштоўнасьці няпрыкметна пераходзілі ў рукі агентаў Маскоўшчыны, якія часта сталі аглядаць беларускія цэркві і манастыры. Дасьледчыкі, якія маюць справу з царкоўнымі архівамі, кажуць аб размножаньні плесьні на дакумантах царкоўных архіваў, як аб самым звычайным зьявішчы. [262])

§ 186. Архіў Магілеўскага эпархіяльнага музэю, які быў зложаны з „хлама", валяўся ў скляпох кансысторыі і на вышках архіерэйскіх пакояў. [263])

§ 187. У 60-х годах XIX ст. архіў Менскага архіерэя быў багаты гістарычнымі дакумантамі [264]), але ў канцы таго самага стагодзьдзя гэтых дакумантаў у архіве не аказалася. [265])

§ 188. Дакуманты Магілеўскай Духоўнай Кансысторыі да 1889 г. зьмяшчаліся на званніцы. [266])

§ 189. Дакуманты архіваў Менскай Духоўнай Кансысторыі і Магілеўскага Дўхаўскага манастыра пераховываліся надта няўважліва. [267])

§ 190. Архіў старасьвсцкіх дакумантаў Полацкай Духоўнай Кансысторыі да 1898 г. захаваўся вельмі кепска. [268])

§ 191. Ёсьць весткі аб вывазе ў Грузію Вітабскім архіерэям Кірыонам, вялікім аматарам старасьвечыны, кніг і рукапісаў Вітабскага царкоўна-архэолёгічнага музэю, [269]) але гэта даводна не ўстаноўлена, і некаторыя з гэтым нязгодны.

Мы з свайго боку можам адзначыць, што, напр., справа аб Маркаўскім манастыры (Вітабскім), перададзеная ў Вітабскі царкоўна-архэолёгічны музэй Д. Вішнеўскім, [270]) пасьля выезду Кірыона зьнікла з паміж рукапісаў памянёнага музэю. Справа гэта была на 150 аркушах.

---

260) А. В. Жиркевичъ, Ив. Ив. Орловскій. Вильна. 1919; бб. 125—126, 129.

261) „Церковныя Вѣдомости". Спб. 1907, № 4; б. 160.

262) О. М. Киселевъ, Братства въ г. Велижѣ въ концѣ XVIII и началѣ XIX ст. („Витебскія Губ. Вѣдомости", 1890 г. № 89).

263) А. Сапуновъ, Архивъ въ гг. Могилевѣ и Минскѣ („Древности" Москва, т. II, в. II, 1902 г.) б. 313.

264) Арх. Николай, Историко-статистическое описаніе Минской епархіи. Спб. 1864.

265) Ст. Рункевичъ, Исторія Минской Архіепископіи. Спб. 1893; б. XIV.

266) А. Сапуновъ, Архивъ въ гг. Могилевѣ и Минскѣ; б. 316.

267) ibidem. 316, 318.

268) А. Сапуновъ, Архивъ Полоцкой Духовной Консисторіи, Москва. 1902; б. 3.

269) N. Наши старажытнасьці, б. 36.

270) Довгялло, Марковскіе гайдамаки. Витебскъ, 1896; б. 3.

§ 192. Надта цікавае здарэньне апісваецца ў адным нарысе: „У адно з мястэчак, Магілеўскай эпархіі, дзе быў сьвятаром мой сваяк,—апавядае аўтор— ў годы майго студэнцтва, чакаўся пріезд архіерэя. Я праводзіў там вакаціі. Прыцяглі і мяне да прыгатаўленьня. Парадкаваў я царкоўны летапіс і г. пад. Аднойчы вечарам кажа дзядзька: „Схадзі, калі ласка, ў царкву. Там дзяк парадкуе бібліатэку,—памажы яму разабраць кнігі." Іду. У пацёмку, пры сьвятле тоненькай васковай сьвечкі, над сталом, закіданым грудамі кніг, стаіць з задумлёным выглядам дзяк, і, час ад часу, са славамі „гэта ў печ" кідае на памост кнігі, якія мелі асабліва стары выгляд. Я нахінуўся над утварыўшайся ўжо даволі вялікай грудай кніг, прызарочаных на спаленьне,—і што-ж? У аднэй з кніг, абарванай, без аправы, бачу рукапіснае Евангельле ды яшчэ з вельмі характэрнымі увагамі на белягох аднаго з сьвятароў XVIII стагодзьдзя." [271])

§ 193. Выдатны помнік крыўскае пісьменнасьці XI ст.—Тураўскае Евангельле было знойдзена ось якім парадкам: віленскі мастак Грязноў, [272]) аглядаючы царкву ў Тураве (б. Мазырскі павет), убачыў сярод рожнага царкоўнага хламу вялікую скрынку з вугальлем; калі апошнія былі высыпаны, то ў скрынцы знайшлі старадаўныя рукапісы, ў тым ліку—і памянёны помнік XI ст. [273])

§ 194. У бязладзьдзі, бяз сьпісаў, на палову раскрадзеная трымалася бібліатэка Жыравіцкага Духоўнага вучылішча (Горадзеншчына), атрыманая як спадчына, ад быўшай тут архіерэйскай рэзыдэнціі і духоўнай сэмінарыі, якія ў свой чарод атрымалі кнігі ад берасьцейскіх езуітаў, базыльянаў і з іншых мейсц.

Частка архіву Жыравіцкага манастыра, ня вывезеная ў Вільню, раскрадывалася рожнымі асобамі. [274])

§ 195. Бібліатэка Жыравіцкага манастыра, заснаванага ў XV ст., як і бібліатэкі іншых манастыроў, раскрадзена. [275])

§ 196. Праф. Даніловічам было сабрана шмат беларускіх дакумантаў, няведама куды захаваных; [276]) аб некатарых дакумантах яго сабраньня вядома, што яны зьнішчаны. [277])

§ 197. Праф. Бабpоўскі і бібліафіл Сасноўскі, якія ў 30-х годах XIX ст. жылі ў Вільні, атрымлівалі вялікі лік самых цэнных па сваёй старадаўнасьці і пісьму рукапісаў з бібліатэкі Супрасльскага манастыра. Шмат з гэтых рукапісаў зьнікла ці апынулася за граніцай Беларусі, напр.,—у Любліне, у

---

[271]) П. Красавицкій, Памятники церковной старины Полоцко-Витебскаго края и ихъ охрана („Полоцко-Витебская старина", 1911, Витебскъ, кн. I), б. 31.

[272]) А. Киркор знаходжаньне помніка прыпісвае Н. І. Соколову і адносіць яго да 1865 г. („Живоп. Россія" III, 1882; б. 326).

[273]) (Н. И. Петровъ), Бѣлоруссія и Литва. Спб. 1890; увага б. 152.

[274]) Л. Паевскій, Жировицкій и Брестъ-Литовскій архивы („Труды IX археологическаго съѣзда въ Вильнѣ", Москва, 1895, т. I); б. 300—303.

[275]) Добрянскій, Описаніе рукописей Виленской Публичной библіотеки. Вильна. 1882; б. XXXVIII.

А. Архангельскій, Очерки изъ исторіи западно-русской литературы XVI—XVII вв. („Чтенія въ общ. ист. и древност. россійскихъ". Москва, 1888, I), б. 28.

[276]) Дневникъ Люблинскаго сейма 1569 г. Спб., 1869; б. XIII.

[277]) С. Бѣлокуровъ, Русскія лѣтописи („Чтенія въ общ. ист. и древностей Россійскихъ", 1898 г., кн. IV, б. IX.

Пецярбурзе і нават у Чэхіі. Яны бралі рэдкія дакуманты і з другіх бібліатэк напр.,—Віленскай Мікалаеўскай царквы, якія пайшлі заграніцу разам з бібліатэкай Баброўскага. [278])

§ 198. Супрасльскі летапіс,—старадаўнейшы помнік, які мае вялікае значэньне у славянскай пісьменнасьці,—знойдзены ў пачатку XIX ст. у Супрасльскім манастыры (20 вёрст ад Беластоку), дзякуючы таму, што яго вельмі ўважліва дасьледавалі, падзелены на тры часьці: адна часьць заховуецца ў Юга-Славіі ў Любляне (Лейбаху), другая—у Варшаве, трэцьцяя—ў Пецярбурзе. [279])

§ 199. Дзякуючы старэннасьці так празваных „мѣстныхъ изслѣдователей“, з Лешчынскага манастыра (Пінскага павету) прапала шмат дакумантаў. [280])

§ 200. Адзін час па ўсей Беларусі зьбіраў старасьветчыну і кнігі Менскі археолёг, пан Татур, які быў дастаўшчыкам беларускіх старадаўнасьцяў заграніцу і які такім парадкам шмат чаго пераправіў за межы Беларусі. [281])

§ 201. Стасунак афіціяльнай Маскоўшчыны да заховы нашых крыўскіх рукапісаў і кніг надта характэрна выявіўся у візытах ў Вітабскі Цэнтральны Архіў аднэй начальніцкай асобы; гісторыя маўчыць аб прозьвішчы гэтага маскалізатара, які публічна выказаў сваё зьдзіўленьне, чаму улада так клапоціцца аб гэтым „хламѣ“, [282]) гэта—аб актавых кнігах Вітабшчыны і Магілеўшчыны XVI—XVIII ст.

Віленскі археолёг А. Жыркевіч, які ў свой час аддаў шмат энэргіі на адшуканьне і скуплю у жыдоў гістарычных дакумантаў з прададзеных жыдом урадовых архіваў, адкрыта робіць заяву ў друку аб неўважлівасьці маскоўскіх чыноўнікаў на Беларусі да астаткаў старадаўнасьцяў, якія не знаходзілі нічога лепшага, як толькі зьнішчаньне гістарычных дакумантаў. [283]) У друку адзначана, як неўважліва адносілася адміністрацыя да заходаў Смаленскай Вучонай Архіўнай Камісіі, каб ёй далі які-колечы будынак, дзе можна было-б захаваць бібліатэку Камісіі і ўпарадкаваць цэнныя Смаленскія архівы, якія бяз прыгляду гнілі ў вільготных не ацепляных і не праветрываных вежах Смаленскай сьцяны. [284])

Ось як апісываецца адзін са смаленскіх архіваў тае пары: „Цяперашні Смаленскі Губэрнскі Архіў пераховуецца ў так званай Громавай вежы. Вы-

---

[278]) Ф. Дробянскій, Описаніе рукописей Виленск. пуб. биб., б. XXXIV—XXXVIII; П. Бобровскій, Дополненіе къ ст.: „Судьба Супрасльской рукописи“ („Жур. Министерства Нар. Пр.“ 1887, XII); б. 314.

[279]) П. Бобровскій, Судьба Супрасльской рукопси („Жур. Мин. Нар. Пр.“ 1887 X); б. 268, 303.

[280]) А. И. Миловидовъ, Архивъ упраздненнаго Пинскаго Лещинскаго монастыря („Чтенія въ общ. ист. и др. росс.“ 1900, II), б. 5.

[281]) П. Красавицкій, Памятники церковной старины Полоцко-Витебскаго края и ихъ, охрана; б. 33.

Гл. закмеўку Дм. Довгялло ў „Запискахъ Сѣверо-Западнага отдѣла Русскаго Географич. общ.“ Вильна; кн. 2; б. 408.

[282]) Лялинъ, Витебскій Центральный Архивъ; б. 56.

[283]) А. Жиркевичъ, Свѣжо преданіе, а вѣрится съ трудомъ („Историч. Вѣстникъ“, 1902, IX); бб. 709, 770, 772.

[284]) Смоленская Ученая Архивная Комиссія („Историческій Вѣстникъ“, 1909, т. CXV); б. 1249.

бар памяшчэньня аказаўся так няўдатным, што смаленскую губэрнскую адміністрацыю можна западозрыць ў хаценьні так ці іначай адкараскацца ад рэштак старога архіву. Такога мокрага і бруднага будынку для архіву я ня бачыў у ніводным другім губэрнскім горадзе, акром Смаленска. У параўнаньні са Смаленскам, такжа вільготнае і цёмнае памяшчэньне валагодзкага губэрнскага архіву гэта—палац. Скіданыя ў гурбы паперы гніюць і буцьвеюць, а смаленскім ваяводам і ў галаву ня прыдзе заглянуць у Громаву вежу, хоць апошняя знаходзіцца зусім блізка ад губэрнатарскага дому." [285])

§ 202. У Вільні прададзены ў крамы архіў Віленскага Гарадзкога Паліцэйскага Кіравецтва, ў якім было шмат цэнных дакумантаў з гісторыі Вільні і Віленшчыны: а) аб быце каталіцкага духавенства, б) аб Віленскім унівэрсытэце, в) аб часе, калі ў Вільні былі французы (1812 г.), г) аб масонах, д) аб патайных гурткох, е) аб жыдох, ж) дакуманты з аўтэнтычнымі аўтографамі польскіх каралёў, імпэратараў Маскоўшчыны і рожных дзяржаўных дзеячоў.

Да прадажы архіў гэты заховываўся вельмі няўважна: „...аграмаднае памяшчэньне, закіданае старасьвецкімі дакумантамі рожных часаў, між якімі трапляліся справы канца XVIII ст. Вецер і дождж безперашкодна ўрываліся ў пакоі разам з галубамі, якія пакідалі на паперах сьляды сваіх адведзін... звыклы абраз нашых закінутых архіваў—безладзьдзе, пыл, гразь, сморад; памост засланы справамі, з якіх многія пад уплывам вільгаці даўно ўжо абярнуліся ў смуродную кашу." З выпадковых астаткаў прададзенага жыдом архіву віленскія аматары старадаўнасьцяў сабралі сабе калекціі аўтографаў і гістарычных дакумантаў. [286])

§ 203. Архіў Асобнай Канцэлярыі Віленскіх Генерал-губэрнатараў быў выкінуты з шаф у будынак каля стайні генерал-губэрнатарскага палацу, дзе зьмяшаныя ў кучу паперы архіву, якія пераховывалі першакрыніцы па абмаскаліваньню Крывіі, старадаўныя малюнкі, карыкатуры на Напольёна І і Аляксандра І, рожныя канфіскаваныя партрэты і кнігі (сярод апошніх былі і бібліаграфічныя рэдкасьці),—на працягу 20 гадоў ішлі ў печы замест дроў, браліся на распалку самавараў і на іншыя гаспадарскія патрэбы; наагул, расьцягаліся кождым, хто хацеў [287]), нішчыліся пад выспарожынамі людзей і скацежы. [288])

§ 204. Прапалі нет ведама куды пасланыя з Вітабску у Пецярбург у 1803 г. 9 аўтэнтычных грамат, якія былі дадзены Вітабску польскімі каралямі. [289])

§ 205. А ось як апавядае сучасьнік аб перахове старадаўных актавых кніг Вітабшчыны і Магілеўшчыны, якія ад 1862 г. пачалі зьмяшчаць у Вітабскім Цэнтральным Архіве: „Зьнешнасьць актавых кніг носіць яўныя сьляды долі, якой падпалі яны і ад рожных прыпадкаў і ад неасьцярожнага парахову: ёсьць кнігі (з полацкіх) да аднэй трэцяй часьці абгарэлыя з хрыбта і абрэзу; на іншых кнігах відаць, што яны моклі, а ў большасьці

[285]) В. Алексѣевъ, Архивныя мытарства („Историческій Вѣстникъ", 1910, т. CXXII), б. 1037.

[286]) А. Жиркевичъ, Свѣжо преданіе, а вѣрится съ трудомъ; бб. 760—762.

[287]) ibidem, б. 766—768.

[288]) ibidem, б. 772.

[289]) А. Сапуновъ, Привиллегіи, данныя королями польскими г. Витебску („Полоцко-Витебская Старина" 1912, кн. 2.); б. 327.

пашкоджаны ад перахову ў мокрых будынках і ад перавозкі ўсіх архіваў Вітабскай губэрні ў 1812 г. ў Вялікія Лукі; многія без пачатку, без канца..." [290])

§ 206. У 60-х годах мінулага стагодзьдзя ледзьве не загінуў каштоўны дакумант па дасьледаваньню асьветы на Беларусі—„Отчетъ проф. С.-Петербургскаго Университета Сенковскаго объ осмотрѣ въ 1826 г. Бѣлорусскихъ училищъ", напісаны на 531 балонцы, які ў ліку другіх папераў канцэлярыі Віленскага Вучомнага Округу быў празначаны да зьнішчаньня. [291])

§ 207. Вітабская гарадзкая публічная бібліатэка, якая мела ў 1865 г. 400 тамоў,[292])—а пасьля разраслася ў вялікую бібліатэку,—губэрнатарам фон-Валем была прададзена, а будынак бібліатэкі быў аддадзены вольна-пажарнаму т-ву (паводле слоў нябошчыка А. П. Сапунова).

§ 208. Паперы і кнігі Магілеўскага Губэрнскага Кіравецтва, за час ад 1773 па 1847 годы зьніклі бязсьледна. [293])

§ 209. Паперы Лепэльскае Думы і Лепэльскага Сіроцкага Суда звалены ў аруды клеці ў падворку, дзе знаходзілася кватэра думы. [294])

§ 210. Па загаду 3 дэпартаманту Сэнату ў 1800 г. губэрнатары ўсяе этнографічнае Беларусі даставілі ў Сэнат апісаньне вучылішч усіх беларускіх губэрняў. Калі-ж у 1892 г. гэтыя дакуманты запатрэбіліся, то яны не знайшліся ні ў Сэнацкім архіве, ні на мяйсцох, адкуль яны пасылаліся: яны аказаліся зьнішчанымі. [295])

§ 211. Няўважна заховываліся надта цікавыя дакуманты ў Вярхоўскай воласьці (б. Парэцкага, цяпер Дзямідаўскага павету Смаленшчыны); дакуманты належалі быламу „Верховскому удѣльному приказу", якія ў сваім ліку мелі загады галоўнакамандуючых арміямі 1812 г. і каштоўныя матэр'ялы аб старадаўных судох. Гэтыя цэнныя дакуманты знаходзілі ў крамах г. Парэчча (цяпер Дзямідава), дзе яны ўжываліся на агортку тавараў. [296])

§ 212. Кнігі беларускіх уніяцкіх друкарняў, якія ў 30-х годах XIX ст. зьбіраліся ў Полацкай духоўнай кансысторыі са ўсей Беларускай эпархіі [297]), паступова нішчыліся. Колькі было зьнішчана кніг, сьведчыць тагочасная тэрыторыя Беларускай Эпархіі, з кождай парохіі якой адбіраліся уніяцкія кнігі. Беларуская Эпархія ў той час складалася з Вітабшчыны, Магілеўшчыны, паветаў Меншчыны: Дісенскага, Барысаўскага, Ігуменскага, Бабруйскага, Рэчыцкага і Мазырскага, паветаў Валыншчыны: Житомірскага і

---

[290]) Историко-юридическіе матеріалы, извлеченные изъ актовыхъ книгъ губерніи Витебской и Могилевской... I. Витебскъ, 1871; б. LIII.

[291]) А. Новоселовъ, Ревизія проф. Сенковскимъ бѣлорусскихъ училищъ въ 1825 г. („Журналъ Министер. Нар. Пр." 1872, ч. CLX), б. 159.

[292]) А. Сементовскій, Витебскъ; б. 217.

[293]) А. Сапуновъ, Архивы въ гг. Могилевѣ и Минскѣ, б. 315.

[294]) Дм. Довгялло, О состояніи архива бывшей Лепельской думы и Сиротскаго Суда („Древности", Москва, 1902, т. II, в. II), б. 349.

[295]) Дѣло Витебской гимназіи о доставленіи матеріаловъ для издаваемаго Корниловымъ сборника. № 31 за 1892 г.; б. I. Справа захоўваецца ў Вітабскім архіве.

[296]) Цѣнный архивъ („Историческій Вѣстникъ", 1913, № 9); б. 1139.

[297]) Г. Шавельскій, Послѣднее возсоединеніе съ православной церковью уніатовъ Бѣлорусской епархіи. Спб. 1910; б. 198.

Аўруцкага, паветаў Кіяўшчыны: Радомысльскага, Сквірскага і Махноўскага, Зельбургскага павету Курляндшчыны і чатырох парохій Херсоншчыны. Такім чынам Беларуская Эпархія працягалася ад Пскоўшчыны ледзь не да Чорнага мора. [298]) Сабраныя кнігі былі спалены ў наступных дзесяцігодзьдзях полацка-вітабскімі архіерэямі. [299])

§ 213. Са смаленскай эпархіяльнай бібліатэкі няведама кім украдзены шэраг рукапісаў. [300])

§ 214. Ось, што пішуць аб Смаленшчыне (што можна дапасаваць і да ўсей Беларусі): „на падстропьпю панскіх дамоў, у складах гэтых дамоў, ляжаць горы архіўнага матэр'ялу. Пры пераходзе двара ў кулацкія рукі ўсё гэта ідзе на аклейку вокнаў і на цыгаркі. Дый з гарадзкіх афіціяльных архіваў паперы рэгулярна выкрадаюцца на агортку да селядцоў і мыла ў драбнічныя крамкі... Што-ж казаць аб архівах, калі на нашым вяку зьнікла, як дым, дзіўная бібліатэка Губэрскага Статыстычнага Камітэту, у якой, кажуць, было шмат рукапісаў?“.[301]) Архівы партрэты і іншыя рэчы, належаўшыя слаўным смаленцам Пржэвальскаму, Глінцы, Нахімаву валяюцца і гніюць на вышках і ў клунях двароў Смаленшчыны, расьцягаюцца выпадковымі аматарамі рэдкасьцяў, вывозяцца са Смаленшчыны прыязджаючымі антыкварамі-жыдамі. [302])

§ 215. Зьнішчаны, а часьцю разабраны ў прыватныя рукі, вядомы „фамильный“ архіў Барозьдзіных, якія валадалі вялікімі землямі ў Беларускай Чарнігаўшчыне. [303])

§ 216. Хоць іншы раз прадстаўнікі Маскоўскага ўраду і рабілі крокі да заховы тых ці іншых архіваў, але рабілі гэта так няўмела, так афіцйна, што гэтымі сваімі захадамі прычынялі толькі шкоду. Так, у 1899 г. віленскі, ковенскі і горадзенскі генерал-губэрнатар выдаў загад, каб ўсе матэр'ялы паветавых паліцейскіх кіравецтваў, якія датычылі паўстаньня 1863—65 гадоў, сама паліція выдзеліла. Баючыся якіх колечы няпрыемнасьцяў з прычыны суровага загаду, паліція ва ўсім краю, замест архіўных адборак, папаліла або папрадавала ў крамы памянёныя архівы. Такім чынам загінула шмат першакрыніц па абмаскаліваньню Беларусі Мураўёвым. [304])

§ 217. На вышках палацу віленскага генерал-губэрнатара валялася чатэры торбы рожных брашур і кніг, затрыманых цэнзурай за час да 1912 г.; гэты цікавы матэр'ял заховываўся так няўважліва, што прыйшоў у поўную нягоднасьць і з дазволу губэрнатара быў спалены. [305])

§ 218. Зазначана зьніканьне і псаваньне кніг у многіх чырвоноармейскіх бібліатэках, у якіх сустрачаюцца і кнігі вялікай каштоўнасьці; гэтае

---

[298]) ibidem; б. 1.

[299]) Власт, Паленньe кніг на Беларусі („Крывіч“ № 1; 1924), б. 61. N, Нашы старажытнасьці („Вольны сьцяг“, 1921; № 6).

[300]) Н. Мурзакевичъ, Исторія г. Смоленска..; б. 26, 28—29.

[301]) А. Жиркевичъ, Ив Ив. Орловскій; б. 57.

[302]) ibidem, б. 78.

[303]) Лазаревскій, Сулимовскій архивъ, Кіевъ, 1882; б. I—II. Иконниковъ, Опытъ русс. исторіографіи, I, II; б. 1220.

[304]) А. Жиркевичъ, Свѣжо преданіе, а вѣрится съ трудомъ; б. 749—760.

[305]) Дѣло канцеляріи Виленскаго Генералъ-Губернатора. Инспектора типографій. Дѣло по разнымъ предметамъ. № 7, 1912 г Захоўваецца ў Вітабскім Архіве.

нішчаньне дайшло да такой меры, што выклікала спэціяльны загад вайсковага зьверхніцтва аб спыненьні разцяганьня і псаваньня кніг. [306])

§ 219. Ёсьць весткі аб вывазе ў Маскоўшчыну беларускай бібліатэкі з Менску. Вываз адбыўся ў першыя годы рэвалюцыі. [307])

§ 220. У Міністэрства Унутраных Спраў, Сынод і Галоўны Штаб трэбавалі рожныя справы і дакуманты, якія заховываліся ў Вітабску ў архіве генерал-губэрнатара Вітабскага, Магілеўскага, Смаленскага і Калужскага, а пасьля—і Менскага. Часьць гэтых дакумантаў засталася ў С.-Пецярбурзе ня зьвернутай назад у Вітабск. [308])

§ 221. Вядомы крыўскі этнограф Раманаў кажа, што адзін з магілеўскіх архіерэяў (імя яго Раманаў ня прыводзіць), выехаўшы з Магілева ў свой родны горад Разань, вывез туды шмат гістарычных дакумантаў Магілеўшчыны, дзе пасьля яго сьмерці дакуманты гэтыя былі распрададзены ў крамы сваякамі нябожчыка. [309]) Весткі Раманава ня зусім праўдныя. Справа ў тым, што Магілеўская эпархія ў кругабег з 1797—1916 г. зусім ня мела на сваёй катэдры архіерэяў з Разаншчыны („Могилевская Епархія“ т. I, в. II, ч. II. Могилевъ-на-Днѣпрѣ, 1910), а таксама ў памянёны кругабег і ніводзін з магілеўскіх архіерэяў не паміраў у Разаншчыне (ibidem). Гадка-ж, што цікавячы нас архіерэй жыў да 1797 г., ня мае пад сабой грунту, бо тады няма сэнсу ўмаўчываць аб прозьвішчы.

Мне ведама, што кіраваўшы магілеўскай эпархіяй з 1904 г. архіерэй Сьцяпан, які быў родам з Пензеншчыны, выехаў у Курскую губ., дзе і памёр. Аб гэтым архіерэю казалі, як аб вельмі вучоным. Відаць, што весткі, якія падае Раманаў, і трэба аднесьці да архіерэя Сьцяпана.

§ 222. І. А. Якубовіч перадае ў С.-Пецярбургскую Археографічную Камісію сваё сабраньне дакумантаў у крыўскай мове, якія абхоплююць кругабег ад 1492 году да XVII стагодзьдзя. [310])

§ 223. Археограф Беларусі Грыгаровіч ахвяруе Археографічнай Камісіі ў С.-Пецярбурзе рукапісныя дакуманты, якія былі ім сабраны на Беларусі. [311])

§ 224. Гісторык Каяловіч перадае ў Спб. Археографічную Камісію крыўскі летапіс Авраамкі [312]), знойдзены ў Полацку ў 60-х годах XIX ст., які складаецца з 450 балон—225 лістоў. [313])

§ 225. Спб. Археографічная Камісія купляе сабраньне беларускіх актаў у Старажэнка [314]) і Хадаровіча. [315])

---

[306]) Красноармейская передвижная библіотека. Смоленскъ. 1920; бб. 5—6, 43 і др.

[307]) Я. Ксяневіч, Беларуская кнігарня. („Звон“, Менск, 1919, № 9).

[308]) Иконниковъ, Опытъ русс. исторіографіи, I, I; б. 510.

[309]) Е. Р. Романовъ, Первоисточники для исторіи Могилевскаго края. в. I, Одесса, 1916; б. III.

[310]) Иконниковъ, Опытъ русс. исторіографіи. I, II; бб. 1337—1338.

[311]) ibidem, I, I; бб. 259 і 519.

[312]) ibidem, б. 267. Гл. Карскага, Беларускія летапісы („Беларусь“ Менск, 1920, № 65).

[313]) Бугославскій, О смолянинѣ Авраамкѣ и его лѣтописи конца XV вѣка, а также нѣсколько словъ о смоленскомъ епископѣ Іосифѣ Болгариновичѣ („Смоленскія Епарх. Вѣд.“ 1900, № 5).

[314]) Иконниковъ, Опытъ русс. исторіографіи, I, I; б. 266.

[315]) ibidem; б. 267.

§ 226. Полацка-Вітабскі архіерэй Саўва меў бібліатэку да 9000 назоў, якую ў 1893 г. перадаў Маскоўскай духоўнай акадэміі. [316]) Саўсім магчыма, што бібліатэка мела старакрыўскія выданьні, бо Саўва прыймаў гарачы удзел у паленьні кніг крыўскіх уніяцкіх друкарняў.

§ 227. Віленскі губэрнатар Ю. А. Доўгарукі сваю бібліатэку ахвяраваў Маскоўскаму Таварыству Аматараў Царкоўнай Асьветы. [317])

§ 228. Бібліатэка бібліографа Г. Н. Геннаді, якая знаходзілася ў Смаленску, зложаная з сабраньня кніг на маскоўскай і эўропэйскіх мовах па бібліаграфіі, гістарычнай літэратуры, матэр'ялаў для жыцьцёпсаў маскоўскіх пісьменнікаў і вучоных, калекціі літаграфій і сабраньня гравіраваных партрэтаў—звыш 3000, пасьля сьмерці ўладара ў 1880 г. прададзена ў С.-Пецярбург у магазын Фельтона, а партрэты перайшлі на перахову у Маскоўскую Чарткоўскую бібліатэку. [318])

§ 229. У магазын Фельтона ў 1902 годзе была прададзена часьць бібліатэкі Э. К. Гуттэн-Чапскага (са Станькова, каля Менска). [319])

§ 230. Праф. А. Мухлінскі передае ў бібліатэку С.-Пецярбургскага унівэрсытэту рукапісы, пісаныя ў крыўскай мове арабскімі літарамі. [320])

§ 231. Кс. Сэнчыкоўскі передае у С.-Пецярбургскую бібліатэку 3 скрыні дакумантаў аб яго дзейнасьці на Беларусі. Часьць дакумантаў трапляе загранiцу. [321])

§ 332. Некатарыя крыўскія старадрукаваныя помнікі XVI—XVII ст. „даўно ужо сталіся бібліаграфічнай рэдкасьцю, часам у адным толькі экзэмпляры, што стаўляе іх на адну роўню з рукапісамі, або арыгіналамі, [322]) і тут ось надта цікавае зьявішча, што ўсе гэтыя унікумы знаходзяцца ў вялікіх бібліатэках Маскоўшчыны, так, напрыклад: у Маскоўскай сынадальнай бібліатэцы, [323]) у Маскоўскай гарадзкой біб. [324]), ў Маскоўскім публічным музэю [325]), ў бібліатэцы Галоўнага Архіву Міністэрства Замежных Спраў [326]), у біб. Кіяўскага Міхайлаўскага манастыра [327]), у Спб. Публічнай біб. [328]), і ў прыватных руках, напр.,—у М. О. Каяловіча (у Пецярбурзе)[329]) і у І. Малышэўскага (Кіяў) [330]).

Над мэтадамі здабычы гэтых цэннасьцяў установамі Маскоўшчыны прыходзіцца некалькі задумацца, дзякуючы ось якому надпісу, які захаваўся

---

[316]) Н. А. Колосовъ, Библіотека высокопр. Саввы архіепископа Тверского и Кашинскаго („Богословскій Вѣстникъ", 1896, VII).

[317]) Иконниковъ, Опытъ русс. историографіи, I, II; бб. 1311.

[318]) Ивáскъ, Частныя биб. въ Россіи.

[319]) ibidem.

[320]) Карскій, Бѣлоруссы, III, 2; увага на бб. 239—240.

[321]) Жиркевичъ, Изъ-за русскаго языка. Вильна. 1912, ч. I, б. VIII і ч. II, б. 542.

[322]) Русская историческая библіотека, IV; б. V.

[323]) ibidem, VII; б. 110; IV, б. 156, 1200.

[324]) ibidem, VII; бб. 168, 222.

[325]) ibidem, IV; б. 1448.

[326]) Очеркъ дѣятельности комиссіи печатанія грамотъ и договоровъ... Москва, 1877; б. 66.

[327]) Ю. Яворскій, Пропавшая западно-русская книга „Діалогъ о Смерти" 1629 г. („Изв. отд. р. яз. и слов. Акад. Наукъ" 1911, кн. IV; бб. 217, 225, 228; 1912 г. кн. I, б. 264).

[328]) Рус. ист. биб. IV; б. 18, 43; VII, бб. 526, 600, 938.

[329]) ibidem, VII, б. 7.

[330]) ibidem, VII; б. 1002.

на аднэй з крыўскіх кніг, трапіўшых у Маскву: „сіа книжка дается пречестнѣйшему отцу Іосафу Дранику, Архимандриту Бизюковскому, ради діаріюша блаженнаго Афанасія на Москву; а прошу о возвращеніи знову до Могилева, до насъ. Сvлвестръ Троцевичъ, игуменъ.“ [331])

Па сьведчаньню акад. Е. Карскага болей усяго крыўскіх старадрукаваных кніг знаходзіцца ў С.-Пецярбургскай публічнай бібліатэцы, хоць шмат іх ёсьць і ў Маскоўскім Румянцаўскім музэю. [332]) Ужо значна меньшыя сабраньні крыўскіх старадаўных кніг знаходзяцца ў б. Маскоўскім Архіве Міністэрства Справядлівасьці, Кіяўскім Цэнтральным Архіве і С.-Пецярбургскай Археографічнай Камісіі. [333])

Ня лепшы лёс і крыўскіх старадаўных рукапісаў.

233. У Маскоўскай Сынадальлай бібліатэцы паміж рожнымі крыўскімі рукапісамі XV—XVII ст. знаходзіцца рукапіс 1296 году; захоўваўся тут і Баркулабаўскі летапіс, вывезены ў XVII ст. казакамі з Быхаўшчыны. [334])

§ 234. У С.-Пецярбургскай Акадэміі Навук знаходзіцца крыўскі рукапіс 1317 г. [335])

§ 235. У С.-Пецярбургскай Публічнай бібліатэцы знаходзяцца крыўскія рукапісы XIV—XVI ст. [336])

§ 236. У Музэю Кіяўскай Духоўнай Акадэміі знаходзіліся крыўскія рукапісы XV ст. [337])

§ 237. У бібліатэцы Кіява-Пячэрскай Лаўры знаходзілася рукапісная кніга XV ст., пісаная ў Вітабску. [338])

§ 238. У Маскоўскім Публічным і Рўмянцаўскім музэю знаходзяцца крыўскія рукапісы XVI—XVII. [339])

§ 239. У Маскоўскім Архіве Міністэрства Замежных Спраў знаходзіцца крыўскі рукапіс XV ст. [340])

§ 240. У бібліатэцы Маскоўскага Т-ва Гісторыі і Старадаўнасьцяў маскоўшчыны знаходзілася крыўская рукапісная кніга XVI ст. [341])

§ 241. У бібліатэцы С.-Пецярбургскай Археографічнай Камісіі знаходзіўся крыўскі зборнік XVI ст. [342]) і шмат іншых дакумантаў.

§ 242. У бібліатэках б. Кіяўскай і Маскоўскай духоўных акадэмій, а таксама ў біб. Маскоўск. Чудаўскага манастыра знаходзіліся крыўскія рукапісы XVI ст. [343]), тое самае ў біб. Кіяўскага Міхайлаўскага манастыра.

---

331) ibidem, IV; б. 156.

332) Е. Карскій, Бѣлоруссы. Вильна, 1904; б. 345.

333) ibidem; б. 344.

334) ibidem; бб. 370, 391, 395, 378, 382, 389, 397. М. Довнаръ-Запольскій, Баркулабовская лѣтопись. Кіевъ, 1908.
Е. Романовъ, Первоисточники для исторіи Могилев. края, I; б. 1.

335) ibidem, б. 370.

336) ibidem, б. 371, 373, 378, 387, 392.

337) ibidem, б. 372.

338) ibidem, б. 373.

339) ibidem, бб. 389, 398, 396, 392, 375, 386, 380.

340) ibidem, б. 375.

341) ibidem, б. 380.

342) ibidem, 384.

343) ibidem; бб. 386, 389, 391, 392, 393.

§ 243. Крыўскія дакуманты знаходзіліся ў бібліатэцы С.-Пецярбургскага Галоўнага Штабу. [344]) У вайскова-вучоным архіве Галоўнага Штабу заховуецца Полацкая рэвізія—дакумант XVI—XVII ст. [345])

§ 244. У бібліатэцы Сійскага манастыра, перададзенай Архангельскаму царкоўна-архэолёгічнаму Камітэту, знаходзяцца, паміж іншым, і крыўскія рукапісы, напр., „Сокращенная литовская лѣтопись“, „Родословіе литовскаго княжества“ [346]), „Сказаніе о Меркуріи Смоленскомъ“[347]) і др.

§ 245. Аўтэнтычныя справы аб будаўніцтве г. Смоленска ў канцы XVI ст. трапілі ў Салавецкі манастыр, [348]) адкуль разам са ўсёй бібліатэкай манастыра перавезены ў Казанскую Духоўную Акадэмію.

§ 246. У бібліатэцы Галоўнага Архіву б. Міністэрства Замежных Спраў заховываліся аўтэнтычныя граматы смаленскіх і літоўскіх князёў. [349])

§ 247. Рукапіс „Дзенніка Люблінскага сэйму“ быў знойдзены у С.-Пецярбургскай публічнай біб., а другі рукапісны экзэмпляр гэтага дзеньніка належаў біб. Пецярбургскага Галоўнага Штабу. [350])

§ 248. Знаходзяцца старадаўныя крыўскія рукапісы і ў прыватных руках, напр., рукапісы XV ст. ў бібліатэцы Уваравых у Маскве [351]); рукапісы XVI ст.—ў біб. Барсава, там-жа [352]); рожныя крыўскія рукапісы ў біб. Маслова, там-жа [353]); крыўскія рукапісы ў біб. Сімсона ў Тверы [354]); у сям'і Трубніцкага ў Магілеве, дзе заховывалася цяпер згубленая хроніка г. Могілева. [355])

§ 249. Лаўрышаўскае Евангельле XIV ст., напісанае крыўскай мовай знаходзіцца ў бібліатэцы князёў Чартарыйскіх у Кракаве. [356])

---

344) А. Сапуновъ, Матеріалы по исторіи и географіи Дисненскаго и Вилейскаго уѣздовъ Виленской губ. Витебскъ. 1896; увага на б. 102—103.

345) И. И. Лаппо, Полоцкая ревизія 1552 г. („Чтенія въ общ. исторіи и др. росс.“ 1905, II); б VII.

346) Г. Бугославскій, Сокращенная литовская лѣтопись начала XVI в. („Смоленская Старина“, в, I, ч. II. 1911. Смоленскъ); б. 3.

347) Г. Бугославскій, Сказаніе о св. Меркуріи Смоленскомъ по рукописнымъ „сборникамъ“ XVI в. Антоніева-Сійскаго монастыря.

348) С. Платоновъ, Подлинное дѣло о строеніи г. Смолннска („Смоленская Старина“, в. I, ч. II); б. 21.

349) Собраніе государственныхъ грамотъ и договоровъ, хранящихся въ государственной коллегіи иностранныхъ дѣлъ. Ч. I. Москва, 1813.

350) Дневникъ Люблинскаго сейма 1569. Спб. 1869 г., бб. XIII—XIV.

351) Карскій, Бѣлоруссы, I; б. 376.

352) ibidem, б. 381. Описаніе нѣкоторыхъ южно-руэскихъ и западно-русскихъ лѣтописей, находящихся въ рукописномъ собраніи Барсова („Чтенія въ общ. ист. и др. росс.“. 1844, II).

353) В. Арсеньевъ, Роспись... ручи. („Смоленская Старина“, в. I, ч. II).

354) Описаніе рукописей, принадлежащихъ П. Ѳ. Симсону. Тверь, 1903 бал. 1 і № 2.

355) Хроника бѣлорусскаго гор. Могилева („Чтенія въ общ. ист. и др. росс.“ 1887, III). Романовъ, Первоисточники для истор. Могилев. края.

356) Свѣнцицкій, И. С., Палеографическо-грамматическое описаніе пергаментнаго Лавришевскаго Евангелія начала XIV в. („Изв. Отд. рус. яз. и слов. Имп. Акад. Наукъ“, 1913, т. XVII, кн. I).

§ 250. Дзякуючы шэрагу войнаў паміж Польшчай і Маскоўшчынай, шмат крыўскіх дакумантаў вывезена ў Аўстрыйскую Польшчу і Галіцію (Львоў, Галіч, Бэльз, Перамышль) [357].

§ 251. Праф. Віленскага унівэрсытэту М. Баброўскі, які памер у 1848 г., меў вельмі цэнную бібліатэку, зложаную з вялікага ліку крыўскіх рукапісаў; бібліатэка прададзена Трэнбіцкаму ў Горадзеншчыну, адкуль была перавезена ў Варшаву Замойскаму. [358]

§ 252. М. Чартарыйскі, які збудаваў гомельскі замак, і ўцек у канцы XVII ст. за рубеж,—забраў з сабой і каштоўныя дакуманты, датычныя гісторыі Гомеля, царскія, каралеўскія граматы і інш. дакуманты, якія цяпер знаходзяцца ў Кракаве і зусім недаступны для карастаньня [359]; сярод вывезеных ім дакумантаў знаходзіцца чарнавік умовы Рады Вялікага Княства Літоўскага з вялікім князем Жыгімонтам Аўгустам. [360]

§ 253. Апрача Стрыкоўскага і Бельскага, шмат другіх польскіх дзеячоў зьбіралі крыўскія рукапісныя і друкаваныя цэннасьці:

а) Кіяўскі біскуп Залускі для папаўненьня свае Варшаўскай бібліатэкі (пасьля яна была перавезена ў С-Пецярбург) сабраў на Беларусі „невыабразіма вялікі лік кніг і рукапісаў“; частка іх была зьнішчана.

б) Адам Нарушэвіч, вікары Смаленскага біскупа (+1796), па даручэньню караля Станіслава-Аўгуста пісаў гісторыю Польшчы і з гэтай прычыны ён аб'язджаў Беларусь і сабраў шмат гістарычных рукапісаў.

в) Каля 1790 г. Язэп Ассалінскі аб'ехаў усю Беларусь і „забраў множства рукапісаў і кніг з манастырскіх і царкоўных бібліатэк.“

г) Аб Тадэўшу Чацкім (пачатак XIX ст.) палякі пішуць, што на Беларусі ня было ні гораду, ні панскага двара, ні бібліатэкі, ні касьцёлу, ні праваслаўнай царквы, дзе бы ня быў Чацкі з мэтай зьбіраньня рукапісаў і кніг. [361]

д) Ів. Тарноўскі (пляменьнік Чацкага), жывучы на Беларусі, не шкадаваў грошы на куплю кніг і рукапісаў.

е) Самуэль Ліндэ (дырэктар публічнае библіатэкі ў Варшаве) у 1819 г., па даручэньню ўраду Маскоўшчыны, пасьля агляду зачыненых на Беларусі манастыроў, вывез у Варшаву 50 тысяч кніг.

ж) Канстантын Сьвідзінскі з 1812 г. па 1830-ыя годы некалькі разоў езьдзіў на Беларусь з мэтай зьбіраньня кніг і вывозіў сабранае ў Варшаву. [361]

§ 254. Шмат кніг сабраў на Беларусі і другі Чартарыйскі—Адам, папячыцель Віленскага Вучомнага Округу; бібліатэка яго была ў Пулавах Люблінскай губ., адкуль пасьля 1831 г., як канфіскаваная, часьцю была перавезена ў С.-Пецярбургскую Публічную біб. і бібліатэку Генеральнага Штабу [362]),

---

357) Акты, относящіеся къ исторіи Западной Россіи. Спб. 1846, т. I, б. II; т. V, б. VI. Supplementum ad historika Russiae monumenta. Petropoli. 1848; б. IX, №№ 66—72, 74, 76—79, 81—82.

358) П. О. Бобровскій, М. К. Бобровскій („Русская Старина“, 1889, VI; бб. 618—622; на б. 620 літаратура аб бібліатэцы.

359) Л. Виноградовъ, Гомель, 1900: Москва, б. 23.

360) М. Довнаръ-Запольскій, Договоръ рады В. кн. Литовскаго съ В. кн. Сигизмундомъ-Августомъ. Кіевъ; б. I.

361) И. Козловскій, Судьба русскаго языка въ Литвѣ и на Жмуди; бб. 96—98.

362) Иконниковъ, Опытъ рус. исторіографіи, I, I, б. 478; I, II, б. 1342.

а другая часьць з цэннымі дакумантамі вывезена была ўладаром у Галіцію, адкуль перапраўлена ў Парыж. [363])

§ 255. Шмат дакумантаў з Несьвіжскага архіву Радзівілаў перайшло ў Варшаву да Квяткоўскага і ў Курнік да Дзялынскага. [364])

§ 256. Вялікая бібліатэка Віленскай рымска-каталіцкай сэмінарыі ў 70-х гадох XIX ст. раскрадзена букіністымі і перапраўлена у Львоў. [365])

§ 257. У бібліатэцы Красінскіх у Варшаве знаходзіцца крыўскі рукапісны зборнік XVI ст. [366])

§ 258. Крыўскія рукапісы XVI ст. знаходзяцца ў Холмскім Богаяўленскім брацтве і у Львоўскім Ануфрэйскім манастыры. [367])

§ 259. Есьць крыўскія дакуманты ў Рыжскім гарадзкім архіве. [368])

§ 260. У біб. Рачынскіх у Пазнані знаходзіцца крыўскі зборнік XVI ст. [369])

§ 261. У Бэрлінскай Каралеўскай біб. знаходзіцца крыўскі рукапіс XVII ст. [370])

§ 262. Бязсьледна прапаў архіў сьв. інквізыціі, які знаходзіўся ў мурох Даамініканскага манастыра ў Вільні.

§ 263. Зусім зьнішчаны справы, дакуманты і кнігі істнаваўшых у Вітабску з 1917 году: а) Выканаўчага Камітэту Воінаў-Беларусаў Паўночнага фронту, б) Вітабскай Беларускай Соціялістычнай Грамады, в) Вітабскага Беларускага Націянальнага Камісарыяту.

§ 264. У апошнія часы робяцца належныя крокі да перавозу ў Менск з Кіява бібліатэкі і архіву Хрэбтовічаў-Бутенёвых (яна раней была ў дварэ Шчорсы ў Новагорадчыне). [371])

§ 265. Бібліатэкі, ў якіх знаходзяцца крыўскія (беларускія) рукапісы, пералічаны ў працах: а) Е. Карскаго, „Очерк славянской кирилловской палеографіи.“ Варшава, 1901, бб. 18—32; б) яго-ж, „Къ вопросу о разработкѣ стараго западно-русскаго нарѣчія,“ Вильна. 1893, бб. 25—35; в) П. В. Владимировъ, „Обзоръ южно-русскихъ и Западно-русскихъ памятниковъ письменности отъ XI до XVIII ст.“. Кіевъ, 1890 (адбітка з IV-ай кн. „Чтеній въ историческомъ обществѣ Нестора лѣтописца.“)

---

[363]) Сѣверный архивъ. 1822. № 4; б. 474. Иконниковъ, Опытъ русс. ист., I, II; б. 1342.
[364]) ibidem; б. 1239.
[365]) А. Владиміровъ, Изъ новѣйшей лѣтописи Сѣв.-Западной Россіи; б. 117.
[366]) Карскій, Бѣлорусы, I; б. 384.
[367]) ibidem, бб. 390, 388.
[368]) ibidem, бб. 344, 358.
[369]) ibidem, б. 391.
[370]) ibidem, б. 397.
[371]) Абвесьнік Народнага Камісарыяту Асьветы Б. С. С. Р. Менск. 1925. № 1; бб. 15—16.

**Дадаткі.**

§ 1. Да увагі, ў якой гаворыцца аб архівах старой Літоўска-Рускай (Крыўскай) дзяржавы, дадаць: „Некатарыя матэр'ялы па арганізаціі архіўнай справы ў Літоўска-Рускай (Крыўскай) дзяржаве дае І. Маякоўскі ў сваіх лекціях „Историческій очеркъ архивнаго дѣла въ Россіи“ на бал. 105—110 ўкл. у артыкуле „Архивное наслѣдіе древнихъ русскихъ земель въ Литовской Руси и архивы Литовско-Русскаго государства.“ Лекціі Маякоўскага выдрукаваны ў кнізе: „Архивные курсы. Лекціи читанныя въ 1918 г. II. Петроградъ. 1920.“

§ 2. Да **1812** г. „У часе пажару Масквы згарэў збор рукапісаў гр. Мусіна-Пушкіна, ў якім быў выдатны помнік старакрыўскай літэратуры „Слова аб паходзе Ігара.“ (Н. В. Волковъ, Статистическія свѣдѣнія о сахранившихся древне-русскихъ книгахъ XI—XIV вѣковъ. „Памятники древней письменности“, т. CXXIII, бал. 6).

§ 3. Да XVII ст. „У пачатку XVII ст. швэдамі было вывезена са Смаленска ў Швэцыю шмат старакрыўскіх дакумантаў XII—XVII ст., там самыя старажытныя дакуманты і загінулі. Рэшта дакумантаў у першай палове XIX ст. папала ў Спб. Археографічную Камісію. („Летопись занятій археографической комисіи за 1918 г.“ Петроград, 1923. Ал. Шлюбскі, Беларусь у расійскіх навуковых выданьнях 1923 г. „Полымя“, № 7—8, 1923 г., Менск).

§ 4. Да **1918** г. На аднэй з паперных фабрык г. Масквы перароблены на паперу архіў „Сохранных касс“, у якім было шмат дакумантаў з канца XVIII ст. да 1861 г. па дасьледжваньню эканамічнай стараны беларускага сялянства і панскіх двароў за часы паншчыны. (Большаков, О судьбе некоторых архивных материалов по истории крепостного хозяйства с конца XVIII века. „Архив истории труда в России“ кн. 6—7, 1923 г. Ал. Шлюбскі, Беларусь у рас. навук. выд. за 1923 г. „Полымя“, № 7—8, 1923).

§ 5. Да **1922** г. „На Вітабшчыне зьнішчана шмат ня толькі дакумантаў, але нават і цэлых архіваў, дзякуючы таму, што архіўнай справай ведаў з цёмным мінулым латыш Б. Р. Брэжга, які, зьнішчыўшы значную частку крыўскіх ахрхіваў, выехаў у Латвію. Гл. артыкулы; „Зьнішчаньне беларускіх архіваў на Вітабшчыне („Савецкая Беларусь“ 1922, № 233) і „Становішча архіўных установ“ (ibid., 1923, № 79).

# АПАВЯДАНЬНЕ З „АЛЬ-КІТАБУ.“

У № 2 (8) „Крывіча“ 1924 г. надрукаваны 3 ня цэлых балоны транскрыбцыі „Аль-Кітабу“. *) Там-жа напісана аб прынцыпах транскрыбцыі. Дзеля нястачы патрэбных значкоў у ковенскіх друкарнях, немагчыма далей у „Крывічы“ друкаваці тэкст „Аль-Кітабу“ так, як ён быў перапісаны з арабскага на лацінскае пісьмо. Спадзяемся, што знойдуцца выдавецтвы, якія захочуць выдаць „Аль-Кітаб“ зараз ці часьцямі ў спачатнай яго транскрыбцыі літара ў літару, чым зробяць вялікую услугу крыўскай (беларускай) і, наагул, славянскай філёлёгіі. Можна таксама точна перадаць у транскрыбцыі кірыліцкай, але гэткі тэкст звычайным чытачом будзе таксама цяжка чытаць (дый друкаваць), як і лацінскі.

У „Аль-Кітабе“ крыўскія *о* і *у* абазначаюцца бяз рожніцы арабскімі знакамі дзеля даўгога і кароткага *у*. Так сама абазнанюцца адным знакам *і* і *ы*. Каб лягчэй было чытаць, патрэбна, заместа аднаго знака, паставіць на сваім месцы *о (ё)* і *у (ю)*, *і* і *ы*. Ад гэтага была-б толькі тая страта, што немагчыма было-б студыяваць развой абазначэньня *о*, *у*, *і*, *ы* ў крыўскіх выданьнях арабскім пісьмом. Аўтар „Аль-Кітабу“ найчасьцей на месцы ненацісьненага этымолёгічнага *о* пісаў *а*, але з другога боку імкненьне пісаць этымолёгічна даводзіла яго часта да фальшывае этымолёгіі, як гэта знаходзім у значнай меры і ў іншых старых памятках крыўскае літэратуры. Гэтае фальшіва этымолёгічнае пісаньне не філёлёгу перашкаджала-б чытаць надрукаваны тэкст. Ніжэйшыя, як і шмат якія апавяданьні з „Аль-Кітабу“, ё цікаўным чытаньнем наагул. Думаю, што падобныя апавяданьні трэ' будзе выдаць двойчы: раз чыста навукова у транскрыбцыі літара ў літару, другі раз, прытарнаваўшы дзеля агульнага чытаньня, але бяз зьмены м о в ы „Аль-Кітабу.“ Апошняе выданьне дасьць магчымасьць усім Крывічом чытаці і пазнаваці, якая была іхняя родная мова ў першай палавіне шаснаццатага стагодзьдзя. Дзеля гэтага ў ніжэйдрукаваным тэксьце зроблены гэткія адхінкі ад лацінскае транскрыбцыі літара ў літару: 1) *о (ё), у (ю), і, ы* пастаўлены на сваім месцы, 2) аканьне праведзена зусім паводле цяперашняга правапісу, 3) полёнізмы і наагул барбарызмы найчасьцей заменены беларускімі (крыўскімі) словамі, а ў „Зацемках“ кожны раз паказана, якое слова стаіць у арыгінале, 4) арабскі значок „айн“ перад адкрытымі *а*, *у* на пачатку і ў сярэдзіне слова (‘або, ‘у Бога) і літара г пасьля адкрытых галосных *а*, *е, у* на канцы слова (удзягнег),—як чыстае адбіцьцё арабскага правапісу, выкінены. Калі зроблены яшчэ якія зьмены, дык аб кожнай з іх асобна адцемлена ў канцы ў „Зацемках“. Дык апрача аканьня, друкаваны тут тэкст сусім чыста годзіцца да філёлёгічных студыяў.

Апрычона аб аканьні зацемлю, што як будуць надрукаваны дасьледзіны аб аканьні ў „Аль-Кітабе“, дык з іх будзе відаць, што прытарнаванае тут да цяперрашняга правапісу аканьне сусім адпавядае вымове Крывічоў часу напісаньня кнігі.

---

*) У гэтым 2 (8) № „Крывіча“ гэтая памятка няправільна названа „Ай-Кітаб“. Апошні назоў ведаем ад ів. Луцкеіча (гл. зборнік „Наша Ніва“, Вільня, 1920), каторы яго даведаўся ад імама (малны, мулы) Сьц. Паўтаракевіча, у якога знайшоў гэту кнігу. Ці С. П. не патрапіў ужо гэтага слова добра вымавіць, ці мо ів. Луцкевіч не дачуў,—бо „Аль-Кітаб“ ё правільным арабскімі назовам, які азначае (Аль—член, як нямец. der, die, das) кнігі. Дык памятка завецца проста „книга“, а ўжо само разумеецца, што—„Сьвятая Кніга“.

Лічу патрэбным адцеміць ніжэйшае. Хоць у рукапісе дзеяслоўныя і зборныя іменьні маюць у канчатку сугалосны гук+галосны (стварэ*не*, каме*не*) або сугалосны+j+галосны (спасеньjе, пя*цьjо*),—аднак яны вымаўляліся гэтак: падвойны мяккі сугалосны+галосны (стварэньня, каменьня спасеньня). Назоўны склон адз. ліку мужчынскіх прыметаў канчаўся на—*ы*,—*і* (добр*ы*, раньн*і*) хоць аўтар „Аль-Кітабу“ пісаў—*ы*j, *і*j (добрыj раньніj). У словах, як: навука, вочы, гэты, гэй і г. п. *в* або *г* былі, але аўтор не заўсёды іх піша. Гэта сталася з тае прычыны, што аўтар „Аль-Кітабу“ ў іншых мясцох (дзе лягчэй было запамятаць, разабрацца) дзяржаўся чужое царкоўна-славянскае традыцыі ў стара-крыўскім правопісе.

У ніжэй друкаваных апавяданьнях на бакох азначаны балоны паводле рукапісу; радкі адпавядаюць радком арыгіналу. Выясьненьні арабізмаў раблю ўнізе балоны. Словы, што не прачытаны, а ўгаданы, уедзены ў скобкі.

У кірыліцкім тэксьце, як і ў лацінскім, усюды пакінена j, дзе яна ё ў арыгінале. Патрэбна гэта дзеля тачніні транскрыбцыі і таксама дзеля тачніні азначэньня крыўскіх гукаў. Чытар борзда да j прызвычаіцца.

j*а*, j*о*, j*е*, j*у*, j*ё* трэба вымаўляць так, як вымаўляем *я*, *ё*, *е*, *і* *ў* ў словах: яна, мая, маё, мае, маю, маіх.

---

**Перадрук забаронены.**

[1]) Гісторыjа

93b а Марjаме *), удзячнасьць Божа над неjу! Вагаб сын Мутабаггаў
мовіу [2]), удзячнасьць Божаjа над нім, у іншык кнігах [3])
так нашоў, відзеў, чытаў. Аднаго дня Іса **) прарок
jаго міласьць, ласка Божа над нім, да маткі сваjеj мовіў [2]):
„І матка, мне Джабраіл ***) мовіў, што гэтыj сьвет мяшкане дачаснаjе
jест; прато мы гэтыj сьвет заняхаjма, а тамтоj
сьвет вякуістыj стараjмася—так да маткі мовіў—
то нам ляпей будзе.“ Тады яны абоjе [4]) пашлі на Лібнан

---

94a гару і там Пану Богу паклон чынілі, дзень у дзень посьнікалі,
а ў вечар адпосьнікаліся траўным карэнем. Аднаго дня
Іса прарок jаго міласьць для адпосьнікаванjа па
карэньjе траўноjе пашоў, а матка jаго Марjама, у міхрабе седзячы,
намаз ****) кланялася, а ў тым часе Азраіл *****) прышоў,
сялам ******) даў. Марjяма
і страху jаго ад розуму адышла. Калі прышла да памяці,
мовіла: „Хто ты jест? ад срогасьці тваjеj шлункі маjе

---

*) Марыя, маці Хрыста. **) Ісус, араб. ***) Ангел Гаўрыла, араб. ****) Малітва, слова перскае. *****) Імя ангела сьмерці. ******) Сялам даці — прывітаці, сказаці „assalamun alaikum“ (=супакой табе!). Сялам—слова арабскае.

трасуцца, розум адходзіць". Азраіл мові: „Ја јест [5])"

*) Ракла Марјама: „Ці навяжаць мяне прышоў, чы тож [6]) душу мају браць прышоў?" Азраіл мовіў: „Прышоў ја душу тваіу браць." Марјама мовіла: „Прашу цябе адну гадзіну мне шчакај [7]), няхај мој мілыј сын прыјдзе Іса, ја твар јаго абачу і дастамэнт [8]) учыню." Азраіл рэк: „Ја (јест... пасол) Божыј, прыказане трымају . . . . а . . . . . . . учыніць немагу, мне П(ан Бог). . . . . . . . . . і нагој ступіць . . . . . . . . . . (Марјама)

94b ракла: „Ја волі Божај јест [5]) удзячна." Потым Азраіл у јаје душу узяў і пашоў. Потым Іса прарок посьле јатцыю **) прышоў, матку абачыў: на міхрабе ляжыць. Іса разумеў, што у паклоне ляжыць „няхај адну гадзіну стрывају" і сам не адпосьнікаваўся: „няхај матка ачхнецца за адно [9]) адпосьнікајемся." Карэнје палажыў, намаз пець пачаў. Потым ночы часьць мінула, Богу паклон чыніў, да маткі прыступіўшы, лехкім голасам клікаў, мовіў: „І матка, усе людзе посьнікавалыја адпосьнікаліся." Потым јашчэ ночы часьць мінула, Іса рэк: „І матка, што табе стала, неадпосьнікајеся(!)?" Матка на то нічога не адкажа. Іса мовіў: „Матка маја, намаз кланяўшыся, умарылася [10]), няхај јашчэ адну гадзіну паляжыць, ја за јаје Богу пакланюся." Пачаў кланяцца, јашчэ цярпеў, (ужо кал)я поўначы стала, знову да маткі (прыступіўшы, клікаў голасам) бядунлівым: [11]) „І матка, што (табе стала, што жа)днага слова неад- (кажаш?" Іса быў у вялікім) горы [12]). Калі дзень стаў,

95a да маткі прышоў, твар у твар ударыў і рэк: „assalamun ʻalaika ***), і матка, ноч перајшла, знову посьнікаць час, устань раньні паклон [13]) кланяціся." Так мовіў, а таго дня сем раз [14]) нябескіја ангелы плакалі галасам вялікім, таго дня на зямлі усе рэчы

---

*) Прапушчаны арабскі сказ; яго даслоўны пераклад „Сказала Марыя: „Ці прышоў даведацца, ці ўхапіці?" Наступны крыўскі сказ ё вольным перакладам гэтага арабскага. **) Вячорная малітва, араб. ***) Супакој табе! Гэтак мусульмане вітаюць адзін аднаго.

рушыліся, зьвярата польныја усе радамі, радамі [15]) стаўшы,
плакалі, птаства на паветру усе грумадамі стојачы,
плакалі, мовілі: „Божа наш, пазволь нам, мы Іса прароку
азнајмім сьмерць маткі јаго.“ Ад Пана Бога азнајамене(!)
прышло: „Зямля і месяц, і слонца, горы, мора, птаства зьвяры
і ангелы, што ся стала вам, для чаго вы плачаце?“ Ад-
каз: [16]) „Для Іса прарока плачам.“ Азнајмене ад Пана
Бога прышло: „І Іса, ја твој Бог, ведају і јест [5])
ласкучынюшчыј, над усіх вас ја міласерднејšыј!“
Іса прарок голас учуў і Іса . а . . у . . . . а . а . . .
сеньје няхај дасьць јо(ј) . . . у . . . . . .
із гэтага сьвета зыш(ла) . . . . . . . . . . . . . . .
плакаць пачаў ш . . . . . . . . . . . (што буду)

---

95b чыніць, гдзе пајду, сь кім буду [17]) забаўляціся, сь кім свој смутак [18])
падзялю, каму свају тајамніцу скажу.“ Вельмі [19]) плакаў. Ад Пана
Бога гары азнајмене прышло, штоб Ісі прароку гара
науку падала. Ракла гара: „І Іса, для чаго так плачаш,
немарасьцісься [20]), табе јест Пан Бог памачніком [21]). Потым Іса із
гары ізышоў да аднаго сяла с палачам (!) бядунлівым [22])
валікім голасам рэк: „ssalamun alaikum *), і людзе тут мешкајучыја!“
А людзі таго сяла усе малыја і вялікіја, мужчыны і жанкі проці [23])
јаго вышлі, пыталі: „Хто ты јест, голас твој чујучы, нутры
нашы усьвяціліся, дамы нашы усе сьветласьцяју (!) напаўніліся [24])
твају павяльбёнују асобу [25]) відзім.“ Іса рэк: „Ја
Іса сын Марјамін јест [5]), ведајце, што матка маја,
на гарэ Лібнан адна будучы, з гэтага сьвета зышла, прашу
. . . . . . . мне сваjej помачы схаваньја
. . . . . . . . тыја людзі мовілі
. . . . . . . . . тој гарэ ад калькі
. . . . . . . . . . . хто тым узыјдзе [26])

---

96a . . можа за јаго атрутају [27]). Іса прарок із вялікај
немарасьцяј [28]) ад їх пашоў на тују гару, там-жа двух мла-

*) Супакој вам!

дзенцаў (!) відзеў харошых твараў. Іса мовіў: „Вы хто
jест?“ Адзін рэк: „Ja Джабраіл,“ а друіj рэк: „Ja Мікаіл *) jест,
мы прынесьлі із раjу саван і ўсялякіjа [29]) патрэбы, з волі Божаj
панны раjськіjа маjуць мыць, а нам расказ Божыj, абы мы
дол капалі.“ Раjськіjа панні абмылі, Джабраіл, Мікаіл дол
выкапалі, ангелы джыназа намаз **) пелі і схавалі. Потым Іса
прарок Пана Бога прасіў, мовіў: „Божа моj, ты мяне відзіш
і слова маjо чуješ, табе нямаш нічога скрытага; Божа
моj, маткі ja сваjеj часу jаjе сьмерці і па сьмерці нявідзеў
твару [30]) jаjе, а цяпер прашу цябе, Божа моj, кажы мне матку
маjу указаць, штоб за (!) мноj мовіла.“ Расказане Божае
такоjе прышло: „Ідзі да маткі сваjеj!“ Іса прарок прышоў
і ў галавах магілы маткі сваjеj сеў і рэк так:
***) „Табе няхаj ласка Божа будзе, і матка маjа [31])“
А ў тым із гробу голас прышоў: „У ачах маjіх сьветласьць,

96b и нутра маjаго плод [32]), чаму (!) ты мяне адвярнуў ад раjськіх маjстатаў і садоў і сюды [33]) мяне прывярнуў?“ Прыбавіў Іса
прарок, мовіў: „І матка маjа, меjсца таго чым-жа даjшла ку Пану
Богу?“ Марjама ракла: „Ja, будучы на сьвеце, мяшкаjučі у добрых учынках,
у раjі меjсца сабе набыла.“ Потым Іса прарок: „І матка
маjа [34]), душнуjу горкасьць ці мела, jак табе паводзілася, што
над табоj дзеелася?“ Марjама мовіла: „Перад Панам Богам праўдзіве
мовю (!), што горкасьць душы маjоj браньjа у горле
jест, Азраілова труднасьць перэдэ мноjу jест строгасьць і страх jаго у нутры маjом jест“. Ракла: „І сыну моj
Іса, астанься здароў, а ja ужо адыjду [35]), а дня суднага абачымся на Арафат полю.“ То вымавіўшы, умоўкла.
Потым Іса прарок із гары зышоў і па сьвеце хадзіў,
а потым Пан Бог jаго на неба узяў і да суднага дня будзе на
небе. А перад судным днём даджджал ****) праклятыj [36]) паўстане
на мусульман, увесь сьвет ізваjуje, то на тоj час
Пан Бог jаго ізь неба зашле мусульманам на помач проці [37]) даджджала.

*) Ангел Міхал, араб. **) Пахавальную малітву, араб. ***) На меjсцы, што тут пакінена пустым, у арыгінале арабскі сказ, які гучыць даслоўна гэтак: „Супакоj табе, і матка!“ Вольным перакладам'яго ё далейшы беларускі сказ. ****) Антыхрырст, араб.

97a Іса прарок јаго міласьць, з неба зышоўшы, дадджала пра-
клятога забјець і веру мусульманськују запрэць, і разшырыца
вера мусульманськаја, і знову сорак год маје жыць на
сьвеце. Потым із гэтага сьвета зыйдзе.

---

135a *) Гісторыја. Мэкка [38]) мовіць:
„Ја шчасьліваја у Пана Бога јест, у мне Махаммэд прарок радзіўся“.
Потым места Мэдына мовіць: „Ај места Мэкка [38]) нехваліся, ја јест [5])
у Пана Бога лепшаја (!) шчасьліўшаја за цябе, у мяне Махаммэд прарок
ляжыць і да суднага дня у мяне ляжаць будзе.“ Потым неба мовіць:
„Ја јест [5]) у Пана Бога лепшаје (!) за зямлю
мајстат Божыј на мне стаіць і дзяржыць,
на зямлю ізь мяне ідуць усялякіја пажыткі, з Божага расказаня
зь мяне на зямлю падајуць і жыўлјуць [39]) і ўсялякіј плод
зь неба на зямлю ідзе.“ Потым зямля мовіць: „Ај неба нехваліся
праўда јест на табе [40])
і мајстат Божыј на табе стаіць, і дождж на зямлю мне
ізь неба ідзе і мяне ажыўляје і плод даје, але тым неба нехва-
ліся, Пан Бог нас судзіць, але ја јест [5]) у Пана Бога лепшаја
за цябе неба, у мяне Махаммэд прарок, мілосьнік Божыј, ляжыць і су-
дныј дзень суд Божыј на мне і сам Пан Бог зь неба на зямлю
зыйдзе і ўсіх судзіць будзе, рај і пекла на зямлі ста(јаць)

---

135b будзе і Пану Богу паслугу чыніць будуць, спасёныја да рају пойдуць
а грэшныја да пекла. Пан Бог мові—праўда.

Калі Пан Бог розум стварыў. [41])

У кітабе **) Кузуда піша. Калі [42]) Пан Бог
розум стварыў [43]) моцју свајеју зь вялікага хараства, з дара-
гіх рэчај рајськіх Калі ўжо [44]) розум вырас [45]), ангелы на тој
час былі, Пан Бог казаў усім ангелам прыјці. Устаў, Пану
Богу паклон чыніў а зямлю, рэк: „Пане Божа, стварэне твајо,
падлеглы [46]) табе Богу кланяцца, ты Пан Бог адзіныј усягомагушчыј
і годзен ад [47]) усёга стварэня кланяньја хвалы табе. Пан Бог
рэк: „Розум устань!“—устаў розум; „сядзь!“—сеў розум; „ляж!“—лёг.
Јашчэ Пан Бог розуму размавітыја казаў чыніць, розум

---

*) На пакіненым тут пустым месцы у арыгінале стаіць араб. слова „хікајат“, што значыць „апавяданьне“. Аўтор „Аль-Кітабу“ пераклаў яго словам „гісторыја“. **) У кнізе, араб.

усё чыніў ахвотна [48]). Пан Бог рэк: „Розуме, ја Бог на одзіноства свајо праўдзівė табе абяцују, катораму чалавеку цябе, розуме, дам, над тым чалавекам ја Бог зьмілаваньньје свајо Божаје учыню— Розум Пану Богу паклон учыніў і хвалу даў Пану Богу—бо розумам і мяне Бога адзінага людзі мајуць знаць і науку розумам учыцца і знаць мајуць, бо бяз розуму наука у чалавека

136a јак у вязьніцы [49]) јест". Махаммэд прарок мовіў: „Розум јест на тры часьці разлучанныј. У каторага чалавека тыја тры часьці напоўнены [50]) будуць, [51]) у [52]) таго чалавека розум поўныј [53]) јест. Напрод Пана Бога знаць, у адзіноства јаго верыць бязсумлеву [54]), то јест іман *) пець. Другоје, Пану Богу павіны (!) паслугі аддаваць і харошыја учынкі; што Пану Богу міла, то чыні, то јест: на дзень пяць намазаў **) кланяцца і на рок дзесяціну даць і курбан ***) рэзаць. Трэцяје (!), у чыстасьці з гусулам ****) за пажыткі Пану Богу хвалу даваць а ў хваробе і ў прыгодах удзячне і цярпліве быць. То споўніј розум. Розум няјест у чалавека душа, ані шлунак, ані сустаў ніјакіј јест. Межы душы і межы суставаў у чалавека розум; у Пана Бога јест усьціваја (!) і харошаја рэч розум. Хтобы пытаў: „Пан Бог ці (!) можа такују моцвялікасьць учыніць, јак сам јест?" Адказаць на то трэба з вялікім страхам з наукі і зь (!) вялікім розумам, можаш так адказаць: „Мог-бы Пан-Бог такују моц учыніць

136b јако сам, але няхоча сабе роўнага ніколі мець, бо і вырак Божыј і цітул јест, так Пан Бог пішаць, іж јест ја Бог адзіныј, нікому нејест роўныј ані да мяне нејест роўныј, прато сабе роўнага нехачу мець на векі вякоў". У Каране так піша: Пан Бог рэк: „Ја Бог з ласкі і з волі мајеј боскај дају радасьці людзем, многа пажыткаў добрых і многа дају радосных пацех раскошных, дају многа людзем; з волі і прапушчэня мајго жаласьцяј вялікіх і прыгод, шкод, упадкаў,—то усё з волі мајој Божај станавіцца, јак ја Бог хачу, так маје быць. Прато вырак мој Божыј јест: каму ја што дам: пажыткі, радасьці,

*) Вера, тут у значэньні рэлігійнае малітвы, песьні; араб. **) Малітваў. ***) Ахвяра, жэртва са статчыны. ****) З умываньнем, араб.

пацехі і за тоје хто бы мне Богу хвалы і падзякі [55]) нячыніць, а каторым
людзем Пан Бог жалі і прыгоды, смуткі дам і прапушчу з волі мајој
Божај, чалавек-бы цярплівасьць ня меў, тыја людзі абоје няхај
сабе іншага Бога ішчуць, ја ад уіх адракајуся. Јашчэ
піша у Каране, патвяржајучы: „Чалавеча кожныј, ведај пеўне што
сь цябе волас адзін нязыјдзе бяз волі мајој Божај, такжа
із дзерава (!) ліст неспадзе бяз волі і бяз ведамасьці мајој Божај,

---

137a то усё за воляј і за ведамасьцяј мајеј Божај, јак тож [6])
душа із чалавека за воляј мајој Божај выјдзе, бяз волі мајој
Божај нігдзе сьмерці нет. Гдзе воля маја [56]) і суд каму прыјдзе, нігдзе
няскрыјесса і неўцячэ пеўна. Пан Бог рэк: „Усялякіј грэх, калі
чалавек учыніць, вялікаја атрута јаму самому тој грэх; на помач
і лякарства тых грахоў—кајата і пакута, бо чалавек гдзе грэх учыніць,
потым абачыць зараз гэты грэх, пакајецца [57]), жалује таму учынку
ліхому, што чыніў, Пан Бог з ласкі свајеј адпусьціць. Јашчэ
Пан Бог рэк учынкі добрыја спасёныја чыніць „каторыја удзячныја
мне Пану Богу, тыја чыні“, увесь грэх зыјдзе у чалавека з ласкі Божај.
[58]) Хто-бы меў веру [59]) мусульманскују, да-
знаўшы, прыняць сабе за учня *), трэба грахом свајім чыню-
шчым кајаціся, іман **) знову перапець, мусульманінам застаць.
Потым надта трэба ад няверасьці высьцерагацца, ад слова
нявернага, каб [60]) кафірынам ***) нястаў. Хто-бы у жартах слова няver-
наје вымавіў, то у пісьму піша: да таго часу, што чыніў учынкі
добрыја, пабожныја, хоць-бы колькадзесят [61]) год, то на тоје слова

---

137b усе учынкі добрыја унівэч абернуцця і жана јаму харам ****) јест.
Так трэба жалаваць, плакаць, таму грэху кајацца, і зноў іман
пець іж жаноју шлюб браць. А калі-б таго нямеў чыніць, то
із кафірынам ровен јест, а меў-бы умерці, навекі у пекле застане,
хоць-бы да Кабају *****) хадзіў, s таго спасеньја нямаш, страціў,
знову хадзіць трэба. Хоць-бы і жонка так вымавіла, то учынкі
трацiць на мужчыну, трэба іман пець, мусульманкај застаць,

---

*) З тае прычыны, што ў рукапісе о і у абазначаюцца адным знакам,—няма ведама, як тут трэба чытаць: „за учня“ (=за вучня) ці „за очне“ (=за вочне). **) Вера, тут ужыта ў значэньні рэлігійнае малітвы, песьні. ***) Кафірын—нявернік, паганін, той, хто ня верыць у адзіноства Божае. Гэтак мусульмане завуць і хрысьцянаў. ****) Забаронена, араб. *****) Кабай, Кааба —мусульманская сьвятыня ў Мэцы, месьце радзінаў Махамэда.

із мужам шлюб браць, таму грэху каjацца, мовіць: „Стварыцелю Божа, да цябе адзінага Бога уцякаjу ад тых паганых учынкаў, ад няверных слоў“. Гэту малітву [62]) трэба пець рана і ўвечар; іншага лякарства нямаш . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . [63]) Пан Бог таго чалавека ад няверных слоў усьцеражэ. Няверных слоў многа, няможам вылічыць, толька каротка [64]) няпісалі (!) усіх няверных слоў, а пісалі, чалавек на якіjа глянуўшы, штоб ад другіх высьцерагаўся. Наjперша то азнаjмуjу вам: хто-б меў Богу адзінаму што кольвек прыраўнаваць,

---

138a асобу jакуjу, або аjца, або матку, або сына, або jакіj шлунак меў прыраўнаваць, або мовіў „Бога ждаў“, або мовіў „у Бога за дзьвярыма быў або нябыў“, або мовіў „Бог jесьць“, або сьпіць, або jакаjа рэчэць, такіj нягожыj меў-бы праставаць чаго Богу нягодна мець; ніхто няможа ведаць ў jакоj постаці jест. А другоjе хто-бы меў Божага фарзу *) с прыказу адно зганіць. А трэцеjе, хто-бы прароку аднаму задаць няпраўду. Чацьвертаjе [65]), хто-бы меў із ангелеj аднаго улехца важыць. Пятаjе, хто-бы меў із учоных **) людзеj аднаго бяз прычыны улехца мець. Шостаjе, науку Божуjу улехца мець. Сёмаjе, учоных людзеj пастанавене із наукі, катораjа рэч jест халал ***) jесьць, піць, хто-бы меў сабе за харам ****) або за заваду мець. Осьмаjе, хто-бы меў на харамныjа пажыткі або напітак харамныj халалам назваць або лякарствам, або няверныjе слова вімавіць, а другіj меў-бы таму сьмяjацца, такіх паступках кафірамі застануць. Афатваjу піша: хто-бы меў таjемныjа рэчы угадаваць, казаць, чаго аму Бог нядаў ведаць, каза(ць):

---

138b дождж будзе або пагода, або уражай, або неуражаj, або падарожныj тагды прыjедзе, або няпрыjедзе, або фаль глядзіць, неўгадаjе, або угадаjе, jак-бы Богу раўнаваўся; хто-бы меў такіjа рэчы казаць, а другіjа мелі-б таму верыць, абадва кафірамі

---

*) Фарз—закон Божы, араб. **) Аўтар „Аль-Кітабу“ рэдка ўжывае слова „учоны“, звычайна—„наўчоныj“, дык мусіць „учоныj“ пад уплывам польскага „uczony“. ***) Дазволенае, араб. ****) Забароненае, забаронены, араб.

застануць. Веданьне јо ў Бога, ніхто няведаје тајемнага, адно Бог. [66]) Толькі [67]) прароццкаје [68])
прычыны повесьць каторага або праз сон праўдзівыј таја рэч,
а у Пана Бога расказанем данз ведаць [69]), гожа верыць. І таго нямоў
„Бог у адном мејсцу“ або „у Бога мејсца нямаш“. Гдзе Стварыцеля
упрасіў, то најдзеш, јак у Каране піша: . . . . . . .
. . . . . . . . . *) Пан Бог јест јак на небе,
так на земі, ведаја тајамніцы вашы і ведаје усе справы вашы, што
справујеце. Хто-б меў каго Азраілам **) назваць або душа-
јемцам, то кафірынам јест. Хто-бы меў с прароцкіх суннатаў ***) пера-
јначыць, справу зганіць. [70])
Хто-бы меў харамнага напітку або јадзеня а мовіў у імя Бога****)
аж адјеўшы „Хвала Богу“,****) даць хвалу Богу, кафірынам нястанеш.
(Алеј) сьвятыј мовіў: „дванацаць грахоў галаўных јест: першаје

*(Канца няма).*

Транскрыбавала пры ўчасьці Я. Станкевіча
Філ. др. **Марыя Тауэрава**.

---

## ЗАЦЕМКІ.

[1]) На пачатку ё першае казаньне (сказ) паарабску, даслоўна — „Апавяданьне аб сьмерці Марыі вернае (або шчырае), хай Бог будзе ёй ласкавы!“ (або: „Любата Божая над ёю хай будзе!“). Першы сказ крыўскі ё перакладам гэтага сказу арабскага. [2]) У арыгінале гэтае слова найчасьцей мае на канцы *л* (мовіл), відавочна — полёнізм. Далей у гэтым слове ўсюды буду папраўляць *л* на *ў*, не адцемлюючы у „Зацемках“. [3]) У ар. „Кітабах“, арабізм; [4]) у ар. „ајоје“, апіска; [5]) у ар.“ јестэм“, полён зм.; [6]) у ар. „тэж“, полёнізм; [7]) у ар. „зфальгуј“; [8]) у ар. „дэстамэнт“; [9]) у ар. „једна“, полёнізм; [10]) у ар. „уфатыгаваласе“; [11]) у ар. „фэрасунлівым“; [12]) у ар. „фрасунку“; [13]) у ар. араб. „сабах фарз“ — раньняя абавязковая малітва; [14]) у ар. „сем крот“, полёнізм; [15]) у ар. „сафамі, сафамі“, арабізм; [16]) у ар. „адповедзь“; [17]) у ар. „будзу“, апіска; [18]) у ар. „фрасунэк“; [19]) у ар. „барздо“ [20]) у ар. „фрасујесе“; [21]) у ар. „помоцнікам“ пол. [22]) у ар. паміж. „пэлачэм“ і „велікім“ стаіць „зунтурум фрасунлівым.“ Што значыць „зунтурум“,—

---

*) На пакіненым тут пустым месцы ў арыгінале арабскі сказ, даслоўна гэтакі: А ён Бог ё на нябёсах а на зямлі, ведае вашыя таемныя і яўныя і ведае, што заслугуеце? Вольным перакладам гэтага араб. ё далейшае крыўскае (радок 10—11, 138 b). **) Азраіл—ангел сьмерці; як бачым далей, аўтор „Аль-Кітабу“ перакладае яго крыўскім словам „душаемца“. ***) Суннат— загад Махамэдаў. араб. ****) У арыгінале на мейсцы гэтых двох сказаў стаяць адпаведныя ім арабскія.

ня ведаю; [23]) у ар. „невясты прэціў“, пол.; [24]) у ар. „напэлнілісе,“ пол.; [25]) у ар. „парсону.“; [26]) у ар. „узыјдзі“, апіска пад уплывам папярэдняга *і*; [27]) у ар. „трвцізнају“, пол.; [28]) у ар. „із велікім фрасункам“; [29]) у ар. няясна, што стаіць у гэтым слове: s ці š; [30]) у ар. „твары“, але ў іншых мясцох рукапісу ё і ў мужчынскім родзе; [31]) у ар. „маје“, апіска; [32]) у ар. „овоц“, пол.; [33]) у ар. „тут“; [34]) у ар. „маје“; апіска; [35]) у ар. „адыјдзу“, апіска; [36]) у ар. „прэклентыј“, пол.; [37]) у ар. „прэціў“; [38]) у ар. „Маккаја“, араб.; [39]) у ар. „жыўляпуць“, апіска; [40]) далей у ар. ў гэтым радку ё некалькі слоў арабскіх, якіх нельга прачытаць; [41]) у ар. назоў гэтага апавяданьня напісаны з боку (на белягу) гэтак: „Кеды Пан Бог (*г* а ня һ) розум створыл“; [42]) у ар. „кеды“; [43]) у арыгінале „створыл“, пол.; [44]) у ар. „кеды југ“, пол.; [45]) у ар. „спэлна стал“, пол.; [46]) у ар. „бодлеглы“, апіска; [47]) ў ар „ет“, апіска. Ва ўсёй кнізе толькі адзін гэты раз ужыта *т*, а так усюды ё „ад“; [48]) у ар. „охотне“; [49]) у ар. „у вензеньју“, пол.; [50]) у ар. „напэлнёны“ пол.; [51]) у ар. „будзуць“, апіска; [52]) у ар. „е“, апіска; [53]) у ар. „зупелныј“, пол.; [54]) у ар. „невонтпліве“, пол.; [55]) у ар. „дзенкі“ пол.; [56]) у ар. „маје“ апіска; [57]) у ар. „пакэјассе“, (э)*е* па стаўлена заместа *а* і наадварот; [58]) тут ё арабскі сказ, даслоўны пераклад якога гэткі: „Бог адзін, а пасол яго Махамэд“; [59]) у ар. „іман і веру“; [60]) у ар. „жэбы“; [61]) у ар. „кількадзесят“, пол.; [62]) у ар. „гэта дуаі“, апошняе слова — арабізм; [63]) тут ё ар. напісаны паарабску, якога вольны пераклад аўтор „Аль-Кітабу“ зрабіў у 8—10 радку 137в: „Стварыцелю слоў“; [64]) у ар. „на круццэ“, пол.; [65]) у ар. „чвартаје“, пол.; [66]) гэты сказ ў арыгінале—паарабску, пераклала даслоўна траскрыбавацелка; [67]) у ар. „тылько“, пол.; [68]) у ар. „прадноцкаје“, мусіць апіска; [69]) у ар. „вядаць“; [70]) тут ё арабскі сказ мусіць перакручаны, яго нельга прачытаць.

Да друку прагатаваў філ. канд.

**Я. Станкевіч.**

# БЕЛАРУСКАЯ ВАЙСКОВАЯ ЦЭНТРАЛЬНАЯ РАДА.

(Працяг).

Глядзі № 1 (7) „Крывіча“ *)

Ад Рэдакцыі. Рэдакцыя памяшчае гэтыя ўспаміны толькі як матэр'ял да гісторыі беларускай вайсковасьці часоў рэвалюцыі, не падзяляючы пункту погляду аутора на падзеі і ацэну іх.

**Дыплёматыя Белвойскцэнтрады.** Ясна сабе усьведамляючы, што пасьля гвалтоўнага разгону Ўсебеларускага Кангрэсу і начнога нападу на Белвойскцэнтраду Савком „Заходняе Обласьці“ аканчальна утраціў ідэёвыя ўплывы на беларускія массы, Петраград пачаў шукаць способу дагаварыцца з беларусамі. Першым крокам ў гэтым кірунку было рашучае адмяжаваньне Ўсерасійскага Савкому ад пазыціі, занятай Савкомам Заходнае Обласьці датычна Ўсебеларускага Кангрэсу.

Вінаватыя ў разгоне Кангрэсу асобы атрымалі па тэлеграфу востры „выгавар“.

Беларускім арганізацыям у Петраградзе і Маскве, а таксама і Радзе Беларускага Кангрэсу было зноў падкрэсьлена, што Петраградзкі Савком „вызнае права народаў безагаворачна, нават да поўнага аддзяленьня ад Расіі“.

Глаўкаверху Крыленку было даручана зараз-жа павярнуць назад да Магілеўскае Стаўкі і ўвайсьці ў перагаворы з Белвайскцэнтрадай.

Даведаўшыся аб ўсім гэтым, а таксама і аб тым, што Крыленка ўжо ў Магілеве, Белвайскцэнтрада роўна праз тыдзень пасьля Менскіх падзей высылае ў Магілеў дэлегацыю ў складзе: кіраўніка Аддзелу Вайсковых фармаваньняў (заступніка генерала Кандратовіча)—паручыка К. Езавітава і члена Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады—І. Н. Серады.

Прап. Крыленка, які жыў не ў будынку глаўкаверха ў Магілеве, а ў спэцыяльным цягніку, да якога заўсёды быў прычэплены паравоз пад парамі,—спаткаў прадстаўнікоў Белвайскрады вельмі варожа.

Гутарка, якая цягнулася больш дзьвёх гадзін, пачалася з таго, што Крыленка ў вялікай агітацыйна-дэмагогічнай прамове востра накінуўся на палітыку Беларускай Вялікай Рады, якая да гэтага часу ня толькі не жадае увайсьці ў паразуменьне з Савецкай уладай, але ня высьветліла, нават, свайго стасунку да яе.

---

*) Па віне карэктара у першай часьці гэтае стацьці, друкаванай у № 1 (7), зьявіліся шкодныя памылкі:

на бал. 38-й ў 17-ым радку зьнізу, фамілію польскага генерала трэба чытаць не „Даўнар-Мусьніцкі“, а „Доўбар-Мусьніцкі“;

на бал. 40-й, у 8-ым радку зьнізу, пасьля слоў „Аддзелу Вайсковых Фармаваньняў“ прапушчана было слова „выехаў“;

на бал. 41-й ў 15-ым і 22-ым радкох скарочаны тытул Мясьнікова „Глаўнакамандуючы Западным (Заходнім) Фронтам“ трэба ў скарочаньні пісаць не „Глаўкадом“, а „Глаўказап“;

на бал. 44-й, у апошнім радку увагі, трэба чытаць не „Радзе Камісараў“ а „Радзе Кангрэсу“ (разумеецца Ўсебеларускі Кангрэс 1917 года);

„Белвойскцэнтрада“—скарочанае—„Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада“.

(Увага аўтора).

Ён, Крыленка, змагаючыся з „самасьційнікамі“ - украінцамі, змушаны кожды момант чакаць удару ў плечы ад беларусаў. Пры гэткіх варунках ён ня можа дапусьціць ніякіх беларускіх фармаваньняў і павінен зусім згадзіцца з прапановамі Глаўказапа Мяснікова аб іх забароне. Беларусы-вайскоўцы павінны зразумець, што, падтрымліваючы Вялікую Беларускую Раду, яны падтрымліваюць беларускую буржуазію, памешчыкаў і генералаў. І ня толькі ён не дапусьціць беларускіх, але ніякіх іншых нацыянальных фармаваньняў, хіба што толькі—латышскія, бо латышы—народ дэмакратычна-пралетарскі і шчыра подтрымлівае Савецкую ўладу.

У працягу гэтай поўгадзіннай прамовы Крыленка, які гаварыў вельмі голасна і піскліва, надта часта падскаківаў на мяккай канапе вагон-салёну, стукаў маленькім кулачком па круглым століку перад ім і тупаў нагамі па тоўстаму дывану, якім была засьцелена ўся падлога вагон-салёну.

Быў ён у куцай, афіцэрска-жаўнерскай, колеру „хакі“, кашулі, без паяса і без пагонаў, на мейсцы якіх яшчэ цяляпаліся абарваныя тасемкі, за якія звычайна зачапляліся пагоны. На нагах у яго былі нячышчаныя „паходныя“ афіцэрскія боты з незабарсанымі і вісячымі ў паветры рэмяшкамі і пражкамі, а ў боты нядбала засунуты былі брудныя, быўшыя калісьці таксама колеру „хакі“, нагавіцы.

Гаворучы з прадстаўнікамі Рады, ён вельмі часта паглядаў на якогась зухаватага матроса, апранутага, не па прыкладу глаўкаверха, ва ўсё чыстае новенькае абмундзіраваньне гвардэйскага флотскага экіпажу, з вялікім дэкольтэ, з шапкай на галаве, з новенькімі бліскучымі галёшамі на нагах і з бліскуча-белай кавалерыйскай шабляй пры адным баку і пісталетам у похве пры другім. Матрос гэты то уходзіў, то выходзіў з салёну, мякка ступаючы па дыване калёшамі, і з вялікім задаволеньнем на абліччы слухаў Крыленку і ківаў галавой кожды раз, калі той стукаў кулаком па стале.

Кожды раз, як паяўляўся гэты матрос, Глаўкаверх Крыленка пачынаў крычаць голасней і стукаць кулаком з большай адзнакай злосьці.

Даслухаўшы да канца Глаўкаверха, прадстаўнікі Белвайскрады катэгарычна апратэставалі яго прамову і адзначылі, што ўсе гутаркі і закіды аб „буржуазнасьці“ Вялікай Рады, а таксама і Вайсковай Цэнтральнай Рады, зусім не адпавядаюць праўдзе, бо ў Радзе няма ня толькі памешчыка-пана, але няма і прамысловай буржуазіі,—і вымагалі, каб Глаўкаверх, усунуўшы ўсялякія спробы закідаў, праўдзіва стаў на грунт самавызначаньня народаў і, ня ўмешываючыся ў беларускія нацыянальныя справы, не чыніў сам і забараніў сваім падуладным чыніць перашкоды беларускім фармаваньням.

На гэта Крыленка зноў папробаваў крычаць і спрачацца, але, калі яму зноў рашуча было адзначана, што прадстаўнікі Белвайскрады прыехалі ў беларускі Магілеў да Стаўкі не як госьці-прасіцелі, а як гаспадары Краю, ў якім Глаўкаверх знаходзіцца толькі часова, і што яны вымагаюць ад яго шчырага выкананьня высунутага Савецкай ўладай прынцыпу „самаазначаньня народаў, аж да адзяленьня іх ад Расіі“,—дык ён нібы-то зьмяк і запрапанаваў пагутарыць „канкрэтна“ аб справах і „прэтэнсіях“ Белвайскрады.

З далейшых гутарак выясьнілася, што ўся Расійская армія перафармовуецца ў Чырвоную армію і што беларусы, калі яны згодзяцца з прынцыпамі, на якіх гэта перафармаваньне мае адбыцца, могуць скарыстаць з моманту і прыступіць да фармаваньня сваей Беларускай Чырвонай арміі.

Прадстаўнікі Белвайскрады гэтай прапазыцыяй былі захоплены ў неспадзеўкі для сябе, а таму зажадаўшы, каб аб прапазыцыі сваёй Глаўнакамандуючы пісьменна паведаміў Цэнтральную Раду і ўсіх камандуючых фронтам, а таксама паклапаціўшыся атрымаць копіі гэтых загадаў і распараджэньняў са штабу Глаўнакамандуючага,—зараз-жа выехалі ў Менск.

**Націянальная Гвардзія.** Белвайскрада, разглядзеўшы „Палажэньне аб арганізаціі Чырвонай Арміі“ і азнаёміўшыся з сэкрэтнымі плянамі і цыркулярамі, дабытымі прадстаўнікамі ў штабе Глаўкаверха, знайшла магчымым, з патрэбнымі прынцыповымі агаворкамі і зьменамі, скарыстаць прапазыцію Глаўкаверха і прыступіць да фармаваньня Беларускае Націянальнае Гвардзіі.

Для фармаваньняў былі, дзеля рожных прычын, назначаны гэткія пункты: Менск, Бабруйск, Рагачоў, Магілеў і Барысаў.

Створаныя ўжо да гэтага часу беларускія часткі,—у Вітабску, Смаленску, Оршы, Лунінцы, Адэсе і 4-ты Армейскі Беларускі корпус, які стаяў ў той момант у Румыніі, каля Яссаў, — заховуюцца ў тым стане, як яны ёсьць, і перафармаваньню ў Націянальна-Чырвоную Гвардзію не падлягаюць.

Калі Глаўказап Мяснікоў з пададзенага яму да выкананьня пляну фармаваньня ў межах яго фронту Беларускай Націянальна-Чырвонай Гвардзіі даведаўся аб кроках Белвайскрады, то страшэнна перапалохаўся.

Зараз-жа, каб скарыстаць час, запрапанаваў ён Вайсковай Радзе утварыць для дэтальнай распрацоўкі пляну фармаваньняў (ў межах Заходнай Обласьці і фронту) мяшаную Камісію ў складзе:

2 прадстаўнікоў Белвайскрады,
2 „ Совкомзапа і
1 „ Штабзапфронта,

а сам пасьпешна зьбірае Совкомзап і „Совет Рабочих, Салдатских и Крестьянских Депутатов“ Заходнай Обласьці і фронту, якім дакладвае аб „новых інтрыгах Белвайскрады“ і прапануе выразіць Глаўкаверху Крыленку энэргічны пратэст з жаданьнем адмены загаду аб фармаваньні Беларускай Націянальна-Чырвонай Гвардзіі. З пастановамі Савета Р. С. К. Д. і Совкомзапа ляціць ён да тэлеграфу, які безпасярэдна злучаў яго з Глаўкаверхам, вызывае Крыленку, перадае яму пратэсты і жаданьні і налягае на тэрміновасьць адказу.

Трэба ведаць, што Крыленка вельмі уважна прыслухаўся да пастаноў Савету Р. С. і К. Д. Заходнай Обласьці і фронту, бо гэта быў бліжэйшы да яго Совдэп, ў раёне працы якога ён працаваў і жыў, апрача таго, Менскі Совдэп лічыўся самым рэвалюційным і самым моцным ва ўсёй арміі і, ўдадатак да ўсяго, Менскі Совдэп адказываў за ўсе здарэньні і неспадзеўкі ў Беларусі, а таму пастановы яго мелі з гэтай стараны асабліва важны незалежніцкі характар.

Ведаў ўсё гэта і Глаўказап Мяснікоў, які меў вялікі уплыў у Савеце Р. С. і К. Д. Заходнай Обласьці, вельмі часта карыстаў з гэтага уплыву і моцна насядаў на Глаўкаверха, прымушаючы яго прыймаць і рабіць тыя крокі, якія спачатку прапанаваліся Мясніковым, як Глаўказапам, але ня былі прыняты Крыленкам, як Глаўкаверхам.

Вельмі часта карыстаўся Мяснікоў гэтай спружынай і не заўсёды рабіў гэта с патрэбным тактам, дапушчаючыся надта вострых формаў і слоў.

А таму і ў Стаўцы Глаўкаверха і ў Штабе Заходнага фронту пачынала складацца і злажылася гэткае ўражаньне, што нібы-то Глаўкаверх залежыць ад Глаўказапа і падпаў пад яго уплывы.

Страшэнны дэмагог, але разам з тым вельмі сябелюбівы чалавек, Глаўкаверх Крыленка надзвычайна быў нездаволены гэткім палажэньнем і і упарцей спрачаўся з Глаўказапам Мясніковым.

Вось чаму, а зусім не з прычыны якіх там сымпатый да беларусаў, як гэта думалі ў Штабе Глаўказапа, здарылася тое, што, калі Мяснікоў перадаў Крыленку вострыя пастановы Савету Р. С. і К. Д і дадаў яшчэ некалькі

сваіх вымаганьняў,— загарэлася паміж імі па тэлеграфе неспадзевана вострая сварка, у выніку чаго Крыленка на адмену свайго загаду ня даў згоды.

2 студня 1918 году адбыўся ў Штабе Заходнага фронту першы сход мяшанай Камісіі дзеля апрацаваньня дэтальнага пляну фармаваньня Беларускай Націянальна-Чырвонай Гвардзіі.

На сходзе былі:

два прадстаўнікі Белвайскрады, з якіх паручык К. Езавітаў быў выбраны за старшыню Камісіі;

два прадстаўнікі Совдэпу, з якіх адзін быў выбраны Секрэтаром, і адзін прадстаўнік Штабу Заходнага фронту — афіцэр Генеральнага Штабу капітан Жукаў.

Камісія выслухала загад Глаўкаверха аб фармаваньні Беларускай Націянальна-Чырвонай Гвардзіі, палажэньне аб фармаваньні Расійскай Чырвонай Арміі, плян фармаваньня, апрацаваны Белвайскрадай, і тэхнічны сподум капітана Жукава.

Капітан Жукаў сказаў, што не пасьпеў яшчэ азнаёміцца са справай і прасіў даць яму на падгатоўку патрэбны час. Камісія пастанавіла сход перарваць і сабрацца 4-га студня.

4-га, 7-га, 9-га і ў далейшыя дні Камісія прыступіць да працы не магла, бо прадстаўнікі Совдэпу на сход не яўляліся.

Каля сярэдзіны студня прыйшла ад Совдэпу папера аб тым, што ён адклікае сваіх прадстаўнікоў з Камісіі, бо фармаваньне Беларускай арміі лічыць непатрэбным і шкодным.

Стала ясна, што Мяснікоў назначыў гэту Камісію адумысна дзеля адвалокі справы, каб скарыстаць час ў перагаворах са Стаўкай Глаўкаверха.

Крыленка загаду не адмяняў, націскаючы на тое, што ён мае характар опэратыўны і компэтэнцыі Савету Р. С. і К. Дэпутатаў не падлагае, але разам з тым, не насядаў і на Глаўказапа, каб ён гэты загад безумоўна выканаў.

Магчымасьць паразуменьня адпала.

Пры гэтых варунках нельга было думаць аб фармаваньні Беларускай націянальна- чырвонай арміі, або якіх іншых націянальна-вайсковых частак ў межах Беларусі.

Што-ж датыча беларускіх фармаваньняў па-замежамі Беларусі, дык яны вяліся на старых асновах і пертвараць іх у Чырвоную Гвардзію ня было ніякага сэнсу.

**Конспіратыўныя фармаваньні.** Ня маючы магчымасьці вясьці ў Менску і яго кругаколіцы легальных беларускіх фармаваньяў, Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада перайшла да конспіратыўнага спосабу фармаваньня.

Яшчэ ня час расказываць аб тым, якім чынам і чыёй працай удалося (даволі таго, што ўдалося) замяніць склад 289-га пешага запаснага палка ў Менску гэткім чынам, што ў ім апынулася 75% беларусаў, якія прыбылі ў Менск маленькімі групкамі і „адзіночным парадкам" у працягу канца сьнежня 1917 году і пачатку студня 1918 году.

Прыбыўшыя вайскоўцы павялічылі сабой лік тых беларусаў, што яшчэ раней былі ўліты ў гэты полк загадам Глаўказапа Мяснікова з расфармаванага 1-га пешага Менскага беларускага палка.

Адначасна было пераведзена, звольнена „ў одпуск" і здэмабілізована з таго-ж 289-га палка шмат маскалёў, якія рваліся ў Расію далей ад непакойнага фронту і насьпяваўшых падзей у Менску.

Аставалася толькі звольніцца ад рэшты 25%, зрабіць зьмену некаторых камандзераў і заняцца арганізацыяй палка ў адну дружную і моцную частку *).

*) Апрача таго, вялася гэткая-ж праца і ў Менскай Караульнай Камандзе, якая па ліку жаўнераў раўнялася цэламу паўку і мела 50% беларусаў.

Праца гэта праводзілася вельмі асьцярожна і па магчымасьці патаемна. Полк кожды дзень адведывалі прадстаўнікі Агітацыйнага Аддзелу Белвайскрады, якія закладалі ў кождай роце (кампаніі) і камандзе беларускі камітэт, прадстаўнікі якога ўжо зносіліся з Вайсковым Аддзелам і прыходзілі туды па інструкціі.

Адначасна з гэтым вялася шырокая праца па арганізаваньню вёсак наўкол Менска і зьбіралася зброя і снарады, якія былі пакінуты на фронце і па вёсках дэмабілізаванымі расійскімі палкамі.

Сяляне ахвотна памагалі Радзе зьбіраць і заховываць зброю.

Справай гэтай кіраваў Гр. М... які часта у гэтых мэтах выязджаў на фронт і ў прыфрантовыя вёскі.

Насьпявае момант рашучага змаганьня за ўладу.

Белвайскрада становіцца асяродкам, наўкол якога гуртуюцца ня толькі беларусы-вайсковыя, але і рэшта актыўнейшага беларускага грамадзянства, да яе-ж скіровуюцца і прыслухаюцца націянальныя арганізаціі іншых націянальнасьцяў, якія апынуліся на Заходным фронце.

**Белвайскцэнтрада і іншыя націянальнасьці.** Стасункі, што адразу зложыліся у Белвайскцэнтрадзе з іншымі націянальнасьцямі і іх вайсковымі фармаваньнямі, трэба характарызаваць як самыя найлепшыя, шчырыя і прыязныя.

Ня кажучы ўжо аб украінцах, з якімі беларусы ўвесь час працавалі разам, падтрымліваючы адны адных у цяжкія моманты *), але нават з гэткімі далекімі і малавядомымі нам Азэрбейджанскімі татарамі Белвайскцэнтрада падтрымлівала самыя жывыя стасункі, пераховуючы некаторы час у сваім памешканьні справы Татарскага Вайсковага Камітэту Заходнага фронту, а таксама і старшыню яго, за якім сачылі чыны толькі што утворанай „Чрезвычайной Комиссии по борьбе съ контр-революцией и спекуляцией“.

Ў старане трымаюцца толькі палякі, якія бачуць ў беларусох варожую іх клясавым інтэрасам арганізацію і сьпяшаюцца ўсімі спосабамі папярэдзіць беларусаў і захапіць ўладу ў свае рукі, ня спыняючыся дзеля гэтых мэтаў ні перад супольнаю працаю з бальшавікамі, ні перад правакацыяй ў іх вачох справы беларускай. Скарыстаўшы дзваленьне Керэнскага і ўтварыўшы ў глыбіні Расіі польскі корпус Доўбар-Мусніцкага, яны ўсімі спосабамі стараюцца цяперака як хутчэй перацягнуць яго на Беларусь, дзе робяць сабе базу **). Да таго-ж часу пралязаюць яны на кінутыя расейскім афіцэрствам пасады ў Штабе Заходнага фронту, вядуць безупынную разьведку таго, што робіцца ў Белвайскрадзе і падсылаюць да яе сваіх агентаў, якія, выдаючы сябе за беларусаў, робяць спробы увайсьці ў даверые Выканаўчага Камітэту і яго аддзелаў, прапануюць безграшовую працу і дамагаюцца атрымаць пасады ў канцэлярыі, каб быць ў курсе ўсіх спраў.

Беларусы-вайсковыя, якія ня бачылі і не рабілі ніякай рожніцы паміж іншымі націямі і шчыра гатовы білі дапамагчы кождай з іх, спачатку ніяк не маглі зразуміць пазыціі Польскай Вайсковай Арганізацыі (П. О В.), якая працавала ў Менску, і,—будучы вельмі зьдзіўленымі яе палітыкай і халодным стасункам да беларусаў,—ўсе-ж ткі ніяк не маглі дадумацца да таго, каб лічыць яе ворагам беларускай справы, або дапусьціць хоць на хвілю думку аб тым, што П. О. В. (па польску Р. О W.) вядзе падкоп пад працу Белвайскрады.

---

*) Дужа часта нават сходы Украінскае Вайсковае Рады Заходнага фронту адбываліся ў будынку Белвайскцэнтрады.

**) У трохкутніку крэпасьць Бабруйск, Рагачоў і Стары Быхаў.

Хутка аднак здарыліся падзеі, якія выклікалі першыя падазрэньні і прымусілі Белвайскраду задумацца.

Заўважана было, што некаторыя сэкрэтныя паперы і тэлеграмы Аддзелу Фармаваньняў Вайсковай Рады раптам на нейкі час кудысь зьнікалі, а потым,—праз содні, а то і пасьля палуднёвага перарыву,—гэтак-жа неспадзевана аказываліся ў тэй-жа папцы і на тым-жа мейсцы, дзе іх пакінулі і дзе потым шукалі і не знаходзілі.

Заўважана было і тое, што адзін з канцэлярскіх служачых Белвайскрады, быўшы афіцэр, сам на гэту службу напрасіўшыся, вельмі цікавіцца справамі і перапіскай, якая даручалася ня толькі яму, але і іншым служачым канцэлярыі, а таксама заўсёды шукае спосабу пазнаёміцца з паступаючымі і выбываючымі за дзень паперамі, „дапамагаючы“ журналістым запісываць паперы ў журнал.

Члены Агітадзелу, што вартавалі ў прыёмнай Белвайскрады, якая заўсёды набіта была вайсковым людам і дэлегатамі, прыбываючымі з франтавых арганізацій, з свайго боку заўважылі, што ў прыёмную штодня зьяўляецца нейкі вайсковы і старэнна чытае разложаныя на сталох нумэры газэты „Беларуская Рада“, часта аднак адрываючыся ад гэтай працы, каб пагутарыць скуль яны, як у іх часьцёх ідзе беларуская справа і чаго прыехалі яны да Белвайскрады.

Пазьней было устаноўлена, што, зараз-жа пасьля перарыву працы Белвайскрады ў часе полудню і пасьля скончаньня яе ўвечары, яны абодвы ідуць проста да штабу П. О. В.

Тады беларусы сталі уважна прыглядацца да гэтай арганізаціі.

І якое-ж было іх зьдзіўленьне, калі яны устанавілі, што большасьць членаў П. О. В. зьяўляюцца вельмі уплывовымі асобамі ў Штабе Заходнага фронту, займаючы ў Глауказапа Мяснікова цэлы рад адпаведных пасад і штодзенна з ім спатыкаючыся.

Глухое падазрэньне перайшло ў цьвёрдую пэўнасьць, калі Белвайскрада устанавіла, урэшце, склад Вярхоўнага Польскага Камітэту, які тайна працаваў у Менску і кіраваў усёй польскай палітыкай у Расіі, а таксама і працай Доубар-Мусніцкага і Менскай Польскай Вайсковай Организаціяй (П. О. В.).

У Вярхоўны Польскі Камітэт уходзілі і каля яго (а таксама і каля П. О. В.) гуртаваліся выключна вялікія палякі-земляўласьнікі з Беларусі і Літвы.

Ня трэба тлумачыць таго, з якой ненавісьцю і страшэннай злосьцю і непакоем глядзелі яны на Белвайскраду і на яе працу фармаваньня Беларускіх частак, бо бачылі ў іх пачатак канца свайго гаспадараньня на Беларускай Зямлі і пачатак праўдзівага і моцнага абуджэньня вякамі угнятанага імі Беларускага працоўнага народу.

Белвайскрада была для Вярхоўнага Польскага Комітэту страшней і ненавісьней Глауказапа Мяснікова і Совдэпу Заходнай обласьці і фронту, бо тые былі наезднікамі і ня мелі каранёў у Беларускім народзе, а Белвайскрада, як і засланяная і бароненая ёю Рада Ўсебеларускага Кангрэсу,—вырасьлі з народнае беларускае глебы, былі ёю ўзгадаваны і ёю-ж былі пасланы на вялікае замаганьне за лепшую долю Беларускага народу.

Зьнішчыць беларускія нацыянальныя фармаваньні, а самую Белвайскраду паддаць сваім—вось што задумаў Вярхоўны Польскі Камітэт.

Ня дзіва, што праз некалькі дзён пасьля высьвятленьня працы двох памянёных асоб, доступ якім у Белвайскраду быў зараз-жа спынёны,—дабытыя імі весткі і інфармаціі апынуліся ў Штабе Глаўказапа.

Ня дзіва і тое, што ў Менскія жаўнерні, дзе стяў 289 пешы запасны полк, былі чамусь-ці адцягнуты з фронту і пастаўлены два другія палкі, з кулямётнымі камандамі і бомбамётамі.

І зусім ўжо ня дзіўна, што каля 20-х дзён студня спачатку адна рота, а потым і ўвесь 289-ты пешы запасны полк атрымаў месячную камандзіроўку на вартаваньне жалезных дарог, пры гэтым яму была дадзена дзялянка на некалькі сот вёрст. Камандзіорўка гэта была аднача*с*на і вельмі карыснай і страшэнна шкоднай для беларусаў.

З аднэй стараны Белвайскрада замацовывала за сабой Менска-Смаленска-Вітабскі і Смаленска-Арлоўскі абводы жалезных дарог, а з другой стараны—трацiла ў Менску найболей сьвядомую частку гарнізону, бо беларусізацiя Менскай Караульнай Каманды пасувалася, з некатарых прычын, вельмі туга *).

Перад Белвайскрадай трэці раз паўстала пытаньне: ці не пара узяцца за зброю? **)

Аднак і гэты раз, добра абмяркаваўшы ўсё „за“ і „процiў“, Белвайскрада ўстрымалася ад узброенага выступу і распарадзілася, каб загад Штабу Глаўказапа аб камандзiроўцы на вартаваньне жалезнай дарогі быў выкананы. Пры чым частка найбольш здольных да агітацыйнай працы жаўнераў была паслана ў вескі.

Праз тры дні пасьля выезду з Менску 289-га пеш. запаснага палка зьявіліся ў Раду вялікія Менскія земляўласьнікі, муж і жонка Ваньковічы, і, не называючы сябе па імені і не тлумачучы дзяжурнаму мэты свайго прыходу, пажадалі бачыць старшыню Белвайскрады і рэдактара газэты яе, каб пагутарыць з імі ў вельмі важных справах.

Старшыні Белвайскрады, гр. Рак-Міхалоўскага, ў той час ня было, і абавязкі яго спаўняў наменік старшыні, гр. К. Езавітаў. Ён запрасіў да свайго пакою рэдактара газеты „Беларуская Рада“ капітана Ярошэвіча і з ім прыняў гэтых гасьцей.

Гутарку пачала ды ў большасьці яе і вяла пані Ваньковіч.

Яна назвала сябе і мужа, адзначыла, што абоя яны трымаюцца „краёвай арыентацыі“, жадаюць „Краю„ і „яго жыхаром“ толькі усяго самага найлепшага і вось у гэтых мэтах прыйшлі да Белвайскрады, каб пагутарыць з яе кіраўнікамі і падзяліцца некаторымі сваімі думкамі і прапазыцыямі.

Пры гэтым і яна і муж яе, пасьпяшылі падкрэсьліць, што гутарка гэта і візыта зусім прыватныя, нікога і да нічога не абавязываюць, і робяцца з іх уласнай ініцiятывы, але, зусім зразумела, яны могуць мець вялікія вынікі, калі мы да чаго-кольвек дагутарымся, бо тады яны, п. п. Ваньковічы, возьмуць на сябе далейшыя крокі да „паразуменьня“ паміж дзьвюма наймацнейшымі арганізацыямі ў Краю.

З далейшага працягу яе прамовы выяснілася, што пад наймацнейшымі арганізацыямі ў „Краю“ п. Ваньковіч разумее Белвайскраду і Вярхоўны Польскі Камітэт, з якіх адна мае сілу юрыдычна-праўную (Белвайскрада), а другі—фактычную і вельмі моцную сілу аружную, і што ад своечаснага паразуменьня паміж імі залежыць у Краю ў с ё.

---

*) Трэба ўвес час памятаць і тое, што гэта вельмі сур'ёзная і адказная праца рабілася пры шалёнай сьпешцы і ў працягу вельмі кароткага часу (Сьнежань 1917 г. і Студзень 1918 г.).

**) Першы раз—спачатку утварэньня Беларускай Вайсковай Рады ў кастрычніку 1917 году; другі раз—пры забароне фармаваньня 1-га пеш. Менскага Беларускага палка і загадзе аб зьліцьці яго з 289-ым пеш. запасным палком.

На пытаньне аб формах і варунках, у якіх мысьліцца гэтае паразуменьне, п. Ванькові́ч адказала вельмі туманна, адзначыўшы, што гэта магло бы быць аб'ектам безпасярэдніх гутарак.

На пытаньне аб аграрнай палітыцы Вярхоўнага Польскага Камітэту і аб поглядах яго на думкі і рэзалюціі беларусаў-вайсковых, п. Ваньковіч адказала, што аграрнае пытаньне, паводле яе і Вярхоўнага Камітэту думак, павінна станоўча быць вырашаным праз Краёвы Сойм, а што датыча думак і рэзалюцій вайскоўцаў, дык „зусім зразумела“, што ў тым выглядзе, як яны ёсьць,—яны ня могуць быць прынятымі.

Прадстаўнікі Белвайскрады адзначылі, што мяняць пастаноў сваіх кангрэсаў яны не упоўнаважаны, дый, наогул, ў справах палітычных лепей было-бы паважаным дэлегатам, ці прыватным ініцыятарам „паразуменья“, зьвярнуцца безпасярэдна да Рады Ўсебеларускага Кангрэсу, якая зьяўляецца адзінай урадова-праўнай установай у Беларусі і адзіна компэтэнтнай ва ўсіх тых пытаньнях, што гутаркай гэтай парушаны.

У ніякія далейшыя гутаркі, ні з п. п. Ваньковічамі, ні безпасярэдна з Вярхоўным Польскім Камітэтам ніхто з сяброў Прэзыдыума Белвайскрады ня ўходзіў. Ня меў з імі гутарак і ніхто з іншых членаў Белвайскрады *).

Прэзыдыум Белвайскрады зусім згодзіўся з тактыкай намесьніка старшыні і падаў гэта да ведама прэзыдыума Рады Ўсебеларускага Кангрэсу.

**Насьпяваньне рашучых падзей.** Праца Белвайскрады ішла далей тымжа шалёна пасьпешным парадкам.

У круг абавязкаў яе увайходзяць ужо ня толькі справы вайсковыя, але і абслужываньне патрэб Рады Ўсебеларускага Кангрэсу і падтрыманьне сувязі паміж ёю і беларускім грамадзянствам на мяйсцох.

Мяйсцовыя грамадзкія арганізаціі, як у Менску, гэтак і ў правінціі, многія урадовыя установы і карпараціі служачых у рожных ведамствах,— з вялікай адвагай і ўсё з большай сьвядомасьцю і ахвотай дапамагалі працы Белвайскрады, вельмі часта рызыкуючы ня толькі сваёй пасадай, але нават і жыцьцём.

Члены Белвайскрады знаходзяцца ў бязупынных разьездах і ўсюды спатыкаюцца і правозяцца беларусамі-жалезнадаражнікамі без усялякіх прапускоў, „літэраў“, ці білетаў,—проста ў службовых вагонах.

Мяйсцовыя, паветавыя і валасныя Земствы хаваюць прадстаўнікоў Белвайскрады і правозяць іх на „стайковых“ конях з вёскі ў вёску і узасоблюць у дарозе ўсім патрэбным.

Прадстаўнікі Земгора ў Менску (праўда, ня ўсе) ахвотна і безграшова харчуюць у сваіх сталоўках членаў Белвайскрады, членаў Рады Ўсебеларускага Кангрэсу і прыязджаючых да іх дэлегатаў.

Служачыя на тэлеграфе, беларусы і беларускі, яўляюць сабой прыклад надзвычайнай адвагі і адданасьці беларускай справе. Яны цэлымі начыма перадаюць і прымаюць, пад носам у дзяжурных на тэлеграфе камісараў, аграмадныя інструкційныя тэлеграммы Белвайскрады і Рады Кангрэсу ва ўсе беларускія гарады і мястэчкі, а таксама і на ўсе фронты. Мала таго, яны зьвязуюцца з беларусамі-тэлеграфістымі ў Петраградзе і Маскве і праз іх інфармуюць беларускія арганізаціі і Расійскую дэмакратычную прэссу аб падзеях у Менску, а Менск—аб палажэньні беларускай справы ў Расійскіх цэнтрах.

---

*) Выключаючы усім вядомага польскага найміта, Паўла Аляксюка, які за некалькі дзён перад гэтым быў выключаны са складу Белвайскрады за растрату даручаных яму для перавозкі з Кіяву ў Менск 10.000 царскіх рублёў, пазычаных Белвайскрадзе Украінскай Радай.

Амэрыканскае культурна-дабрачыннае т-ва „Хрысьціянскай моладзі“ перадае ў рукі Белвайскрады свае клюбы і кінематографы, як у самым Менску, гэтак і на фронце.

Нават некаторыя бальшавіцкія камісарыяты і іх кіраўнікі, каб забасьпечыць сабе шлях да адходу, пачынаюць шукаць зьвязку з Белвайскрадай і просяць (як, напрыклад, каміссарыят Асьветы), дапамогі ў школьнай працы і ўплыву на вучыцельства.

З Румынскага фронту, Адэсы, з Кіява і Вітабска, штодня пачынаюць прыходзіць усё болей радасныя весткі аб ходзе беларускіх фармаваньняў.

Збліжаецца час пераводу ўсіх беларускіх частак у Менск.

Белвайскрада асьцярожна рыхтуецца да перавароту ў Менску і старэнна апрацовуе як плян яго, так і плян перавозу ў Менск беларускіх частак.

Менскае інтэндантства, цішком ад Глаўказапа, пачынае узасабляць членаў Белвайскрады абмундзіраваньнем і загатаўляе на складах „рэзэрвны запас“, аб якім паведамляе Белвайскраду.

**Арэшт Прэзыдыума Белвайскцэнтрады.** У гэты момант, калі аставалася зрабіць апошні асьцярожны высілак, і ўлада перайшла-б, нарэшце, да Белвайскрады і Рады Ўсебеларускага Кангрэсу,—на іх зваляецца новая няўдача.

Ці з ініціатывы самога Глауказапа, ці Совдэпу, а мо і па нашэпту тых, хто бачыў у беларусох сваіх сьмяротных ворагаў, але ноччу з 31 студня на 1-е лютага *) на будынак Белвайскрады быў зроблены новы напад бальшавікоў.

Зьявіліся яны, як звычайна, пасьля поўначы, але на гэты раз ня было сярод іх п'яных, ды і самы склад нападаўшых быў іншы, чым заўсёды: на чале атраду з толькі што сфармаванай чырвонай гвардзіі, якая абслуговывала мяйсцовую Чэка, стаяў нарад матросаў, прыбыўшых у Менск з Магілева.

Загасіўшы пражэктары і схаваўшы за рогам Падгорнай і Паліцэйскай вуліц свае аўтамобілі, нападаўшыя ачапілі будынак Белвайскрады і занялі ўсе ўходы і выхады.

Не гледзячы на позні час, прэзыдыум Белвайскцэнтрады яшчэ працаваў у сваім пакою, а ў пакою Рады Ўсебеларускага Кангрэсу адбывалася нарада старшыні Выканаўчача Камітэту—гр. Я. Варонкі, з сябрамі камітэту: П. Бадуновай, М. Касьцевічам і А. Смолічам.

Варваўшыхся матросаў і членаў Менскае Чэка спаткаў намесьнік старшыні Белвайскрады, гр. К. Езавітаў.

На пытаньне аб мэтах іх паяўленьня, кіраўнік атраду, нехта таварыш Ярошэвіч, махаючы перад намесьнікам старшыні Белвайскрады рэвальвэрам, пачаў крычаць, што яму даручана арэштаваць усіх членаў Рады і што ён вымагае, каб яны ўсе зараз-жа апраналіся і „бяз лішніх разгавораў“ выходзілі на вуліцу да канвою. Апрача ўсіх членаў Белвайскцэнтрады, ён павінен арэштаваць яшчэ і аднаго з пасыльных-хлопчыкаў, 14-ці гадовага Апанаса.

Намесьнік старшыні апратэставаў гэтае вымаганьне і ў свой чарод патрэбаваў, каб т. Ярошэвіч **) прэд'явіў пісьменны мандат на права ўходу ў памешканьне Белвайскрады.

---

*) Праз пяць—шэсць дзён пасьля візыты п. п. Ваньковічаў.

**) Вельмі распашыраная беларуская фамілія ў Менскай і Смаленскай губэрнях.

Ярошэвіч дастаў з кішэні пакомканы кавалак паперы, на якім значылася:

„Совѣтъ
Рабочихъ и Солдатскихъ Депутатовъ
города Минска.
Отдѣлъ
по борьбѣ съ контръ-революціей
и спекуляціей.
31 января 1918 года *)
№ 39.

Товарищу
Ярошевичу.

Ордеръ.

Предписывается Вамъ отправиться въ Бѣлорусскую Войсковую Раду, домъ № 2, кв. 10, по Полицейской улицѣ, для производства обыска и ареста всѣхъ лицъ, тамъ находящихся, въ томъ числѣ и посыльнаго мальчика Афанасія.

Предсѣдатель Л. Резацсскій.

Секретарь Ж. Баренс."

Прачытаўшы ордэр і запісаушы ў сваю памятную кніжку дату і № яго, гр. К. Езавітаў адзначыў, што жаданьне т. Ярошэвіча арыштаваць „усіх членаў" Белвайскрады ніякім чынам споўнена быць ня можа, бо, па-перш, іх больш ста чалавек (пры гэтых словах т. Ярошевіч і матросы палахліва паўзводзілі куркі сваіх рэвольвараў і пачалі азірацца на ўсе дзьверы), а па другое, тутака начуе ўсяго 10% з іх, а рэшта працуе ў Менску, яго ваколіцах і на фронце. Калі-ж, для выкананьня ордэру, яму усёж-ткі трэба каго-колечы арыштаваць, дык ён можа гэта зрабіць з намесьнікам старшыні і сэкрэтаром, якія адказываюць за ўсю працу Белвайскцэнтрады.

Ярошэвіч пачаў спрачацца, але гучны стрэл са стрэльбы ў сумежным пакою **) страшэнна перапалохаў яго і матросаў, і яны зараз-жа згодзіліся с прапазыціяй намесьніка і толькі наскаралі чым хутчэй апранацца.

Зрабіўшы апошнія распараджэньні і наказўшы скарыстаць час і вынесьці з Рады архівы, гр. К. Езавітаў і гр. В. З..... развіталіся з таварышамі і з Ярошэвічам, спусьціліся па сходках ***), густа застаўленых канвойнымі чырвона-гвардзейцамі, ўніз на вуліцу.

З-паза вугла адзін за другім выпаўзлі цёмныя фігуры аўтамобіляў.

У першы аўтамобіль з некалькімі канвойнымі былі пасаджаны заарыштаваныя, ў другі сеў Ярошэвіч з матросамі.

Успыхнулі агні пражэктараў і аўтамобілі шалёна панясліся па пустых вуліцах Менску да штабу Чэка, у готэль „Эўропа".

Рэшта канвою і аўтамобіляў асталася на мейсцы пільнаваць будынак і членаў Рады.

Арыштаваныя былі адвезены ў готэль „Эўропа", дзе ўсю ноч іх дапытывалі, а зрана адпраўлены былі на гаўптвахту, на Шырокую вуліцу, дом № 21.

---

*) Да лютага бальшавікі ўжывалі стары стыль, а з лютага перайшлі на новы.

**) Праз некалькі хвілін выяснілася, што гэта страляў 12-ці гадовы хлопчык-пасыльны Кастусь, які спаў з братам Апанасам і, калі таго пачалі будзіць матросы, прачнуўся, схапіў са сьцяны набітую жаўнерскую стрэльбу, даручаную яму ўвечары адным з дэлегатаў на сховы, і ўзяўся бараніць брата. Куля нікога не зачапіла.

***) Белвайскрада была на другім паверсе.

Большасьць членаў Белвайскрады, якія асталіся ў будынку Рады Кангрэсу, карыстаючы момант часовай замінкі і перапалоху, схавалі пад вопратку ўсе найважнейшыя справы Рады і, прэд'явіўшы замясьціцелю Ярошэвіча карткі Беларускае Соціялістычнае Грамады і растлумачыўшы яму, што тутака нібы-то адбываўся сход яе Қамітэту,—дабіліся дазваленьня пакінуць будынак і зараз-жа разыйшліся па прыватных кватэрах.

Некалькі членаў, што асталіся ў будынку Белвайскцэнтрады, былі пратрыманы тамака да раніцы, а потым дастаўлены ў готэль „Эўропа", скуль частка з іх была адпушчана, а 4 чалавекі, ў тым ліку і кіраўнік Палітычнага Аддзелу, гр. Язэп Мамонька, пасаджаны на тую-ж гауптвахту, на якой ужо былі гр. гр. Езавітаў і Захарка.

„Савком Заходнае Обласьці" абвяшчае Белвайскцэнтраду распушчанай, а кіраўнікоў і ўсіх членаў яе—падлягаючымі Рэвалюцыйнаму Суду.

**Беларусы прыймаюць вызаў.** Акт гвалтоўнага арышту Белвайскцэнтрады быў апошняй кропляй, якая перапоўніла чашу цярпеньня беларускага арганізаванага грамадзянства.

З усіх старон пасыпаліся ў Менск і Петраград рашучыя пратэсты беларускіх вайсковых і грамадзкіх арганізацый.

У Қіяве, Адэсе і Яссах (Румынія) зараз-жа пачаліся перагаворы з Украінскім і Румынскім Урадамі аб хутчэйшым пропуску і перавозе беларускіх вайсковых частак, якія стаялі на Украіне і ў Румыніі (4-ты корпус) праз украінска-бальшавіцкі фронт, адкуль яны пачнуць прабівацца на Менск.

У Вітабску канфлікт паміж Беларускай Вайсковай Радай Паўночнага фронту і Вітабскім Губсовдэпам выліваецца, нарэшце, ў аружную стычку. На пляцу перад Мікалаеўскім саборам беларусы бяруць верх над чырвонагвардзейцамі Губчэка і гоняць іх па ўсіх вуліцах.

Улада ў Вітабску пераходзіць да беларусаў.

Усе гарадзкія установы, арганізацыі і профсаюзы падтрымліваюць Белвайскраду Паўночнага фронту.

Совнарком Вітабска ўцякае ў Смаленск.

Склікаецца новая Гарадзкая Дума.

Вітабскія беларусы рыхтуюцца на падмогу ў Менск.

Беларускі конны полк у Воршы, хаця-ж і акружаны з усіх старон пешымі маскоўскімі часткамі і кулямётамі, прабіваецца на Менск.

Палажэньне Белвайскцэнтрады ніяк ня можна лічыць кепскім, ці прайграным. Арыштавана ўсяго 6 членаў. На волі асталіся ўсе члены Рады Қангрэсу і немаль-што уся Белвайскцэнтрада з другім намесьнікам старшыні, гр. Тамашом Грыбам, на чале. Вайсковы запал дайшоў да апогея. З боку суседзяў абецана падтрымка. Цягнуць далей немагчыма: трэба брацца за зброю.

**Здрада.** У гэты цяжкі і адпаведны момант, калі ўсе беларускія сілы адным фронтам павінны былі кінуцца на насядаўшага ворага, ў самым сэрдцы справы, Выканкоме Белвайскцэнтрады, сталася сумнае і ганебнае здарэньне.

Няпрыемна і цяжка ўспамінаць аб няпрыгожых здарэньнях. Сорамна, як гэта гаворыцца, выносіць бруд з хаты. Але, дзеля таго, што вінаватчыкі здарэньня яшчэ 7 гадоў таму назад самі вынесьлі на двор гэты бруд, дык мусімо даць праўдзівую ацэну таго, што стварылася ў Белвайскцэнтрадзе на другі дзень пасьля арышту актыўнейшых з яго членаў.

Ужо праз некалькі хвілін пасьля вывазу з будынку намесьніка старшыні і сэкрэтара Белвайскцэнтрады і выхаду членаў Рады Кангрэссу і іншых, якія мелі карткі Беларускай Соціялістычнай Грамады,—трое, толькі

што камандзіраваных з тылу і, як відаць, страшэнна палахлівых членаў яе, загаманілі аб тым, што трэба здацца, вызнаць Савецкую ўладу і працаваць з ёю разам. Члены Белвайскцэнтрады, што працавалі у ёй з самага пачатку і перажылі шмат спрэчак і стычак з бальшавікамі, накінуліся на гэтых навічкоў з дакорамі ў палахлівасьці і здрадзе і прабавалі ўсчуняць іх. Загарэлася вострая спрэчка, разьбіўшая затрыманых членаў на два абозы: спалохаўшыхся навічкоў--безпартыйных, яшчэ не уцягнуўшыхся ў справу, і старых працаўнікоў—„грамадзістаў“ (членаў Беларускае Сацыялістычнае Грамады).

Наранiцы на допыце навічкі абвесьцілі сябе прыхільнікамі бальшавіцкай ўлады, падпісалі аб гэтым пратакол і былі зараз-жа звольнены, а „грамадзісты“, як ўжо упаміналася, адпраўлены на гауптвахту.

Трое выпушчаных трусоў-здраднікаў, каб адмяжавацца ад рэшты членаў Рады, абвешчаных ўне закону і падлягаючых рэвалюцыйнаму суду, напісалі ў рэдакцію бальшавіцкай Менскай газеты „Звѣзда“ аб тым, што яны ніколі з палітыкай Белвайскцэнтрады згодны ня былі, нічога супольнага з яе працай ня мелі і ня маюць. Да ліста гэтага далучыў свой подпіс і гр. Адамовіч Старшы *).

Апублікаваньне гэтага лісту зрабіліа на ўсе беларускія арганізаціі вельмі цяжкое ўражаньне і было найбольшым з усіх udaраў па працы Белвайскцэнтрады. Баявы настрой астаушыхся на волі членаў, якіх не спалохалі арышты таварышоў, дэкрэт аб распуску Рады і Рэволюцыйным Судзе,—быў патушаны, а воля да рашучых крокаў--зломлена. Некалька членаў, справакаваных пагрозамі здрадзіўшай групы, змушаны былі нават пакінуць Менск.

Белвайскцэнтрада была гэтымі здарэньнямі разьбіта на 5 груп: а) групу арыштаваных, б) групу здрадзіўшых, в) групу працаваўшых па-за межамі Менску, г) групу уцекшых з Менску пасьля пісьма і д) групу астаўшыхся ў Менску ў падпольлі.

Астаўшаяся на свабодзе, але ў падпольлі, група была страшэнна дэмаралізавана зваліўшыміся падзеямі і ня толькі не магла паўзяць якіх-колечы рашучых крокаў супроць Менскага Савдэпу, але ня мела магчымасьці паклапаціцца нават аб тым, каб выручыць сваіх сяброў з-пад арышту і каб падтрымліваць далей рэгулярныя стасункі з арганізаціямі.

**Белвайскцэнтрада пераходзіць у наступленьне.** Падзеі, між тым, разьвіваліся далей з баечнаю шпаркасьцю.

У Берасьці немцы ставяць бальшавіцкай дэлегаціі ўсё новыя і новыя вымаганьні, якія тая ўжо не адважваецца, нават, абсуджаць,—ня толькі што ня прымаць.

Насьпявае ультыматум і „паходны мір“.

У Менску пачынае адчувацца нейкая трывога.

Арыштаваным членам Белвайскцэнтрады удаецца з гаўптвахты устанавіць кантакт з астаўшыміся на свабодзе. З кароткіх інфармацій даведываюцца яны, што на дапамогу з Вітабску спадзявацца нельга, бо ўлада тамака зноў ужо ў руках бальшавікоў **), і што трэба самім бараніць сябе і наладжываць барацьбу з Менскім Савдэпам.

---

*) Грамадзянін гэты, быўшы рэдактар аднэй з Ковенскіх расійскіх газэт, прыстаў ў 1917 годзе да Беларускай працы, але заўсёды адзначаўся вельмі хілкай пазыціяй і страшэннай здольнасьцю да дэмагогіі. Цяперака ён працуе з палякамі і Алексюком.

**) На трэцьцюю, ці чацьвёртую ноч, пасьля пераходу ўлады да Беларусоў, польскі полк, які стаяў ў Вітабску і абвесьціў нэўтралітэт у беларуска-бальшавіцкай стычцы,—зрабіў здрадны напад на Белвайскраду Паўночнага фронту, арыштаваў яе членаў, абязброіў Беларускую каравульную каманду і перадаў арыштаваных і ўладу ў Вітабску бальшавіцкаму Савдэпу.

19-га Лютага арыштаваныя ўцякаюць з гаўптвахты, зьбіраюць ў прыватнай кватэры нябожчыка гр. Лявіцкага надзвычайны сход Выканаўчага Камітэту Белвайскцэнтрады, арганізуюць тутака-ж Беларускую Камандатуру і, апіраючыся на некаторыя вайсковыя групы, на профэсыянальныя хаўрусы жалезнадарожнікаў, тэлеграфістых і інш., выступаюць у адкрытую барацьбу з Менскім Савдэпам і Глауказапам Мясніковым.

А 9 гадзіне вечара ўлада у Менску пераходзіць у рукі Белвайскцэнтрады і Выканаўчага Камітэту Рады Ўсебеларускага Кангрэсу *).

Глаўказап, Савет Р. С. і К. Д. Заходнай Обласьці і Фронту, Совком, Чэка і Савдэп гор. Менску—пакідаюць г. Менск і ўцякаюць у Барысаў, а стуль—у Оршу.

Ўсю ноч засядае Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Кангрэсу, які апрацовуе першую Грамату да Беларускага Народу і выдзяляе са свайго складу першы Беларускі ўрад—першы Народны Сэкрэтарыят Беларусі ў ліку 7 Народных Сэкрэтароў з гр. Язэпам Варонкам на чале.

Назаўтра нашыя часткі, падтрымаўшыя Белвайскцэнтраду, па загаду Каманданта зводзяцца ў 1-шы Менскі Беларускі полк пад кіраўніцтвам гр. Радкевіча, конныя часткі даручаюцца гр. гр. Нямкевічу і Мядзьведзеву, шэфам міліціі назначаецца гр. Ф. Ждановіч.

**Канец Белвайскцэнтрады.** Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага Кангрэсу кааптуа ў свой склад астаўшыхся ў Менску членаў Белвайскцэнтрады і выдзяляе новых Народных Сэкрэтароў у першы Народны Сэкрэтарыят Беларусі.

Першы Беларускі Ўрад, у якім прадстаўнікі Белвайскцэнтрады атрымліваюць пяць мейсц, прыступае да працы у гэткім складзе: **)

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1) | Старшыня Народнага Сэкрэтарыяту і Народны Сэкрэтар | Міжнародн. Спраў | — | Язэп Варонка, |
| 2) | „ „ | Унутраных „ | — | Макрэяу, |
| 3) | „ „ | Прасьветных „ | — | Алесь Смоліч, |
| 4) | „ „ | Справядлівасьці | — | Яхім Бялевіч (Б. В. Ц. Р.), |
| 5) | „ „ | Нар. Гаспадаркі | — | Ян Серада (Б. В. Ц. Р.), |
| 6) | „ „ | Шляхоў | — | Рэдзька, |
| 7) | „ „ | Земляробства | — | Тамаш Грыб (Б. В. Ц. Р.), |
| 8) | „ „ | Апекі | — | Палута Бадунова, |
| 9) | „ „ | Пошт і Тэлеграфу | — | Карач, |
| 10) | „ „ | Кантролю | — | Петра Крэчэўскі (Б. В. Ц. Р.), |
| 11) | „ „ | Грашовых Спраў | — | Белкінд, |
| 12) | „ „ | Вел.карускіх | — | Петра Злобін, |
| 13) | Першы Таварыш Старшыні Народн. Сэкрэтарыяту і Сэкр. | Жыдоўск. Спраў | — | Гутман, |
| 14) | Другі Таварыш Старшыні Нар. Сэкр. і Народны Сэкрэтар | Вайсковых Спраў | — | К. Езавітаў (Б. В. Ц. Р.), |
| 15) | Загадчык Спраў | Народн. Сэкрэтарыяту | — | Лявон Заяц. |

*) Падробнасьці гэтага дня апісаны ў беларускім штомесячніку „Варта*, № 1, 1918 г., ў запісках каманданта Белвайскцэнтрады гр. К. Езавітава—„Освобожденіе Минска“, а таму мы на іх не спыняемся.

**) Склад Першага Народнага Сэкрэтарыяту пададзены гр. Краўцовым Макарам у газэце, „Беларускі Звон,“ № 17, 1921 г.—няпоўны, а таму мы тутака зьмяшчаем яго поўны склад.

Літарамі „Б. В. Ц. Р.“ ў скобках адзначаны сябры Народнага Сэкрэтарыяту, высунутыя са складу Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады.

Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада, пасьля кааптаціі яе Выканаўчага Камітэту ў лік Выканаўчага Камітэту Рады Ўсебеларускага Кангрэсу,—канчае сваю працу і істнаваньне, як асобная арганізація, а кааптаваныя ў Раду Кангрэсу члены яе вядуць далейшую працу ў першым і наступных Народных Сэкрэтарыятах Беларусі, ў Выканаўчым Камітэце Рады Ўсебеларускага Кангрэсу, а пасьля арганізаціі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі—працуюць і ў яе складзе.

* * *

Прыход у Менск, праз некалькі дзён пасьля стварэньня першага Народнага Сэкрэтарыяту, нямецкіх акупацыйных войск, стасункі беларуска-нямецкія, характар і падробнасьці ўзаема-адносін беларуска-польскіх, далейшыя беларускія вайсковыя фармаваньні, лёс беларускага грамадзянства, гарадоў і вёскі—ўсё гэта апускаецца намі, бо выходзіць за межы пытаньня аб Белвайскцэнтрадзе.

Апускаем таксама групавую ідэалёгую розных кірункаў, складаўшых Вайсковую Раду, бо аснаўным, галоўным і пануючым палітычным кірункам ў Белавайскцэнтрадзе быў кірунак Беларускае Соціялістычнае Грамады, да якой належала 90% ўсіх працаўнікоў Рады. А гэты кірунак усім нам вядомы.

Падводзячы сумацію працы Белвайскцэнтрады, мы павінны вызнаць, што яна, ня гледзячы на ўсе памылкі, ёю зробленыя, ня гледзячы на ўсе перашкоды ёй пастаўленыя, кіраваная ня столькі плянамі, інструкціямі, досьледам, колькі вялікім каханьнем да свае Бацькаўшчыны,—здолела апраўдаць сваё назначэньне і давяла сваю працу да канца, перадаўшы ўладу у Менску і на Беларусі ў рукі Першага Націяльнага Беларускага Ўраду.

Не яе віна ў тых новых неспадзеўках і няўдачах, што зваліліся на галаву першага Ураду Беларусі і што перашкодзілі яму утрымаць уладу ў сваіх руках.

**К. Езавітаў.**

---

# АБ НАЦІЯНАЛЬНЫХ МЕНЬШАСЬЦЯХ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ.

Маскоўскае выдавецтва „Красная Звезда“ надрукавала аж у 20000 адн. цікавую кніжку загадчыка палітычнага кіравецтва рэвалюційнай вайсковай рады СССР п. А. Бубнова „Красная армия и единоначалие. Сборник статей. Москва, 1925“. Затрымаемся троху на дадатку да гэтай кніжкі, дзе выдрукаваны пастановы Ўсесаюзнай Нарады палітычных працаўнікоў чырвонай арміі.

„Далейшае пашырэньне націянальных фармацій ёсьць зацяжны працэс, дзеля таго адпаведная арганізація і ўзмацненьне працы сярод націянальных меньшасьцяў мае у бліжэйшы час перштупенную вагу“. „Паглыбленьне працы сярод націянальных меньшасьцяў вымагае злучэньня іх у асобных вайсковых частках. Але вялікая лічэбнасьць народаў, што жывуць у СССР, вельмарожнасьць гэтых народаў, што да колькасьці, тэрыторыяльнага раскладу, эканамічнай і культурнай роўні, вымагае асобнага падходу да кождага народу і меньш за ўсё дазваляюць трымацца шаблону ў пытаньнях папаўненьня частак націянальнымі меньшасьцямі“.

Націянальны склад бранкі 1920 г. можа даць: маскалёў 65—70 %, украінцаў 14—18%, крывічоў — да 3%, усіх іншых (ўзвыш за 20 народаў) — да 10—12%.

Ось, што піша зьезд у сваіх пастановах (15—18 §§):

„Што датыча крывічоў, дык біручы пад увагу іх колькасьць і няпоўнае абхопленьне нацыянальнымі фармаваньнямі *), — папаўненьне трэба рабіць, як і меньшасьцяў з зародкамі капіталізму (да гэтых меньшасьцяў пастанова залічае, апрыч крывічоў, яшчэ й татараў, чувашоў, башкіроў і інш.).

На мове меньшасьцяў мусіць вясьціся школьная і пазашкольная палітычна-асьветная праца. Дзе ёсьць магчымасьць, трэба скарыстаць мову меньшасьці і дзеля навучаньня статутаў. Але аднначасны пераход да ўсіх заняцьцяў на мове меньшасьці пастанова забараняе, бо дзеля гэтага „няма досьць перадпасылак“.

Пастанова лічыць чарговым заданьнем Палітычнага Кіравецтва РВС Рэспублікі: 1) выданьне адпаведнай літэратуры для палітычна-асьветнай працы сярод меньшасьцяў, 2) апрацаваньне гутарак з чырвонымі жаўнерамі аб нацыянальным пытаньні, 3) прысьпяшаньне перакладу і выданьня статутаў на крыўскай мове.

Есьць у пастанове і больш прыгожных слоў аб нацыяналізацыі чырвонага войска ў Масковіі, але зьвернем увагу на апошнія радоўкі пастановы: „мэтады нацыянальнага будавецтва ў войску, якія выявіліся ў Украінскім вайсковым абводзе, як украінізацыя частак чырвонай арміі, што стаяць на Украіне, дапамагаючая збліжэньню і узмацненьню сувязі частак чырвонай арміі з тутэйшым працоўным жыхарствам, трэба прызнаць наагул за праўдныя, але гэта ў ніякім выпадку яшчэ ня знача, што ўся праца з чырвонаармейцамі украінскай нацыянальнасьці мусіць вясьціся на украінскай мове. Праца сярод чырвоных жаўнераў іншых нацыянальнасьцяў (ў тым ліку і маскалёў) у частках чырвонай арміі на Украіне мусіць будавацца так сама, як у іншых часьцёх чырвонай арміі. Гэтыя мэтады належыць адпаведна правясьці і ў адносінах да частак, разьмешчаных у іншых нацыянальных рэспубліках“. Астаецца далучыць да гэтага словы самога аўтара, які кажа, што справа з нацыянальным пытаньнем сярод нашых нацыянальных большасьцяў у войску „не совсем обстоит благополучно“. Мы маем наўзвоч цэлы рад выяўленьняў нацыянальнага розналаду, мы маем наўзвоч паневерчывыя, вялікадзяржаўныя адносіны часьці нашых чырвонаармейцаў да прадстаўнікаў нацыянальных меньшасьцяў... Мы маем цэлы рад выяўленьняў таго, што прымушае нас з усёй энэргіяй падкрэсьліць абавязковасьць працы сярод „нацбольшасьцяў“... Дык пакінем чытачом зрабіць агульныя вывады з прыгожых маскоўскіх абяцанак нацыяналізаваць чырвоныя войскі.

**Ротмістр Капорскі.**

---

# КАНКАРДАТ.

10 лютага г. г. ў Рыме быў падпісаны канкардат між Польшчай і Ватыканам. Пры вяршэньні гэтай умовы Ватыкан выступае як прадстаўнік усясьветнай Хрысціянскай Рыма-Каталіцкай цэркві, Польшча—як валадарка зямель, ўходзячых у цяперашнія яе межы. Ад імені Ватыкана умову падпісаў кардынал Гаспары, папежскі сэкрэтар, ад імені Польшчы — вядомы вшэхполяк Ст. Грабскі. Дзеля таго, што ў склад цяперашняй Польшчы ўходзяць і Заходна-Крыўскія землі, то п. Грабскі гаварыў з Ватыканам і ад Беларускіх (крыўскіх) зямель і аднаго мільёну каталікоў-Беларусаў. А Ватыкан ня толькі

*) Крывічоў лічыцца да 10.000.000, гэта знача, — да войска йдзе штогод блізка 100.000 жаўнераў, але з іх толькі меньш 15.000 ідзе да беларускай дывізіі.

ня спытаў п. Грабскага, ці мае ён на гэта упаважненьня ад Беларусаў-каталікоў, але „забыўся“ спытаць, ці мае сама Польшча моральнае права загартаць чужыя землі і на загорнутых воўчым правам землях вынішчаць няпольскія народнасьці!? Забыўся Ватыкан аб гэтым спытаць, бо п. Грабскі прывёз некалькі мільёнаў лір, якія Польшча высмактала з поту і крыві паняволеных ёю народнасьцяў. Гэтыя, ліпкія ад крыві і поту, грошы Ватыкан схаваў у „Апостальскі“ скарб і пачаў тварыць з Польшчай угоду, заткнуўшы вушы на стогны катаваных ў Польскай Турме каталікоў. І вось Апостальскі пасад пастанаўляе:

1) Кождай нядзелі і на 3-га траўня ва усіх каталіцкіх касьцёлах будуць ксяндзы маліцца за Польшчу і за яе прэзыдэнта.

Будуць маліцца за Польшчу, якая судзіць і разстрэлівае бязвінных людзей, ў тым ліку і каталікоў. Будуць маліцца за Польшчу, якая рукамі свае паліціі заганяе іголкі пад пазнокці пры допытах, якая пячэ жывым людзём цела і ламае косьці, якая забараняе вучыцца і маліцца беларусам у іх роднай мове, якая насылае ў нашу зямлю узброеных каланістых...

Ксяндзы каталіцкія будуць маліцца што нядзелю і кожды год 3 траўня, каб Бог памагаў Польшчы ў яе злачынах...

2) Біскупы каталіцкіе павінны злажыць прысягу на вернасьць Польскай дзяржаве гэткімі словамі:

„Перад Богам і на Сьвятое Евангельле прысягаю і абяцаю, як належыцца біскупу, верным быць Рэчыпасполітай Польскай. Прысягаю і абяцаю, што з поўнай лояльнасьцю буду шанаваць Урад, устаноўлены конституціяй, і што з р а б л ю, к а б я г о ш а н а в а л а м а ё д у х а в е н с т в а. Прысягаю і абяцаю акром таго, што ня буду прыймаць удзелу ў ніякім згаворы, ані ня буду пры нарадах, якія-бы маглі прынясьці шкоду Польскай Дзяржаве або грамаздкаму парадку і н е д а з в о л ю м а й м у д у х а в е н с т в у п р ы м а ц ь у д з е л ў г э т к і х п а ч ы н а н ь н я х. Д б а ю ч ы а б д а б р о і к а р ы с ь ц ь Д з я р ж а в ы, буду старацца аб тое, каб адвярнуць ад яе усякія небасьпекі, аб якіх я ведаў-бы, што ёй пагражаюць“.

Знача, Апостальскі пасад аддаў каталіцкіх біскупаў на услугі польскай дзяржаве, пазволіў навязаць біскупам функціі жандароў, якія павінны сьлядзіць за добранадзейнасьцю каталіцкага духавенства ў Польшчы. Каторы біскуп ня будзе добрым жандарам,—таго, знача, выкінуць.

Далей даведываемося, што біскупаў можа Ватыкан назначыць толькі са згоды прэзыдэнта Польшчы і толькі добранадзейных для Польшчы (§ 11), што ніводзін ксёндз ня можа абняць парохіі бяз згоды польскага ўраду, каб не дапусьціць элемэнтаў, якія маглі-бы працаваць не для закуваньня народу ў кайданы польскай няволі (§ 19).

Супроць гэткай агіднай змовы В. Ластоўскі злажыў асабіста ў Рыме на рукі кардынала Гаспары мэморандум-пратэст гэткага зьместу:

> „Беларусы, або як старыя кронікі і сам сябе народ называе—Крывічы, ёсьць асобнае ўсходна-славянскае племя, якое мае сваю аддзельную мову, асобны уклад жыцьця, звычаі і абычаі.
>
> Засяляюць Беларусы (Крывічы) парэччы Прыпяці, Бярэзіны, верхнія часьці Нёмана, Дзьвіны і Дняпра з гарадамі: Полацак, Вітабск, Смаленск, Магілеў,Менск, Горадна, Беласток і на тэрыторыі Вільні стыкаюцца з Літвінамі.
>
> Агульная лічэбнасьць Беларусаў (Крывічоў) на вышэйназванай тэрыторыі, паводле аблічэньня Расійскай Акадэміі Навук („Карта Беларускага племя“ праф. Карскага), даходзіць 12 мільёнаў душ. З гэтага ліку беларусаў прыблізна $^1/_3$ часьць належыць да Рыма-Каталіцкага абраду (каля 4.000.000) і $^3/_4$ належыць да ўсходнага

абраду. Акром беларусаў, на азначаным абшары жыве да 4-х мільёнаў іншых націянальнасьцяў: жыдоў—1.600.000 (10%), палякаў—да 800.000 (5%), расійцаў—800.000 (5%) і ўсякіх другіх—800.000 (5%).

Беларусы (Крывічы) у час прыняцьця хрысьціянства (980—990) станавілі незалежную дзяржаўную адзінку пад уладай Вялікіх князёў Полацкіх. У XIII ст. Беларусы і Літвіны злучыўшыся утварылі сільную дзяржаву—т. зв. Вялікае Княжства Літоўскае. У XIV ст. Беларусы і Літвіны заключылі з Польшчай пэрсональную унію, а ў XVI ст. пэрсанальна-парлямантарную унію, з захаваньнем у кождай дзяржаве,—як у Польшчы, такі ў В. К. Літоўскім,—свайго асобнага скарбу, войска і мытных граніц. Гэткі стан пратрываў да канца XVIII ст., калі разам з Рэчпасполітай Польскай спыніла сваё палітычнае істнаваньне і Вялікае Княжства Літоўска-Беларускае. Пасьля упадку свае дзяржаўнасьці, беларускія і літоўскія землі трапілі ў склад Расійскай імпэрыі, але да 1848 году stationвіліі асобныя правінціі, якія кіраваліся сваімі законамі (Статут Вял. Кн. Літоўскага). Калі паў у Расіі царызм, Беларусь пачулася вызваленай і, апіраючыся на свае незалежніцкія традыціі і імкненьні, а такжа на волю народу, актам 25/11—1918 г. парвала палітычную сувязь з Расіяй і апавесьціла сябе незалежнай дэмократычнай Рэспублікай у этнографічных межах. Былі выбраны прадпарлямант і ўрад Беларускай Дэмократычнай Рэспублікі.

Маладая Беларуская Рэспубліка ня здолела абараніць сваіх зямель ад падвойнага націску камуністычнай Расіі з Усходу і Польшчы з Заходу і сталася арэнай польска-расійскай вайны у 1919 годзе. Расія і Польшча § 1 Рыжскага мірнага трактату, прызнаўшы незалежнасьць Беларусі, тэрыторыю яе падзялілі паміж сабой. Польшча захапіла Заходную Беларусь з гарадамі: Гродна, Навагрудак, Беласток, Брэст і Пінск і 3.000.000 насяленьня. Расія затрымала пад сабой Усходную Беларусь з гарадамі: Полацак, Вітабск, Смаленск, Гомель, Магілеў, Менск і звыш 9.000.000 душ насяленьня.

Уступаючы жаданьню жыхарства, Расія ўтварыла на ўсходнай тэрыторыі Беларусі незалежную Савецкую Беларускую Рэспубліку са сталіцай у Менску.

Заходная Беларусь, якая трапіла пад Польшчу, сталася арэнай дзікага націску польскага націяналізму. Палякі залілі беларускі край сваім войскам, паліціяй і чыноўніцтвам, навезенымі з Польшчы. Каб прыдаць беларускаму краю характар польскасьці, Польшча пачала засяляць край польскімі каланістымі, пазбаўляючы зямлі пракавечнага жыхара гатага краю, беларускага селяніна. Каб задушыць і зьнішчыць беларусаў, Польшча закрывае беларускія школы, не дапушчае беларускай мовы ў мясцовыхъ урадах, судох і касьцельным ужытку. Словам, Польшча стварыла на беларускай зямлі для беларусаў такія варункі, пры якіх немагчымым ёсьць істнаваньне народу.

Зпаміж усіх спосабаў вынішчаньня беларускай націі стасаваных Польшчай, найагіднейшым і найбольш абураючым людзкое сумленьне зьяўляецца спосаб полёнізаціі беларусаў праз каталіцкі касьцёл, які на тэрыторыі Беларусі, пры помачы цяперашняй дзяржаўнай польскай улады, апынуўся цалком у руках польскага духавенства, згрупаванага каля польскіх націянальных арганізацый і партый. Амбона каталіцкага касьцелу на захопленай палякамі бе-

ларускай зямлі сталася палітычнай трыбунай, з якой польскія ксяндзы стараюцца апраўдаць бязпраўе польскага ураду, чыненыя над мясцовай беларускай людносьцю, сталася агітатарскай моўніцай за польскасьць і полёнізацію. Конфэсіонал польскіх ксяндзоў служыць да агітацыі і да палітычнай разьведкі. Знаныя факты, калі, як варунак адпушчэньня грахоў, польскія ксяндзы загадуюць навучыцца беларусу польскай мовы, або быць прыхільным польскаму панаваньню над краем. Граніцы між польскім каталіцкім духоўнікам і польскім жандарам зацерліся. Да якой меры даходзіць польскі шовінізм паміж духоўнымі палякамі, сьведчыць гэткі факт: кс. пасол Мацеевіч, візытуючы беларускую сярэднюю школу ў Барунах, пагражаў вучням: „кулька ў лоб кождаму, хто будзе чытаць беларускія кніжкі".

Нічога дзіўнага, што, жывучы ў атмасфэры ўціску і бязпраўя, беларускі народ час ад часу парываецца за зброю, пробуючы скінуць з сябе ненавідную польскую ўладу.

Пры гэткіх варунках палітычнага жыцьця беларусаў пад польскай окупаціяй, стаўся заключаны канкардат між Польшчай і Апостальскім Пасадам, бяз ведама беларускага народу. Гэты канкардат, замест спадзяванай абароны Апостальскім Пасадам слабых і пакрыўджаных, аддае гэтых слабых цалком у рукі іх жорсткіх катаў і гістарычных ворагаў, благаслаўляючы бязпраўе і гвалт Польска-Савецкага мірнага трактату, які прыдзяліў часьць беларускай тэрыторыі да Польшчы. Гэткі падзел дакананы, на жывым целе беларускага народу, канкардат пацьвярджае, робячы віленскую архібіскупію аднэй з польскіх касьцельных правінцій.

У дадатку, хоць паводле канкардату архібіскупа і біскупаў назначае Ап. Пасад, але польскі ўрад можа адкланіць непажаданую кандыдатуру, г. зн., што урэшце-рэшт, аб асобах касьцельных дастойнікаў у беларуска-літоўскую правінцію будзе дэцыдаваць польскі ўрад, які будзе прапушчаць толькі кандыдатуры палякаў.

§ 12 канкардату забавязуе архібіскупа і біскупаў даваць прысягу ня толькі ў лояльнасьці польскай дзяржаве, але і ў актыўнай ей помачы, г. зн., што касьцельныя дастойнікі на заваяваных Польшчай землях павінны ісьці не з народам, а супроць народу і яго незалежніцка-адраджэнчых ідэалаў, памагаць Польскай дзяржаве, заковываць у кайданы польскай няволі народы, падбітыя Польшчай. Урэшце, гэты параграф і прысяга забавязуюць біскупаў, каб яны пілнавалі палітычнай добранадзейнасьці свайго парахіяльнаго духавенства, што навязуе зьверхнікам касьцёлу функціі палітычнай паліціі.

§ 19 канкардату чыніць назначаньне парохаў залежным ад апініі міністра ўнутранных спраў польскай дзяржавы, а знача, фактычная раздача парахіяльных бэнэфіцій аддаецца ў рукі польскага ўраду і будзе заплатай тым духоўным асобам, якія адзначацца на полю полёнізацыі і вынішчаньня мясцовай людносьці, і суліць аддаленьне з парохій ксяндзоў не-палякаў, як элемэнту, які, падзяляючы нядолю свайго народу, спачувае вызваленьню яго з пад польскага ярма.

§ 23 канкардату аддае ў рукі конфэрэнціі польскіх біскупаў права ўстанаўляць, дзе якая мова павінна ўжывацца ў дадатковым набажэнстве і навуцы рэлігіі. Гэты пункт адбірае ўсякую надзею

ў беларусаў вырваць з рук палякаў каталіцкі касьцёл, адрадзіць яго і зблізіць з народам. Забарону ўжываць беларускую мову ў каталіцкіх касьцёлах выдаў Цар Мікалай I ў 1839 г. Замест беларускай мовы ў каталіцкіх касьцёлах была ўведзена мова польская, малазразумелая народу. Беларуская мова з яе граматнасьцю славянскімі літарамі зьяўлялася на ўсходзе сымвалам і мастом еднасьці царквей. Расійскі царызм дзеля гэтага паліў старэнна беларускія богаслужэбныя кнігі і прасьледаваў мову. Гэтак, дзякуючы гвалту расійскага царызму і ў інтэрасах разьдзяленьня паміж усходным і заходным абрадкамі, была заведзена расійскім урадам у каталіцкіх касьцёлах польская мова, а ў праваслаўных царквох расійская мова.

Гэта польская мова ў касьцёлах на Беларусі зьяўляецца цяпер фальшывым апраўданьнем польскіх прэтэнсій да панаваньня над беларускімі землямі. Паварот беларускай мовы да каталіцкага касьцёлу гэта ўдар па польскім імпэр'ялізме і дзеля гэтага ніколі ніякая конфэрэнцыя, зложаная з палякаў, не адважыцца нарушыць указ цара Мікалая I-га аб забароне беларускай мовы ў каталіцкім касьцеле. З другой-жа стараны беларускі народ ніколі не пагодзіцца з польскім панаваньнем у беларускім краю. Дзіўнае і незразумелае для нас апіраньне Апостальскім Пасадам на Ўсходзе спраў цэркві, называючай сябе усесьветнай, на такую эфэмэрыду, як польская дзяржава, перагляд усходных і заходных граніц якой зьяўляецца чародным заданьнем Эуропэйскай палітыкі. Параграф канкардату аб мове ў навучаньні веры і дадатковым богаслужэньні суліць беларускаму народу самую горкую несправядлівасьць бо аддае суд у рукі палітычных і племянных праціўнікаў.

А дзеля гэтага ад імені беларускіх націянальных арганізацій заношу перад Апостольскім Пасадам самы рашучы пратэст:

I) супроць абяртаньня каталіцкай духоўнай ўлады на беларускай тэрыторыі, часова паняволенай Польшчай, у палітычную польскую агентуру, што вынікае з § 12 і 19 канкардату, заключанага з Польшчай;

2) супроць аддачы ў рукі конфэрэнціі польскіх біскупаў права станавіць аб тым, якая мова павінна быць устаноўлена для беларусаў на беларускай зямлі ў выкладзе рэлігіі і дадатковым набажэнстве.

В. ЛАСТОЎСКІ,

Старшыня Сувязі націянальна-дзяржаўнага вызваленьня Беларусі, быўшы Старшыня Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі.

РЫМ
7/IV—1925 г.

# ЗАПІСКІ.

НЁМАН І НЯМІГА. Гэтыя два найменьні крыўскіх рэк выяўляюць адно мужскую, другое жаночую форму аднаго і таго-ж самага імя, ў аснову якога паложана паняцьце „ня мець“ (зраўняй літоўскае Neris,—рака Вялья і слова nĕra—„няма“).

Даль ад слова „нема“ выводзіць слова „немень“ (Толк. Словарь живаго Великор. языка. Т II, 538) у дваякім значэньні: 1) „нема, нѣтъ, нѣгдѣ взять“ і 2) „край, конецъ, предѣлъ, крайность, нужда“.

У нашай жывой мове такжа маецца слова „немень“, якое ўжываецца ў падвойным значэньні: „немень“—глуш, нямая цішыня і „немень“ — поўнае няменьне, беднасьць. („Н е м, н е м е н ь г л у х а я,“ гаворыцца аб заміраньні чуцьця ў целе. „К а б н я н е м е н ь н а ш а — м ы - б ы і п л а ц і л і і д а р ы л і“. „І н е м н ы і я р э м н ы“,—гаворыцца аб чалавеку немаетным і нявольным).

З лёгкай рукі Хадакоўскага ў 1830 — 40-х годах была адкрыта летапісная рака Няміга ў Менску („Русск. Истор. Сборн.“ I, 38) — дробны ручаёк, які ўліваецца ў Сьвіслач. Уважны разгляд летапіснага тэксту наводзіць на мысль, што тая Няміга, аб якой гаворыцца ў летапісе, павінна быць на поўнач ад Менска, каля гораду „Немиза“, які паводле старых географічных адрыўкоў пастаўлены паміж Оршай і Друцкам („Ж. М. В. Д.“ 1848, ноябрь, бб. 192—193). У летапісе гаворыцца: „Ярославичи тріе... идоша на Всеслава... и приидоша (з Кіева) к Менску.. взяша...и поидоша к Немизе...“ Разграбіўшы Менск, Яраславічы пайшлі ў старану Оршы праз Нямігу, за імі пагнаўся Ўсеслаў, як сказана ў Слове аб палку Ігаравым: „скочи волкомъ до Немиги съ Дудуток“ (Дудзічы, мястэчка Ігуменскага, цяпер Чэрвенскага павету). Бліжэй акрэсляючы, паміж Дудзічамі і Оршай павінна быць рака Няміга. З большых рэк тут маецца толькі адна Бярэзіна. Тут акурат, ніжэй Барысава, есьць дагэтуль сяліба „Нямеза“ — праўдападобна сьлед старадаўнага гораду „Немиза“. Дык пад летапіснай ракой Нямігай трэба разумець ня Менскі паток Нямігу, а цяперашнюю раку Бярэзіну.

КАТАЛІЦКІЯ ПАЧАТКОВЫЯ ШКОЛЫ.

1588. Біскуп віленскі Юры Радзівіл запісаў 40 коп гр. літ. на пачатковую школу ў Старынках (Меншчына).

1593. Леў Сапега Канцлер В. Кн. Літоўскага фундаваў школу ў мястэчку Ікazьнь у Дзісеншчыне.

1604. Леў Сапега фундаваў школу ў Леплі і фундуш на утрыманьне пры ёй вучыцялёў, між якімі ёсьць і вучыцель сьпеву.

1604. Школу з навукай сьпеву ў Чарэях, каля Сенна, фундаваў Леў Сапега.

1626. Школа ў Косаве, Слонімскага павету, фундавана Львом Сапегай.

1626. Школы ў Горах (Ашмянскі павет), фундаваны Львом Сапегай.

1601. Школу ў Задарожжы, Дзіс. пав., фундаваў кароль Жыгімонт III.

1602. Фундаваў школу ў Ляхавічах, Слуцкага павету, Кароль Хадкевіч з жаной Софіяй.

1605. Школу ў Магілеве фундаваў кароль Жыгімонт III.

1609. У Лагойску школу фундаваў Аляксандар Тышкевіч.

1611. У Крынічыне, Упіцкага павету фундаваў школу Дзьмітры Крупскі.

1615. У Вялікай Бераставіцы фундаваў школу Гэранім Хадкевіч.

1624. У Дунілавічах фундаваў школу Іван Дзьмітравіч Ізайкоўскі-Долмат з абавязкам утрымліваць „дзяка“ да навукі дзяцей.

1638. У Петрыкавічах фундаваў Крыштоф Хадкевіч.

1641. У Койданаве фундаваў Князь Багуслаў Радзівіл.

1647. У мястэчку Узда фундаваў Крыштоф Кавечынскі.

1649. У Быхаве школу і фундуш на 5 шляхоцкіх вучняў фундаваў Казімір Сапега.

1652. У Клецку—Міхайла Кароль Радзівіл.

1652. У Мікалаеве—той-жа М. К. Радзівіл.

1686. У Люцыне школа фундавана пастановай канстытуціі.

XVII. У Кублічах фундаваў ваявода Калёневіч.

XVII. У Копысі залажылі школу Кармэліты.

XVII. У Талочыне.

XVII. У Лазовічах адкрыта езуітамі.

## МАТЭР'ЯЛЫ ДА КРЫЎСКАГА СЛОЎНІКА.

Абязхоціць, утраціць, адбіць ахвоту, хаценьне да чаго (В. Баяры, Дзісенск. пав.).

Ахаланець, ахалануць, ахаладзіць, астыгнуць; супакоіцца пасьля вялікага ўзрушаньня: страху гневу (Стары-Пагост Дзіс п.).

Ахалануцца, ахаладзіцца; кажуць уходзячы ў ваду пры купаньні, зн.—апаласнуць цёплае, разагрэтае цела сьцюдзёнай вадой; „асьмеліцца“, абліцца сьцюдзёнай вадой пасьля хвастаньня ў лазьні.

Быкуля, жартліва-лайчывая назова здаровай, разьбітнай і маладой дзяўчыны (м. Гарманавічы, Дзіс. пав.).

Брыкуля, жартліва-лайчывая назова дзяўчыны апрысклівай, капрыснай, непадступчывай (там-жа).

Бусьнець, наліваецца ўласнымі сокамі; гаворыцца аб ягадах у часе пераходу іх ад зялёнасьці да сьпеласьці; станавіцца сочна-чырвонаму, падобна ягадзе (Ілукштскі і Браслаўскі павет).

Бусьніцы, ягады брусьніцы (там-жа).

Бусны, бусмяны, чырвоны і сакавіты.

Буські, дзіцячае слова — ягады і вусны (каля Друі, Дзісенск. пав.), а такжа загад пацалаваць: „Дай бусі, буські, буські тату“. Каля Дзісны, Глыбокага і Вілейкі на дзіцячай мове ягала—„буба“; каля Друі „буба“—гарошына.

Бязэдны, які ня мае дна. „Е,—гавора,— у вакіяне бязэдным зямля“. (Романов. „Бѣлор. Сборн.“ IV, балона 1).

Цыркаць, даіць малако; ліць што кароткімі тонкімі пацёкамі; даваць, выдаваць што па крысе, скупа.

Ціна, доўгія тонкія водарасьці.

Цапчык, засечка на рыбалоўскім кручку (Дзісна).

Цапы, самыя загібы ў абцугох, якімі хапаюць за цьвек (там-жа).

Дзехціць, пакрываць што, памазуючы дзёгцем (В. Буды, Дзісенск. пав.).

Дыматна, дымна (там-жа).

Дзярмён, расьціна, званая па-польску „dereń“.

Гірчэць, храпець бяз голасу, падобна стварэньню з перарэзаным горлам; а такжа— выдаваць храп, падобны сабачаму, калі сабака выказуе злосьць (каля Еўя, Троцк. пав.).

Гарвінка, невялічкая горка, рас. „бугорок“ (там-жа).

Гаўчыць, брахаць; гавораць па ўсей Вітабшчыне і Магілеўшчыне (гл. Романовъ. „Бѣлоруск. Сб.“ IX, бал. 215).

Гліўкі, цеклы, густы і ліпкі. „Гліўкі хлеб“, які лепіцца да рук і нажа (Вілейскі пав., каля Ільлі).

Гліва, цякучая, ліпкая гразь, якая бывае на дне вод; адмена бліскучай палівы, ўжыванай ганчарамі (тамжа).

Гуля, набітая шышка, жаўлак на целе; плод расьціны, дрэва ў форме клуба, але ня шышка, ня яблыкі ці груша. (Ашмянскі пав., каля Крэва).

Яраваць, бегаць за дзяўчатамі; пагардліва-насьмешна — кахацца (в. Буды, Дзіс. пав.).

Кавалда, кавяла; клюка да падпіраньняся, няроўная, з цяжэйшым канцом, чым верх (каля Эйшышак, Віленскі пав.).

Клосны, ліпкі і кашкаваты; выводзіцца ад слова „клуха“ — разьмяшаная на цеста гразь на дарозе (каля Новааляксандроўска (Браслава).

Кузлаць, кузлачыць, блутаць. „Пакузлаў лён, валасы, ніткі. салому“—гаворыцца аб блутаньні чаго тонкага, доўгага.

Кузлак, зблутаны ком валасоў, валакна, нітак.

Кузлы, клаччо чаго тонкага, доўгага, зблутанага. (Усе тры вышэйпададзеныя словы—агульна ўжываныя ў Дзісенскім павеце).

Курпаты, курчавы. „Пятрусь курпаты“ (Лідзкі пав.).

Курпаць, крыпаць, блутаць (там-жа).

Лёкат, палахлівасьць, рас: „трусость“ (в. Буды).

Лёгатна, пачуцьцё лёгкасьці. „Аж лёгатна на душы стала“. (в. Буды Дзіс. пав.).

Моляўка, адз. лік; моляўкі, мн. лік. (Дзісна, мяшч. Скукоўскі); ў значэньні дробнай жывінкі нешта точучай, а такжа ў значэньні хваробатворчай бактэрыі. „Моляўка ты халерная“. „Вось, моляўка нейкая сэрца точыць“.

Міркаць, мігаць гаснучы, пагасаючы (в. Дзямідава, каля Дзісны).

Муратня, мейсца, дзе муруюць мур (м. Гарманавічы. Дзіс. п.).

Мякіліны, астаткі ад вымалачанага льнянога семя, якія зграбаюць граблямі перад веяньнем. (Дзіс. пав.).

Мышкаваць, ціханька шукаць чаго, падобна мышы (Дзісна).

Мазух, мазур, смалагоншчык, дзягцяр, хто займаецца выганкай дзёгцю, званага інач́ай „мазь“, „каламазь“, „каланіца“. (Аўгустоўскі пав.; каля Лагойска і каля Гарманавіч, Дзіс. пав.).

Наскараць, падганяць, туртаць каго да шпарчэйшага руху.

Наскорчыва, пасьпешна, рас. „ускорительно“.

Наскорыць, падагнаць, прысьпяшыць. (Слонімскі пав. Горадзеншчына).

Наперала́й (ісьці, ехаць), наўпрост, пракладаючы сабе дарогу на які відомы далёкі пункт (ва ўсім Дзісен. пав.).

Нача, начаці, начатны, начатак, мейсца пачатаку, адкуль выцякае рака; канец ніткі ў клубку; наагул, пачатак чаго доўгага. Прыкладам, верхні калок пры снаваньні кросен, ад якога пачынаюць снаваць, называецца „начны“ (Талочын і Чарэя ў Могілеўшчыне; Еўе, Троцк. пав., а такжа ў Лідчыне).

Прызарок, абяцаў, ахвяраваў, рас.: „обѣт“.

Прызарочны, абяцаны, ахвяраваны, рас.: „обѣтованный“ (Браслаўскі пав.).

Первясны, первясьнік, першародны — роднік — родніца (в. Буды і каля Ямна, Дзіс. п.).

Плакатна, плачліва. Плакатун, плакатнік,—ніца (там-жа).

Працьмата, безканечны лік, множства Працьмата грошы, птушак і г. п. (Горадзеншчына і Віленшчына).

Пакурпаныя валасы, пагнутыя ў кольцы, пакручаныя ў завіткі; пакрыпаныя, паблутаныя (Эйшышкі, каля Вільні).

Пустэрка, нешта спуставанае. „Сеў гаспадарыць на пустэрцы, а цяпер у яго і стайчынка і зярнінка,—ўсё есьць“ (в. Дзянісава, каля Дзісны).

Пустэрнік, благі гаспадар, у якога нічога няма і які жыве на пустцы, або сам прычынай пусткі праз гультайства, ці лайдацтва (там-жа).

Попрыч, акром, апрыч. „Ну, той палез, узяў зямлі ў рукі, а попрыч у рот“ (Романовъ. „Бѣлор Сб.“ IV, бал. 1).

Пазорышча, рас.: „зрѣлище“, падзея, прадстаўленьне, годнае каб на яго узірацца. „На пасьмевішча ды на пазорышча людзём“. „Зьбегліся, як на пазорышча якое глядзець“ (Каля Постава і Глыбокага).

Пазор, спогляд, погляд, від, прадстаўленьне (там-жа)

Пазорня, мейсца з якога добра відаць; мейсца, дзе бываюць якія сцэны, відовішчы; у лаўцоў—памост на дрэве да пілнаваньня мядзьведзя, а часам іншага зьвера (Барысаўшчына, каля Лагойска).

Пярэпісма, копія, одпіс зроблены з чаго (Звыклае слова ў Новапагоскай валасной канцэляры пры пісару Маеўскім ў 1890-х гадох).

Рапугі, падпухшыя сінякі на целе ад udараў; сінякі; падскурныя балячкі на абліччы ці целе (в. Сталіца і Баяры, Дзісен. пав.)

Раскутаць, разчыніць насьцеж (разьвінуць кут вакна, дзьвярэй). Рас.: „распахнуть“. (Ужываецца ва ўсей Вітабшчыне і Магілеўшчыне).

Рэнь, пяшчаная мяліна касой, нанесеная веснавой вадой (Плытніцкае, на Дзьвіне).

Ростка, ветачка гэтагодняй, маладой парасьці, якая ўжываецца да пасадкі. Польскае „flans“ (Язна, Мёры, Дзіс. пав.).

Скліпы, ніты; цьвякі, якімі зімным каваньнем змацовуюць два кавалкі зялеза, заклёпываючы канцы. Засклiпка, заскліпаць (Троцкі пав.).

Спалагодзіць, уняць, уцішыць. „Спалагодзіць сварку, боль, злосьць" (в. Баяры, Дзіс пав.).

Судылга, косьць ад калена да пяты (там-жа).

Секіль, кавальскі малаток да разсяканьня зялеза; у рэвольвэры—канец курка, які прасякае пятку набою (там-жа).

Сурожны, які знаходзіцца на самым рагу, на выступе вугла. „Сурожная камяніца, крама" (Дісна, Друя).

Субожынка, дар, дарэньне убогаму; рас.: „милостыня" (Боркавічы, Дрысен. пав.).

Стулубы (сталярск.) зарэзкі зубамі на канцох дошчак да зьвязываньня і склеіваньня іх між сабой.

Сураж, мейсца між дзьвяма рэкамі вострым вуглом (каля Полацка).

Шнар, знак на целе ад удару пугай, дубцом; знак на целе ад загоенага парэзу, роздзіру (Слонімскі пав. Горадзеншчына).

Шушкацца, шаптацца; рас.: „шушукаться".

Шапортаць, шастаць. „Шапортае паперамі". „Шапортаецца, як мыш у саломе".

Шакіліны, мякіна ад грэчкі і жоская лузга з расьціннага насеньня (Дісненск. п.)

Шакіль, калючка, кастрына, ашчэпак цьвёрдай лузгі (там-жа).

Туртаць, падганяць, наскараць, непакоіць, прымушаць да чыну. (Слонімск. пав.)

Узвышкі, ўвышыню, наўзвыш.

Узычка, учынак, зроблены для каго праз ветласьць; рас.: „одолженіе". „Я панічу ня узычу" (З народнай загадкі).



Пражка паганскіх часаў (нат. вял. 13×21 цм.).

Узычлівы, узычаць; рас.: „одолжительный", „одолжать".

Вурзы, пагардлівая назова вуснаў (Дзісенск. пав.).

Вехціць, шараваць вехцям; чысьціць пры помачы вехця; шараваць (в. Буды, Дзісенск. пав.).

Здрок, кусьлівая муха „...сѣраго, поуже и длиннѣе пчелы „здрока",—этого тигра насѣкомых". (Эрэмичъ. Очерки бѣлорусскаго Полѣсья. Вильна 1868, бал. 74). Рас.: „строка".

Зьмей-дугаровіч. Гэты эпітэт ужыў апавядач у казцы (М. Сталюк, в. Сталіца, Дзіс. пав.). Мне ён напамінае быліннага „Тугарына"; ці ня ёсьць гэта адзін і той-жа эпітэт? Вельмі бо падходзіць да зьмея эпітэт, які выражае, што ён выгінаецца дугой.

Зяхаць. Сабакі зяхаюць, калі гоняць зьвярыну (Дзіс. пав.).

*В. Л.*

ПРАЖКА ПАГАНСКІХ ЧАСАЎ. Вышэй выабражаная на рысунку пражка выарана з старой валатоўкі ў 1890-х годах на полі вёскі Стары-Пагост, Дзісенскага павету, селянінам гэнай вёскі Лакоткам. Пражка знойдзена была ўжо змацаванай на паломе. Паводле ўсякай праўдападобнасьці пражка гэта служыла паганскаму сьвятару. На гэту мысль наводзіць мітычны зьмест рысунку: тры асобы, з якіх адна сядзіць на кані, а другія дзьве вядуць каня за вузду. Дзеля таго, што аўтор ня знаў пэрспэктыўнага рысунку,—ён другую, вядучую за вузду асобу, паставіў за канём, але працягнутая рука паказуе, што мейсца яго павінна быць з другой стараны конскай галавы. Рамка пражкі, з бакоў, пачынаючы ніжэй сьвітак, і кругом ўверх, была абсыпана гвёздамі (якія цяпер ледзь значны); гэта паказуе, што выабражаная сцэна дзеіцца пад гвёздным небам,—не на зямлі. Грыва ў каня выабражана ў форме крыла. Ўнізе пражкі было 8 вушак (цяпер два абламаны, цэлых—6), якія маглі служыць да прывешываньня на іх амулетаў. Пражка пераховуецца ў сабраньні В. Ластоўскага.

*В. Л.*

АБ „ПАНЭ“ і г. п. (Гл. № 2 (8) „Крывіча“ за 1924 г.).

Зацемка аб крывіцкіх дыфтонгах грам. А. Матача цікаўная.

„Пан*э*, вал*э*, мужык*е*“ бываюць ня толькі, як дыфтонгі, але—і з адным гукам *э*, *е*, залежна ад мясцовасьці. Грам. А. Матач кажа толькі (ці прынамсі прыводзіць толькі прыклады) словаў мужчынскага роду ў назоўным і вінавальным склоне мн. ліку, але гэты-ж канчатак маюць і іменьні жаноцкага роду тых-жа склонаў мн. ліку (дачкé, дзяукé) і іменьні жаноцкага роду ў родным склоне адзіночнага ліку (няма вад*э*, каз*э*, сястр*э*, дачк*е* і г. д.).

Што да тэрыторыяльнага пашырэньня гэтай асаблівасьці, дык Карскі яшчэ прыводзіць прыклады з паветаў Менскага, Вітабскага і Магілеўскага („Бѣлоруссы“, т. II, 2, 182—183).

Ведама, гэта форма чыста крыўская, але так сама, здаецца, чыста крыўская форма і на *і*, *ы*. У розных мясцовасьцях разьвіцьцё нашае мовы пайшло двума процілежнымі кірункамі, толькі ад „аўца“ ё па ўсёй крывіі назоўны мн. л.—оўц*а* (з бўцэ, *э* не пад націскам перайшло ў *а*), ды, здаецца, „зладзея“, паколькі ня скажуць „зл*о*дзеі“.

Пакуль што, цяжка адказаць прынцыпіяльна, ці трэба гэтую асаблівасьць уводзіць у літэрат. мову. Конкрэтна можна сказаць, што ў нас яшчэ шмат такіх асаблівасьцяў, якія сустрэнуць меншае супраціўленьне, ня ўведзена ў літэр. мову, дзеля чаго з гэтай трэба пачакаць. Але там, дзе кажуць гэтае *е*, *э*, могуць чытаць *ы*, *і* ў адпаведных склонах, як *э*, *е*, а ў мясцовых газэтах—і пісаць. Добра было-б, каб А. Матач напісаў шырэй аб *э*, *е* ў гэтых склонах (родны адз. л., наз. і він. мн. лічбы), пры гэтым зьвярнуў увагу на дзьве рэчы: 1) з дакумантальнымі данымі паказаць, дзе гэтая асаблівасьць пашырана, паказаць паветы, а напару й воласьці, ці, нават, вёскі, так сама точна паказаць балоны зборніка, з якога узяты прыклад; 2) зьвярнуць увагу, ці так сама будзе *э*, *е* ў гэтых склонах, калі слова ня мае націску на канцы, значыцца, як будзе родны склон адзін. ліку і наз. мн. ад гэткіх слоў: вуліца, шапка, вадзіца, бойка і г. п. Ад гэтага другога пункту можа залежыць выясненьне прычыны гэтага зьявішча.

*Я. Станкевіч.*

ДЫФТОНГІ УО (ЮО=ІУО), ЫЭ (ІЕ). Запіскаю ў № 2 (8) „Крывіча“ за 1924 г. я меў на мэце галоўным чынам падняць прынцыповае пытаньне аб адзначаньні на пісьме і друку асобнымі літарамі гукаў, якія зьяўляюцца акцэнтнай асаблівасьцю крыўскай мовы. Пры гэтым, маючы на ўвазе чытачоў—прыродных крывічоў, якія панаслыху ведаюць, дзе выяўляецца тая ці іншая асаблівасьць, я абмежыўся толькі нямногімі прыкладамі гэтых асаблівасьцяў і падробна не адзначыў тэрыторыяльнага іх пашыраньня. Ў гэтым-жа зарысе, ідучы насустрач жаданьню зацікаўленых асоб, я хачу больш падробна затрымацца на гэтым пытаньні і высьветліць яго паводле вымаганьня вышэй пададзенай запіскі канд. філёлегіі п. Я. Станкевіча, хаця-ж нястача адпаведнай літэратуры, нажаль, не дае магчымасьці ў поўнай меры вычарпаць усе крыніцы навуковых досьледаў. Дзеля гэтага буду надта ўдзячны кождаму за ўсе папраўкі і дапоўненьні.

Дыфтонг *уо (юо=іуо)*, акром іменьняў і займяў, чуецца пад націскам *у сярэдзіне* прымет і прыслоўяў, прыкладам: (прыметы) сал*уо*дкі, г*уо*ркі, зл*уо*сны, др*уо*бны, р*уо*дны, м*уо*цны; (прыслоўі) паас*уо*бку, дв*уо*йчы, тр*уо*йчы, г*уо*рш, б*уо*льш, т*уо*лькі, к*уо*лькі.

*У канцы слоў* пад націскам гэты дыфтонг вымаўляюцца ў наступаючых здарэньнях: а) У месным склоне прыметы, числа і займя мужчынскага і жаноцкага роду, прыкладам: на стар*уо*м дварыэ—стар*уо*й страсіе; на т*уо*м—на т*уо*й, на тва*юо*м — на тва*юо*й (тва*іуо*м—тва*іуо*й); на адн*уо*м—на адн*уо*й, на друг*уо*м—на друг*уо*й і г. д. Ужываньне „аднэй"—полёнізм (jednej, drugiej), тым часам, як „другей" у нашай мове ня ўжываецца. Полёнізмамі ў гэтым здарэньні зьяўляюцца таксама й канчаткі *ым*, *ім*—па starym, па tym, па twoim, па jednym, па drugim і г. д. Між тым, як у А. Сержпутоўскага ў ніжэй памянёным зборніку чытаем „ў адн*уо*м сяліе", „у глух*уо*м Паліесі" (бал. 61 і 63), у М. Фэдэроўскага—„ў т*уо*м часі" (бал. 10), у праф. Карскага на бал. 295 кн. І „Беларусы" запісаны прыклад „на т*уо*м сяльцэ" і г. п. б) Ў родным, давальным і месным склонах числа: пяц*юо*х (пяц*іуо*х) — аб пяц*юо*х — пяц*юо*м (пяц*іуо*м), шасьц*юо*х — аб шасьц*юо*х—шасьц*юо*м і г. п. в) У давальным і месным склоне прыметы, числа і займя жан. роду, прыкл: сьвят*уо*й, зл*уо*й; адн*уо*й, друг*уо*й; *юо*й (*іуо*й), ма*юо*й (ма*іуо*й), сам*уо*й, ус*юо*й, т*уо*й (тэй — полёнізм: tej.).

Дыфтонг *уо* вымаўляецца такжа ў загадным ладзе дзеясловаў, прыкл: т*уо*ймося — т*уо*йцеся (Праф. Е. Карскі, „Беларусы", кн. І, бал. 296), б*уо*йся—б*уо*ймося—б*уо*йцеся.

Дыфтонг *ыэ* (*іе*) вымаўляецца пад націскам *у сярэдзіне* іменьняў, прымет, числаў займяў, дзеясловаў і прыслоўя, прыкладам: бяс*іе*да (проф. Е. Карскі, „Беларусы", Кн. І, бал. 295), хл*іе*б, сьв*іе*чка, гар*ыэ*лка, гр*ыэ*х; кр*ыэ*пкі, сьв*іе*тлы; дзьв*іе*сьці, чат*ыэ*ры. ш*ыэ*сьць, с*іе*м; н*іе*хта, н*іе*шта, н*іе*які, н*іе*чы; р*ыэ*зацу, гр*ыэ*цу, в*іе*яцу, с*іе*яцу; н*іе*калі.

*У канцы слоў* гэты дыфтонг вымаўляецца пад націскам у наступаючых здарэньнях: а) У назоўным, родным і вінавальным склонах множнага ліку іменьняў мужчынскага і жаночага роду, прыкл: вал*ыэ*, жанк*іе*, воз трав*ыэ*, карав*ыэ*, дзяўк*іе*, маладзік*іе*, дзяцюк*іе*, мацярк*іе* і г. пад. (Праф. Е. Карскі, „Беларусы", Кн. І, бал. 113, дзе ён кажа, што „К самостоятельным белорусским относятся и такие морфологические образованія, как вал*э*, жанк*е*, воз трав*э* и под., в которых *э - е* вытесняет *ы - і*, быть может, по памяти о старинном *ѣ* в мягком различии, в котором это окончание диалектически существует до сих пор (в Гродн. губ.).

б) У месным склоне адзіночнага ліку іменьняў мужчынскага і ніякага роду, прыкл: на двар*ыэ*, ў хляв*іе*, ў сял*іе*, ў цяпл*іе*.

в) У давальным і месным склоне адзін. ліку іменьняў жаноцкага роду, прыкл: руц*ыэ*, рац*ыэ*, страс*іе*, наз*іе*, сас*іе*, галав*іе*, вярб*іе*,—на руц*ыэ*, ў рац*ыэ*, на страс*іе*, на галав*іе* і г. д.

г) У числах: дзьв*іе* і адна*іе* (родны склон ад слова „адна", бо адн*эй* (jednej)—полёнізм.

д) У займеньнях дав. і месн. склонаў—мн*іе* таб*іе*, саб*іе*— аба мн*іе*, аб таб*іе*, аб саб*іе*. У назоўным склоне множн. ліку прыналежных і азначальных займеньняў: ма*іе*, тва*іе*, сва*іе*, чы*іе*, ўс*іе*. У родным склоне адзін. ліку займеньняў жаноц. роду: ма*іе*, тва*іе*, сва*іе*, сама*іе*, та*іе* (ужываецца і сам*уо*й, т*уо*й, толькі ня tej), ўся*іе* (ўс*іе*й).

е) У пачатку дзеясловаў: *іе*хаць, *іе*сьці.

ж) Дыфтонг *ыэ* (*іе*) вымаўляецца яшчэ пад націскам і ў канцы дзеяслоўных асноў і прыслоўя, прыкл.: гр*ыэ*ць, мл*іе*ць, пр*ыэ*ць, бал*іе*ць; барджыэй, часьц*іе*й, балаз*іе*, дз*іе*.

з) Асаблівую увагу зварочуе на сябе характэрнае для нашай мовы захаваньне гэтага дыфтонгу ў загадным ладзе дзеясловаў у 1 і 2 асобе множнага ліку: ідз*іе*м—ідз*іе*це, няс*іе*м—няс*іе*це, бяр*ыэ*м — бяр*ыэ*це і г. п. Ў стараславянскай мове ў гэтым здарэньні замест *ыэ* (*іе*) пісалася *ѣ*, якое зьяўляецца скарочаным *іе*. (Праф. Е. Карскі, „Беларусы", Кн. І-я, бал. 88—„несѣмъ", бал. 389 — „пріидѣте" з павучэньня Ефрэма Сірына XVI ст.). З гэтага дыфтонгу ў прыведзенай форме слова ў расійскай мове засталося *и*—(нес*и*те, ид*и*те), а ў польскай мове ён зьнік поўнасьцю (nieście, idźcie), заставіўшы па сабе толькі мякчыню таго гуку, па якім ён стаяў. Паходжаньне літары *ѣ* з дыфтонгу *іе* сьведчыцца яшчэ й тым агульным правілам, што *ыэ*, *іе* ў крыўскай мове гучыць блізка што заўсёды ў сярэдзіне слоў і ў тых граматычных формах, дзе ў расійскай мове пішацца *ѣ*. Дзеля гэтага і А. К. Сержпутоўскі ў зборніку „Єказки и разсказы белорусов-полешуков" умоўна замяняе літарай *ѣ* дыфтонг *іе*.

Канчаткі слоў „пан*ыэ*, дзяўк*іе*" таксама, пэўна, адпавядае стараславянскаму канчатку *ѣ*, як прыкладам, слова „конѣ" (Карскі, „Беларусы", кн. І, бал. 121). Ды й цяпер яшчэ

ў славянскай мове ёсьць такія формы, як „устнѣ, очесѣ, словесѣ“. Тое, што *ые (іе)* чуецца толькі пад націскам, цьвердзіць аб адпаведнасьці гэтага дыфтонгу літары *ѣ*. Дзеля гэтага, калі слова ня мае націску на канцы, дык *ыэ* (*іе*) там і не вымаўляецца, прыкл.: вуліца — вуліцы — ня бачыў вуліцы, шапка—вісяць шапкі—ня купіў шапкі, бойка —бойкі—не зрабіў бойкі і г. п.

Форма роднага склону адзін. ліку жаноцкага роду, як „воз трав*ыэ*, ня прывялі каз*ыэ*, не дакачаліся дачк*іе*“, мала распашырана і не заўсёды бывае ў тых мяйсцовасьцях, дзе ўжываецца дыфтонг *ыэ* (*іе*) ў назоўным склоне ліку множнага. У Слонімшчыне, напрыклад, гавораць „жанк*іе*, дзяўк*іе*, карав*ыэ*“, але ня скажуць „дай вад*ыэ*, ня бачыў сяст*рыэ*“ і г. п.

Што да тэрыторыяльнага распашырэньня дыфтонгаў *уо* (*юо*), *ыэ* (*іэ*), то праф. Карскі ў сваёй працы „Беларусы“. (кн, I) адзначае іх у Горадзенскай губ. (бал. 123), у паветах Ігуменскім, Менскім, Слуцкім, Бабруйскім, Барысаўскім Менскай губ. (бал. 262, 267, 269, 295 і 336) і Чаускім павеце Магілеўскай губ. М. Фэдэроўскі і А. Сержпутоўскі ў сваіх зборніках народных казак, апавяданьняў, легенд, мітаў, прыказак і г. п., якія напісаны са слоў апавядачоў-беларускіх сялян Ваўкавыскага, Слонімскага, Лідзкага, Сакольскага, Слуцкага і Мазырскага паветаў,—даволі добра перадаюць вымову гэтых дыфтонгаў у паказаных мяйсцовасьцях (M. Fedorowski, „Lud Białoruski na Rusi litewskiej“, т. I і А. К. Сержпутовскій: „Сказки и разсказы Бѣлоруссовъ-полѣшуковъ“, Спб. 1911 г.).

*А. Матач.*

---

# КНІГОПІСЬ І КРЫТЫКА.

ПРАВАСЛАЎНЫ БЕЛАРУС. Царкоўна-народны двутыднёвік. Нядзеля, 1 Сакавіка 1925 году, № 3. Год выданьня I. Адрэс Рэдакціі: Варшава-Прага, Зыгмунтоўская, 13. Цана 50 грошаў. 20╳28 цм., балон 16. У агортцы. Рэдактар-выдавец Іван Пачопка.

Гэта ёсьць першая крыўская (беларуская) часопісь, якая абслугове конфэсіянальныя патрэбы праваслаўных беларусаў у беларускай мове. А толькі варшаўскае праваслаўе перапрэжана цяпер з маскоўскай у польскую дзяржаўную калясьніцу, і, падобна польскаму каталіцтву, праваслаўнае духавенства ў Польшчы мае заданьне паўстрымліваць беларускага селяніна, каб ня брыкаўся ў польскім ярме. Праўда, гэтай тэндэнціі яшчэ не відаць у „Праваслаўным беларусе“, але затое б'е ў вочы яго архілояльнасьць да польскай улады. Няпрыемна ўражае також рэкламаваньне на апошняй балоне агорткі духоўнай літэратуры ў маскальскай мове. Выходзіць так, што пры помачы беларускай часопісі сунуць у рукі беларусу маскальскія малітвы.

Выдаваньне чужынцамі конфэсіянальных часопісяў на беларускай мове наводзіць на паважнае раздум'е: ці беларусам наагул патрэбны ў рэлігійных справах інтэрнаціянал рымскі або маскоўскі. Мінуўшчына вучыць нас, што так-жа сама і Рым, як Царград і Масква таргавалі беларусамі і дагэтуль таргуюць. А дзеля гэтага ці патрэбна нам, каб наша духавенства, акром пілнаваньня сваіх царкоўных спраў, аддавалася служэньню інтэрасам Рыму або Масквы? І, вось-жа, адповедзь ясная: нам гэтага ня трэба. Няхай служаць чужым інтэрэсам тыя з беларусаў, у якіх каталіцкасьць ці праваслаўнасьць сіль-

нейшыя за беларускую сьвядомасьць. Але тыя беларусы, ў душы якіх сільнейшая націянальная сьвядомасьць за ўсякую гістарычную шалуду, павінны ўсімі сіламі імкнуцца да утварэньня беларускай аўтокефальнай хрысьціянскай царквы. Мы павінны рваць і з Рымам і з Масквой і тварыць сваю ўласную націянальную царкву. Нам няважна тое, што нашы дзяды і прадзяды насілі на сваіх карках маскоўскія ці рымскія ланцугі, нам важна тое, што мы ўжо ня хочам іх насіць. Ніякія ёрмы і ланцугі ня ёсьць роднымі таму толькі, што насілі іх продкі. Наадварот, таму, што насілі іх нашы продкі, яны нам яшчэ больш агідны і ненавідны. Дзеля ўзросту беларускай націянальнай сьвядомасьці абсалютна патрэбна прызнаньне і адчуваньне ўсебеларускай націянальнай еднасьці: палітычнай (аб'яднаньне ўсіх беларускіх зямель у незалежную беларускую (крыўскую) дзяржаву), рэлігійнай (утварэньня адзінай беларускай аўтокефальнай цэркві), культурнай (утварэньня беларускіх школ ад нізшых да унівэрсытэтаў і акадэмій), экономічнай (вытварэньня беларускай targовай клясы, фабрычных прадпрыемстваў і банкаў). Першае-ж і самае даступнае паняцьце націянальнай еднасьці, пасьля націянальнай мовы, дасягаецца пры помачы рэлігіі. Вось утварэньне гэтай адзінай для ўсіх беларусаў рэлігіі і павінна быць заданьнем кождага беларуса, які ўсёй сваёй душой служыць беларускаму адраджэньню. Зрэформаваньне праваслаўя так, каб яно было адбіццьём нашай гісторыі, павінна быць паложана ў аснову беларускай аўтокефальнай царквы.

СТУДЭНСКАЯ ДУМКА. Месячнік беларускага студэнства ў Вільні. № 3 (4). Сакавік-Красавік. Год II. 1925. Вільня. Друкарня Н. Левін і Сын, Нямецкая вул., 22. Балон 32, ў агортцы.

Зьмест: 1. Хай гром грыміць —Пётра Сакол. 2. Доктар Францішак Скарына. 3. Аб аргумантах ад розуму і аб аргумантах ад сэрца. 4. Балляда „Сьвіцезь“ А. Міцкевіча— А. С. 5. Мсьцівыя нябошчыкі—В. Грывіч. 6. Псальм—З. В. 7. Вясеньнія матывы—Х. I. 8. Шчасьце—Н. Арсэньевай. 8. Голас Нёмна —Б. Л. 10 Сон на Нёмане каля Шчары — Гальяш Леўчык. 11. Студэнт на чужыне — Сумны. 12. Славянам — Ф. Ч. 13. Народныя песьні. 14. Беларускі Сакол, яго мэты і арганізацыя—В. Лаўскі. 15. Успаміны аб Горадз. гуртку Бел. Моладзі — Л. С-ш. 18. Хроніка. 20. Абвесткі.

„ЧЫРВОНЫ СЬЦЯГ. Орган камуністычнае партыі Заходняй Беларусі“. № 6 (43). Вільня, Красавік, 1925 г. Цана асобнага нумару 10 грошаў.

З правай стараны агалоўку зьмешчаны кліч камуністычнае партыі Зах. Беларусі „Няхай жыве злучаная Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка!“

У нумары памешчана некалькі стацеяк, між іншым— „Чырвоны дзень“. У гэтай уступнай стацейцы рэдакція гаворыць аб значэньні для соціяльнага змаганьня сьвяткаваньня Першага Мая. Канчаецца стацейка гэткімі думкамі:

„Канчатковая перамога ўжо блізка!

„Міжнародны пролетар'ят выпаўніць сваю місію асвабадзіцеля прыгнечаных!

„І з гэтаю верою тут, у закутай і паняволенай Зах. Беларусі, работнікі і сяляне будуць спатыкаць дзень Першага Мая.

„З гэтаю верою будуць яны нясьці нязлічаныя ахвяры за справу вызваленьня ў далейшай барацьбе.

„Сягоньня яшчэ стогне край. Турмы і вастрогі запоўнены тысячамі лепшых сыноў Зах. Беларусі, плача яшчэ маці забітага і закатованага панамі сына, але ўздымаецца хваля пабедная, хваля мільёнаў злучаных мазолістых рук і разбурыць, разаб'е кайданы.

„Беларусь, працоўная Беларусь, адвеку прыгнечаная, вялікая ў сваім горы і муках, парэзаная на часткі, будзе злучанай і вольнай!

„Будзе вольнай, бо ідзе пабедным крокам соцыяльная рэвалюцыя, асвабадзіцельніца чалавецтва.

„З верою ў гэту вялікую рэвалюцыю, з верою у насіцеля і тварца яе — пралетарыя прыгнечаная, закутая, паняволеная Заходняя Беларусь будзе спатыкаць дзень чырвоны, дзень Першага Мая“.

У чароднай стацейцы „За што змагаемся“ тлумачыць рэдакція: „За зямлю, за падзел бяз выкупу абшарніцкай, скарбовай

касьцельнай і іншай зямлі паміж працоўным сялянствам павінна змагацца і ўжо змагаецца сялянства Заходняе Беларусі".

Такім чынам, прагарама камуністычнай партыі Зах. Беларусі складаецца з двох момантаў: а) соціяльнага усьвядомленьня беларускага пролетарыяту, а гэта знача—ўсяго беларускага народу, які ў наш кругабег часу становіць адзіна сялянскую і работніцкую масу з дужа нячысьленным слоем інтэлігенцкага пролетарыяту; б) злучэньне Заходнай Беларусі з Менскай Радавай Рэспублікай.

Гэты другі пункт праграмы паказуе „орыентацію" партыі на аднаго з нашых окупантаў — Маскву, якая ў стасунку да Беларусаў ні на макавае зернятка ня лепшая ад Варшавы. І тут і там мы бачым той-жа імпэрыялізм, тую-ж непашану да беларускай нації і панаваньне чужых элементаў над пракавечнымі жыхарамі краю — Беларусамі. „Орыентація" на каторага-колечы з нашых окупантаў — гэта грозная небасьпека для ідэі сувэрэннасьці беларускіх інтэрасаў. Служба хоць-бы невялікай групы беларусаў аднаму з окупантаў — гэта абязсіленьне цэлай нації. Окупант праз Беларусаў сваіх „староннікаў" будзе вынюхіваць ўсю ўнутраную арганізацію беларусаў, будзе ведаць усе слабейшыя мейсцы і біць увесь адраджэнчы беларускі рух пры дапамозе другога окупанта. Непрымірымая адпорнасьць кождаму захопчыку нашага націянальнага дабра, непрымірымая пазыція супроць кождай окупаціі—вось адзіна правільны шлях для беларускага адраджэньня. Усе іншыя шляхі — блудныя. А орыентація на Менск тым больш блудная: гэта ёсьць служэньне маскальскай вялікадзяржаўнасьці.

Мы саўсім згодны, што зямля павінна перайсьці ў рукі працоўнага сялянства, але ці гэта зроблена ў Савецкай Беларусі? Не! Там дагэтуль вялікія маёнткі знаходзяцца ў руках „комун" г. зн.—гарадзкога і мястачковага элемэнту, пераважна жыдоў, якія ня маюць паняцьця аб працы на зямлі і дзеля гэтага выдаюць на цяжкіх варунках „комунальную" зямлю нашым беззямельным і малазямельным сялянам у арэнду. Калі гэткі „пераход" зямель мае адбыцца і ў Заходнай Беларусі, то беларускі селянін з яго пацехі мець ня будзе.

Мала аднаго факту перадачы сялянам зямлі, але важнае і, бадай, найважнейшае пытаньне — на якіх варунках яна будзе перададзена. І ў часе прыгону ўся зямля была „перададзена" сялянам у тым значэньні, што, акром селяніна, ніхто іншы яе ня выробляў. „Перадача" зямель у Радавай Беларусі вельмі напамінае прыгон, бо замест памешчыка, ўласьнікам зямлі зьяўляецца там дзяржава, а дзеля таго, што дзяржава ў руках камуністаў, то фактычным валадаром усяго зямельнага абшару ёсьць новая „шляхта"—комуністычная партыя, а не сяляне. Селянін карыстаецца правам выробляць зямлю і аддаваць увесь ураджай новым панам-камуністым. Дзеля гэтага, побач з варункам перадачы сялянству зямлі, нашы запраўды народніцкія партыі павінны выстаўляць і іншыя варункі гэтай перадачы, а галоўным чынам—з я м л я ў п а т о м н а е к а р ы с т а н ь н е б е з п а д а т к о в а. Зьбіраньне з сялян падаткаў за права працы на зямлі, што практыкуецца ў Радавай Беларусі, зьяўляецца ня помаччу нашаму сялянству, а прыгонным яго паняволеньнем, якое з году на год пагоршуе экономічнае палажэньне сялянства. Савецкая ўлада дбае аб усясьветнай рэвалюціі, аб колёнізаціі жыдамі-землябробамі адзінага кавалка лепшай у Беларусі зямлі (Случчына), аб тым, каб ня былі пакрыўджаны меншасьці і дзеля гэтага заводзіць па Сав. Беларусі жыдоўскія, расійскія, польскія, латышскія і іншыя школы. А беларуская школа ня мае ні падручнікаў, ні граматных па-беларуску вучыцялёў. Маленькія балтыцкія дзяржавы, як Літва, Эстія, Латвія, без нічыей чужой апекі маюць свае сярэднія і вышэйшыя школы (дый добрыя школы!). У мовах жыхарства гэтых маладых дзяржаў друкуюцца штогоду тысячы кніг: матэматыка, соцыолёгія, экономія, філёзофія, пэдагогія, астраномія, тэхнолёгія, прыродазнаўства— і г. п. кнігі аздабляюць паліцы кнігарняў. А сколькі гэткіх кніжак выдала дагэтуль Радавая Беларусь? А каб беларуская нація магла жыць с в а ё й культурай, гэта ўсё павінна было-бы быць. Гэта ўсё павінна было-бы рабіцца ў вольнай Радавай Беларусі, калі-б апошняя запраўды такой была. Але што казаць! Возьмем малы, але характэрны прыклад: атрымліваем з Радавай Беларусі лісты і пасылкі з кнігамі. І заўсёды вотайкам мроіш, што чародны ліст будзе ўжо з беларускім пачтовым знакам „Менск", ці „Mieńsk"

(для замежнага ліставаньня), але дзе там! На кляйме красуецца „Минскъ-губ." Ня толькі—не сталіца Радавай Беларусі, але губэрскі горад з „контррэволюційным" цьвёрдым знакам. А гэткіх прыкладаў многа, лішне многа! Дык з няволі ў няволю цягне нашага селяніна „Чырвоны сьцяг", што кліча нас на служэньне маскальскаму імпэрыялізму.

## АЛ. ШЛЮБСКІ. БЯДУЛЯ, ЯК ЭТНОГРАФ (Адбітка з „Полымя", № 2, 1925 г.). Менск—1925. Балон 188—195, у агортцы.

А. Шлюбскі галоўным чынам затрымліваецца на паэме Бядулі „Вера, паншчына і воля"..., ў якую аўтор улажыў тры ідэі на аснове народнай творчасьці: а) антырэлігійнасьць сялян, б) адбіцьцё паншчыны ў народнай творчасьці, в) народныя сымболічна-рэволюцыйныя матывы. Мы ня знаем самой працы здольнага нашага пісьменьніка, Бядулі, але судзячы з разбору, зробленага ў названай брашурцы, гэты твор яго належыць да літэратуры агітацыйнай, пісанай вершам. У сярэдні вякі бывалі „паэты", што пісалі вершам мэдычныя трактаты і рады, як ачышчаць жывот. Аб гэных „паэтах" даўно ужо забыліся, але Гомэра і Анакрэона й цяпер чытаюць, хоць іх творы, пілнуючы адно красы, ня мелі на ўвазе практычных мэт. І дзеля гэтага мы ў кождага пісьменніка шукаем мастацтва, а ўсякую прапаганду, хоць-бы і вершам, разглядаем як упадак.

А. Шлюбскі ў сваім нарысе стараецца апраўдаць Бядулю ў тым, што ён праў, прыпісуючы арганічную антырэлігійнасьць беларускаму селяніну. Але якую антырэлігійнасьць? Хрысьціянскую? Так, наш селянін ня знае хрысьціянства і ня можа нязнанага любіць, -- гэта праўда. Бо жыў і жыве ён сваім прастарым паганскім сьветаглядам і маральлю, а ад хрысьціянства ўзяў толькі некатарыя спаверхныя формы, а не саму яго істоту. А ня ўзяў ён таму, што ніхто аб гэта ня дбаў. Веру насадзілі чужаземцы і ў чужой мове. Хрысьціянскія інтэрнацыяналы дбалі аб інтэрасы сваіх арганізацый, і на селяніна глядзелі толькі, як на аб'ект фіску, зьбіраньня грашовых і натурай даткаў на утрыманьне жывога і мёртвага царкоўнага інвэнтара. Але аб'ектыўна бяручы, наш селянін глыбока рэлігійны, бо цёмны, бо акружае яго недаступная яго разуменьню прырода, якой ён прыпісуе ўплыў на сябе на кождым кроку і дзеля гэтага верыць у Бога і Чорта, ў Дамавіка і Лесавіка, ў благое вока, ў Долю і Злыдняў. Селянін неахвотна хадзіў у царкву, бо там, у царкве, панавала або „панская", або казённая мова, яму чужая і незразумелая, панаваў абрад, у якім ён ніякага удзелу ня мог прыняць, бо той абрад яму незразумелы ні сваім значэньнем ні мовай. Урэшце, разумеў і чуў сялянін-Беларус, што і царква і касьцёл гэта—служкі тых, якія яго трымаюць у ярме, што гэта—огнівы вялікага ланцуга няволі, які яго пазбаўляе волі і долі... Вось чаму ў народнай творчасьці адбілася варажасьць Беларуса да „панскай" і „казённай" веры.

## В. НОДЭЛЬ. НАКАЗ СЯЛЯНЦЫ-ГРАМАДЗЯНЬНІЦЫ. Выданьне Аддзелу па працы сярод жанчын пры ЦК КПБ. Менск. 1925. 15×23 цм. 19 балонак у агортцы.

Спаміж кніжак, выдаваных у Менску, гэта напісана на зьдзіў ясна, мала мае француззчыны і „хімічных" формул і—ў параўнаньні з іншымі—добрай мовай, але ты больш уражаюць чытача не-беларускіе звароты ў будаваньні сказаў, як прыкладам:

— Ніколі не забывайцеся *на* коопэратыў.

— Ніколі не забывайся *на* школу.

— Памятай *пра* хату-чытальню.

— Не забывайся *на* сьценную і вусную газэту.

Гаворыцца: *на* стале, *пад* сталом, *пры* стале; але памятай — *аб* працы, *аб* дзяцёх, *аб* школе, *аб* хаце, *аб* бацьках.

Няўжо-ж у Аддзеле Працы сярод жанчын не знайшлося ніводнага граматнага чалавека, які-бы мог паправіць гэтыя дзікія для беларускага вуха прыймі ня толькі ў тэксьце кнігі, але і ў тэксце самой назовы установы. „Аддзел *па* працы" знача — такі аддзел, у якім пасьля працы нечым займаюцца („*па* ядзе, *па* працы" знача — скончыўшы яду, працу).

Ня менш брыдка выглядаюць і русыцызмы (а лепш — маскалізмы) ў тэксьце, як: „абсемяняе", замест—абсявае; „паі" замест—бонды; „брахло" (якое слова сялянкі зразумеюць ад „брахаць") замест—дранцо, блаж, ды шмат іншых. Урэшце, прыказкі „адзін у по-

лі не ваяка“ аўтар нясдужаў напісаць па-беларуску і падаў чамусьці ў „дзяржаўнай“ мове.

Што знача хітра вымудранае слова „грамадзяньніцы“, замест „грамадзянцы“,—судзіць не бяруся: ці то гэтым аўтор хацеў нешта адценяваць, ці проста заблудзіўся ў трох соснах. У кождым здарэньні слова вышла калаватае, як стары скурат.

БЕЛАРУСКАЯ НАВУКОВАЯ ТЭРМІНОЛЁГІЯ. Выпуск шосты. Батаніка агульная і спэцыяльная. Менск, Інстытут Беларускае Культуры. 1924. 23×15. 83 бал, 1000 адн.

ЗІНОЎЕЎ, Г. ЯК БАЛЬШАВІКІ БУДУЮЦЬ ДЗЯРЖАВУ РАБОЧЫХ І СЯЛЯН. Менск. Ц. К. К. П. (б.) Б. 1924. 16×13. 44 бал. з малюнкамі. 8000 адн.

РАК, СЫМОН. СТРАШНЫ ВОРАГ. (Кніжка аб гарэлцы). Менск. Дзяржаўнае Выдавецтва „Белтрэстдрук“. 1924. 18×14. 38 бал. (Сялянская Бібліатэка, № 15). 8000 адн. Вокладка П. Г.

ШЫПІЛЛА, І. ЛЕНІН. КАРОТКІ НАРЫС АБ ЯГО ЖЫЦЬЦІ І ДЗЕЙНАСЬЦІ. Менск. ЦК Дапамогі дзецям пры Ц. В. К. Б. 1924. 18×14, 64 бал. 5000 адн.

„БЕЛОРУССКАЯ МЕДИЦИНСКАЯ МЫСЛЬ“. Месячнік соц. гігіэны, біолёгіі, клініч. і экспер. мэдыцыны. Пад рэд. Е. Ю. Зэліксона і М. Б. Кроля. Менск. НКЗ Беларусі. Кошт № — 1 рубель.

„ЗАРЯ ЗАПАДА“. Выданьне Вітэбскага Кругаколічнага Камітэту КП (б) Б. і Кругаколічнага Выканаўчага Камітэту. Рэд. М. Горны (Іваньковіч). Штодзенная часопісь. Кошт—80 кап. на месяц.

„ПОЛОЦКІЙ ПАХАРЬ“. Выданьне Полацкага Кругаколічнага Камітэту Радаў. Рэд. А. Мітлін. Кошт № — 4 кап.

„ШАГАЕМ“. Часопісь праф. тэхнічнай школы поліграфнага вытвару. Рэд. Калегія. Месячнік. Менск. Раней меў назову „Профшкольский ручеек“.

„МАГІЛЕЎСКІ СЕЛЯНІН“. Штодзенная сялянская часопісь. Выдае Магілеўскі Кругаколічны Камітэт КП (б) Беларусі і Кругаколічны Выканаўчы Камітэт Радаў. Рэд. А. Баранаў. Магілёў. Кошт — 45 кап. на 3 мес.

СТАТУТ Рыжскага беларускага прасьветнага таварыства „Беларуская Хата“. Рыга, 1925. Выданьне рыжскага Бел. прасьв. таварыства „Беларуская хата“.

СТАТУТ Т-ва Беларусаў-выбаршчыкаў у дзяржаўны сойм, гарацкія, павятовыя і валасныя самаўрады ў Латвіі. Рыга, 1925. Выданьне „Т-ва Беларусаў-выбаршчыкаў“.

ПРАГРАМА „Таварыства Беларусаў-выбаршчыкаў у сойм, гарацкія і валасныя самаўрады“.

ЛАСТАЎКА. Зборнік вучнёўскіх твораў Дзяржаўнай Люцынскай Беларускай гімназіі ў Латвіі. За 1923—1924 вучэбны год. 1924. Выданьне Гімназіі. Люцын. Балон 32. Малая чацьвёрка.

У 1923 годзе пачала выходзіць друкаваная на шапірографе вучнёўская часопісь „Ластаўка“. За год працы выйшла 10 нумараў

часопісі. Вышэй названы зборнік „Ластаўка“ ёсьць выбаркі лепшых вучнеўскіх твораў з літаграфаваных сшыткоў. Падамо кароткую ацэну некаторых маладых пісьменьнікаў, сярод якіх па першае мейсца заслуговуе Пётра Масальскі (вершы: „Я вольны сын неба!“, „Покліч“, „Песьня крывічоў“, „Сыну Беларусі“, „Будзь гатоў“, „Годзе“). Масальскі—вучань другой клясы гімназіі. Але ў маладой душы чуваць цьвёрдасьць і гарт, а што найважнейшае, — праглядае часам мысль, якая прынясла-бы чэсьць і навытаранаму пісьменніку. Гэтак, у вершы „Годзе“ аўтор паўстае супроць прывычнай у нас сьлязьлівасьці, бядунлівасьці і стагноты, просіць аб ёй не расказываць, а —

„Лепш ты скажы мне, дзе згінула слава?
Гонар Айчызны дзе зьнік?
Лепш раскажы, што пяяў нам бывала,
Шабляй зьвіня, лесаўчык?!“

Так, прыгон, няволя прывучалі нас да стагнаньня; малады, вольны, здаровы дух жадае песьняў вольных, пачуцьця свае сілы і гонару. Гэты выкрык маладога паэты як ня трэба лепей аддае настрой, які пачынае ў нас нарастаць з развіцьцём нацыянальнага адраджэньня. Гэта ўжо прадвесьнікі новых, лепшых часаў! Затое дысонансам гучыць у вершы „Будзь гатоў“ жаргоннае слова „скавут“. Мы чыталі ў гэтай самай „Ластаўцы“ вельмі прыгожае збеларушчанае названьне скаўтоў—„гайды“, трэба было яго і пакінуць, або, калі ўжываць чужаземскае слова „скаўт“, то не перакручываць, а то выглядае ня граматна і недарэчна, бо бытцам „скаўт“ выводзіцца ад „скавуліць“—плакаць, рымзаць.

З іншых вучняў памесьцілі свае творы Валентына Казлаўшчанка, Пётра Сакол, Алесь Калішук, Лясная Кветка, Якуб Воркуль, Гэлена Іванова.

Пераважаюць у зборнічку вершы грамадзкага зьместу з гордымі, баявымі клічамі да адбудаваньня нашай мінуўшчыны, да змаганьня за лепшую долю.

Так, нам трэба змагацца за лепшую долю, бо мы крывічы (беларусы) становім на сваёй зямлі самы паніжаны і матэр'яльна бедны, хоць і чысьленны, элемэнт. Беларусы, пераважна сяляне, з зямлі жывуць. Рэшта клясаў —памешчыкі, купцы, фабрыканты, дактары, адвакаты, духавенства — ў нас чужыя і варажыя нашаму народу і яго вызваленьню. Хто хоча вызваленьня нашага народу, той павінен імкнуцца, каб на Беларусі і купец, і рэмесьнік, і доктар, і адвакат, і духоўнік — былі беларусы. Пакуль у нас ня будзе свае беларускай, добра выкваліфікаванай інтэлігенціі, датуль мы будзем толькі папіхачамі і слугамі ў чужынцоў. Пакуль беларускімі мазгамі ня будуць будавацца фабрыкі, машыны, чыгункі, самалёты і радзіо, ня будуць закладацца крамы, канторы, друкарні, — датуль мы ня будзем вольны. На нашай зямлі будуць будаваць паны, а Беларусы будуць насіць цэглу на чужую будоўлю.

MICHAL BRENSZTEJN. Zarys dziejow ludwisarstwa na ziemiach b. Wielkiego Księstwa Litewskiego. Wilno, Księgarnia Stowarzyszenia Nauczycielstwa Polskiego, 1924. 226 бал.

П. Брэнштэйн належыць да ліку тых безкрытычных польскіх пісьменьнікаў, якія ня лічацца з гістарычнай праўдай, а жывучы ў XX ст., сьняць шляхоцкую Рэчпасполітую („ад мора да мора!“), ў якой адзіным праўным элементам у дзяржаве зьяўлаецца чубастая кантушовая шляхта, само-ж сабой,—польская і каталіцкая... Дзякуючы вось гэтаму спэціфічнаму кругазору самога аўтора, працавітая кніга яго не дае навуковай безстароннасьці. Аутор, сьпісываючы і зьбіраючы ў літэратуры ведамкі аб помніках краёвага сьпіжалітніцтва, задаецца адначасна мэтай „спольшчыць“ гэтыя помнікі, а дзеля гэтага падтасовуе гістарычны матэр'ял і блутае палітычна-гістарычную тэрміналёгію. Паводле яго, Літва гэта толькі этнографічная адмена адзінай Польшчы. Дзеля гэтага ў яго „Działownia zamkowa Wileńska“ зьяўляецца прадоўжаньнем „Ludwisarstwa polskiego“ (бал. 15), нараўне з Львоўскім звоналітніцтвам. Пры гэткай гісторапісі аўтору ўжо не прыходзіцца спыняцца над тым, з якіх складовых часьцей тварылася Вялікае Князьства Літоўскае, што ў праявах духовасьці яго належыць таму, або іншаму нацыянальнаму генію: далёка прасьцейшым і карыснейшым здаецца аўтору прыпісаць гэту духовасьць польскаму генію. І ён гэта робіць, адно прамаўчываючы, другое тэндэнцыйна асьвятляючы, трэйцяе бяз ніякіх падстаў і довадаў называючы польскім. Гэткім чынам, у кніжцы Брэнштэйна вырастае на землях В. К. Літоўска-Рускага (Крыўскага)

„польскае“ сьпіжалітніцтва, якое бытцам пачалося толькі ад 1544 году.

Сьвядома непраўдзівае цьверджаньне аўтора, што найдаўнейшая зьменка аб зване на Літве адносіцца да XIV ст. (бал. 10, аб т. зв. Ягайлавым зване). Бо ведама з летапісу, што Палачане склікаліся на вечы звонам, згэтуль утварыўся нават тэрмін: „созвонити вече“. Аб званох у Смаленску чытаем у жыцьці св. Мэркурага Смаленскага (пачатак XII ст.). Аб званох у Полацку гаворыцца ў „Слове аб палку Ігара“: „Тому (князю Ўсеславу 1044 — 1101) въ Полотскѣ позвониша заутренюю у Светыя Софеи въ колоколы: а он въ Кыевѣ звонъ слыша“. Аб званох у Тураве пачэрпаем ведамку з жыцьцёпісу Кірылы Тураўскага (XII ст.).

Аднак, ня глядзя на тэндэнцыйнасьць і нясумленнасьць аўтора ў апэраваньні гістарычнымі матэр'яламі, праца яго цэнная, бо у ёй месьціцца шмат фактычнага матэр'ялу, сабранага і запісанага самім аўторам.

З ліку званоў з надпісамі славянскі літарамі, якія ужо безпярэчна датычуць крыўскай (беларускай) творчасьці ў гэтай дзедзіне, называе аўтор:

1) Ягайлаўскі звон, аб якім пераказала нам вестку ўжо не істнуючая кроніка троцкіх бэрнардынаў. Звон гэты важыў 645 фунтаў каралевецкіх і паміж „аздоб прадзіўна выробленых“ меў рысунак Маці Божай у поўнай постаці і ўнізе акольны надпіс па-славянску: „Се аз раб божи Яков Ондреевич с матерою своею Улияною Александрова... В. К. Л. дали есмо сеи колокол улить въ церков Св. [д]ѣве... Параск[евии]... в Вильни во вѣки. 6885“, а збоку готыцкімі літарамі: „K. S. Skobelt“. Быў гэта звон, фундаваны ў год (1377) сьмерці Альгерда (Аляксандра) сынам яго Ягайлам разам з удовай маткай княгіняй Ульянай.

2) Звон з 1420 году (віленскага музэю) які мае ўверсе наўкол гэткі надпіс: въ лето ┼ ┼ 6000 ┼ ное ┼ 9 ┼ сотъ ┼ 20 ┼ 8 ┼ созданъ бысть колокол стей тройчи повелениемъ раба бжя пана шедибора волимонтовича ┼ а мастеръ частякъ“. Родавым гняздом Волімонтовічаў было Дзевалтова, каля Вількоміра. Да 1867 году гэты звон быў у мястэчку Невадніцы, каля Беластоку, скуль перавязьлі яго ў віленскі музэй.

Сярод майстроў-званалітнікаў, акром вышэйназванага Чысьцяка, Брэнштэйн падае яшчэ цэлы рад імён, якія безумоўна зьяўляюцца мяйсцовымі, гэтак: Фёдар Фёдаравіч Первец у Вільні (1676 г.), Габрыель Дорофеевіч у Полацку (1644 г.), Фёдар Цішэцкі (надпіс кірыліцай на зване, літым „въ Мстибове въ июне 1545 года, працею священника Мстибовского Федора Цышецкого, а грошми церковными“), Апановіч у Вільні (1759—1765), Тодар Шыкутовіч, Ян Фєдаровіч, Мацей Мілейка, Мацей Дулевіч (у канцы XVIII ст. ў Вільні).

З прыложаных у тэксьце і на асобных аркушах рысункаў званоў можна пабачыць, як высока стаяла умецтва ліць званы ў старыя часы ў Вільні, Несьвіжы і іншых гарадох б. В. Кн. Літоўскага.

Ведама, што ў часе войнаў, так частых у нашым краю, пераможцы між іншымі цэннасьцямі забіралі і вывозілі званы. Аўтор спыняецца ў канцы кнігі на апісаньні вывазу званоў з краю ў 1915 годзе, што адбываўся па загаду маскальскай вайсковай ўлады, у выніку чаго ў гэтай апошняй руіне пагінула безпаваротна шмат гэтых помнікаў мясцовай культуры, якую, такі й зноў безпадстаўна і тэндэнцыйна, аўтор лічыць помнікамі польскай культуры і ўласнасьцю польскай нацыі.

*А. Ружанцаў.*

## TEISIŲ FAKULTETO DARBAI. I knygos. Ouvrages de la Faculté de Droit de l'Université de Lithuanie. Libre I. Kaunas, 1924. 232 бал.

З 4 стацей першага сшытку прац праўнага факультэту Ковенскага унівэрсытэту для дасьледчіка літоўска-крыўскай гасцадаркі старых часаў маюць вялікую вагу „Нарысы грамадзкай гаспадаркі Літвы да часаў Люблінскай уніі“ дацэнта А. Рімкі.

Першапачатковая форма гаспадаркі ў Літве была замкнутая хатняя гаспадарка (ням. geschlossene Hauswirtschaft). Адносіны рожных слояў грамады былі саціяльна-эканамічнага характару, бяз асобных азнак праўна-кляcавага дзяленьня.

У часы Ягайлы (нават Вітаута) стасункі застаюцца тыя самыя. Імя і правы баярства зьвязаны не з паходжаньнем асобы, але з яе саціяльным палажэньнем ці са службай, вымаганай князям. Толькі пасьля таго, як Ягайла сеў на каралеўскі польскі пасад, паны і баяры атрымалі прывілей завясьці гэрбы. Агульнае дзяленьне станаў у Літве адпавядала парадкам Заходнай Эўропы, толькі ў Літве ня было тыповага стану мяшчанаў і да перамогі каталіцтва няможна заўважыць сьвятароў, як асобнага стану.

Формы гаспадаркі, нават самы кірунак яе, ў сярэднія вякі значна зьмяніліся. Ад прадгістарычных часаў у гаспадарцы Літвы, побач з працай на зямлі, значную ролю маюць лавецтва і пшчальніцтва. Сярэдне-вяковае пшчальніцтва, а злашча лавецтва, усё балей і балей драбнеюць, пазбываюцца свае гаспадарчай цэннасьці і залічаюцца ўжо да забаў. Затое моцна ўзрастае зямельная гаспадарка і гадоўля статку, пачынаюць цікавіцца і лясамі. У гарадох аўтор бачыць пераход не да тыповай гаспадаркі гораду Заходнай Эўропы тых часаў, але да грашова-меннай формы гаспадаркі з яснымі азнакамі абшарнай (тэрытарыяльнай), на'т народнай гаспадаркі.

Вітаўт і яго брат Жыгімонт у першай палове XV стагодзьдзя рупяцца аб утварэньні моцнай сусяроджанай манархічнай улады і асвабоджаньне ад сільных зямляўласьнікаў, ад уплываў іх на справы дзяржаўцы. Яны хочуць абаперціся на дробных баяраў (ваяраў) і дзеляць ім зямлю. У той самы час вярхі баярства — магуты імкнуцца набыць свайму стану як мага больш палітычных і маетных прывілеяў. Яны дасягнулі свае мэты, але ў пазьнейшыя часы, калі яны зрабіліся поэўнымі гаспадарамі краю, то князю засталіся толькі рэпрэзэнтацыя дзяржавы і абавязкі выканаўчай ўлады. Просты люд усё больш прывязываецца да зямлі, ўсё больш абмяжовуюцца яго правы, хоць у праве (статуце) ён яшчэ застаецца вольным. Вялікія правы набывае духоўны стан і мяшчане, але правы і ролю апошніх ніколі ня можна раўнаць з мяшчанствам Зах. Эўропы.

У XVI стагодзьдзі Жыгімонт I і Жыгімонт-Аўгуст яшчэ раз пробуюць узмоцніць сваю ўладу, звольніцца з-пад апекі паноў-магутаў зямельнымі рэформамі. Побач з цэлым шэрагам скарбовых перакшталчаньняў асаблівую гаспадарчую і саціяльную вагу мае увалочная устава 1557 г., якая замяняе старыя сялібы (sodyba) вёскамі, дварамі і фальваркамі з срога абмяжаванай адзінкай гаспадаркі простых людзей, хлопаў (блізка 20 ha на адну сям'ю) і надае праўную аснову іх павіннасьцям і стасунку да двара і дзяржаўна-гаспадарчых спраў. Акты XVI стаг. даканчальна ўводзяць у Літве прынцып клясаваньня станаў і даюць пяршацтва і магутнасьць баярскаму стану.

Гэткі, ў кароткіх словах, зьмест мае стацьця дацэнта А. Рімкі. Да яе дададзена 70 балонак тэкстаў: „Ustawa dworów naszich u W. K. L... jako sia deržawcy i wradniki sprawowati majut", „Устава земъли Жомойтъское", „Устава на волоки господара его милости у-во въсемъ В. К. Л. Лета Божъего нароженья 1557 месеца апреля 1 дня, і дадатак да яе 20—X—1557 г., інструкція рэвізорам і каморнікам 20—V—1558 г. і г. д.

Маладому вучонаму А. Рімцы трэба ад шчырыга сэрца пажадаць далейшых прац у мала дасьледаванай дзедзіне гісторыі б. Вялікага Князьства Літоўскага.

Справаздача факультэту паказуе, што ў восень 1924 г. на факультэце было 586 студэнтаў (з 1795 агульнага ліку студэнтаў). Паводле народнасьці яны дзяліліся: літвіноў 474, крывічоў 2, маскалёў 2, палякаў 1 і немцаў 1.

*Ал. Ружанец-Ружанцоў.*

### Lietuvos Universiteto veikimo apyskaita 19 - 16/2 - 22—19 - 16/6 - 24. Report of the University of Lithuania February, 1922 — June, 1924. Kaunas, 1925. 292+VI бал.

Справаздача Літоўскага Унівэрсытэту абыймае 28 месяцаў 1922—1924 г.г., г. ё.—час яго будаўніцтва і першых крокаў. Праз кароткі тэрмін шмат зроблена ў справе навуковага устройства Літоўскай вышэйшай школы, застаецца будова ўласных будынкаў, бо сучасныя ўжо замалыя і зусім не прыстасаваны для унівэрсытэту.

Аб складзе прафэсароў, дацэнтаў і іншых навуковых працаўнікоў дае паняцьце наступная табліца:

| Аддзелы | У канцы 1924 г. было | |
|---|---|---|
| | Прафэсароў і дацэнтаў | Малодшых навуковых працаўнікоў |
| Тэалёг.-філёзоф. | 22 | — |
| Гуманіт. навук | 21 | 7 |
| Праўны | 16 | 1 |
| Матэм.-прыродазн. | 18 | 21 |
| Лекарскі | 15 | 43 |
| Тэхнічны | 15 | 8 |
| Усяго | 107 | 80 |

Дзяржава выдала на утрыманьне унівэрсытэту ў 1924 г.

| | Літы (Lt. 1=$ 0,10) |
|---|---|
| Урадаваньне | 188.414,94 |
| Бібліатэкі | 118.449,65 |
| Тэол.-філ. аддзел | 355.293,08 |
| Гум. нав. „ | 458.019,63 |
| Праўны „ | 277.120,14 |
| Мат.-прырод. аддзел | 888.367,63 |
| Лекарскі „ | 1.071.149,28 |
| Тэхнічны „ | 440.607,26 |
| | Разам—3.797.421,61. |

Студэнтаў унівэрсытэт меў:

| Аддзелы | Вясна 1922 г. | | Восень 1922 г. | | Вясна 1923 г. | | Восень 1923 г. | | Вясна 1924 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Студ. | Слух. | Студ. | Слух. | Студ. | Слух. | Студ. | Слух. | Студ | Слух. |
| Тэолёг.-філёз. | 2 | — | 65 | 27 | 95 | — | 131 | 7 | 132 | 8 |
| Гуманіт. нав. | 20 | 30 | 72 | 25 | 61 | 19 | 120 | 25 | 123 | 22 |
| Праўны | 102 | 16 | 206 | 38 | 183 | 27 | 300 | 68 | 276 | 63 |
| Матэм.-прыродазн. | 22 | 10 | 114 | 28 | 87 | 16 | 130 | 23 | 119 | 20 |
| Лекарскі | 179 | 22 | 378 | 53 | 307 | 45 | 374 | 50 | 338 | 44 |
| Тэхнічны | 50 | 4 | 155 | 7 | 107 | 7 | 139 | 13 | 121 | 10 |
| Усяго | 375 | 82 | 990 | 178 | 840 | 114 | 1194 | 186 | 1109 | 167 |

Унівэрсытэцкая бібліатэка мела на другую палову 1924 г. 28. 187 тамоў.

Унівэрсытэт мае свае часопісі: тэолёг.-філёзофскі аддзел—„Logos“ і пастаноўлена выдаваць „Soter“, гуманітарных навук — „Tauta ir žodis“ (Народ і слова), праўны — „Teisių fakulteto darbai“ (Працы праўнага факультэту), матэм.-прыродазнаўчы — „Matematikos-gamtos fakulteto darbai“, лекарскі (паспольна з ковенскім лекарскім таварыствам) — „Medicina“, тэхнічны — „Technika“.

*Альгерд Ружанцаў.*

KARO ARCHYVAS. Redagavo majoras V. S t e p o n a i t i s. I. Kaunas, Vyriausiojo Štabo karo mokslo skyriaus leidinys. MCMXXV. 268 бал.

Выдавецтва вайскова-вучомнага аддзелу Галоўнага Штабу літоўскага войска займае паважнае мейсца на кніжнім рынку Літвы.

Ня кажучы аб багацьці выданьняў спэціяльна па ваяўніцтву, нямала дае яно і для гісторыі. У двухмесячніку ваяўніцтва і гісторыі „Mūsų Žinynas“ ужо шмат надрукавана досьледаў з літоўскай мінуўшчыны. Выйшлі і асобныя кніжкі, як напр.: праф. А. Я н у л а й т і с, „П а ў с т а н ь н е 1863—1864 г. г. н а Л і т в е“ (Коўна, 1921); праф. М. Б і р ж ы ш к а, „В а й с к о в а - г і с т а р ы ч н ы с ь п е ў н і к“ (Коўна, 1923), А. К л а й п е д і ш к е, „Л ю с т р а п а л і т ы к і М а л о й Л і т в ы“ (Коўна, 1923) і інш.

Новае выданьне належыць да тых, што аднолькава цікавіць і вайсковых і грамадзянства.

Мэты выданьня акрэсьлены ў „Слове рэдакціі“. Яна хоча зьвязаць сучаснае войска

з мінуўшымі часамі, яна ня хоча лічыць за гісторыю Літвы толькі два пэрыёды: 1) ад сівой старасьветчыны да Вітаўта, або да Люблінскай уніі і 2) ад надрукаваньня часопісі „Aušra“ (1883 г.) да нашых дзён. На цьвёрды шлях сталі абодвы літаўскія журналы—і „Mūsų žinynas“ і „Karo archyvas“,—бо яны ня выракаюцца ўсяе свае мінуўшчыны, не глядзяць у старыя часы праз акуляры польска-маскоўскія, але шукаюць у гістарычных падзеях істотнай праўды.

Вось чаму і ў гэтым першым сшытку „Вайсковага архіву„ апрыч успамінаў аб літоўскіх частках у Москоўшчыне і Сібіры ў часе ўсясьветнай вайны і пасьля яе, адшукаем і гэткія рэчы, як „Першая швэдзкая вайна і Кірхольмская бітва“ стар.-лейт. Бальчунаса і „Друкаваныя і нядрукаваныя творы паўстаньня 1863 – 64 г. г. праф. Аўг. Янулайтіса. Апошні падаў сярод другіх твораў і некалькі беларускіх: „Малітва дзісейшая“ (Божэ, што Польшчу чэрэз усе векі), „Гутарка старого дзеда на Беларусі“ (Эй, скажыце добры людзі), „Мужыцкая праўда“ №№ 3 і 7 і „Залатая грамата беларусам“ (Польшча паднялася за вашую і сваю свабоду). Да гэтага часу „Мужыцкай праўды“ на крыўскай мове лічылася 6 Nr Nr., але знайшоўся і сёмы („Дзяцюкі! Доўга маўчаў я, неказаў вам нічога... А будзе у нас вольнасьць, якой ня было нашым дзядом і бацьком“), ён пераховуецца ў Ковенскім архіве сярод іншых адозваў.

З навейшых часаў надрукаваны ўспаміны палкоўніка Усьпенскага „1-шы крыўскі (беларускі) полк у Гродні і як палякі яго абяззброілі“. Аўтор успамінаў, якога полк. К. Езавітаў у сваёй кніжцы „Беларусы і палякі“ абвінавачывае ў падпісаньні умовы з палякамі не на карысьць дзяржавы, тлумачыць падпісаньне умовы дазволам вайсковага міністра Літоўскай дзяржавы палкоўніка Мэркіса. Аб палк. Езавітаву напісана: „У гэты цяжкі час (у канцы Сакавіка 1919 г.) на мейсца палкоўніка Лаўрэнцьева камандзерам палка быў назначаны былы паручнік маскоўскай арміі Езавітаў (падвышэньня у ранзе паручніка Езавітава у крыўскім войску аўтор, зразумела, ня вызнае, бо гэта ранга ня „царём-батюшкой“ дадзена). Як ведаю, прызначаньне адбылося на жаданьне міністра п. Варонкі. Яго паводжаньне не спадабалася афіцэрам, і яны грамадой зьвярнуліся са скаргай да міністэрства краёвай абароны. Езавітаў быў адклонены, а на яго пасаду сеў камандзер камандантскага батальёну Антонаў, ў часе вайны камандзер палка“ (165 бал.).

Нажаль, твор палк. Усьпенскага мае аднабокі спазор: шаноўны аўтор больш говорыць аб сваіх асабістых злых прыгодах пад польскай ўладай у Горадзеншчыне; чымсь аб палку і гісторыі яго абяззброеньня; падана шмат дакумантаў, але іх яшчэ больш можна было адшукаць у вайсковым архіве.

Аб навуковай вартасьці новага выданьня ня прыходзіцца спрачацца. Спаверхні выгляд выданьня і вокладка прыгожыя.

*Ротмістр Прус.*

## БЕЛАРУСЬ У РАСІЙСКІХ НАВУКОВЫХ ВЫДАНЬЯХ 1924 ГОДУ.

У мінулым годзе расійская навуковая літэратура ў некатарых сваіх працах закранула і Беларусь; найбольш выдатныя працы варта адзначыць.

У XXVIII томе „Известий русского яз. и слов. Российской Акад. Н.“ зьмешчаны артыкул В. Перэтца „К изученію слова о полку Игореве“. Перэтц дае цікавы крытычны агляд літэратуры аб „Слове“... Пачынаючы з 1914 г., ён разглядае літэратуру расійскую, украінскую і беларускую. Крыўская літэратура разгляданага часу толькі адзін раз закранула „Слова“... перакладам яго на сучасную крыўскую мову, які зрабіў Янка Купала. На бб. 177—178 Перэтц разглядае пераклад, пры чым яго абураюць словы Купалы: „З старой на сучасную беларускую мову пералажыў“. Агляд канчаецца такімі словамі: „В общем, несмотря на некоторые неточности и отклонения, работа выполнена с любовью и добросовестно, даже талантливо. Только напрасно переводчик уверяет читателей, будто бы „Песьня аб паходзе Ігара напісана старай беларуска-славянскай мовай“. Они то, может быть, и поверят такому филологическому открытию, но едва ли с этим согласится хоть один настоящий ученый, имеющий понятие об истории русского языка и его диалектов“. У апошнія годы, дзякуючы новаму асьвятленьню гістарычных праблем, пачало праясьняцца пытаньне датычна прыналежнасьці „Слова“ аднаму з трох усходніх славянскіх народаў, пры чым прэтэнзіі вялікарасійскай літэратуры на „Сло-

ва"... можна катэгарычна выкрэсьліць: пытаньне застаецца спрэчным толькі ў прыналежнасьці „Слова" крывічом або украінцам. Вышла новая кніжка акад. Карскага „Русская діалектологія", ў якой разгляд крыўскае мовы грунтуецца на філёлёгічных досьледах аўтора ў яго „Бѣлоруссахъ". Нас вельмі дзівіць, чаму аўтор, як прыклады жывой крыўскай мовы, прыводзіць старыя этнографічныя запісы разам са ўсімі недарэчнасьцямі гэтых мала адукаваных этнографаў з русыфікатарскімі заданьнямі, якія перараблялі крыўскую мову так, каб яна была больш падобнай да вялікарасійскай мовы. Ды й сам Карскі адзначаў у друку недакладнасьць старых запісаў крыўскае мовы. Здавалася-бы, што зрусыфікаваныя і палёнізаваныя адрыўкі з старых этнографічных запісаў ня могуць быць прыкладамі жывой крыўскай мовы.

Новага гэтая кніжка нічога ня ўносіць, бо зьяўляецца папулярным выкладам папярэдніх філёлёгічных досьледаў мовы ўсходных славянаў (крывічоў, украінцаў і вялікарасійцаў).

Закранае крыўскую мову і Н. Дурново ў кнізе: „Очерк истории русского языка".

Вельмі цікавы досьлед выдрукаваў у мінулым годзе П. М. Волков пад агалоўкам: „Сказка. Розыскания по сюжетосложению народной сказки, т. I. Сказка великорусская, украинская и белорусская". Гэты том зьяўляецца досьледам аўтора па сюжэтаскладаньню казкі фантастычнай; аўтарам распрацавана 15 сюжэтаў „о невинно-гонимой". З крыўскай этнаграфічнай літэратуры аўтарам выкарыстаны працы Дзьмітрыева, Дабравольскага, Раманава, Шэйна і Федароўскага.

Выйшаўшая кніжка зьяўляецца невялічкай часткай капітальнай працы аўтора па сюжэтаскладаньню казак ўсходных славянаў. Пачынае свой досьлед аўтор словамі: „Научная литература в области изучения нашего фольклора (разумею фольклор украинский, великорусский и белорусский) чрезвычайно бедна. Есть отделы, научное изучение которых, позволю себе сказать, и не начиналось. К таким отделам относится и сказка. Систематического научного изучения сказки, позволю себе это утверждать, у нас не было. Все работы над сказками сводились, в сущности, к изучению отдельных сказочных тем с сравнительной точки зрения" (бал. 1).

Пасьля ўступу аўтор апісывае „Приемы сказочного стиля"; ў гэтым раздзеле адзначаюцца ўсе характэрныя рысы ў форме і стылю, якімі выроэжнююцца адна ад другой казкі крыўскія (беларускія), украінскія і вялікарасійскія.

У наступным раздзеле аўтор разглядае „Сказки о невинно-гонимых"; гэты сюжэт складаецца з такога цыклю казак: аб мачысе і падчарыцы, аб падменянай жонцы, аб нявінна каранай жонцы і напаставанай сястры, аб герою-дурню. „Указанные 5 сказочных тем по развитию сказа и по композиции так близки между собою, что все могут быть сведены к одной общей повествовательной форме. Сравнивая структуру всех 5 вышеуказанных сказочных тем, легко установить устойчивую комбинацию мотивов, общую для всех 5 сказочных тем, постоянный комплект мотивовъ, который позволяет говорить об одном сказочном сюжете" (б. 67).

Пасьля „обзора мотивов" аўтор робіць вывад: „Все отмеченное позволяет говорить об одном общем сюжете (для беларусаў, украінцаў і вялікарасійцаў) о невинно-гонимых", які зьмяняецца толькі ў дэталях" (б. 221).

Да самых апошніх часоў некаторыя прадстаўнікі вялікарасійскай навукі яшчэ не пакідаюць да-рэвалюцыйных рэакцыйных поглядаў на Беларусь і яе культуру. Так, у выданым Расійскай Акадэміяй Навук „Историко-литературном сборнике, посвященном В. И. Срезневскому", зьмешчана праца С. Маслова „Изъ наблюденій надъ старопечатными церковно-славянскими изданіями", ў якой аўтор, разглядаючы крыўскія старадрукаваныя выданьні: „Евангеліе учительное", выданае ў 1619 г. „власнымъ стараньем коштомъ и накладомъ" Кірылы Транквіліона „в маетности ей милости княгинѣ Вышневецкой в Рахмановѣ" і „Евангеліе учительное", выданае ў 1697 г. ў Магілеве „стараньем и коштом" арэндара Брацкае друкарні Максіма Вошчанкі, лічыць гэтыя выданьні помнікамі не старадаўнай крыўскай літэратуры, а помнікамі „славяно-русскихъ книгъ XVI—XVII ст."

Хай будзе „славянская" мова, абы толькі не „белорусская". Гэтага аджыўшага тэрміну яшчэ, як відаць, не пазбыліся і вучоныя су-

часнай савецкай Вялікарасіі, не пазбыліся яшчэ яны вялікадзяржаўных поглядаў царскай „Имперіі“.

Такіх самых „истинно-русских“ поглядаў на Беларусь трымаецца і проф. Вл. Пархоменко ў досьледае „У истоков русской государственности (VIII—IX вв.)“. Аўтор апэруе крыўскай тэрыторыяй з крыўскім народам, фактамі крыўскае гісторыі, мовы—і нідзе ні аднаго разу ня ўжывае слова ня толькі „крывія“, але „беларусь“, „беларускі“: ўсюды ў яго „русь“, „русское“, „западно-русское“, южно-русское“, „северо-западные говоры“ і г. д.

Аўтор пытае: „с чего начать русскую историю, или, точнее, историю Восточного славянства!“ (б. 5). Ён на многіх балонах ужывае тэрмін „Восточные славяне“, але з якіх плямён яны складаюцца? Мы ведаем тры групы: беларусаў, украінцаў і вялікарасійцаў, а аўтор гэтых тэрмінаў ня ўжывае. У яго замест Беларусі—„Северо-Западный угол территории Восточной Европы“ (б. 5), „Северо-Запад русской территории“ (б. 12). Украінскую дзяржаву ён называе „Киевско-русское государство“ (б. 7), „Юго-запад русской территории“ (б. 12). Гістарычныя факты XI—XII ст. аб утварэньні крыўскае і украінскае дзяржаў аўтор адносіць да пытаньяў „о начале русского государства“ (б. 6): Полацкая і Кіяўская дзяржаўнасьці (б. 67—102) зьяўляюцца „русской“ дзяржаўнасьцю

Але годзе! падобных прыкладаў можна выпісаць шмат.

З сурова-навуковай стараны кніга мае вартасць, бо зьяўляецца спробай прымірыць спрэчкі паміж нарманістамі і антынарманістамі ў пытаньні аб паўстаньні дзяржаўнасьці ва ўсходных славянаў, адсунуўшы гэтае пытаньне ўперад, да пары нарманізму.

Яшчэ ў 1923 г. выказаны ў „Савецкай Беларусі“ („Абмылка, ці шкодны погляд?“ 1923, № 202) погляд на працу з гісторыі кнігі Щелкунова, „Искусство книгопечатания в его историческом развитии“, у якой аўтор выводзіў, што вялікі беларускі першадрукар і вучоны Ф. Скарына быў расійцам і друкаваў расійскія кнігі.

Пасьля Щелкунова ў наступным 1924 г. ў Маскве выйшла новая кніжка аб гісторыі друку: „Русская книга от начала письменности до 1800 г.“, напісаная некалькімі аўтарамі і вельмі падобная па тэндэнцыі да працы Щелкунова.

У артыкуле А. Некрасова „Книгопечатаніе в России в XVI и XVII веках“ нібы і робіцца ў пачатку правідловы падход да справы, нібы Беларусь і выдзяляецца са складу расійскіх зямель: „Средина XVI в. — время появленія в Россіи, в Москве, первой печатной книги; давно уже существовала она в Западной Европе, давно и постепенно проникала либо она сама, либо слух о ней по отдаленнейшим и диким углам. Уже Краков, Цетинье, Венеция, Прага, Вильна, глушь Польши и Балканскаго полуострова имели типографские станки, а в России, в Москве, все еще усердные писцы склонялись над пустыми листами“... (б. 64). Прачытаўшы гэтае мейсца, нібы атрымліваеш ўражаньне, што Вільня і Масква не знаходяцца на тэрыторыі Вялікарасіі, але прачытаўшы кніжку ў некалькі сот старонак, мы не знайшлі ні аднаго ўжываньня слоў „Крывія“, „Беларусь“: гэтыя тэрміны аказаліся замененымі выразамі царскай, русыфікатарскай „Россійской Имперіі“, як напр.: „Западная Русь“ (б. 39), „Вильна уже знала типографское дело на русском языке і здесь еще в 1525 г. печатал свои книги полоцкий гражданин доктор Франциск Скорина“ (б. 91), „Василий Тяпинский, выпустил Евангелие без даты и обозначения места на двух языках: славянском и украинском“ (б. 91). Віленская друкарня Мамонічаў завецца Некрасывым „великорусской типографией“ (б. 95).

Помнікі смаленскага пісьма XIV ст., як напр., „Смоленская псалтырь“ (б. 44—45), выданьні віленскіх друкарняў (б. 103), выданьні Магілеўскіх і Аршанскіх друкарняў (б. 114)—лічуцца аўторам помнікамі вялікарасійскай культуры.

Жаданьне аўтора абайсьці як-небудзь слова „беларускі“ відаць з такога прыкладу: „виленские (выданьні) Петра Мстиславца в языкѣ уже считаются с местными особенностямі“ (б. 95). Замест таго, каб проста напісаць, што кніжкі былі выдрукаваны па-беларуску, аўтор чамусьці лічыць патрэбным трымацца тону і стылю, якога трымаліся ў адносінах да Беларусі розныя ранейшыя русыфікатары, як мітрапаліт Сямашка, граф Мураўёў, прафэсар Каяловіч, міністар Сталыпін і інш.

Ужо прыведзеных прыкладаў досіць для таго, каб бачыць крайнюю тэндэнційнасьць, неправідловую пастаноўку пытаньняў і вораджасьць да беларускае культуры, нежаданьне некаторых прадстаўнікоў вялікарасійскай навукі лічыцца з ёй, як з гістарычным фактарам.

Зусім іншы стасунак да беларускай старадаўнай культуры знаходзім у другіх нашых суседзяў—украінцаў. Украінцы ў мінулым годзе таксама выдрукавалі кнігу па гісторыі друку: „Бібліогичні вісти", (Київ, Січень—Березень). Гэты N часопісі таксама належыць розным аўторам і таксама кніга гэтая трактуе аб гісторыі друку, але трактуе яна правідлова, адкінуўшы якія-бы то ні было тэндэнціі, паважаючы культуру сваіх суседзяў-беларусаў.

Тут на самых першых балонках мы сустрачаем Беларусь: „А коли з'явилося друкарство (1525 р.) в державно й культурно близькій украйнцям Білорусі, то... звідти мели книги, як свої" (б. 7). Перакінуўшы некалькі балонак, знаходзім артыкул пад такім агалоўкам: „Скорина: початкове білоруське друкарство". Артыкул належыць П. Папову і сьціслa выкладае галоўнейшыя моманты гісторыі друку на Беларусі, бо ён меў вялікі ўплыў, на друкарства ў Вялікарасіі (гл. б. 15), так і на Украіне (гл. б. 23).

Прагледзіўшы нарысы В. Барвінка: „Загальний огляд стародруків киівських бібліотек" і П. Панова: „Слов'янські інкунабули киівських бібліотек", якія зьмяшчаюць сьпісы ўсіх знаходзячыхся ў Кіяве старадрукаваных кніг,—можна знайсьці сярод іх шмат рэдкіх крыўскіх выданьняў, пачынаючы са Скарынаўскіх.

У канцы кніжкі зьмешчаны сьпіс, складзены В. Перэтцам: „Українскі і білорускі стародруки в бібліотеці ленінградського унівэрситэту".

Ось гэтую вельмі вартную кнігу, выданую украінскім Навуковым Інстытутам кнігазнаўства, трэ' было-б даць пачытаць навукова-няпісьменным і культурна-тэндэнційным аўторам цытаванай „Русской книги", якая напісана „коллективным трудом членов Полиграфической Секции Российской Академии Художественных Наук в Москве" (б. 5).

*Ал. Шлюбскі.*

## М. ЧАРОТ. ЗАВІРУХА. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі. Менск, 1922 г.

Кніжка Чарота „Завіруха",—гэта зборнік вершаў; выдана форматам in octava, 240 балонак. Першая акладковая балонка аздоблена даволі добрым рысункам, адпавядаючым па свайму зьместу агалоўку кнігі.

М. Чарот—малады аўтор, які выступіў у крыўскай пісьменнасьці ў часе вайны. Аўтор вялікага таленту і пры варунку пляновай працы над сабой можа заняць адно з першых мейсц у нашай пісьменнасьці. Нажаль, „Завіруха" не паказуе, што аутор яе сур'ёзна працаваў над мовай.

Слоўнік Чарота бедны, і ў дадатку гэту беднасьць аўтор стараецца пакрываць не пазнаньем народнай мовы, а запазычаньнямі з мовы расійскай, што абязцэнівае яго нават прыгожыя вершы. Скрозь і ўсюды ён ужывае акрэсьленьні ўзятыя з „ходячих словечек" расійскай мовы: „Неба сьвінцовым дожджом палівае"... „Ломім ногі ў гальлі буралому"... „К сьвету вялікаму! Новаму!" (сьвет ён ужыў ў значэньні „сьвятло")... Тут адважнаму путніку верыцца, што ужо хутка міне яго слота"... „Чыю ў песьнях усхваліваць рацъ"... „Я мяцежны бунтар..." „змагаю ўсе нязгоды"... „Хто з людзей пасьмее кінуць нам папрок?"... „Помніць час вясёлы, як гуляў палач"... „Знойдзе ў сэрцы скрыжаль" і г. п.

Вось-жа „свинец" у нашай мове мае назову — волава; „бурелом" — віхор; нашае слова „сьвет" адпавядае расійскаму „мір, вселенная", а расійскаму слову „свет" адпавядае нашае слова „сьвятло"; „путник" па-нашаму—„падарожнік"; „слота" — форма польская, наша форма—„слата"; слова „рать" —брыдкі барбарызм, саўсім незразумелы народу, бо-ж аўтор піша работнікам і сялянам, па-нашаму — „войска"; „мятежный" — яшчэ горшы барбарызм, павінна быць—„бунтарны"; „невзгоды" тлумачыцца на нашу мову словамі: няпрыемнасьць, напасьці, клопаты, гароты; „попрек"—закід.

Гэткія барбарызмы ў мове паэзіі, гэта тое самое, што кляксы на прыгожым малюнку, якія з найпрыгажэйшага мастацкага твору робяць макулятуру.

Песьні Чарота, хоць ён сябе называе пяўцом сярпа і молата, мала, пакуль што, маюць

вострасьці сярпа і цяжасьці молата: больш пераважае мляўкая перафразоўка комуністычных лістовак.

Аднак мы верым, што з добрымі задаткамі сваімі Чарот можа працаваць і можа даць запраўдныя гулкія акорды, можа даць жывую кіпучую думку і знайсьці ў роднай мове словы для выражэньня нават больш цэнных і завілых сваіх думак, чым тыя, якія даў у „Завірусе“.

*С. Жылевіч.*

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ, зборнік. Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі. Менск, 1925. 18×28 цм., бал. 68.

Зьмест: М. С. „Сучасная Польшча і Заходняя Беларусь“. А. Смоліч „Селянства Заходняй Беларусі“. Я. Л—ч. „Наступ капіталу ў Польшчы“ З. Бядуля. „Партызанцкі рух у Заходняй Беларусі“.

Кніга напісана з мэтай інфармаваньня аб палажэньні беларусаў пад Польшчай і напісана даволі добра. Асабліва грунтоўна напісаны першыя два артыкулы, ў якіх падробна разьбіраецца польская палітыка, як унутраная, так і замежная, ў стасунку да беларусаў, і экономічнае палажэньне беларускага сялянства ў зьвязку з польскай колёнізацыйнай палітыкай.

## М. І. КАСЬПЯРОВІЧ. БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКІ СЛОЎНІЧАК. Віцебск, 1925. 13×16 цм., бал. 55. Выданьне Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства.

Кароценькі, але старэнна апрацаваны слоўнічак робіць вельмі прыемнае ўражаньне. Нажаль, у гэту сымпатычную кніжыцу ўкраліся некатарыя словы, якія безумоўна належала-б адкінуць, прыкл.:

Абвяржэньне—опровержение. Ад гэтага караня ў нашай мове здавён умацавалася слова „вярзьці“ зн.,—гаварыць нісянеціцу, плясьці пустое. І дзеля гэтага новаутворанае слова „абвяржэньне“ будзе заўсёды асоціявацца з „вярзьці“.

Абычайнасць—нравственность. „Абычайнасьць“ гэта не „нравственность“, а знаньне, выпаўненьне абычаяў, дык знача—„обходительность“.

Адмена — перемена, изменение. Слова „адмена“ ў народнай мове ўжываецца ў значэньні „отличие“, „сорт“.

Ганебны — неприличный. Нашае слова „ганьба“ адпавядае расійскаму „позор“, дык ганебны будзе—„позорный“.

Дасціпны—вездесущій. Дасьціпны ў народзе знача „остроумный“, што правільна і адмечана на 20 балонцы: досьціп—остроумие.

Замер — намерение. Слова „замер“, агульна, няма ў нашай мове; у палякаў ёсьць слова zamiar у гэтым значэньні. У нас расійскаму „намерение“ адпавядае „паманка“ ад „маніцца“.

Здатнасьць—способность, склонность. Здатнасьць знача „пригодность“.

Каляны — плотный, твердый. Каляны знача—„упругий“.

Лёс—судьба, рок. Слова „лёс“ чужое, па-нашаму—„доля“.

Мурог — манник высокий, овсяница луговая, трава. „Мурог“ гэта не назова якой палявой расьціны, а названьне густой, мяккой лугавой зелени наагул, і эпітэт лугу.

Мяшканьне—жилище. „Мяшканьне“ гэта полёнізм. У нас даўней казалі й пісалі ў гэтым значэньні „гаспода“.

Насельнік — житель. У Вітабшчыне ўжываюць у гэтым значэньні прыгожае слова „жыхар“.

Неабходнасць—необходимость. Брыдкі, жаргонны новатвор з расійскага. Беларусы кажуць: „канечна трэба, канечне зрабі, даконча патрэбна“.

Няўміру шчы—безсмертный. Украінізм і саўсім непатрэбны, бо маем народнае слова „несьмяротны“.

Пакат — откос. Русыцызм, па-нашаму—„суслон“.

Самастойнасьць—самостоятельность. Гэтым словам выражаецца ня тое, што само стаіць, а тое, што само па сабе істнуе, дык па-нашаму будзе „самаістасьць“.

Шляхоцтва—благородство. Слова „шляхта“ запазычана палякамі ад немцаў, у якіх „schlagen“ означае — біць і „schlacht“— рэзаць; гэта таксама, як і нашае „баярын“, якое также выводзіцца ад—біць. У перакладзе на нашу мову „шляхотны“ будзе літэральна—разбойны, а не дабародны.

Шпальта — гранка, столбец. „Шпальта“ — па-нямецку, а па нашаму — „гранка“.

# ЗЬМЕСТ.

1. **Максім Багдановіч.** Апавяданьне аб іконніку і залатару. . . 1.

2. **А. Матач.** Куцьця (апавяданьне). . . . . . . . 3.

3. Яго-ж. Ня вытрымаў (апавяданьне). . . . . . 11.

4. Яго-ж. Матчына сэрца (казка). . . . . . . 14.

5. **К. Езавітаў**. Малітва Пяруну (верш). . . . . . 18.

6. **Ал. Шлюбскі.** Матэр'ялы да Крыўскаае гісторапісі. . . . 19.

7. **Філ. д-р Марыя Тауэрава і філ. канд. Я. Станкевіч**. Апавяданьне з „Аль-Кітабу". . . . . . . 69.

8. **К. Езавітаў.** Беларуская Вайсковая Цэнтральная Рада. . . 80.

9. **Ротмістр Капорскі.** Аб нацыянальных меньшасьцях Чырвонай арміі. 93.

10. **В. Ластоўскі**. Канкардат. . . . . . . . 94.

11. **Запіскі.** Нёман і Няміга. — Каталіцкія пачатковыя школы. (Паводле Jaroszewicza: „Obraz Litwy"). — Матэр'ялы да Крыўскага слоўніка. — Пражка паганскіх часаў. — Аб „панэ". — Дыфтонгі *уо (юо=іуо), ыэ (іе)*. . . 99.

12. **Кнігопісь і крытыка.** „Праваслаўны Беларус". Царкоўна-народны двутыднёвік. — „Студэнская Думка". Месячнік Беларускага студэнства ў Вільні.— „Чырвоны Сьцяг". Орган камуністычнае партыі Заходняй Беларусі. — Ал. Шлюбскі. Бядуля, як этнограф. — В. Нодэль. „Наказ сялянцы-грамадзяньніцы". — Беларуская Навуковая тэрмінолёгія. Ботаніка агульная і спэцыяльная. — Зіноўеў, Г. Як бальшавікі будуюць дзяржаву рабочых і сялян. — Рак Сымон. Страшны вораг. — Шыпілла, І. Ленін. Кароткі нарыс аб яго жыцьці і дзей-

насьці.— „Белорусская Медицинская Мысль“. Месячнік соц. гігіены, біолёгіі, клініч. і экспэр. мэдыцыны. — „Заря Запада“. Вітабская штодзенная часопісь. — „Полоцкій Пахарь“. Часопісь. — „Шагаем“. Часопісь — „Магілеўскі Селянін“. Магілеўская штодзенная сялянская часопісь. — Статут т-ва „Беларуская Хата“.—Статут „т-ва Беларусаў-выбаршчыкаў“. — Праграма „т-ва Беларусаў-выбаршчыкаў“. -- Ластаўка. Зборнік вучнёўскіх твораў. — Michał Brensztejn. Zarys dzieiów ludwisarstwa... — Teisių fakulteto darbai. — Lietuvos Universiteteto veikimo apyskaita. — Karo archyvas“ (Вайсковы архіў). Часопісь Ген. Штабу Літоўскага войска. — Беларусь у расійскіх навуковых выданьнях 1924 году. Крытычна-кнігапісны агляд. — М. Чарот. Завіруха. — Заходняя Беларусь. Зборнік. — М. І. Касьпяровіч. Беларуска-расійскі слоўнічак. . . . . . . 105.

Застаўкі з друкаў Супрасльскай друкарні XVII ст.

Redaktorius - leidėjas K. Duž - Dušiauskas. Рэдактар - выдавец К. Дуж - Душэўскі.

# ВЫДАНЬНІ
## Міністэрства Бэларускіх спраў у Літве.

(Lietuva, Kaunas, Mickevičiaus g-vė, 15/23).

НЕБА І ЗОРЫ. Папулярная астраномія, пераклад з расійскага. 23×15 цм., бал. 22.

В. ЛУНКЕВІЧ. ЗАКОН ЖЫЦЬЦЯ СЯРОД ЖЫВЁЛАУ І РАСЬЦІН. Папулярныя нарысы па прыродазнаўству, пераклад з расійскага. 23×15 цм., бал. 53.

СЬПЕВАК БЛОНДЭЛЬ. Англіцкая гістарычная легенда. 11×15 цм., бал. 16.

ГАНС-ХРЫСТЫЯН АНДЭРСЭН. КАЗКІ.

К. ДУЖ-ДУШЭЎСКІ І. В. ЛАСТОЎСКІ. Слоўнік гэамэтрычных і трыганамэтрычных тэрмінаў і сказаў. 14×20 цм., бал. 128.

Н. МАЛЫШЭЎ. Фізыолёгія і анатомія чалавека. Падручнік для сярэдніх школ. 23×15 цм., балонак 120. З рысункамі ў тэксьце.

В. ЗЕЛЕНСКІ. Батаніка. Падручнік для сярэдніх школ. У тэксьце 110 рысункаў. 17×24 цм., балонак 160+XVI.

В. ЛАСТОЎСКІ. Расійска-Крыўскі слоўнік.

ДЗЕЛЯ УШАНАВАНЬНЯ 400-ЛЕТНЯЙ ГАДАЎШЧЫНЫ КРЫЎСКАГА (БЕЛАРУСКАГА) ДРУКУ ВЫЙДЗЕ КОШТАМ „БЕЛАРУСКАГА ЦЭНТРУ Ў ЛІТВЕ“

# ГІСТОРЫЯ
# Крыўскай (Беларускай) кнігі,

апрацаваная В. ЛАСТОЎСКІМ.

Кніга абойме 40 аркушоў друку вялікага фармату і будзе багата аздоблена рысункамі (каля 200 зьнімкаў з грамат, кніг і кніжных старасьвецкіх заставак). Абойме рукапісную і друкаваную крыўскую пісьменнасьць ад X да XIX стагодзьзя. Кніга друкуецца.

Š. Neumano spaustuvė, Kaune, Laisvės al. 72. Telef. Nr. 1090.
Друкарня Ш. Нэймана, Коўна, Лайсвес Алея, 72.